# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ, ПОЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

## № 2 (10)

## 1924



Беларускае Коопэрацыйна-Выдавецкае Таварыства
„САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“.
МЕНСК, 1924.

# Кастусь Каліноўскі.

*(К 60-ці годзьдзю яго сьмерці).*

## Біографічна-гістарычны нарыс.

**Ів. Цьвікевіч.**

Мінулае Беларусі багата рэволюцыйнымі падзеямі і фактамі кляса-вага змаганьня, але ўсё гэтае гістарычнае багацьце трэба ўмець адшукаць, трэба з замілаваньнем падыйсьці да яго і, разгарнуўшы пажоўклыя паперы старых архіваў, выцягнуць на дзённае сьвятло.

Гісторыя Беларусі наагул і гісторыя грамадзянска-рэволюцыйных рухаў на Беларусі ў асобнасьці яшчэ чакаюць сваіх дасьледчыкаў і гісторыкаў. Матар'ялы, каторымі даводзіцца карыстацца пры дасьледаваньні мінулых падзей і асоб, часта супярэчны паміж сабой.

Да кожнага болей ці меней значнага гістарычна-палітычнага факту, датычачага Беларусі, трэба падыходзіць з асаблівай асьцярожнасьцю, бо тэндэнцыйнасьць расійскіх і польскіх матар'ялаў аб гэтых фактах залішне вядома, каб аб гэтым весьці спэцыяльную гутарку. Даволі будзе прыпомніць, што беларускія абшары з давён-даўна служылі тэй спрэчнай тэрыторыяй, з-за якой, амаль, нясупынна йшла крывавая барацьба паміж самаўладнай Расіяй і панскай Польшчай. Барацьба спарадзіла з абедзьвюх старон даволі багатую гістарычна-палітычную літаратуру, якая, за рэдкім выключэньнем, прасякнута так званым „ура-патрыотызмам“. Зусім зразумела, што ў гэтых „ура-патрыотычных“ працах, як польскіх так і расійскіх, якім хадзіла аб тое, каб найбольш выславіць сябе і заганіць варожую старану, цяжка адшукаць бесстаронныя апісаньні падзей і асоб, якія па істоце сваёй не належалі ні да аднэй з гэтых старон—бо былі трэцьцяй стараной—беларускай.

Час і падзеі, аб якіх у зьвязку з нашай тэмай прыдзецца пісаць, якраз стварылі шмат гістарычна-палітычных прац—расійскіх і польскіх. Але, дзякуючы іх тэндэнцыйнасьці, беларускі бок справы паўстаньня 1863 году нагэтулькі адсунуты ў цень і абойдзены, што прыходзіцца часам з самых, нібы-то дробненькіх фактаў, з голых пералічэньняў імёнаў і прозьвішчаў, з падрадковых, пэтытам надрукаваных, выметак будаваць гістарычны малюнак рэволюцыйных падзей на Беларусі, чыннасьці народных масаў і асобных беларускіх рэволюцыянэраў.

З ліку апошніх, у часы аружнага паўстаньня на Беларусі ў 1863 г.—паўстаньня, цесна зьвязанага з польскім і на пачатку быўшым толькі якбы часткаю польскага паўстаньня—бязумоўна найболей яскравай фігурай зьяўляецца Кастусь Каліноўскі.

Радзіўся ён 21 студзеня 1838 году ў фольварку Мастаўляны, Ялоўкаўскай парафіі, Ваўкавыскага павету на Горадзеншчыне.*) Бацькі Каліноўскага (бацька—Сымон, маці—Вэроніка Рубінская) паходзілі з дробнай шляхты і мелі недалёка ад Сьвіслачы (10 вёрст) ткацкую фабрыку на 20 варстатаў, дзе выраблялі мастацкія абрусы і ткалі так званае „ангельскае палатно“. Па некаторым даным—бацька Кастуся быў не гаспадаром фабрыкі, а толькі яе наглядчыкам.

Скончыўшы 5-ці клясовую прогімназію ў Сьвіслачы, Кастусь Каліноўскі паехаў у Маскву, дзе паступіў да ўнівэрсытэту, але за свае рэволюцыйна-народніцкія пераконаньні быў выключаны з яго. Тагды Каліноўскі едзе ў Пецярбург і там ізноў паступае ў унівэрсытэт. (Па другой вэрсіі К., скончыўшы гімназію, адразу паехаў у Пецярбург, куды яго выклікаў брат Віктар, які служыў у Публічнай Бібліотэцы. Абмылковасьць гэтай вэрсіі тлумачыцца дасьледаваньнем іншых матар'ялаў, з якіх відаць, што Віктар Каліноўскі—гэта той-жа Кастусь К., а абмылка стварылася дзеля таго, што ў Каліноўскага было 2 імені—Кастусь і Віктар (Вінцэнты), як гэта часта бывае ў беларусаў-каталікоў.).

Каліноўскі вучыўся на юрыдычным факультэце і скончыў яго як кандыдат праў.

У Пецярбурзе К. ізноў зыходзіцца з падпольнымі расійскімі народніцкімі гурткамі, а таксама і з польскімі рэволюцыйнымі організацыямі. Як натура кіпучая, Каліноўскі ўвесь аддаўся палітычнай консьпірацыйнай працы і тут ласьне ён канчаткова знайшоў сябе—як будучага палітычнага дзеяча, таленнага організатара консьпірацыйнай працы, агнявога барацьбіта за «мужыцкую праўду», рэволюцыйнага дыктатара Беларусі.

Каб ясьней было, пад якімі ўплывамі складалася палітычная програма і палітычныя пераканацьні Каліноўскага, коратка абрысуем палітычныя організацыі—расійскія і польскія—як на мяйсцох так і заграніцай.

Пасьля першага польскага паўстаньня 1830 году, расійскі царскі ўрад, на чале з адным з самых чорных рэакцыянэраў—Мікалаем I, хацеў было ў самым корані задушыць сярод насельніцтва Польшчы думку аб адбудаваньні былой Рэчы Паспалітай і вызваленьні яе з-пад расійскага самаўладзтва. Констытуцыя Польшчы была скасована, адняты былі ўсе бывшыя ў палякоў прывілеі, і край іх адміністрацыйна быў прыраўнаваны да ўсіх іншых частак Расійскай Імпэрыі.

У самым сэрцы Польшчы—Варшаве была пабудавана цытадэля, якая-б выглядам сваіх моцных гармат застрашвала польскіх патрыётаў. Мала таго, сам Мікалай I прыехаў у Варшаву і склікаўшы вышэйшую польскую магнацыю, пагражаў: „Калі вы яшчэ раз адважыцеся падняць паўстаньне, то я зруйную ваш горад ушчэнт, не пакіну каменя на камені і пры гэтым запаўняю вас, што вашу сталіцу не адбудуюць ані я, ані мае нашчадкі“.

Як і трэба было чакаць, палякі ня спужаліся «бляшанага грому» царскіх слоў і зараз-жа пасьля першага паўстаньня распачалі актыўную працу па падрыхтоўцы новага паўстаньня.

Шматлічэбная польская эміграцыя, што асталявалася ў Парыжы, ужо ў 1831 годзе стварае організацыю—„Польскі Народны Комітэт“, на чале

*) Са слоў запісаных там ад грамадз. Пэлагеі Бібілы (жыхарка мяст. Поразава, Ваўкавыскага пав.), якая яшчэ памятае сям'ю Каліноўскіх, выходзіць, што К. Каліноўскі радзіўся ў фольварку Якушоўка, ці як яго там называюць Каліноўшчына, Ваўкавыскага павету.

якога стаяць Адам Чартарыйскі, польскі гісторык Лелевэль і Немаеўскі. Мэтаю гэтага «Комітэту» было падгатаўляць у эміграцыі агэнтаў і пасьля пасылаць іх на бацькаўшчыну організоўваць паўстаньне.

У хуткім часе „Народны Комітэт“ падзяляецца на дзьве варожыя паміж сабой партыі: адна, на чале з Чартарыйскім і Немаеўскім, стаіць за адбудову Польшчы шляхам дыплёматычнай інтрыгі пры дварох заходня-эўропэйскіх дзяржаў, шляхам уцягненьня Расіі ў вайну, ці праз націск на яе з боку моцных дзяржаў; другая партыя, на чале з гісторыкам Лелевэлем, упарта вымагае неадкладнай адпраўкі агэнтаў у Польшчу і ўздыму новага аружнага паўстаньня проці Расіі. Першая партыя або як іх называлі „*белыя*“ мелі ў сваім складзе „высокіх“ паноў-магнатаў, князёў, буйных земляўласьнікаў і таму займаліся лятуценьнямі аб адбудаваньні старажытнай, „каралеўскай“ Польшчы, дзе панскія прывілеі і панскі прыгон над працоўным людэм астануцца непарушнымі. Наадварот, другая партыя—„*чырвоныя*“ складаліся з дробнай буржуазіі, зьбяднеўшай шляхты, інтэлігэнцыі. Іх програма больш радыкальная—адбудаваць Польшчу, як шырока-дэмократычную рэспубліку, у якой ад паноў-абшарнікаў адбіраюцца землі і аддаюцца працоўнаму сялянству, аб чым перад паўстаньнем шырока абвесьціць, каб уцягнуць у паўстанцкі рух сялянскія гушчы. Паміж „белымі“ і „чырвонымі“ на агульных эміграцкіх сходах адбываліся гарачыя спрэчкі, і ўрэшце чырвоныя ўтварылі свой асобны комітэт пад назваю „Дэмократычная Грамада“. „Кожная з гэтых груп мела ў Парыжы свой орган друку: белыя—„Wiadomoście Polskie“, чырвоныя—„Przegląd Rzeczy Polskich“, паміж якімі цягнецца нясупынная палеміка“ *). Партыя чырвоных працавала энэргічна і пасьля цэлага шэрагу няўдач па організацыі паўстаньняў у самой Польшчы, урэшце ў 1860 г. залажыла ў Варшаве моцную падпольную організацыю—„Варшаўскі гарадзкі комітэт“.

У 1862 годзе гэтая організацыя была перабудована ў „Цэнтральны Народны Комітэт“, які пачаў рэальную падгатоўку паўстаньня па ўсёй тэрыторыі Польшчы. У самы год паўстаньня, па загаду з Парыжу, „Цэнтральны Народны Комітэт“ зьмяніў свой асабовы склад і быў названы „Часовы Народны Жонд“, існаваўшы аж да канца паўстаньня, праўда зьмяняючы склад сяброў у залежнасьці ад узмацненьня то белых, то чырвоных.

Справа ў тым, што варшаўская паўстанчаская організацыя была якбы копіяй парыскай і ў ёй таксама было два кірункі—белых і чырвоных, якія вялі паміж сабой змаганьне. Барацьба іх у „Варшаўскім Жондзе“ ў часе паўстаньня яшчэ больш абгострылася, і ў залежнасьці ад ходу паўстаньня перавагу ў кіраўніцтве паўстаньнем бралі то белыя, то чырвоныя. Апрача гэтых двох організацыйных цэнтраў (Парыж, Варшава) у пачатку шасьцідзесятых гадоў з двох пецярбурскіх падпольных польскіх гурткоў (вайсковага і цывільнага—на чале іх стаялі Серакоўскі і Агрызка) злажылася „Пецярбурская рэволюцыйная організацыя“. К моманту яе ўтварэньня лік сяброў організацыі перавышаў 1000. Амаль што ўся польская, беларуская і літоўская моладзь—студэнты, афіцэрства, чыноўніцтва,—якая была ў Пецярбургу, уваходзіла ў гэтую конспірацыйную організацыю. Гэта організацыя мела вялікія матар'яльныя сродкі, карысталася аўторытэтам і мела ўплыў на паўстанцкія організацыі ў Польшчы, Літве і Беларусі.

---

*) *У. Ігнатоўскі.* Гісторыя Беларусі XIX і пачатку XX сталецьця. 1923 г. (рукапіс).

Гэты аўторытэт і ўплыў пецярбурская організацыя, трымаўшая цесную сувязь з белымі Варшавы і Парыжу і меўшая адтуль пэўныя інструкцыі, выкарыстала дзеля падмогі белым на Беларусі, як мы гэта ўбачым далей.

Пецярбурская організацыя часта ладзіла так званыя „літаратурныя вечары“, на якіх чыталася падпольная рэволюцыйная літаратура, пераважна датычачая польскай справы. Пасьля чытаньня пачыналіся гарачыя спрэчкі на палітычныя тэмы і на тэмы аб падгатоўцы паўстаньня проці расійскага самаўладзтва, аб межах будучай Польшчы, аб лёсе Літвы, Беларусі, Украіны і г. д.

На гэтых сходах прысутнічае будучы чырвоны дыктатар Беларусі—Кастусь Каліноўскі і выробляе свае палітычныя погляды і пляны сваёй будучай чыннасьці на бацькаўшчыне.

На гэтых сходах часта чыталася расійская падпольная рэволюцыйная часопісь „Колокол“, якую выдавалі ў Лёндане расійскія рэволюцыянэры—Гэрцэн і Бакунін. У часопісі „Колокол“ апошнія гады перад польскім паўстаньнем 1863 году часта друкаваліся артыкулы Гэрцэна ці Бакуніна па польскаму і наагул славянскаму пытаньням, пры чым аўторы горача агітавалі за поўнае вызваленьне Польшчы, Літвы, Беларусі, Фінляндыі і іншых краін прыгнечаных самаўладнай Расіяй.

Эміграцкі рэволюцыйны гурток Гэрцэна і Бакуніна меў цесныя сувязі з польскімі эміграцкімі організацыямі, а таксама меў уплыў на зьбліжэньне расійскіх і польскіх падпольных організацый на мясцох, у Расіі і ў Польшчы. Як расійскія гэтак і польскія організацыі мелі адну агульную мэту—скінуць самаўладзтва ў Расіі, і часта гэта супольнасьць імкненьняў зьвязвала організацыі па соцыяльнай істоце сваёй зусім процілежныя.

Праўда, тут трэба сказаць, што на грунце соцыяльным і нацыянальным паміж расійскімі і польскімі організацыямі ня раз узьнікала гострая палеміка. Як на прыклад палемічных выпадаў проці польскіх белых плянаў можна паказаць на палітычныя працы Бакуніна. Дзеля таго, што ідэі Бакуніна і Гэрцэна мелі бязумоўна вялікі ўплыў на Каліноўскага мы троха затрымаемся на гэтых асобах і іх думках, якія датычаць польскага і беларускага пытаньня.

Студэнцкія гады Каліноўскага акурат прыпадаюць на пэрыод найвялікшага ўплыву гэрцэнаўскай часопісі „Колокол“ у пецярбурскіх падпольных гуртках. Гэрцэн і Бакунін, як мы ўжо казалі, былі дружны з эміграцкімі групамі польскіх палітычных дзеячоў і таму ў часопісі „Колокол“ зьмяшчалі артыкулы, бараніўшыя польскую справу. Часьцей за другіх пісаў аб польскім пытаньні сам Гэрцэн. У цэлым шэрагу артыкулаў ён выявіў свае погляды на польскую проблему *). Баронячы права польскага народу на нацыянальную і культурную аўтономію і нават на поўную дзяржаўную сэпарацыю ад Расіі, Гэрцэн аднак ня годзіцца з плянам польскіх палітычных дзеячоў адбудаваць Рэч Паспалітую ў гістарычных межах 1772 году, г. зн. прылучыць як польскія провінцыі Беларусь, Літву і Украіну. Ён моцна крытыкуе польскіх дэмократаў у пытаньнях соцыяльных і палітычных, протэстуючы проці адраджэньня Польшчы арыстократычна-шляхоцкай, Польшчы прыгону над сялянамі, і вымагае, каб нацыянальнае вызваленьне польскага народу адбывалася разам

*) Часопісь „*Колокол*“ 1858—1861 г.г.
—*А. І. Гэрцэн*. „Статьи о Польше“. С.-Петербург. 1907 г.

з соцыяльным. Пачынаючы ад канца 1862 году, часопіс „Колокол" вядзе гарачую агітацыю на карысьць польскае справы, каб падгатаваць расійскіх рэволюцыянэраў да спачуцьця й актыўнай дапамогі палякам у часе іхняга паўстаньня.

Гэткі рашучы паварот на карысьць Польшчы сярод гэрцэнаўскае групы пачаўся пад уплывам і пры актыўным удзеле Бакуніна. Яшчэ ў 1847 г. у Парыжы ён выступіў з вялікай і агнявой прамовай на польскім сходзе ў памяць 17-ай гадавіны першага польскага паўстаньня. У сваёй прамове Бакунін клікаў палякаў і расійцаў да згоды, каб разам, агульнымі сіламі весьці барацьбу з дэспотызмам Мікалая І.

У 1861 годзе, Бакунін уцёкшы з Сібіры, дзе ён быў у ссылцы, прыяжджае ў Лёндан і з надзвычайнай энэргіяй і запалам аддаецца польскай справе, займаецца консьпірацыйнай працай па падгатоўцы польскага паўстаньня і ўцягвае ў гэтую працу Гэрцэна. У гэты час Бакунін піша сваю адозву—„Российским, польским и всем славянским землям", у якой выяўляе свае пагляды на нацыянальную проблему польскага народу, а разам з тым беларускага, літоўскага і ўкраінскага.

Бакунін жадаў, каб польскае паўстаньне было паўстаньнем мас і было скіравана ня толькі проці расійскага дэспотычнага ўраду, але таксама і проці польскіх паноў-шляхты і расійскіх памешчыкаў. Ен хацеў, каб зьдзейсьніўся „вольны саюз Сялянскай Расіі і Хлопскай Польшчы". Ён вымагаў, каб польскае паўстаньне было сыгналам для паўстаньня працоўнага люду Беларусі, Літвы і Украіны, які выявіць сваю волю да самаазначэньня і потым створыць вольную фэдэрацыю асобных дзяржаў ці з Расіяй ці з Польшчай, як сам таго захоча. Але побач з гэтым Бакунін добра ведаў прэтэнзіі белых польскіх груп на прылучэньне да Польшчы Украіны, Літвы, Беларусі і таму часта падкрэсьлівае права гэтых краін на незалежнасьць і вымагае ад палякаў адмовіцца ад іх імпэрыялістычных плянаў.

На літаратурных вечарох польскай „Пецярбурскай рэволюцыйнай організацыі" ўсе артыкулы часопісі „Колокол" і асобныя адозвы Бакуніна, як датычныя польскага пытаньня, надта падрабязна і ўсебакова разважаліся і выклікалі гарачыя спрэчкі. Каліноўскі, прыймаючы ўдзел у гэтых разважаньнях і спрэчках, адразу стаў на бок чырвоных і выразна адзначыўся сваім радыкалізмам у пытаньнях політычных і соцыяльных.

Што да нацыянальнага пытаньня, дык трэба думаць, будучы чырвоны дыктатар Беларусі і тагды ўжо прадчуваў магчымасьць спрэчак з белай Варшавай, магчымасьць барацьбы з імпэрыялістычнымі апэтытамі польскай шляхты, як гэта і спраўдзілася ў часе самага паўстаньня.

* * *

1862 год быў годам кіпучай і пляновай падгатоўкі польскага паўстаньня. Побач з політычнымі і рэлігійнымі дэмонстрацыямі ў розных гарадох Польшчы, Беларусі і Літвы ў падпольлі йшла сьпешная падрыхтоўка аружных выступленьняў. У Варшаве замест быўшага „Варшаўскага Гарадзкога Комітэту", быў утворан „Цэнтральны Народны Комітэт", які павінен быў кіраваць паўстанцкай чыннасьцю ва ўсёй Польшчы, а таксама даваць загады і інструкцыі паўстанцкаму комітэту на Літве і Беларусі.

У гэтым-жа 1862 годзе ў Вільні быў організаваны падпольны паўстанчаскі ўрад—„Літоўскі Комітэт", які афіцыйна лічыўся аддзелам „Цэнтральнага Комітэту". Літоўскі Комітэт адразу падзяліўся на дзьве варожыя часткі—„белых" і „чырвоных", аналёгічна таму, як гэта было ў

Комітэтах у Варшаве і Парыжы. Прадстаўнікамі белых былі буйныя земляўласьнікі—шляхта, як старшыня горадзенскай шляхты Старжынскі, старшыня менскай шляхты Лаппа, паны - земляўласьнікі Аскерка, Еленскі і інш.

Група чырвоных складалася з рэволюцыйна настроенай зьбяднеўшай шляхты, дробнага чыноўніцтва і інтэлігэнцыі.

У выніку барацьбы белых і чырвоных створаны былі два, асобна працуючых на справу паўстаньня, комітэты, прычым у часе паўстаньня то адзін то другі бралі верх у кіраўніцтве паўстаньнем у залежнасьці ад перавагі ці паражэньня аднайменных партый у Варшаўскім комітэце.

Абмінаючы падрабязнае і хронолёгічнае апісаньне падзей у Варшаўскім Комітэце і ход паўстаньня ў самай Польшчы, спынімся на чыннасьці Літоўскага Комітэту і разгледзім ход паўстаньня на Беларусі.

У пачатку 1862 году „Пецярбурская рэволюцыйная організацыя“ пасылае Кастуся Каліноўскага ў Вільню для працы ў Літоўскім комітэце. Каліноўскі, як чырвоны, уваходзіць у чырвоны паўстанчаскі комітэт, каторы ад гэтага моманту пачынае набываць моц, дысцыпліну і яшчэ адважней выступае на абарону чырвоных плянаў.

У той час Віленскі чырвоны комітэт складаўся з чатырох асоб: капітана гэнэральнага штабу Зьвірждоўскага, двох быўшых афіцэраў расійскай арміі—Малахоўскага і Вэрыга і доктара Длускага. Каліноўскі ўваходзіць пятым, як поўнапраўны сябар комітэту. Тут Каліноўскі бліжэй пазнаёміўся з буржуазна-шляхоцкімі мэтамі паўстаньня белых комітэтаў—Віленскага і Варшаўскага. Тут ён зразумеў, што польскія магнаты і польскія абшарнікі такія-ж самыя ворагі польскаму і беларускаму сялянству, як і расійскія самаўладцы, проці якіх ладжана было паўстаньне. Што белыя толькі прымусова, з-за немагчымасьці самім блізка падыйсьці да працоўнага люду, паразумецца з ім і ўцягнуць яго ў паўстаньне, зносяць існаваньне чырвоных. Стала ясна, што белыя шчаміўшы зубы сяк-так годзяцца працаваць побач з чырвонымі, на якіх яны глядзяць як на часовую, толькі тэхнічна карысную організацыю, за чыёй сьпіной можна было рабіць *сваю* справу, дабівацца *сваіх* мэтаў, а ў разе ўдачы можна будзе латва і нож усадзіць у гэтую чырвоную сьпіну.

Але перад тым, як распачаць рашучую і бязьлітасную барацьбу з белымі, якія пакуль яшчэ ня мелі сілы і хітра хавалі камень за пазухай, Каліноўскі рашыў праверыць свае чырвоныя пляны—паскольку яны маюць грунт у сялянскіх гушчах. Ён рашыў зусім блізка падыйсьці да беларускага селяніна, змардаванага польскай паншчынай, і даведацца „на ўласныя вочы і вушы“ аб жаданьнях беларускай вёскі.

У восень 1862 году Каліноўскі астатні раз едзе да бацькоў, у родную Якушоўку. На другі дзень ён мусіў ужо ўцякаць, бо паліцыя адразу даведалася аб ім і з мястэчка Сьвіслач быў камандыраваны паліцэйскі атрад, каб арыштаваць яго.

Ад гэтага часу Каліноўскі, перабраўшыся ў сялянскую вопратку і назваўшыся „Васіль Сьвітка“, пачынае хадзіць па Горадзеншчыне з вёскі ў вёску, агітаваць сярод сялян і прыслухоўвацца, што гавора і чым жыве беларускі земляроб. Паліцыя сачыла за ім і шмат разоў хацела арыштаваць, але ён, як нечакана зьяўляўся, гэтак-жа нечакана і зьнікаў. У тых аколіцах, дзе „Васіль Сьвітка“ бываў часьцей, сяляне стварылі цэлыя легэнды аб ім, спачуваючы яму як чалавеку, каторы клікаў на барацьбу з „маскалямі“ і польскімі панамі і зьбіраўся „рэй вадзіць“ (кіраваць паўстаньнем).

Вандруючы па вёсках, корчмах і панскіх дварох, Каліноўскі пераканаўся ў праўдзівасьці сваіх думак аб паўстаньні. Ён ясна ўбачыў, што паўстаньне толькі тагды будзе мець моц і ўдачу, калі падымецца і возьмецца за аружжа сялянства. А падняць усё беларускае сялянства на барацьбу за вызваленьне панскай Польшчы, як аб гэтым лятуцелі белыя ў Варшаве, ня ўдасца і вось чаму.

Белыя, будуючы свае пляны ў готэлях Парыжу і палацах Варшавы, „забыліся“ аб тым, што на Беларусі інтарэсы польскага панства і беларускага сялянства ў корані варажы паміж сабой, варажы падвойна: экономічна і нацыянальна.

Каб з'агітаваць і падняць на аружнае паўстаньне беларускіх сялян, трэба было выразна паказаць ім, што справа йдзе аб вызваленьні іх ад чужацкага прыгону і зьдзеку—і польскага і расійскага—і што ў нагароду за ўдзел у паўстаньні сяляне атрымаюць зямлю, адабраную ад паноў. А гэтага якраз найбольш і палохаліся белыя, згаджаючыся ў крайнім выпадку на няясныя абяцаньні сялянам паляпшэньня іх долі.

Калі Каліноўскі добра ўсьвядоміў сабе запраўдны стан рэчаў, ён на першае мейсца ў сваім пляне барацьбы паставіў зямельнае пытаньне ва ўсёй шырыні: адняць ад паноў усю зямлю сілаю і аддаць яе сялянам. Побач з ім паставіў пытаньне нацыянальнае,—каб даць зразумець беларускім сялянам, што яны будуць змагацца за вызваленьне з чужацкага ярма, якое накінулі яму польскі пан і расійская царская ўлада.

У залежнасьці ад такой пастаноўкі пытаньня, Каліноўскі хацеў і самую тэхніку паўстаньня зьмяніць пасвойму: цэнтр вагі барацьбы перанесьці ў масы, якою павінны кіраваць людзі блізкія ёй—сяляне, дробная бедная шляхта—якім сяляне верылі-б і слухалі. У цэнтральныя кіраўнічыя організацыі таксама ўвесьці больш сялян, каб праз іх зьвязацца з масамі, каб масы ведалі, што ёю кіруюць свае людзі, а не паны-абшарнікі.

Так пабудаваўшы плян паўстаньня на Беларусі, Каліноўскі хацеў дасягнуць дзьвёх мэтаў: паставіць перад вачыма беларускага сялянства польскае панства як клясавага і нацыянальнага ворага, каб у самым процэсе паўстаньня, кіраванага мужыцкай рукой, сялянства нямінуча з ім стрэлася, а па-другое, шляхам поўнай перадачы зямлі сялянам, бяз выкупу, аслабіць сярод іх уражаньне аграрнай рэформы 19 лютага 1861 г. і гэтым падняць дух дзеля змаганьня з расійскім царскім гнётам.

Пасьля доўгай вандроўкі па вёсках, Каліноўскі варочаецца ізноў у Вільню й пачынае ўпартую агітацыю й барацьбу сярод членаў Літоўскага комітэту за прыняцьце свайго пляну.

Пад уплыў Каліноўскага падпадаюць усе сябры комітэту, апрача капітана Зьвірждоўскага, які ўважна сачыў за ўзмацаваньнем белых у Варшаўскім комітэце і, каб дагадзіць апошняму, ваража ставіўся да чырвоных плянаў новага сябра.

* * *

Надышоў 1863 год. У Польшчы пачалося паўстаньне. Адразу ў 17 гарадох (Плоцк, Радом, Бяла, Мазовецк і інш.) уночы з 10 на 11 студзеня зроблены былі напады на расійскія войскі. Гэта было сыгналам для агульнага паўстаньня. Але такога масавага ўздыму польскіх сялян, якога чакаў Варшаўскі комітэт ня было. Організаваныя агэнтамі партызанскія атрады хаваліся па лясох і рабілі партызанскія налёты на расійскія войскі. Праз увесь год цягнулася партызанская вайна, і што месяц далей,

то сілы паўстанцаў зьмяншаліся, бо кожная новая няўдача надта адбівала ў сялян ахвоту падтрымліваць паўстаньне, мэты якога былі мала зразумелы сялянам, а галоўнае — што паўстаньнем кіравалі паны-абшарнікі і магнаты, адвечныя ненавісныя прыгоншчыкі.

На Беларусі і Літве паўстаньне пачалося крыху пазьней, бо ў Літоўскім Комітэце цягнулася барацьба паміж чырвонымі і белымі. Сам Комітэт падзяліўся на дзьве часткі, так што фактычна ў Вільні было два комітэты—чырвоны і белы. Пасьля таго, як з чырвонага комітэту вышаў кап. Зьвірждоўскі (ён па загаду расійскай улады быў пераведзены на службу ў Маскву), чырвоны комітэт цалком падпадае пад уплыў Каліноўскага. Апошні вымагае адмовіцца ад падпарадкаваньня Варшаўскаму комітэту і так ладзіць справу паўстаньня, каб зьдзейсьніць чырвоныя пляны.

Варшаўскі комітэт, даведаўшыся аб утварэньні ў Вільні двох комітэтаў і аб узмацненьні чырвоных, назначае заместа вышаўшага кап. Зьвірждоўскага новага сябра—Дюлёрана. Апошні быў заўзяты прыхільнік белых плянаў і, прыехаўшы ў Вільню, увайшоў адначасна ў абодва комітэты з мэтаю пагадзіць іх. Гэтым ён хацеў параліжаваць сэпаратызм чырвоных. Але ўбачыўшы, што абыйсьці чырвоных на чале з Каліноўскім немагчыма, Дюлёран падаў вестку ў Варшаву, што чырвоны Літоўскі комітэт пад уплывам Каліноўскага, апрача працы па падгатоўцы паўстаньня, займаецца яшчэ агітацыяй і дзейнасьцю на карысьць нацыянальнай аўтономіі Беларусі і Літвы, падбухторвае сялян проці паноў-земляўласьнікаў і мае на мэце зрабіць соцыяльную рэволюцыю.

Данос Дюлёрана спалохаў Варшаўскі комітэт і ён рашыў аслабіць небясьпечную працу Літоўскага комітэту. З гэтаю мэтаю ён патаемна назначае ва ўсе беларускія паветы сваіх агэнтаў дзеля збору грошы на справу паўстаньня, уводзячы такім чынам на гэту тэрыторыю сваіх людзей, зьвязаных беспасрэдна з Варшавай.

Каліноўскі-ж у свой чарод патаемна ўтварае цесную сувязь з чырвонаю групаю Варшаўскага комітэту, каб гэтым забясьпечыць сваю організацыю ад нечаканага нападу з боку сваіх політычных ворагаў.

Між тым узброеныя паўстанчаскія атрады, організаваныя на тэрыторыі Беларусі і Літвы, пачалі сваю дзейнасьць. Праз нейкі час, чырвоныя і белыя, як у Варшаве так і ў Вільні, захопленыя кіраўніцтвам партызанскай вайны, працавалі нібы згодна. Белыя не перашкаджалі чырвоным кідаць многа атрадаў у бой, наадварот—яны патуралі гэтаму, спадзяючыся, што сілы чырвоных атрадаў зьменшацца, распыляцца і тагды лёгка будзе захапіць усё кіраўніцтва паўстаньнем у свае рукі. Запраўды так і сталася. К пачатку сакавіка атрады чырвоных, дзякуючы няўдачам і пазбаўленыя актыўнай дапамогі агульных партызанскіх сілаў, аслабелі, і чырвоныя комітэты часова палі духам. Белыя карыстаюцца гэтым момантам, утвараюць пераварот у Варшаўскім комітэце і захопліваюць кіраўніцтва ў свае рукі. Адначасна даецца загад у Вільню, каб чырвоны Літоўскі комітэт быў абвешчан распушчаным.

Каліноўскі, які даведаўся аб зьбіраньні грошаў на Беларусі варшаўскімі агэнтамі і раскусіў „дыплёматыю“ Дюлёрана, на адным з пасяджэньняў свайго комітэту выступае з гостраю крытыкаю Варшаўскага комітэту. Калі-ж Дюлёран пачаў бараніць варшаўскія пляны, Каліноўскі ў запале спрэчкі схапіў Дюлёрана за каўнер і сілаю выкінуў яго з салі пасяджэньня.

Урэшце загад з Варшавы аб скасаваньні чырвонага комітэту быў выкананы, бо ўсе сябры комітэту, апроч аднаго Каліноўскага, моўчкі прынялі факт разгону. Каліноўскі-ж піша энэргічны протэст у Варшаву і аддае яго Дюлёрану для перадачы белым. Але гэты апошні, ня хочучы рабіць прыкрасьці свайму „начальству", цэлыя тры месяцы носіць протэст у кішэні, нікому не паказваючы яго.

І ўсё-ж-ткі, ня гледзячы на гэты протэст і на выразную варажасьць яго аўтора да політыкі Варшаўскага к-ту, апошні назначае камісарам у Горадзеншчыну нікога іншага—як Каліноўскага, бачачы ў ім асобу на дзіва энэргічную, здольную і карысную для справы паўстаньня. Але Каліноўскі на гэтым не супакоіўся: упатайку, разам з другім сябрам Літоўскага к-ту першага складу—Малахоўскім, ён працуе над плянам новага перавароту і захапленьня ўлады на Беларусі і Літве.

Варункі ходу паўстаньня спрыялі таемнаму пляну Каліноўскага. Паўстанцкія атрады, кіраваныя „даводцамі" па загаду з Варшавы, ня мелі ўдачы. Паны-абшарнікі спалохаліся першых няўдач і пачалі ўхіляцца ад грашовай і іншай дапамогі паўстанцам. Новы Літоўскі к-т не спагадаў адважным выступленьням дробных атрадаў Каліноўскага і пачаў спыняць іх, каб гэтым аслабіць узмацненьне яго організацыі.

Такім чынам стварылася дэзорганізацыя паўстанчага руху, а гэта давала магчымасьць расійскім войскам разьбіваць і ліквідаваць паасобныя паўстанцкія групы.

Няўдачы буржуазна-шляхецкай партыі „белых" узмацнялі становішча чырвоных, і Каліноўскі ізноў высоўваецца на першы плян. Калі-ж галоўная надзея Варшаўскага к-ту—камандуючы ўсімі паўстанчымі сіламі Літвы і Беларусі—Серакоўскі з яго шмат-лічэбным войскам быў разьбіты і ўзяты ў палон, Каліноўскі карыстаецца панікай Варшаўскага к-ту, ізноў забірае ўсю тэрыторыю Беларусі пад свой уплыў і разгортвае організацыйную і ваенную чыннасьць з надзвычайным посьпехам.

Расійскі ўрад, убачыўшы, што паўстаньне ня спыняецца, але што далей то болей узмацняецца, назначае дзеля хутчэйшай ліквідацыі паўстаньня гэнэрала Мураўёва, дае яму самыя шырокія паўнамоцтвы і пасылае ў Вільню. Мураўёў прыяжджае ў Вільню ў маі 1863 году і адразу пачынае караць сьмерцю злоўленых выдатных кіраўнікоў паўстаньня. Адначасна абвяшчае пастанову, згодна якой увесь цяжар адказнасьці за паўстаньне ўскладаецца на паноў-земляўласьнікаў. Гэта адразу прымусіла паноў-шляхту з жахам адкаснуцца ад актыўнай дапамогі паўстанцам. Пачаліся сэквэстры панскіх земляў на карысьць расійскага скарбу, масавыя ссылкі ў Сібір на катаргу, вешаньне і растрэлы паўстанцаў направа і налева.

У Варшаўскім комітэце пачалася паніка, і ён рашыў часова распусьціць свае организацыі, ліквідаваць партызанскія атрады, схаваць аружжа—адным словам замясьці ўсе сьляды і чакаць пакуль эўрапэйскія дзяржавы не падтрымаюць Польшчу ў яе барацьбе за вызваленьне.

Літоўскаму комітэту белага складу таксама не шанцавала: амаль што ўсіх сябраў комітэту расійская ўлада арыштоўвае і кідае ў цытадэлю.

Уцалеўшыя ад разгрому партызанскія атрады на мясцох засталіся без кіраўніцтва, хаваліся па лясох і чакалі загадаў.

Гэтым момантам і карыстаецца Каліноўскі. Ён прыяжджае з Горадзеншчыны ў Вільню, падбірае новых пэўных людзей і організуе новы паўстанчаскі патаемны ўрад. Каб вызваліцца ад падпарадкаваньня Варшаўскаму к-ту і забясьпечыць сабе свабоду рэволюцыйнай чыннасьці,

Каліноўскі абвяшчае сябе дыктатарам Беларусі і Літвы, як асобнай незалежнай дзяржаўнай адзінкі. Насьпех зложаны новы ўрад, з Каліноўскім на чале, пачынае гарачую працу, каб падтрымаць паўстанцкі рух, пашырыць яго і вясьці барацьбу далей, ня гледзячы ні на якія перашкоды, не зьвяртаючы ўвагі на паніку Варшаўскага комітэту.

Але пара, спрыяючая паўстаньню, ужо прамінала. Агэнты расійскага ўраду пачалі моцную агітацыю сярод беларускіх і літоўскіх сялян, што нібы паўстаньне робіцца польскімі панамі-абшарнікамі дзеля таго, каб узмацаваць свой панскі прыгон над беларускай і літоўскай вёскай, каб затрымаць вызваленьне сялян і надзяленьне іх панскай зямлёй, як гэта абяцаў царскі маніфэст ад 19 лютага 1861 году.

І трэба сказаць, што гэта провокацыйная агітацыя мела значны посьпех сярод сялянства. Справа от у чым.

Яшчэ ў часы падгатоўкі сялянскай рэформы 61 году, панства Літвы і Беларусі аслявілася сваёй нянавісьцю да сялянства. Яно падало расійскаму ўраду свой проэкт вызваленьня сялян, у якім прапанавалі вызваліць сялян без зямлі. Гэта азначала пусьціць сялян жабракамі, даць ім так званую „воўчую волю.“ Нават царска-прыгоншчыцкі ўрад не згадзіўся на такую прапазыцыю.

„Маніфэст аб вызваленьні сялян быў падпісаны Аляксандрам II 19 лютага 1861 году. Маніфэст не здаволіў сялян, бо не адпавядаў іх жаданьням, і сярод сялян хадзілі чуткі, што гэта падроблены маніфэст, а праўдзівы маніфэст схован панамі.

На аснове маніфэсту беларускі селянін вызваляўся з няволі як асоба, бяз выкупу, затое ён павінен быў выкупіць у пана тыя кавалкі зямлі, каторыя ён ад пана атрымаў. Выкуп за зямлю быў назначаны вельмі высокі... Цана зямлі была падвышана на 25%. Гэтая падбаўка была нічым іншым, як схаваным выкупам з няволі асобы селяніна...

Ідучы на спатканьне паном, каторыя хацелі як мага больш пакінуць за сабой зямлі, урад увёў у палажэньне так-званыя „дармовыя надзелы“. Пану давалася права даваць па згодзе з сялянамі зямлю бяз выкупу ў разьмеры $^1/_3$ нормальнага надзелу. Мужыкі назвалі гэтыя надзелы—„жабрацкімі“; на Беларусі жабрацкі надзел $= 1^1/_2 - 1^2/_3$ дзесяціны. На гэтым грунце вядома было шмат злакарыстаньняў. Каб угаварыць сялян, пускалася ў ход гарэлка; часамі застрашалі забітае сялянства ўсялякімі страхамі, а часам проста секлі розгамі. Так ці йначай на жабрацкі надзел было пасаджана многа сялян. Калі дадаць да гэтага, што дваровым пры вызваленьні зусім не давалася надзелаў, і што лік дваровых на Беларусі быў вельмі значны, то адсюль становіцца яснай прычына безьзямельля на Беларусі.

Рэформа адразу ўтварыла вялікі лік зусім безьзямельных сялян, бабылёў, каторыя злажылі вясковы пролетарыят і векавечных арэндатараў казённых, царкоўных і прыватна-ўласьніцкіх земляў... Для панскіх маёнткаў былі забясьпечаны амаль-што дармовыя сялянскія рабочыя рукі, як сэзонных так і для сталых наймаў... Вечная бяда гнала селяніна ў панскі двор, дзе ён, як ласкі, шукаў працы, каб не памерці з голаду... Такім чынам вызваленьне сялян мела чыста знадворны, паказны характар.“ *)

Адзін з супрацоўнікаў гэн. Мураўёва—І. А. Нікотін, які абʼяжджаў у 1864 годзе Беларусь і Літву па справах правядзеньня сялянскай рэ-

*) *У. Ігнатоўскі.* „Гісторыя Беларусі ў XIX і пачатку XX сталецьця“. Менск, 1923 г (рукапіс).

формы, піша ў сваіх «Запісках»: «Паны, дзякуючы імі-жа ўложаным на імя ўраду «устаноўчым граматам» і шляхам правядзеньня сыстэмы перасяленьня, абезьзямельваньня і прызначаньня горшых надзелаў, паставілі вясковае жыхарства ў саўсім бязвыходнае становішча. Мне давялося пачуць ад аднаго селяніна Менскай губэрні прыслоўе:—„наша воля—горкая доля“. І запраўды, справа была гэтак пастаўлена, што селянін разам з воляю пападаў у поўную кабалу паном. Самі паны казалі, што з вызваленьнем сялян, яны былі-б у поўнай меры забясьпечаны, але перашкодзіла паўстаньне“.*)

Зразумела, што беларускія сяляне, бачыўшы і паспытаўшы на уласнай сьпіне, як польскае панства праводзіць расійскую рэформу вызваленьня, лёгка паддаваліся на провокацыю мураўёўскіх агэнтаў.

Былі пушчаны, як мы ўжо казалі, чуткі, нібы польскія паны паднялі паўстаньне адзіна толькі з мэтаю абароны адвечнага прыгону і зьдзекаў над беларускім «хлопам». Калі-ж да гэтага дадаць, што паўстанцкімі атрадамі кіравалі паны-земляўласьнікі, з якімі сялян нішто ня злучала, што калі нават зьяўляліся чырвоныя організатары, дык сяляне блыталі іх з панамі, то будзе зусім ясным, чаму сялянскія масы ці пасыўна ці варожа ставіліся да справы паўстаньня, і чаму расійская ўрадавая агітацыя мела посьпех па беларускіх вёсках.

Адначасна з гэтай надта шкоднай для паўстаньня агітацыяй і цэлым шэрагам адміністрацыйна-паліцэйскіх загадаў, Мураўёў організуе па вёсках атрады так-званай «сельскай стражы»—якая складалася з адных сялян, прымушаных пад страхам кары сачыць і лавіць паўстанцаў або паведамляць аб іх бліжэйшаму начальству.

Каліноўскі, які ўвесь час імкнуўся сялян уцягнуць у паўстанцкі рух, які галоўным чынам на сялян пакладаў найвялікшыя надзеі, калі даведаўся аб організацыі „сельскай стражы“, адразу пачуў у ёй сьмяртэльную небясьпеку для справы паўстаньня.

Ён пачынае рабіць сьпешныя контр-захады, каб утрымаць сялян ад службы ненавіснаму царскаму ўраду. Але праз кароткі час убачыў, што сяляне, з'агітаваныя проці паноў, вельмі ахвотна дапамагаюць расійскаму войску душыць паўстаньне. З другога боку польскае панства, якое сваім удзелам фактычна скомпромітавала чырвоных і папсавала справу паўстаньня на Беларусі, цяпер, каб уратаваць сваю скуру і асабліва свае маёнткі, ухіляецца ад дапамогі і нават перакідаецца на старану расійскага ўраду і разам з ім вядзе барацьбу з чырвонымі.

Астаўся адзіны спосаб падтрымаць паўстанцкі дух—бязьлітасны тэрор да ўсіх трусоў і здраднікаў. Урад Каліноўскага організуе рэволюцыйны трыбунал і атрады кінжальшчыкаў, якія выконвалі загады гэтага трыбуналу. І як толькі перапуджаная мясцовая шляхта пачала зьбіраць паміж сябе подпісы на „всеподданнейший адрес“, «padać do nóg» расійскаму цару і прасіць літасьці за свае «абмылкі», чырвоны трыбунал ужо намеціў свае ахвяры. Першым актам тэрору быў напад кінжальшчыкаў на старшыню віленскай шляхты Домэйко, які зьбіраў подпісы і сам падпісаўся пад «чалабітнаю» расійскаму цару. Гэта паслужыла таму, што загады мураўёўскай адміністрацыі былі падтрыманы панамі, якія дакладалі ня мала стараньняў, каб выкрыць цэнтральную консьпірацыйную організацыю Каліноўскага.

---

*) «Изъ записокъ И. А. Никотина». С.-Петербургъ, 1905 г.

Праз нейкі час віленская паліцыя натрапіла на сьлед організацыі. Трое з сябраў патаемнага ўраду—Цiт Далеўскі, Здановіч і Дарміноўскі—арыштоўваюцца. Дарміноўскі быў паўстанчаскім камісарам Віленскай губэрні; Далеўскі,—былы студэнт Маскоўскага ўнівэрсытэту, чалавек надзвычайнай энэргіі, быў бліжэйшым супрацоўнікам Каліноўскага і рассылаў усе яго загады; Здановіч,—кандыдат Пецярбурскага ўнівэрсытэту, загадваў усёй гаспадарчай і грашовай часткаю паўстаньня. Здановіч быў арыштаваны на Зарэччы: „Там, на заднім надвор'і, у адным з хлявоў за дровамі, быў пабудаваны ім патаемны пакойчык з невялічкім ваконцам, выходзіўшым на саўсім глухі бераг ракі Вілейкі, дзе Здановіч і займаўся падпольнай працай. У часе вобыску ў гэтым пакоі былі ўзяты рэволюцыйная пячатка, розныя бляңкі, загады падпольнага комітэту і іншыя паўстанчаскія дакумэнты"*).

Усе трое арыштаваныя сябры ня выдалі тайны організацыі, ня гледзячы на дамаганьні паліцыі і нават на абяцаньні Мураўёва даць ім поўную свабоду за паказаньне штабу Каліноўскага. Усе трое былі павешаны ў Вільні: Здановіч і Дарміноўскі ў сьнежні 1863 году, а Далеўскі ў пачатку студзеня 1864 г.

Засталіся на волі толькі двое: Малахоўскі і Каліноўскі. У хуткім часе Малахоўскі ўцякае ў Пецярбург, адкуль, ратуючыся ад паліцыі, выяжджае заграніцу.

Організацыя, пабудаваная ў такіх цяжкіх умовах і з надзвычайнымі высілкамі—распалася.

Не пакінуў Вільню толькі Каліноўскі. Ён адзін аставаўся цьвёрдым, непахібным і верыў, што справу паўстаньня магчыма паправіць.

26 жніўня 1863 году Мураўёў абвяшчае загад, па якому кожны, злоўлены з аружжам у руках, прысуджаецца на мейсцы на сьмерць палявым судом у 24 гадзіны; усім паўстанцам і самохаць зьявіўшымся да начальства і прынёсшым аружжа, давалася выбачэньне. Гэты загад уплываў на маладушных і многа паўстанцаў прыходзілі да начальства—каяцца. Упадак духу ў паўстанцкіх атрадах, хаваўшыхся па лясох, пачаў шырыцца з прыходам сьцюжы. Нястача цёплай адзежы і стравы, жыцьцё па лясох сярод сьнегу і марозу зьмяншалі лічбу байцоў і адымалі надзею на перамогу.

А чырвоны дыктатар Беларусі, хаваючыся што называецца „пад самым носам" Мураўёва-вешацеля ў Вільні, ня траціць дарма ніводнай хвіліны і вядзе няўпынную і няўтомную консьпірацыйную працу. Нанова організуе сувязь з паасобнымі паўстанцкімі атрадамі, знаходзіць здольных і пэўных людзей, прыймае ганцоў з мейсц, гарачымі адозвамі і дыктатарскімі загадамі падтрымоўвае падаючы дух паўстанцаў, просячы іх пратрымацца толькі да цёплай вясны, калі лічба партызанаў ізноў павялічыцца, лягчэй будзе хаваць сьляды і зносіць недагоды паходнага жыцьця.

Увесь час зьмяняючы сваё запраўднае прозьвішча і пашпарты, апранаючыся ў розныя адзежы ўключна да жаночых, Каліноўскі з уласьцівай яму энэргіяй і таленнасьцю працуе дзеля падтрыманьня і пашырэньня паўстанцкага руху. І ўжо к канцу 1863 году ён даў адчуць гэн. Мураўёву і яго агэнтам, што пры ўсім знадворным спакоі, на Беларусі кіпіць падземная рэволюцыйная праца, кіруемая спрытнай і цьвёрдай рукой.

*) „Изъ записокъ И. А. Никотина". С.-Петербургъ, 1905 г.

Трэба сказаць, што пры стварыўшыхся ўмовах—калі амаль усе паўстанцкія атрады былі разьбіты і дэмаралізаваны бесканечнымі няўдачамі, калі цэнтральны комітэт быў разбураны, калі паліцыя, войскі і адміністрацыя жалезным ланцугом зацiснулі ўвесь край—пабудаваць організацыю нанова і так яе паставіць, каб яна зрабілася страшнай для расійскай улады („паўстаньне было страшным ня лічэбнасьцю ўзброеных атрадаў, але сілаю і таемнасьцю рэволюцыйнай організацыі, якая пакрыла сваёй сеткай увесь край“ *)—мог толькі чалавек з надзвычайнымі здольнасьцямі, чалавек з нязломнаю сілаю характару.

Што Кастусь Каліноўскі быў асобаю выключнай, аб гэтым гавораць усе гісторыкі, пісаўшыя аб 63 годзе.

З боку політычнай дзейнасьці Каліноўскі выявіў сябе, як асоба, маючая ясную і акрэсьленую політычную програму: ён хацеў паўстаньне зрабіць *паўстаньнем працоўных масаў*, выкарыстаць яго як *клясавае змаганьне* беларускага сялянства з польскімі панамі-земляўласьнікамі. Ён хацеў шляхам паўстаньня *правесьці аграрную і саслоўную рэформу* і цераз дыктатуру і тэрор замацаваць сваю чырвоную ўладу—*ён ішоў да соцыяльнай рэволюцыі*. Ён ведаў, што змаганьне з клясавым ворагам—шляхтай павінна быць бесспагадным да канца, і таму ён часта казаў: „сякера не павінна спыняцца і над калыскаю шляхецкага дзіцяці“.**)

Каліноўскі ведаў таксама, што ў політычнай барацьбе нельга пакладаць усю надзею толькі на сякеру, што трэба яшчэ ўжываць іншыя мэтоды барацьбы. Ён добра разумеў моц агітацыі і таму залажыў у Беластоку патаемную друкарню, дзе друкаваў сваю газэтку „Мужыцкая Праўда“ (вышла 6 (9?) нумароў), брашурку „Гутарка“ і лістоўкі-адозвы да сялян. Усе гэтыя газэты і адозвы надрукаваны пабеларуску лацінікай і падпісаны псэўдонімам „Яська гаспадар з-пад Вільні.***)

Каліноўскі, у часе паўстаньня, апрача пытаньняў соцыяльных надта выразна высунуў яшчэ пытаньне нацыянальнае. Ён зразумеў, што беларускі народ церпіць падвойнае прыгнечаньне—экономічнае і нацыянальнае, і таму ў сваім пляне барацьбы рашуча адкідаў усякую залежнасьць Беларусі і ад панскай Польшчы і ад царскай Расіі. Як у польскіх так і расійскіх гістарычных працах аб паўстаньні 63 году, Каліноўскі выводзіцца небясьпечным сэпаратыстаю, які ня хоча прызнаваць ні Варшавы ні Масквы, а ўпарта стаіць за незалежнасьць Літвы (пад Літвою тагды разумелі ўвесь абшар былога Вялікага Княства Літоўска-Рускага—гэта знача Беларусь і Літву).

---

*) „Отчет графа М. Н. Муравьева по управлению Северо-Западным краем с 1 мая 1863 г. по 17 апреля 1865 г.“ (Секретно).

**) В. Ратч. „Сведения о польском мятеже 1863 г.“ Вильна 1867 г., стр. 181.

***) У Беларускай Дзяржаўнай Бібліотэцы (Менск) захоўваюцца цікавыя дакумэнты таго часу: 1) орыгінал маніфэсту аб надзяленьні беларускіх сялян зямлёй „Жонду Народавага Польскага“ ад 3 мая 1863 году, друкаваны лацінікай пабеларуску. Унізе маніфэсту стаіць круглая пячатка з надпісам вакол: „Rząd Narodowy. Wydział zarząd. Prowincjami Litwy“. У сярэдзіне пячаткі шчыт з белым арлом зьлева і „Пагоняю“ справа. 2) № 5 „Мужыцкай Праўды“ таксама друкаванай лацінікай пабеларуску і падпісанай „Яська гаспадар з пад Вільні“. 3) Адозва „Да мужыкоў зямлі польскай“ друкаваная як і папярэднія пабеларуску і з подпісам „Яська гаспадар з-пад Вільні“. Пад подпісам стаіць круглая пячатка з надпісам вакол: „Drukarnia Rządu Narodowego“. У сярэдзіне пячаткі шчыт пад каронаю. На шчыце зьлева белы арол, справа „Пагоня“ і ўнізе анёл (комбінаваны гэрб Польшчы, Літвы і Русі).

Памянёныя дакумэнты—„Маніфэст“, „Мужыцкая Праўда“ № 5 і адозва „Да мужыкоў зямлі польскай“--былі перадрукаваны гражданкай з захаваньнем правапісу орыгіналаў у газэце „Савецкая Беларусь“ № 192 ад 24 жніўня і № 193. ад 25 жніўня 1923 г.

Так Ратч, у яго „Свѣденіяхъ о польскомъ мятежѣ 1863 года“, піша, што Каліноўскі разышоўся з Варшаўскім комітэтам у справе нацыянальнага пытаньня, „упарта праводзіў ідэю аб незалежнасьці Літвы“ і часта казаў: „Гэткай бязглуздай галаве, як Варшава, нельга даверыць будучы лёс Літвы“ (стр. 181).

У польскай гістарычнай працы—„Dwadzieścia pięć lat Rosyi w Polsce“ *) невядомы аўтор піша: «Гэта быў чалавек надзвычайна веруючы ў ідэю, як-бы выліты для народнай справы, *запраўдны апостал беларускага народу*—адзін з выдатных волатаў паўстаньня 1863 году» (стр. 67). Польскі гісторык Грабец у сваёй кнізе „Rok 1863“ **), у якой паміж іншым зьмешчан портрэт Каліноўскага, піша: „Рэволюцыйны Комітэт пад кіраўніцтвам Каліноўскага зусім ня меў сілы (?), а ўрэшце, падбухторваў народ сваім правінцыяльным сэпаратызмам і імкненьнямі да самастойнасьці Літвы, адарванай ад Польшчы“.

Што-ж тычыцца Кастуся Каліноўскага, як асобы выключнай політычнай чэснасьці і надзвычайнай здольнасьці да організатарскай працы, асабліва конспірацыйнай, то ўсе, нават заклятыя ворагі яго, аддаюць яму заслужаную пахвалу. „Гэта была натура гвалтоўная, але справядлівая, бяз ніякага ашуканства... Быў ён незамянімым прыкладным конспіратарам, душой Комітэту... Гэты адзін чалавек тое значыў, што сотні, бо ўмеў працаваць, ахвяроўваць сябе і ўкрывацца... Яго называлі «хамам» і ён сам сябе гэтак называў і гардзіўся гэтым клічам, востра выступаючы проціў шляхты“***).

Ня дзіва, што Каліноўскі, адзін астаўшыся ў Вільні, пакіраваў справу заміраючага было паўстаньня так, што чыннасьць чырвонага дыктатара спалохала гэн. Мураўёва. А Каліноўскі, „ня гледзячы на тое, што яго тыповы твар быў вядомы ўсім, нават паліцэйскім шпегам, жыў у Вільні зусім адкрыта. Ён заўсягды спацыраваў у гарадзкім садзе, абедаў у рэстаранах і ніхто з адміністрацыі не прыкмячаў яго. Калі-б ён захацеў уцячы з Вільні і схавацца, то мог-бы гэта зрабіць ня меней як разоў дваццаць. Усе палякі, ведаўшыя яго, прапанавалі яму ўцячы, але ён чамусьці не зрабіў гэтага“. ****).

Мураўёў і яго адміністрацыя напружалі ўсе сілы, каб высачыць цэнтр чырвонага комітэту і яго кіраўніка—Каліноўскага. Думаючы, што ён знаходзіцца ў Менску, Мураўёў 3 студзеня 1864 году командыруе туды спэцыяльную комісію на чале з жандарскім палкоўнікам Лосевым. Праца гэтай комісіі ўрэшце выкрыла ўсю менскую рэволюцыйную організацыю. Большая частка арыштаваных польскіх шляхціцаў шчыра прызналася ў прыналежнасьці да організацыі Каліноўскага. Адзін з гэтых арыштаваных, нейкі Парафіяновіч, які адзін быў бліжэй за ўсіх да Каліноўскага і меў з ім перапіску, выявіў найбольш маладушша. Калі палкоўнік Лосеў запрасіў яго да сябе, лагодна пагутарыў з ім і абяцаў яму, калі ён раскрые організацыю і пакажа, дзе знаходзіцца Каліноўскі, поўнае прабачэньне віны—Парафіяновіч здрадзіў Каліноўскага.

Адзін з супрацоўнікаў Мураўёва, А. Масолаў, удзельнік арышту Каліноўскага, гэтак апісвае самы арышт:

*) „Dwadzieścia pięć lat Rosyi w Polsce“ (1863—1888). Zarys hystoryczny. We Lwowie. 1892.

**) I. Grabiec. „Rok 1863“. „Wydanie drugie. Poznań. 1922.

***) U. Toločka.„ Chto byŭ Konstant Kalinoŭski“ (pawodle J. Geyštora). Часопісь „Bielaruskaje Žyćcio“, № 10. 1919 г. Паданыя словы ўзяты з працы польскага пісьм. Geyštora.

****) П. Брянцевъ. „Польскій мятежъ 1863 г.“ Вильна 1892 г.

„Шыфраваная тэлеграма з паведамленьнем аб гэтым (дзе знаходзіцца Каліноўскі) была атрымана ў Вільні а 9 гадзіне ўвечары. У ёй былі апісаны адзнакі Каліноўскага і сказана, што ён жыве па фальшываму пашпарту горадзенскага шляхціца Вітольда Вітожэнца ў сьвята - Янскіх мурох. Гэтае апошняе паказаньне было крыху няясным, бо пад гэтаю назваю разумеўся ўвесь будынак, каторы калісьці належаў касьцёлу сьв. Яна, цягнуўся амаль-што цэлы квартал і выходзіў адным бокам да палацу. У вялізарных будынках, каторыя належалі раней калегіі езуітаў, а пасьля ўнівэрсытэту, у той час былі: гімназыя, музэй старасьветчыны, цэнтральны архіў, обсэрваторыя, многа памяшканьняў для служачых і нават здаваліся ўнаймы прыватныя кватэры.

Зьмест тэлеграмы захоўваўся ў найглыбейшай тайне. Паліцэймэстару даручана было асабіста зрабіць спраўку ў кнігах (незадоўга прыведзеных з прычыны новага году да парадку) аб акуратным адрэсе Вітожэнца і, як заўсягды здараецца пры пасьпешнасьці, імя яго прамінулася пры разгляданьні кнігі, хоць і было ў ёй запісана. Вымушаны былі зрабіць вялікі вобыск і атачыць увесь сьв.-Янскі квартал, дзеля чаго былі прысланы дзьве роты салдат, падзелена на 10 партый. кожная пры афіцэры паліцыі і асобых чыноўніках. Імя асобы, якую належала арыштаваць, было абвешчана ім толькі ўночы перад самым вобыскам.

Каліноўскі жыў ужо другі месяц у памяшканьні вучыцеля гімназыі, выехаўшага недзе на провінцыю. Яго ўбачылі на сходах са сьвечкаю ў руцэ і калі запыталі прозьвішча, ён самапэўна адказаў:—Вітольд Вітожэнц!.. і ў тую-ж хвіліну быў злоўлены“... *) Гэта было 7 студзеня 1864 г.

Зараз-жа пасьля арышту зрабілі вобыск памяшканьня і там у адным з бярозавых паленаў, якія ляжалі ў печцы, знайшлі дзіру, дзе захоўваліcь рэволюцыйная пячатка і іншыя дакумэнты.

Арыштаванага Каліноўскага пад моцнай стражай адвялі ў Дамініканскую турму, дзе працавала сьледчая комісія.

На другі дзень раніцаю, ня гледзячы на тайну, якой быў акружаны арышт, жыды, якія мала памагалі Каліноўскаму ў консьпірацыі, ужо разьнесьлі вестку аб тым, што арыштаваны „круль Літвы“, хаця сама ўлада ня ведала яшчэ, ці запраўды арыштаваны ёсьць Каліноўскі.

Калі Каліноўскага дапытвалі, ён толькі кусаў сабе губы, адказваў неахвотна і са злосьцю адкідаў усе абвінавачаньні. Ня гледзячы на ўсе высілкі комісіі, ёй не ўдалося вырваць ад Каліноўскага ніякіх даных аб асобах, складаўшых рэволюцыйную організацыю краю. Урэшце ён сказаў сваё запраўднае прозьвішча і пры гэтым дадаў:—„Аднэй толькі асобе я адкрыў сваё запраўднае прозьвішча і папаўся!..“

Два месяцы прасядзеў Каліноўскі ў турме, чакаючы сьмертнай кары. У турме ён напісаў два пісьмы—адно да бацькаўшчыны—Беларусі, другое да беларускага народу. Зьмест другога пісьма падаем дaслоўна **):

„Беларусы, браты мае родныя! З-пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіцца мне да вас пісаць і можа раз астатні. Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мой народзе! Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, але ня жаль згінуць за тваю праўду.

Прыймі, народзе, па шчырасьці маё слова прадсьмертнае, бо яно як-бы з таго сьвету толькі для дабра твайго напісана.

*) А. И. Мосоловъ. „Виленскіе очерки 1863—1865 г. (Муравьевское время).

**) Тэкст абодвух пісем надрукаваны: 1) Galler—Historyja powstania 1863 г.; 2) белар. каляндар „Сваяк“ 1919 г.; 3) белар. віленск газэта «Наша Думка» № 5, 1920 г.; 4) артыкул белар. часопісі «Беларускі Сьцяг» № 4 1922 г.—«К. Каліноўскі» (Івана Трызны—І. Ц.)

Нямаш, браткі, большага шчасьця на гэтым сьвеце, як калі чалавек мае розум і навуку. Тагды ён толькі можа быць у радзе, жыць у дастатках і тагды толькі, памаліўшыся богу, заслужыць неба, бо, збагаціўшы навукай розум, разаўе сэрца і народ свой цэлы шчыра палюбіць. Але як дзень з ноччу ня ходзіць разам, так і навука праўдзіва ня йдзе разам з няволяй маскоўскай. А пакуль яна ў нас будзе, у нас нічога ня будзе. Ня будзе праўды, багацьця і ніякай навукі, адно намі, як скацінай, варочаць будуць не для дабра, адно на пагібель нашу... Ваюй, народзе, за сваё чалавечае і народнае права, за сваю веру, за зямлю сваю родную. Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, народзе, што тагды толькі зажывеш шчасьліва, калі над табой маскаля ўжо ня будзе!..

*„Яська-гаспадар з-пад Вільні"*.

Да Каліноўскага, сядзеўшага ў турме, прыходзілі некаторыя з найбольш прыбліжаных да Мураўёва асоб, каб падзівіцца на небясьпечнага дыктатара. Супрацоўнік Мураўёва, Мосолоў, які адведваў яго ў турме, так апісвае аблічча Каліноўскага: „Каліноўскі быў годаў 26, моцнага целаскладу, з тварам чорствым і выразным, кароткія русыя валасы былі зачэсаны назад, гэткім я яго бачыў у турме некалькі дзён да сьмерці".

Настаў дзень сьмертнай кары 7 (20) красавіка 1864 г. Была ясная, халодная раніца. Каліноўскі йшоў на сьмерць сьмела. Прышоўшы на Лукішскі пляц, ён стаў тварам да шыбеніцы і толькі часам кідаў погляд у далёкі натоўп. Калі пачалі чытаць прыгавор і назвалі яго прозьвішча— „шляхціц Кастусь Каліноўскі",—ён крыкнуў: „у нас няма шляхты—ўсе роўныя"!.. Унутранае хваляваньне Каліноўскага прабівалася напаверх толькі ў тым, што ён як бы мімавольна абводзіў вачыма абступіўшыя яго грамады людзей; а можа ён шукаў якога-колечы свайго таварыша, хочучы даць яму зразумець якім-небудзь знакам, што тайну аб іх ён нясе з сабою ў магілу.

---

## Крыніцы, якімі карыстаўся аўтор:

1. Василий Ратчь. „Свѣдѣнія о польскомъ мятежѣ 1863 г. въ Северо-Западной Россіи". Вильно, 1867.

2. А. И. Мосоловъ. „Виленскіе очерки 1863—1865 (Муравьевское время)".

3. „Из записок Ивана Акимовича Никотина". С.-Петербург, 1905.

4. П. Дм. Брянцев. „Польский мятеж 1863 г." Вильно, 1892.

5. Е. Ф. Карский. „Бѣлорусы". т. III. Петроград, 1922.

6. „Секретный отчет графа М. Н Муравьева по управлению Северо-Западным краем с 1 мая 1863 г. по 17 апреля 1865 года".

7. J. Grabiec. „Rok 1863". Wydanie drugie. Poznań, 1922.

8. „Dwadzieścia pięć lat Rosyi w Polsce (1863--1888)". Zarys hystoryczny. Przedruk z «Ekonomisty Polskiego». We Lwowie, 1892.

9. Maryan Dubiecki. „Romuald Traugutt i jego dyktatura podczas powstania styczniowego 1863—1864. Kijów, 1912.

10. Leon Wasilewski. «Litwa i Białoruś». Kraków.

11 У. Ігнатоўскі. «Гісторыя Беларусі XIX і пачатку XX сталецьця». Менск, 1923. (Рукапіс).

12. Іван Трызна (Ів. Ц.). «Констанцін Каліноўскі». Біографічны нарыс. Часопісь «Беларускі Сьцяг» № 4. Коўна, 1922

13. U. Toloczko. «Chto byú Konstant Kalinoúski». (Pawodle J. Gejsztora). Ilustrawanaja czasopiś «Biełaruskaje Życcio», № 10. Wilnja, 1919.

14. Беларуская газэта „Наша Думка" № 5, 1920 г. Вільня.

15. Орыгіналы—дакумэнты часоў паўстаньня 1863 г.: 1) „Мужыцкая праўда" № 5, 2) „Ронд Народовый Польской" і „Да мужыков землі польской", якія знаходзяцца ў Беларускай Дзяржаўнай Бібліатэцы (Менск).

16. А. Герцен. „Статьи о Польшѣ". С.-Петербургъ, 1907 г.

17. М. Бакунин 1) „Русским, польским и всем славянским землям" 2) „Народное дело".

## К. Каліноўскі.

### А. Гурло.

З агнём ў вачах, з душою брата,
На вуснах з клічам вызваленьня,—
Агорнен ўвесь агнём сумленьня
Ён з вёскі ў горад, з кузьні ў хату

Ішоў па землях беларускіх,
І, як прарок, прарочыў людзям—
Сваім братом, што шчасьце будзе,
Што на шляхох на гэтых вузкіх,

Дзе ўсё застыгнула ў тумане,
Няма прастору дзе для волі,
Дзе чутны стогны, енкі болю,—
Вялік прастор дзеля змаганьня.

І сам, узяўшы меч ваяцкі,
З дружынай вернаю па працы
Пайшоў з кяволяю змагацца,
Здабытак палячы магнацкі...

І зацягнулась бойка доўга,
Бо вораг моцны быў, трывалы;
Але што далей—рацъ дрыжала—
Расла варожая трывога.

— Браты! за намі перамога,—
Зычэў той вокліч, нібы рэха;
І адгукалась шчасьце сьмехам
Паўздоўж змаганчаскай дарогі.

Будзіла веру навальніца,
Уліваўшы ў мора сьвежасьцъ плыні...
— За лепшы лёс сваёй айчыны,
Браты, мы далей будзем біцца!—

— Ліецца кроў на землях нашых:
Забраці хочуць ў нас айчыну
Паны, абшарнікі чужыны,
і пот і кроў нашу забраўшы!

— Браты! Ці аддамо —што наша?
Не аддамо—здабыць павінны!—
Так адгукаўся кліч арліны,
Да бойкі новай заклікаўшы.

Але змаганца лёс свавольны
Падвёў, а кат адзеў вяроўку,
З агіднай катняю знароўкай
Спытаўшы: Што, цяпер давольны?

— Ўжо блізак час майго скананьня,
Аддаць адказ я ўжо бязвольны...
А вы, браты, далей к змаганьню,
Вы быць павінны скора вольны!...

Апошні ўздых—Яго ня стала...
Але той першы ўздым адвагі,
Што быў збавіцелем ад смагі,
Вяроўка, куля не адцялі...

Гэроя памяць заўжды вечна,
Яго заветы—сымболь веры;
Народ шануе ўсё бязьмеры,
Што жыцьцем поўна, чалавечна.

І вось з вякоў ад году к году
Мацнеў уздым за вызваленьне;
Прайшоўшы ў наша пакаленьне,
Ён зьліўся з воклічам: Свабода!

## ЗАХОДНЯМУ БРАТУ.

*Памяці К. Каліноўскага.*

**А. Зімёнка.**

Няхай ня гасьне і ня стыне
Ў грудзёх тваіх сьвяты запал:
Ня мала гінула і гіне,
Калі ідзе дзевяты вал!

* *
*

Пад няўмоўчныя грымоты
Ўстае разьюшаны народ,
Мацней сьціскае кулямёты,
Гранаты, бомбы, нож і шрот!

Дрыжыць зямля. Гудуць пажары.
Глыбее кроўю цаліна...
Бяры, хватай агонь ахвяры,
Бо сэрца лопне, як струна;

Бо душу зьесьць сьляза атруты!
Мы чуем—стогне Беларусь..,
На гэты Матчыны пакуты
Дзе-ж Каліноўскі, дзе Кастусь?

* * *

Няхай панэ яшчэ панамі...
Няхай і ноч! Няхай і цень!...
Ужо, ужо не за гарамі
Ці іх, ці ваш астатні дзень!

Усе, хто ёсьць, хто жыў—да працы!
Вітаю той вялікі час,
Калі у панскія палацы
Увойдзе панам Апанас!

## БЕЗНАЗОЎНАЕ.

(*Вершы*).

**Я. Купала.**

### 1.

Спачатку яно шалясьцела
Вельмі нясьмела,
А потым лізнула ваконца
Ціха, як сонца.

Назаўтра ўзьняло галасочак,
Нібы званочак,
Ды ў час празьвінела так далей
Збуджанай хваляй.

На трэці дзень чуцен быў гоман,
Хоць і надломан,
Але ўжо больш вольны, дасьціпны,
К сэрцу прыліпны.

А далей яно зашумела
Надта ўжо сьмела,
Аж водгульле ў сьветы пабегла
Здольна, разьлегла.

Па пушчах пашло буралом ам—
Дома, за домам.
Бунтарскае грымнула слова
Аж ад аковаў.

Скаваная сіла паўстала
Бурай, навалай...
Надзелі чырвоныя кветкі
Нашы палеткі.

Во, як пачалося ў нас ціха
Тое ўсё ліха,
Што на'т беларускія межы
Ўсталі з залежы,

## 2.

Масты старыя спалены—
Старыя ланцугі;
Паложаны падваліны
Пад новыя сьцягі.

Узводзіцца будыніна
На іншы склад і лад...
Вароты не зачынены:
Прыходзь і кум і сват.

Ідуць, ідуць з аглядкаю,
Варожаць варажбу:
Ці доўга так пасьвяткуе
Той лад сваю сяўбу.

Яшчэ ня дрэме чорнае
Ў закутках груганьнё
І душы непакорныя
Сачыць, як воўк ягнё.

Мяркуюць так і раюцца
Ідучы сват і кум...
Ніхто не дакапаецца
Да іхніх слоў і дум.

Ой, крыўда чалавечая,
Вякамі ты расла,
Пажарамі і мечамі
Паслася, як магла.

Калі-ж ты забабонамі
Пакінеш нас карміць,
Над роднымі загонамі
Пятлю крутую віць?!.

## 3.

Ой, была-ж бяседа, была,
Вельмі гучная бяседа!—
Не адходзіла ад стала
Плойма-чарада суседаў.

Як на рынак ці на кірмаш,
Ад нядзелі да нядзелі,
На каравай пшанічны наш
Машкарой ляцелі, елі.

А маковае малако,
Засаладжанае мёдам,
Пілі смагла, ажна цякло
Па губах іх мімаходам.

А закусвалі мёд і яду
Гаспадыньскай ласкай ўдзячнай;
Тут-жа дзьмуў дудар у дуду,
Каб было піць, есьці смачна.

Дый прышлося плаціць чарадзе
Тэй за гэта баляваньне,
Бо дарма такога нідзе
Ня бывае частаваньня.

Ой, пашла расплата за доўг—
За яду й пітво адразу...
Задымеў, зацьміўся разлог,
Зварухнуў усю заразу.

Хто у рукі папаў—заплаціў,
Іншы ўцёк за многа міляў.
А найболей—кожны скруціў...
Так ня ўсе і заплацілі.

**4.**

Было яно калісьці,
Калі, як жоўталісьце,
Жылі мы—ня жылі;
Ішлі дні без карысьці,
І сорам было выйсьці
У сьвет з сваёй зямлі.

Гнаў лісьце злосны вецер
Па полі, па ўсім сьвеце,
За вёску, за сяло;
На нас ляцела сьмецьце,
Бязладзьдзе, беспрасьвецьце,
Пятлю віло сіло.

І гэтакая слава,
Як пошасьці праява,
Буяла па людзях,
Пакуль жыцьцё ласкавай
Усьмешкай і забавай
Не асьвяціла шлях.

Заблісцацелі лужы,
Бяда зьвілася вужам...
—Ідзе,—крычаць,—вястун!..
І ўзьняўся нехта дужы,
І кінуў кліч дасужы—
Як помста, як пярун.

Ад воклічу прарока
Схіснулася памрока,
Сьцяг падняла вясна,
І па зямлі шырокай,
Як можа зьмерыць вока,
Пабегла навіна.

Сяляны і сялянкі!
Цацанкі-абяцанкі
Збываюцца для вас;
Выходзьце на палянкі,
Як зоры, як заранкі,
Ĭ сейце ў добры час.

5.

Мы ўсталі песьняй-казкаю
Пад жудаснай павязкаю
Мінулых чорных дзён
Ĭ ў даль ідзём, хоць ляскае
Зьвяр'ё ў кутох няласкаю—
На дальшы кліча сон.

Але, але ня выламе
Ні клыкамі, ні віламі
Таго, што ажыло,
Што ўскрэсла над магіламі,
Над хатамі пахілымі—
Мінуламу на зло.

Ня ўзяць рукамі голымі
Таго жывога полымя,
Што нібы агняцьвет,
Вясёлымі саколамі
Над горамі, над доламі
Разносіць іскры ў сьвет...

. . . . . . . . . . . . .

А гоні ўжо узораны,
Ĭ сілы распакораны
Ад паншчынных бядот;
Чакаюць стравы жораны—
Зярнятаў не замораных,
Чакаюць на ўмалот.

А лапці і анучыны
Адбэрсаны, адкручаны,
Нуда маўчыць ціхом;
Спраўляюцца заручыны
Вясельніцы засмучанай
З вясёлым жаніхом.

Лявоніха... мяцеліца..
Бяз памяці вяселяцца...
—Гэй, дзьмі ў дуду дудар!
Аколіца-аселіца
Пад ногі сонцам сьцелецца...
Збудзіўся гаспадар!..

6.

Яшчэ ня ўся работа зроблена,
Ня ўсё жніво у нас пажата,—
Яшчэ краіны стан пагорблены,
Як быў, застаўся ён гарбатым.

Яшчэ дзесь здрадна ласка панская
На беларускім едзе карку,
І круціць з подласьцю паганскаю
На свой лад нашу гаспадарку.

Яшчэ там сыты гонар ласуе
Дзявочу ўсьмешку беларускі,
Даляры лічачы за касаю,
Што з нашых зьдзёр палосак вузкіх.

Яшчэ там корна служаць мамкамі
Сястрыцы нашы і сягоньня,
Ды стогнуць, мучацца пад клямкамі
Браты, як некалі ў прыгоне.

Яшчэ ўспалаюць там паднебныя
Чырвоным полымем пажары,
І будуць гінуць там патрэбныя
І непатрэбныя ахвяры.

7.

Пакінем спадчыну мы для патомкаў
Інакшую ад тэй,
Што ўзялі мы ад продкаў на абломках
Гісторыі сваей.

З інакшай думкай пойдзе ў сьвет і людзі
Патомак гэны наш:
Згібацца ўжо ня будзе, і ня будзе
Піць з недапітых чаш.

Дасталі сьцежкі, ад якіх прапасьці
Маглі мы ў бяспуцьці,
А кінем бітыя шляхі да шчасьця,
Абы умець ісьці.

На продкаў плечах паўзрасталі вежы,
Дзе торг вялі за нас,
А мы пакінем нашым продкам межы
Без ашуканскіх крас.

Яшчэ пакінулі нам асьляпленьне,
Пашану да пакут,
А мы пакінем песьню вызваленьня
І вольны бацькаў кут.

Менск, 22/ш 24 г.

## З цыклю „Горад“.

### Ц. Гартны.

### АДВЯЧОРКАМ.

I.

Люблю сачыць, як дзень пагодлівы канае,
І шэрасьць лёгкая над горадам шумлівым
Памерна ў вуліцы глыбокія спадае,
А над мурамі вісьне дымам сівым.

Паветра цёплае паволі рэдне, стыне,
Выразьней рэха гулкае ўтуруе;
Гудок фабрычны сьвіст зацяжны строма кіне,
Й працоўных натаўп рэзва, шумна зашнуруе.

Драты, што сеткамі крыжуюць вулкі, пляцы,—
Губляюць ніткі доўгія ў прысьценных ценях,
І пэнт нядаўны цяжкай творчай дзеннай працы
Прымоўкне, стуліцца ў каменных цесных сьценах.

Настрэчу-ж месяцу блядому й зорак кучы
Агні электрыкі вакол з вакон, з ліхтарань
Паднімуць ўверх прамень сярэбраны бліскучы,
І зыкі выцісьне дзяўчына на гітары...

Крыху пазьней—і скрозь жыцьцё, як дым, зьнікае,
Адно з кутkоў пачуеш парак шэпт шчасьлівы...
Люблю сачыць, як дзень над горадам канае,
Лятучы ціха к небу дымам лёгкім, сівым.

1—I—24.

### НОЧЧУ.

II.

І тут і там, здалёк і ўблізку,
Як ў цёмным полі—воўка вочы,
Ў раскідзе доўгай гнутай нізкі
Агні па гораду бліскочуць.

Трапеча лёгкае праменьне,
І змрок гусьціць ўвысі ды ўнізе—
На зірк вачу кладзецъ адценьне
І зьяў жыцьця да здані блізіць.

Хто іх разьліў, з якой патрэбы—
Пытаеш—мрыюць над дамамі,
Як сьвечкі тыя над трунамі
Ў цалуне чорным зьвісшым з неба?

І, здэцца-б, сумам мусела павейваць
І ўзрокі цьмяніцца ў прышчурра,
А тота-ж будзяць яркую надзейнасьць
І позыў – бегчы к ім настрэчу—бурацъ

12—III—24.

## Мая душа.

Ў маёй душы—любові мора
Да вас, зялёныя гаі,
Да вас, міргаючыя зоры,
Да вас, захмарныя краі!

Вялікай сілай, сьветавою,
Мая істота ўся гарыць,
І прагне сэрца маладое
З прасторам вечным крэпка зьвіць.

Бо тыя дзівы, тыя чары,
Якімі поўна неба сінь—
Па ўсім разгорнутым абшары,
Куды паглядам ты ні кінь,—

Трывожаць душу, родзяць зовы
Іці-ляцець, зьнябыўшы жаль,
Шукаць красы вавекі новай,
Здымаць заслону з цёмных даль.

І гай зялёны й луг шырокі
Хадой няўпыннай абмяраць,
Ад нізу к верху, ў гал высокі
Крылатай птушкай узьлятаць.

І ў моры променнага сонца,
Ў сіяньні срэбраным сузор
Лятаць, насіцца там бясконца,
Вакол зьмяраючы прастор;—

Лятаць і сэрцам гартавацца
І душу ўзмоцніваць ў агні—
Каб сілу мець вавек змагацца
За волю й шчасьце на зямлі.

Ў маёй душы—любові мора
Да шыры поля, да гаёў,
Да ўсіх нязьмераных прастораў,
Да ўсіх захованых краёў.

# З ЦЫКЛЮ „ЗМАГАНЬНЕ“.

**Н. Чарнушэвіч.**

I.

На, бура, жар
Адкрыты мой твар—
Гулы стыхыі агонь ня спужаюць:
На кожны тхнучы
запалам удар
Шырай разгорнецца гала пажару.
Кручаны сплёт
Агню і грымот
Нішчаньнем грукне ў пагарды устоі;
Дымучых зьмеяк яго
карагод
Зьліжа ўшчэнт векавую нядолю.
Чорная кроў
Багацьце цароў
Ўтопіць ў сабе агняпляшучы промін
І сыта ўсочыць
няўроўных палёў
Потам салёным палітыя гоні.
Зьнікне жуда;
Рунёў барада
Ў космах утоіць рудыя абшары.
Дык гостра дзьмухай
запала удар—
Гуды стыхыі агонь ня спужаюць!

II.

Волі я повен, шырацца грудзі
Жыцьцем ўсмак наліцца паверх,
Калі здалёку ў нікнучай смузе
Ранешнім зыкам сірэна раве.
Бураў старых ўсплываюць успаміны—
Куляў сьпеў, агонь барыкад...
Гэта ўздымаўся ў далечы сіняй
Волі ліхтар у мільённых руках.
Крокамі ў мілю вецер падзеяў
Гнаў далей яго дымны язык;
З ім залівалі долі надзеі
Брудных падвалаў глухія нізы.
Але уціхлі бураў пагрозы;
Рэжа сьпеў комун шырату.
А па сьнягу астыўшых марозаў
Кветкі чырвоных лілеяў растуць.

Калі-ж ўспамінам ў ранешняй смузе
Плаўны гуд сірэны раве,
Волі я повен, шыраццa грудзі
Соладам жыцьця наліцца паверх.

## Волі сьпеў.

### Хмарка.

Сьпеў чароўны, гучны сьпеў,
Вольнай думкі сьпеў магутны,
Ён ня сьціхнуў, не зьнямеў,
Ён паўсюды будзе чутны.

Да жыцьця ён кліча нас,
Да змаганьня з злою доляй.
І ў вясновы пекны час
Вабіць шчасьцем ён ды воляй.

Ўсіх, чый кволы дух самлеў,
Ў барацьбе аслабла цела—
Ўсіх аджывіць гэты сьпеў,
Да змаганьня клікне сьмела.

Хто схаваўся ад жыцьця,
Ланцугамі хто закуты,
Хто ў бясьсільлі забыцьця
Ня зрывае з сябе путы,—

Ўсіх уздыме, ўзбудзіць ён,
Загартуе да паўстаньня,
Бо жыцьця такі закон—
Шлях да шчасьця—праз змаганьне.

Ўсіх хвалюе гэты сьпеў,
Сьмелай воляю багаты;
Звоніць ён, як і зьвінеў,
І няволі нішчыць краты.

26—III—24 г.

* * *

Калі пад нядоляй, пад гора цяжарам
Душа ўся палае нягаснучым жарам,
Якога ні сьцюжы зімы, ні мяцелі,
Ні сьлёзы бяз ліку згасіць не здалелі;
Ў якім, як у горне ўся крыўда згарэла,
І што было чорным—зрабілася бела,
Які асьвятляе, як сонца дзяньніцы
Глыбокія процьмы, жыцьця таямніцы,
Палае, ды кліча душу да змаганьня
За шчасьце, за долю, шле сонцу вітаньне...
Дык ўсё гэта сьведчыць, што дух не зламаны,
Што сілы глыбока у ім захаваны,
Што здольны к жыцьцю ён, што шчасьця ён варты,
Калі так у цемры палае упарта.

III—1924 г.

# МАТЧЫНА СЭРЦА.

*Каўкаская легэнда.*

**А. Зімёнка.**

Між горных цясьнін у даліне
Стаяла старэнькая хатка...
Жыла там калісьці пры сыне
Старая удава матка...

Малы быў—яна калыхала.
Узрос—абшывала, карміла.
Сыночкам яго называла,
Сьлядочкі яго цалавала,
І к роднаму сэрцу туліла...

Ён часта хадзіў на вяршыну...
І там—яшчэ сонейка зьяла—
Палюючы неяк дзічыну,
Спаткаў ён у горах дзяўчыну,
І сэрца яго пакахала...

Ён кляўся да самай магілы
З аднэй толькі ёю любіцца,
Аддаць ёй астатнія сілы,
Апошнім кавалкам дзяліцца...

Са сьмехам яна адказала:
„Жыву я даўно ў паняверцы;
Тады-б я цябе пакахала,
Калі-б—покі ноч не настала—
Прынёс ты мне матчына сэрца!"

Вярнуўся ён смутны да хаты...
Душа ў раздваеньні палала...
На лаве ён сеў, як закляты...
А ноч ужо чорныя шаты
Паціху на землю спускала...

Гарэла-курэла лучына...
На ложку матуля ляжала...
Праз сон яна клікала сына...
А тому на вуха дзяўчына
Салодкія словы шаптала.

Ў мазгу, як у пекле, кіпела:
І страшна, і шкода, і трэба...
У корчах зьвівалася цела...
А ў полі ўсё болей цямнела,
І хмары туманілі неба...

Жахлівая хвіля настала:
Як зьвер, ён вакол азірнуўся.
Ля печы чагосьці прыткнуўся...
І нож натачыўшы, як жала,
Над маткаю ціха нагнуўся...

„Пастой!--закрычала сумленьне...
Над кім паднімаеш ты руку?
Падзяка старой за цярпеньне?
За кроў, за пяшчоты і мленьне?
Хто даў табе гэту навуку?“

„Ня слухай, бо ноч наступае,
Апозьнішся--страціш пярсьцёнак...
Сьпяшайся—дзяўчына чакае,
З табой яна шчасьце спазнае“...
. . . . . . . . . . . . . . . .

І нож акунуўся па тронак...
Крыху сапачыўшы ад млосьці,
Цалуючы ў думках дзяўчыну,
Шырока расьцяў ён грудзіну,
Рукамі расьцяг яе косьці
І вырваў ён сэрца старэнькай,
Каб кінуць да ног маладзенькай!

Ўжо цёмна было у даліне...
Заціснуўшы сэрца ў далоні,
Ён кінуўся ў горы к дзяўчыне,
Туды, к яшчэ сьветлай вяршыне
У белай, у сьнежнай кароне...

Але ад пасьпеху у полі,
Дзе бег ён ўпацёмках стралою,
Спаткнуўся аб камень нагою,
І голасна крыкнуў ад болю...
І сэрца ў руках задрыжала—
Ўсё перабачыла матка—
І чула сыночка спытала:
„Баліць табе штосьці, дзіцятка?“

# Тутэйшыя

ТРАГІЧНА-СЬМЯШЛІВЫЯ СЦЭНЫ З МЕНСКАГА НЯДАЎНАГА ЖЫЦЬЦЯ

У 4-х ДЗЕЯХ.

**Янка Купала.**

*Перадрук і пастаноўка на сцэне бяз згоды аўтора забараняецца.*

## АСОБЫ:

1. МІКІТА ЗНОСАК (Нікіцій Зносілов) — колежскі рэгістратар, 25—28 г., у першых трох дзеях барада выгалена, у 4-ай крыху барадаты.
2. ГАНУЛЯ ЗНОШЧЫХА—яго маці, у вольны час робіць панчоху.
3. ЯНКА ЗДОЛЬНІК— настаўнік, 25—28 г.
4. ЛЯВОН ГАРОШКА—паважны селянін, заўсёды з люлькай, агонь да яе крэсіць крэсівам.
5. АЛЕНКА—яго дачка, 17—19 г., крыху жвавая і вясёлая дзяўчына, адзяецца чысьценька і скромна.
6. НАСТА ПАБЯГУНСКАЯ—дзяўчына няведамых заняткаў, 23—25 г. стараецца адзявацца з шыкам, але бяз густу.
7. ГЭНРЫХ МОТАВІЧ СЬПІЧЫНІ—Мікітавы настаўнік, сярэдняга веку, бараду і вусы голіць.
8. УСХОДНІ ВУЧОНЫ—носіць велікарускую вопратку—„паддзёўку", „касаваротку" і доўгія боты, барада калматая.
9. ЗАХОДНІ ВУЧОНЫ—носіць польскі строй—кунтуш і „конфадэратку", барада голеная, вусы завесістыя.
10. ДАМА
11. ПОП
12. СПРАЎНІК
13. ПАН
14. НЕМЕЦ
15. ЧЫРВОНААРМЕЕЦ / НАЧАЛЬНІК ПАТРУЛЯ — у аднэй асобе.
16. АБАРВАНЕЦ

Немец, двух патрульных, грамадзяне, грамадзянкі і інш.

---

Усё дзеецца ў Менску. 1-я дзея адбываецца ў лютым 1918 г., 2-я— у сьнежні 1918 г., 3-я—у ліпні 1919 г., 4-я—у чэрвені 1920 г.

1-я, 3-я і 4-я дзеі адбываюцца ў Мікітавай хаце, 2-я дзея—на Катэдральным пляцы, называным мянчанамі „Брахалка".

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ.

Час вячэрні. Даволі абшырны пакой, беднавата, па-дробнамяшчанску абстаўлены. З правага боку—бліжэй да рампы—адны дзьверы, з левага—двое. Напроць двое вакон на вуліцу. Справа ў належным месцы стол, у іншых мясцох—пара малых столікаў, на адным з іх грамафон, крэслы венскія і мяккія плюшавыя. У кутку зьлева вялікае люстра (трумо). На сьценах у рамах колькі тандэтных абразоў—портрэтаў высока-пастаўленых асоб, балалайка, пажарніцкая куртка і каска.

### ЗЬЯВА 1-я.

ГАНУЛЯ—ЯНКА

ГАНУЛЯ

(Сядзіць і робіць панчоху; чуваць стук у дзьверы з левага боку, што далей ад рампы).

Калі ласка! заходзьце!

ЯНКА (уваходзіць).

Выбачайце, цётачка, што так часта назаляюся вам, але, бачыце, неяк моташна зрабілася аднаму сядзець, дык вось і прышоў да вас у госьці.

ГАНУЛЯ

Ды што за цэрамоніі! Можаце гасьціць у мяне хоць кожны дзень ад раньня да вечара—мне самой весялей, бо хоць вы ў нас нядаўна закватаравалі, а ўжо лічу вас, як свайго чалавека. Толькі ня стукайце там папанску ў дзьверы, а проста ўваходзьце і ўсё тут.

ЯНКА

Дзякую вам за шчырасьць і ласку, хоць і сам ня ведаю, чым я на ўсё гэта заслужыў. (Пауза). Дзе-ж гэта гаспадар ваш малады?

ГАНУЛЯ

Паляцеў у горад таго-сяго купіць. Сягоньня імяніны яго, дык мо' той ці сёй здарыцца ў хату.

ЯНКА

Шкада, што я раней аб гэтым ня ведаў. То-ж належала і аб падарунку якім падумаць.

ГАНУЛЯ

Э, мой сынок! Ня тыя цяпер часы на падарункі. Гэтая вайна ды бязладзьдзе, ці як там кажуць, рэволюцыя, пахавалі тыя хвіліны, калі людзі маглі думаць і аб падарунках.

ЯНКА

А во сын ваш не забыўся, аднак. аб імянінах?

ГАНУЛЯ

Не забыўся, бо малады яшчэ і ў галаве пуста. Падумайце, скасавалі чыноўніцтва, застаўся бяз службы і хоць-бы што, ні на грош таей сталасьці. Адно маракуе ўсё аб тым, як гэта ізноў вернуцца нейкія там яго рангі і клясы і ўсялякае дабро само пасыпецца з неба.

ЯНКА

А што-ж ён, павашаму, павінен рабіць у гэтае чыноўніцкае безрабоцьце?

ГАНУЛЯ

Што? Хоць-бы ўзяў, як іншыя, ды падвучыўся боты шыць, або хоць латаць. Ну, латаў-бы, і капейка жывая была-б у хаце, а так... (Махнула рукамі).

ЯНКА

Трудна такому далікатнаму панічу за гэтакую чорную работу ўзяцца.

ГАНУЛЯ

Які там ён далікатны! Я сама з ягоным бацькам—людзі вясковыя. Мой нябожчык гаспадар жыў пры бацькох на маленькім надзеле. Адзін яшчэ сяк-так мясьціўся у сям'і, а як жаніўся, дык і не хапіла абаім месца. Тады мы ўзялі і пашлі сюды ў Менск шукаць службы. Спачатку было вельмі цяжка, а пасьля нічога сабе. Я мыла людзям бялізну, а ён прыстроіўся ў вакружным судзе: быў там пры вешалках і кур'ерам. А вядома, у судзе: народу ўсялякага прыходзіць шмат, ды пакуль там хто дойдзе да вышэйшага начальства, пачынаць мусіў сьпярша ад ніжэйшага. Гэткім ладам недастачы вялікай не цярпелі, ды нават хлопца свайго праз усялякія там навукі да чыноўніцтва давялі. Пасьля мой памёр, вечны яму пакой, а я засталася адна са сваім Мікіткай. Так што, як бачыце, ніякай далікатнасьці нямашака.

ЯНКА

А я спачатку меркаваў іначай. Бо дзе-ж там! Ён гэтак заўсёды хоча сябе паказаць, як-бы сам губэрнатар.

ГАНУЛЯ

Гэта, мабыць, ён наглядзеўся, бо служыў у губэрнатарскай канцэлярыі за нейкага там рэгістратара.

ЯНКА

Ах, вось яно што! Але гэта не бяда. Калі ён вышаў родам з сялян, то ніякай працы не павінен чурацца, асабліва павінна яго пацягнуць туды, адкуль прышоў,—на вёску, дзе столькі поля някратанага ляжыць. І мне здаецца, што яго туды пацягне.

ГАНУЛЯ

Ня цягне яго і туды, мой саколік, ой, ня цягне! Стары эгарусьціў быў лішнюю сотню, маніўся кусочак зямлі з хатай купіць, але ня ўсьпеў. А яму, свайму Мікітку, што я наталкавалася, каб зьісьціў бацькаву думку, —не паслухаў. Цяпер ні зямелькі з хатай, ні грошай... А мне ўжо старасьць на носе. Як падумаю, што бяда зноў прыціснe, што зноў прыдзецца людзям бялізну мыць, дык аж рукі вянуць ад нейкага жалю горкага.

ЯНКА

Э, цётачка! Ня так ужо дрэнна, як вам здаецца. Устаткуецца ваш Мікітка з часам і пойдзе па розум да галавы. А цяпер ён-жа яшчэ малады ў вас.

ГАНУЛЯ

Ды разумеецца малады, яшчэ зусім малады! Яно-ж і наракаць на яго роднай маці гэтак не выпадае, але падчас, як прыдзе нешта нейкае, дык і гаворыш і гаворыш; спачатку палягчэе на сэрцы, а пасьля і шкадуеш. Ён-жа маё родненькае дзіцё, ды адзін, як той васілёк у жыце.

ЯНКА (на бок).

О, гэтакіх адных у нас многа, толькі-ж яны не васількі, а праклятае зельле на нашай беднай зямлі! (Ходзіць па пакоі).

## ЗЬЯВА 2-я.

### ГАНУЛЯ—ЯНКА—МІКІТА

МІКІТА
(увапходзіць з пакупкамі).

О, меджду протчым і профэсар у нас! Здрасьціце!

ЯНКА

Майму кватэрнаму гаспадару нізка кланяюся! Апрача гэтага пазвольце, пане рэгістратар, павіншаваць вас з імянінамі. Жычу вам надзець шліфы калежскага асэсара.

МІКІТА

Дзякую, меджду протчым, дзякую! Шчыра мяне цешыць, што вы аб гэтым не забыліся. Жадаю, каб і праз год мы ў гэтай кватэры віншаваліся.

ЯНКА

Аб гэтым трудна загадзя варажыць. бо я ў скорасьці зусім выяжджаю з Менску на вёску.

ГАНУЛЯ

Як-жа гэта, пане настаўнік? Мы ўжо да вас так прывыклі, што мне здавалася, ніколі не разлучымся.

ЯНКА

Там, на вёсцы, я патрабней, чымся тут, а да таго—ня люблю я гораду: вельмі ўжо ў ім цяжкае паветра.

МІКІТА (да Ганулі).

Меджду протчым, мамаша, прышыкуйце закуску, бо незадоўга і госьці зьбяруцца. (Стаўляе на бок пляшку).

ЯНКА

Эгэ! І пляшку бачу. А кажуць, што ня можна дастаць...

МІКІТА

Усё можна, толькі асьцярожна. (Гануля зьбірае пакупкі). Вось тут селядцы, во цыбуля да іх, а во сала, а тут... меджду протчым — кілечкі... пальцы госьцікі абліжуць. (Гануля з пакупкамі выходзіць).

## ЗЬЯВА 3-я.

ЯНКА—МІКІТА

ЯНКА

Гучны, як уважаю, баль у вас будзе.

МІКІТА

О, так! У нашым чыноўніцкім становішчы іначай ня можна. Як чуць што зблышыў, дык і пачнуцца ўсялякія суды ды перасуды: адзін будзе казаць, што па службе атрымаў паніжэньне, другі—што ў карты прагуляўся, а трэці—што скнэра, а гэта—найгорш, і так пашла пісаць губэрня, —не адцярэбішся. Становішча, меджду протчым, пане мой, абавязвае.

ЯНКА

А вы плюнулі-б на тое, хто што кажа, ды жылі сваім адумам. Пры тым, якое тут чорта чыноўніцкае становішча, калі яно ўжо не стаіць, а ляжыць, ды як яшчэ ляжыць—як трухлявая калода!

МІКІТА

Меджду протчым, гэта яно ляжыць так сабе—да часу, а потым зварухнецца і падымецца.

ЯНКА

Чакай, бабка, Пятра!.. Пакуль ваша гэта становішча ўстане, то вас саміх чэрві паточуць. Ды скажэце, калі ласка, каму і нашто патрэбна гэта ваша з мёртвых паўстаньне? Ды каму якую тут карысьць вы прыносілі, як яшчэ стаялі?

МІКІТА

Мы цьвёрда стаялі на варце сьвятога расійскага самаўладзтва і баранілі тутэйшую рускую народнасьць ад „інародчаскага засільля“. Во яно што, меджду протчым!

ЯНКА

Няма чаго казаць — баранілі! У лапці абувалі, з торбамі пушчалі, ды ў сыбірскія катаргі вывозілі. Гэта называецца—баранілі!

МІКІТА

А што вы, новасьпечаныя рэспубліканцы, хэ-хэ-хэ! беларусы ці як там... што вы маніцёся бараніць, бо дагэтуль, меджду протчым, вы яшчэ нічога не ўбаранілі.

ЯНКА

Мы баронім саміх сябе ад вашай навалы.

МІКІТА

А, меджду протчым, нічога ня выходзіць: вашы сходкі, ці там зьезды раскідаюцца, а саміх на казённы хлеб садзяць. Хэ-хэ-хэ! раскідаюць, во і ўсё тут.

ЯНКА

Але, раскідаюць, але! Толькі-ж думак нашых і сам люцыпар не раскідае,—бо мы служым вялікай ідэі вызваленьня.

МІКІТА

Усё гэта глупства. Меджду протчым, ідэя вельмі скупая пані—ні шэлега сваім слугам ня плаціць,—хоча, каб на яе ўсе дарма працавалі. А ў мяне, хэ-хэ-хэ! пане профэсар, душа рэальная: хто мне лепей плаціць, таму і служу і кіхаць хачу на ўсякія ідэі. Мая лінія жыцьця вельмі простая.

ЯНКА

Памыляецеся, пане рэгістратар. Ваша лінія ня простая—а крывабокая,—цямняцкая ваша лінія, і ўжо вядзе вас туды, адкуль не варочаюцца.

МІКІТА

(стукаючы кулаком па стале).

Меджду протчым... меджду протчым... вы мяне абражаеце! Я не цямняк, пане... пане дырэктар беларускай басоты.

ЯНКА

Выбачайце, я крыху пагарачыўся. (Выходзіць у свой пакой).

## ЗЬЯВА 4-я.

### МІКІТА—ГАНУЛЯ

ГАНУЛЯ

(увайшоўшы пры апошніх словах Мікітавых).

Ты ізноў з ім павадзіўся?

МІКІТА

Меджду протчым, я з ім ня вадзіўся, а толькі аб палітыцы паспрачаўся.

ГАНУЛЯ

(накрывае стол).

Гэтымі сваімі спрэчкамі людзям толькі кроў псуеш.

МІКІТА

Псуюць і яны мне. Не магу-ж я, меджду протчым, мамаша, набраць у губу вады і маўчаць, калі ён бэсьціць мае жыцьцёвыя погляды. Меджду протчым, абавязак мой—паказаць гэтым новым завадзілам іхняе належнае месца. Хай знаюць, што і мы тое-сёе ў палітыцы кемім. Апрача таго, здаецца, што ад нашага кватаранта бальшавіцкім духам пахне, а мне ад гэтага паху ў носе круціць.

ГАНУЛЯ

А калі бальшавік, дык што? Бальшавік таксама чалавек.

МІКІТА

Можа чалавек, а можа і не, бо з нашымі рангамі і клясамі абходзіцца зусім не пачалавецку. (Пауза). Меджду протчым, мамаша, я папрашу вас... я гэтага хачу... З-паміж іншых гасьцей будуць у мяне сягоньня: адна мадам, поп, спраўнік і пан. Вось, калі хто з іх зьвернецца да вас з якім словам, то вы старайцеся адказваць у нос і меней ужы-

вайце простых выразаў. Калі з мадамай зойдзе гутарка, то не кажэце—панечка, а мадам-сіньёра, калі з папом, то—ня бацюшка, а ацец духоўны, калі з спраўнікам, то—ня пан спраўнік, а ваша родзіе, а калі з панам, то—ня проста пане, а—ясьне пане грабя. Усё гэта тутэйшыя грата-пэрсоны, меджду протчым, людзі аднальковага са мной сьветагляду і амаль што не аднальковых рангаў, так што хачу я, каб яны ведалі, што і радня мая ня ніжэй стаіць ад іхняй радні.

ГАНУЛЯ

Ну і госьці! Адкуль ты іх выкапаў? Яны-ж уперад у нас ня бывалі.

МІКІТА

Ня бывалі... ня бывалі... Меджду протчым, уперад была іншая палітычна-экономічная сытуацыя, пры якой ня ўсюдых яны маглі пабываць, а цяперака, як з большага рангі і клясы абшліфаваліся, вось яны, гэтыя мае госьці, і складаюць нам першым візыту.

ГАНУЛЯ

А хай-бы ляпей не складалі, а то скачы перад імі няма ведама як!

МІКІТА

Вы толькі, меджду протчым, мамаша, адказвайце, як я вас вучыў, а ўсялякіх іншых цэрамоніяў буду я сам даглядаць. Ага, яшчэ адно: як будзеце вітацца, то адну нагу назад адцягавайце—рабеце рэвэранс. А важней за ўсё, старайцеся якнайгусьцей у нос.

ГАНУЛЯ

(махнуўшы рукой).

У нос, дык у нос!

(Уваходзіць ЯНКА).

## ЗЬЯВА 5-я.

### МІКІТА—ГАНУЛЯ—ЯНКА.

ЯНКА

(увайшоўшы да Ганулі).

Вось я ўспомніў, цётачка, адну сваю справу і мушу прасіць вашай у гэтым помачы. Надовечы я атрымаў ліст з вёскі ад сваёй быўшай вучаніцы, у якім піша яна, што з бацькамі сваімі прыедзе ка мне ў госьці. А гэта можа здарыцца нават сягоньня. Усё было-б добра, але бяда ў тым, што яны тут ня маюць нікога знаёмага, дык ня будзе ім дзе...

ГАНУЛЯ

...Пераначаваць. Ну, гэта не бяда! Можна будзе і ў нас. Ложкаў, праўда, лішніх няма, дык во тут на падлозе што-небудзь падмосьцім і пераспяць ноч.

МІКІТА

Яно так, меджду протчым, але ў мяне сягоньня важныя госьці будуць, дык можа вашым гасьцём гэта будзе не па нутру?

ЯНКА

Я пастараюся, каб яны вам і вашым важным гасьцём не заміналі.

## ЗЬЯВА 6-я.

### МІКІТА—ГАНУЛЯ—ЯНКА—НАСТА

НАСТА

(высоўваючы галаву з правых дзьвярэй).

Ці можна?

МІКІТА

Калі ласка! Меджду протчым, просім, просім!

НАСТА (уваходзіць).

Добры вечар! Як жывы-здаровы?

МІКІТА

Дазвольце пазнаёміць: мамзэль Наста Пабягунская — настаўнік Янка Здольнік, меджду протчым, гэта той... хэ-хэ-хэ!... беларус, аб якім я ўжо вам успамінаў... хэ-хэ-хэ! Ня ўлюбецеся толькі.

НАСТА (да Янкі).

Вельмі цікава з вамі пазнаёміцца! Нам такіх якнайболей патрэбна.

ЯНКА

Дзякую за гонар! (На бок). А для нас і ня цікава і не патрэбна такое знаёмства.

НАСТА

Ці ня можна ад гэтых паноў дзе на хвіліну мне схавацца?
(Паказвае на мігі, што мусіць папудравацца і паправіць валасы).

ГАНУЛЯ

Можна, можна! Пойдзем са мною ў другі пакой. (Вышлі).

## ЗЬЯВА 7-я.

### МІКІТА—ЯНКА

ЯНКА

Праўдзівая Пабягунская. Хто яна такая?

МІКІТА

Так сабе—надта мілая й сымпатычная, меджду протчым, мамзэль. На ўсе бакі вядзе шырокае знаёмства. Мае заўсёды аб усім і аб усіх з пэўных крыніц пэўныя весткі, любіць заўсёды і ўсюдых, дзе трэба і ня трэба, уткнуць свае тры грошы. Меджду протчым, павінен вам сказаць, што яна першая ды, мабыць, апошняя слабасьць майго сэрца. Колькі раз рабіў ужо ёй асьведчыны, каб, значыцца, аддала мне сваю руку, але штось ня клеіцца. Кажа, як будзеце асэсарам, тады выйду, а за рэгістратара, кажа, не хачу. І хоць ты ёй з пальца высьсі тое асэсарства,

а падавай і ўсё тут. Але я надзеі ня трачу. Зьменяцца палітычныя сытуацыі, атрымаю ад начальства асэсарскую рангу, і мамзэль Наста будзе маёй, бо асоба, як бачыце, спрытная.

ЯНКА

Спрытная, спрытная! Але і пры зьмененых сытуацыях, каб вы толькі з сваім асэсарствам і з гэтай мамзэляй ня вылецелі ў трубу. (Вышаў у свой пакой).

МІКІТА

Зайздрасьць яго так і разьбірае, меджду протчым.

(Дастае з шуфляды ў стале чыноўніцкія адзнакі і перад люстрам прымяркоўвае іх. Уваходзяць НАСТА і ГАНУЛЯ).

## ЗЬЯВА 8-я.

### МІКІТА—НАСТА—ГАНУЛЯ.

НАСТА

Аей, што я бачу?! Бяз усякае цэрамоніі нашаму дзявоцкаму стану конкурэнцыю робіце:—як кокетка, флiртуеце з люстэркам. А яшчэ калежскі рэгістратар!

МІКІТА

Але і мамзэль Наста, меджду протчым, сягоньня падфуфырылася, як на баль-маскараду ў Белую залю.

НАСТА

На баль, як на баль, а з гасьцямі спаткацца прыдзецца, дык чаму-ж крыху і не паднядзеліцца?

МІКІТА

А так, так! На тое-ж сягоньня мае імяніны.

НАСТА

Ды я не аб імянінных гасьцёх.

МІКІТА

Аб якіх-жа гасьцёх яшчэ, меджду протчым?

НАСТА

Які-ж вы недагадлівы!

МІКІТА

Ах, ужо ведаю—вы аб немцах!?

НАСТА

Няўжо-ж аб кім? Я з пэўных крыніц маю пэўныя весткі, што яны яшчэ сягоньня будуць у Менску.

МІКІТА

О, ліханька! Каб хаця не ўваліліся на імяніны, а то сапсуюць усю абедню. А так, меджду протчым, хай сабе ідуць, гэта мне пад руку—буду зноў засядаць у губэрнатарскай канцэлярыі.

НАСТА

Ого! так адразу. А я чула ад пэўнай асобы, што немцы як прыходзяць, то першым чынам направа і налева хапаюць усіх на работы—капаць акопы, а гэта не губэрнатарская канцэлярыя.

МІКІТА

Хэ-хэ-хэ! Я ўжо ведаў аб гэтым і загадзя забарыкадаваўся. Глядзеце! (Зьнімае з сьцяны і надзяе пажарніцкую куртку і каску).

НАСТА

І што гэта значыць?

МІКІТА

А тое, што немцы пажарнікаў на работы не бяруць. Ну, вось я і падумаў аб гэтым раней і ўпісаўся ў Менскую пажарную дружыну. (Чуваць зьлева званок). Ай, госьці ідуць! Меджду протчым, мамаша, завесьце чым-небудзь вокны, мажа—коўдрамі... а я пабягу спаткаць.

(Выбягае. Гануля завешвае вокны. Наста круціцца каля люстра. Уваходзяць госьці ў парваных верхніх вопратках, якія Мікіта зьнімае і выносіць у другі пакой. Поп апускае падоткнутыя полы сутанны. Пасьля прывітаньня госьці рассаджваюцца і крытычным вокам аглядаюць кватэру).

## ЗЬЯВА 9-я.

МІКІТА—НАСТА—ГАНУЛЯ—ДАМА—ПОП—СПРАЎНІК—ПАН

МІКІТА

(як госьці ўвайшлі і разьдзеліся—надскаківаючы).

Міласьці прашу! Прашу пакорна! Маю гонар пазнаёміць—меджду протчым, мая мамаша, а гэта—мамзэль Наста Пабягунская.

ДАМА

(углядаючыся пільна цераз акуляры з ручкай на Мікіту).

Што гэта ў вас, мусье, за такі арыгінальны ўбор? Напамінае сабой форму а ля кум пажарны.

МІКІТА

(глянуўшы на сябе)

Мадам-сеньёра, вы згадалі. Гэта... Як яно... гэта... меджду протчым, прынёс мне мой прыдворны кравец для меркі, а я так захапіўся найясьнейшымі гасьцямі (госьці ківаюць галовамі), што і забыўся зьняць. Меджду протчым, я заказаў сабе гэты віцмундзір з пэўнай мэтай... Прыходзяць немцы, пачнуцца балі, рауты, маскарады, а ў мяне во і гатоў маскарадны касьцюм. Але, выбачайце, найясьнейшыя госьці,—пайду ўжо скіну, меджду протчым.

(Выходзіць і варочаецца ў чыноўніцкай форме з усімі адзнакамі).

ДАМА

(ізноў узіраючыся на Мікіту).

Ах, мусье! але вы фарсун: у вас мундзір са шліфамі.

МІКІТА

А гэта зроблена спэцыяльна для маіх, меджду протчым, найслаўнейшых гасьцей: хацеў прыняць іх, як і калісь прымаў розных дастойных асоб.

СПРАЎНІК

Тады дазвольце і я свой мундзір удастойню.

(Дастае з кішэні пагоны і прышпільвае. Дама памагае. Чуваць званок. Ганулл выходзіць і прыводзіць з сабой АЛЕНКУ і ГАРОШКУ, які, увахадзячы ў хату, выбівае аб пазногаць попел з люлькі).

## ЗЬЯВА 10-я.

ТЫЯ-ж—АЛЕНКА—ГАРОШКА

АЛЕНКА

(узіраючыся ў пісульку).

Ці тут жыве дзядзька... як яго?!. дзядзька Мікіта Зносак?

МІКІТА

І ня дзядзька, і ня Мікіта, і ня Зносак, а тут жыве, междду протчым, калежскі рэгістратар Нікіцій Зносілов.

АЛЕНКА

Я... я ня ведаю...

МІКІТА

А калі ня ведаеце, то чаго ўлезьлі ў чужую хату, междду протчым.

АЛЕНКА

Бачыце, мы з таткам шукаем нашага настаўніка Здольніка.

ГАНУЛЯ

Ах, так-бы адразу і сказалі, дзеткі! Ён тут. Зараз паклічу. (Стукае ў Янкавы дзьверы). Пане настаўнік! Да вас госьці прышлі.

## ЗЬЯВА 11-я.

ТЫЯ-ж—ЯНКА

ЯНКА

(увайшоўшы і вітаючыся).

Вось мілыя, дарагія госьцікі! А я ўсё разважаў, ці прыедзеце сягоньня, ці не. (Да Ганулі). Гэта, цётачка, тыя самыя падарожнікі, аб якіх я вам успамінаў: мая найздальнейшая вучаніца Аленка, а гэта бацька яе, Лявон Гарошка—найлепшы гаспадар з усяго сяла.

ГАНУЛЯ (прыпамінаючы).

Лявон Гарошка... Лявон Гарошка... Як-жа гэта так? Ці вы ня з Дуброўкі?

ГАРОШКА

Але, мая мілая, з Дуброўкі!

ГАНУЛЯ

Ну, цяпер успомніла! Гэта-ж мы блізкія сваякі: твой дзед і мая бабка былі родныя брат і сястра. Але чаго-ж мы стаім? Сядайце, мае даражэнькія! Пане настаўнік, папрасеце, каб селі.

(Сядаюць воддаль ад іншых гасьцей).

МІКІТА

(адыходзіць ад сваіх гасьцей, да Ганулі, на бок).

Меджду протчым, мамаша, выехалі з гэтым сваяцтвам, як з козамі на торг! Перад маімі гасьцямі ўсю мне рэпутацыю папсавалі. Хаця ня ўздумайце яшчэ за стол іх садзіць.

(Чуваць з двух бакоў званок. Гануля меціцца ісьці адчыняць, але заклапочана тым, у якія дзьверы ўперад пайсьці).

НАСТА

(падбегшы да Ганулі).

Вы, мадам, ідзеце адчыняць тыя дзьверы, а я адчыню гэныя. (Выходзяць)

МІКІТА

Каго там яшчэ нялёгкае нясе?!

(Уваходзяць адначасова з абаіх дзьвярэй УСХОДНІ ВУЧОНЫ і ЗАХОДНІ ВУЧОНЫ, разглядаючыся: Усходні—праз падзорную палявую трубу, Заходні—праз бінокль, незаўважыўшы спачатку адзін аднаго).

## ЗЬЯВА 12-я.

### ТЫЯ-ж—УСХОДНІ ВУЧОНЫ—ЗАХОДНІ ВУЧОНЫ

МІКІТА

(да гасьцей, як увайшлі вучоныя).

Гэта адны з маіх добрых знаёмых, меджду протчым, паны вучоныя. Сустрэў іх надовечы на Губэрнатарскай вуліцы, дзе шукалі праўдзівых тыпаў беларускіх. Я сказаў, што адзін такі тып квартаруе ў мяне,—вось, відаць, і прышлі паглядзець. Паміж іншым, адзін з іх Усходні вучоны, а другі—Заходні.

УСХОДНІ ВУЧОНЫ

(стукнуўшыся з Заходнім).

Чорт подзеры!

ЗАХОДНІ ВУЧОНЫ

Пся крэв!

УСХОДНІ ВУЧОНЫ

Ізьвініце, судар!

ЗАХОДНІ ВУЧОНЫ

Пшэпрашам пана!

УСХОДНІ ВУЧОНЫ

І вы зьдзесь?

ЗАХОДНІ ВУЧОНЫ

І пан ту?

(Абодва кланяюцца адзін аднаму і прысутным).

МІКІТА

(вітаючыся з вучоным).

Добра трапілі, меджду протчым, паны вучоныя. Вось той хэ-хэ-хэ! беларус, аб якім я вам казаў. (Да Янкі). Пане настаўнік, гэта—паны вучоныя, якія вельмі цікавяцца вашым, хэ-хэ-хэ! беларускім пытаньнем.

УСХОДНІ ВУЧОНЫ

Так вы это і есьць настояшчый белорус?

ЯНКА

Але, пане вучоны! дый не адзін. (Паказваючы на Аленку, Гарошку, Ганулю). Во яшчэ адзін беларус і дзьве беларускі.

УСХОДНІ ВУЧОНЫ

(паказваючы на іншых).

А це тожа белорусы?

ЯНКА.

А так, так! Вы згадалі: яны самдзеле тожа-беларусы, з пароды рэнэгатаў і дэгэнэратаў.

ЗАХОДНІ ВУЧОНЫ

Паньске імен і назвіско?

ЯНКА.

Янка Здольнік, пане вучоны.

ЗАХОДНІ ВУЧОНЫ

(запісваючы ў слух у нататнік).

Януш Здольніцкі. Незаводне тып Всходнё-Крэсовэго поляка з немалон дозон крві познаньско-гуральскей. Людносьць абэцне розкшэвя сень на две галэньзі родовэ: племен бялорусінув і племен тэж-белорусінув з походзэня рэнэгатув і дэгэнэратув. Мова ойчыста—огульно-польска, незвычайне удосконалёна, ено з велькон домешкон незрозумялых слув.

УСХОДНІ ВУЧОНЫ

(таксама запісваючы ўперамешку з Заходнім вучоным).

Іоан Здольніков. Ісьцінно-русскій ціп Северо-Западной Області безусловно з прымесью монгольско-фінской крові. Народносьць ныне распадается на две родовыя ветві: племя—белорусы і племя—тожэ-белорусы, ісходзяшчэе от ренегатов і дзегенератов. Родной язык—обшчарусскій, веліколепно усовершэнствованный, но с большой прымесью непонятных слов.

ЗАХОДНІ ВУЧОНЫ

А тэраз пан бэндзе ласкав поінформоваць, як на белорускім нажэчу бжмі назва ойчызны вашэй?

ЯНКА

Беларусь, пане вучоны.

ЗАХОДНІ ВУЧОНЫ (запісваючы).

Пшы баданю бялорусіна высьветлёно надзвычайнон особлівосьць, а мяновіце: вбрэв гісторычным, еографічным, этнографічным, лінгвістычным і дыплёматычным баданём і розправом вшэхпольскім, ойчызнэн свон бялорусіні называён Бялорусь.

УСХОДНІ ВУЧОНЫ

(запісваючы ўперамешку з Заходнім вучоным).

Пры опросе белоруса выясьнено необыкновенную особенносьць, а іменно: вопрэкіісторычэскім, географічэскім, этнографічэскім, лінгвісьцічэскім і дзіпломацічэскім всероссійскім ісследованіям і трудам,—оцечэство своё белорусы почэму-то называют Белоруссія.

(Вучоныя канчаюць пісаць адначасова, бяруцца за падзорныя трубы, азіраюцца. Пауза).

МІКІТА

Што, мусьі вучоныя, сэанс ужо ўвесь, медждy протчым?

УСХОДНІ ВУЧОНЫ

Весьма вам благодарэн! Мої научныя ісследованія на сегодняшній дзень окончэны. Чэсьць імею кланяцься!

ЗАХОДНІ ВУЧОНЫ

Незьмерне пану вдзенчны естэм. Мое бадання навуковэ на дзень дзісейшы сон закончонэ. Мам гонар пожэгнаць пана!

(Вучоныя выходзяць, кожны праз другія дзьверы, якімі быў увайшоўшы. Мікіта, кланяючыся, праводзіць іх да дзьвярэй, далей—Гануля і Наста, якія хутка варочаюцца назад).

## ЗЬЯВА 13-я.

ТЫЯ-ж (бяз ВУЧОНЫХ)

ЯНКА

(да праходзячага міма яго Мікіты).

У вас сягоньня, пане рэгістратар, праўдзівы арыстократычны баль —не забыліся нават і аб інтэрмэдыі.

МІКІТА

А гэта, медждy протчым, што за такая страва?

ЯНКА

Ня страва, мой пане, а такая маленькая камэдыя ў вялікай трагікамэдыі.

МІКІТА

Не разумею. (Ідзе да сваіх гасьцей).

ЯНКА

(да Аленкі і Гарошкі).

Як-жа вам спадабаліся гэтыя, не пры людзёх кажучы, вучоныя?

АЛЕНКА

Мне—як мне, а татку—адно цыбук звоне аб зубы: ці-то са страху ці-то з вялікай пашаны да вучоных.

ГАРОШКА

Ня пры мне пісаны гэтыя вашыя вучоныя—вот і ўсё тут!

ДАМА (да Мікіты).

Вы, мусье рэгістратар, зрабілі нам сягоньня папраўдзе мілую неспадзеўку гэнымі дзьвюма пэрсонамі, якія толькі што выйшлі. Тут у Менску так трудна спаткаць праўдзівага вучонага.

МІКІТА

Т-а-к, гэта важныя вучоныя. Але мы не такіх яшчэ пабачым, як будзе ў нас у Менску, междҗу протчым, унівэрсытэт.

ПОП

Понежэ есьць в Мінске духовная семінарыя, то воісьціну ізлішне обрэтаць універсіцет, гдзе будзет провозглашацься грэховное сьветское ученіе.

СПРАЎНІК

Памойму, таксама ўнівэрсытэт непатрэбен, бо завядуцца студэнты, а з імі заўсёды столькі для поліцыі клопату. (Пауза).

МІКІТА (да Ганулі).

Междҗу протчым, мамаша, ці не далі-б чаго закусіць нам, бо салавей аднымі песьнямі сыт ня бывае.

(Гануля падае закускі. Госьці садзяцца за стол. Поп у цэнтры).

ГАНУЛЯ

(падаўшы закуску, да Янкі, Аленкі і Гарошкі).

Калі ласка, прашу за стол.

ГАРОШКА (хрысьцячыся).

Што вы, сваццейка?! Я—і такія важныя асобы... яшчэ з лаўкі звалюся з перапуду. Не, не!

ЯНКА (да Ганулі).

Мы пяройдзем у мой пакой, каб вам не замінаць.

ГАНУЛЯ

О, не! Павінны сягоньня тут сядзець. Як-ні-як Мікіткавы імяніны. Калі ня хочаце да ўсіх, то я вам сюды падам закускі.

ГАРОШКА

І гэтага, сваццейка, ня трэба. Калі пазволіш, то ў мяне ёсьць сёетое ў торбе, вот мы і закусім.

ГАНУЛЯ

Рабіце, што хочаце, а толькі з хаты ня пушчу!

(Ідзе да гасьцей. Гарошка дастае з торбы сваю закуску і раскладае на століку).

МІКІТА

(да Ганулі, на бок).

Междҗу протчым, мамаша, я вас прасіў не запрашаць іх, а вы ўсё сваё правіце. (Да гасьцей). Цяпер, найясьнейшыя госьці, калі ўсе мы ўжо ўселіся,—можна пачынаць. (Падымаючы чарку). За здароўе дастойных, междҗу протчым, гасьцей!

ГАЛАСЫ

О, не! не! За здароўе імяніньніка! Віват! Ура!

МІКІТА

Дзякую, пакорна дзякую! Толькі я мушу ў вас, меджду протчым, мадамы і мусы, папрасіць прабачэньня за скромную, вельмі скромную вячэру. Сучаснае рэволюцыйнае забурэньне, выклікаўшае часовы ўпадак рангаў і клясаў, падкасіла і экономічныя падваліны дабрабыту рускай інтэлігэнцыі, так што, калі і скромная вячэра, то не па маёй пэрсональнай віне.

ДАМА

Не вячэра скромная, а вы самі, мусье Зносілов, вельмі скромны. Цяпер такую закуску можна спаткаць толькі ў надта высокіх асоб.

ПОП

В нынешнія врэмена. дажэ его прэосвяшчэнство воззавідовало-бы сіім блюдам.

ПАН

Ой, часы, часы! Весялей жылі нашы бацькі.

СПРАЎНІК

Ды што—бацькі? Я сам як жыў! Фю-фю!

ДАМА

(дапіваючы чарку).

Але напітак ваш, мусье Зносілов, цудоўны—нічым амброзія.

МІКІТА

Мадам-сіньёра, вы згадалі! Так яно і ёсьць: самая натуральная амброзія знамянітай тутэйшай фірмы—а ля самагонка, дастаўленая мне з вінных складаў «Пilіп і К⁰».

ГАНУЛЯ

(да Дамы).

Панечка... Мадама музей! Калі ласка, вось гэты далікатны кусочак яшчэ!..

ДАМА

Мэрсі, мэрсі, мадам!

МІКІТА

(да Ганулі, на бок).

Меджду протчым, мамаша, не мадам музей, а мадам-сіньёра... Ці-ж гэта так цяжка? Ды ў нос, у нос! (Да гасьцей). А цяпер, высокашанаваныя госьці, падымем тост за нашых наймілейшых мадамаў і мамзэляў.

ГАЛАСЫ

Хай жывуць! Хай цьвітуць нашы кветкі, наша асалода! Віват! Ура!

ПОП

Развярзіся врата адовы і сам анціхрыст со своім сонмом сьвятой Русью завладоша, ежэлі созерцаць всё творымое ныне.

СПРАЎНІК

Ні поліцыі, ні поліцмэйстраў!..

ПАН

Ні маёнткаў, ні бравароў!

ДАМА

Ні раўтаў, ні журфіксаў!

МІКІТА

Ні рангаў, ні клясаў, медждў протчым!

НАСТА

А, па мойму, што-небудзь ды ёсьць. Ёсьць, напрыклад, свабода: што хачу, тое раблю. Узяць хоць-бы тое: Хто калі да рэволюцыі ў Менску лузаў семячкі?—ніхто! А цяпер усе і ўсюдах—і дома, і на вуліцы, і нават у тэатры лузай сабе ды лузай, шапку на вушы нацягнуўшы...

ГАНУЛЯ (да Папа).

Бацюшка духавы, сьвяты угоднік! Калі ласка, яшчэ вось гэты таўсьцейшы кусочак.

ПОП

Благадарствую, матушка, благадарствую!



МІКІТА

(да Ганулі на бок).

Междў протчым, мамаша, не сьвяты ўгоднік, а ацец духоўны... (Да гасьцей). Цяпер я, высокія госьці мае, прапаную тоста...

НАСТА

Не, не! Я цяпер тоста прапаную. За немцаў. Хай жывуць немцы!

ГАЛАСЫ

Хай жывуць! Віват! Ура!

(Няпрыемная паўза. Усе пераглядваюцца паміж сабой).

ДАМА

Можа дарагія гаспадары дазволяць нам устаць?

ГАНУЛЯ

Калі ласка! Выбачайце толькі за недахватку ў ядзе.

ГАЛАСЫ

Сыты!.. вельмі сыты!.. дзякуем!.. дзякуем!..

(Выходзяць з-за стала і расьсядаюцца).

ПОП

Не врэмя-лі подумаць нам і о ложэ в очаге домашнем.

МІКІТА

І зусім яшчэ ня час, меджду протчым, найясьнейшыя госьці, вось адсунем стол і...

ДАМА

...Патанцуем, мусье Зносілов?

МІКІТА

Мадам-сіньёра, вы згадалі.

ДАМА

А вы, мусье рэгістратар, мае слабасьці адгадалі. Я ўміраю бяз танцаў.

МІКІТА

Ах, як я рад! Мусьі, згодны на гэта?

ГАЛАСЫ

Згодны! згодны!

ДАМА

А як з музыкай?

НАСТА

А грамафон нашто?

МІКІТА

О, не, не! Толькі не грамафон. Вельмі ён крычыць, а я чалавек асьцярожны, меджду протчым.

ГАНУЛЯ

Дык на балалайцы, сынок, сыграй: голас у ёй ціхі.

МІКІТА

Калі-ж я сам хачу патанцаваць. Можа папрасіць каго?

ГАНУЛЯ

Я папрашу нашага дзядзьку беларуса—ён умее.

НАСТА

Не, мадам, я лепей папрашу і ён не адкажа. Я з пэўных крыніц ведаю„ што беларусы падатлівы народ. (Бярэ балалайку і падыходзіць да Янкі). Сябра беларус, пайграйце нам.

ЯНКА

З ахвотай. Хоць раз паскачэце й вы пад маю дудку.
(Грае вальца. Пачынаецца танец: Мікіта—з дамай, Спраўнік—з Настай, Пан—з Гануляй, Поп, Гарошка і Аленка не танцуюць. Поп абавязкова не танцуе. Вальц з фігурамі, бяз шаржу, крыху пануры).

ДАМА

(як скончылі танец, да Мікіты).

Вы, мусье рэгістратар, праўдзівы артысты ў вальцы. Я ачаравана вашымі віртуознымі „па“.

МІКІТА

Мадам-сіньёра, вы цераз лад ка мне міласьцівы. Калі й выходзіць у мяне такое-сякое, меджду протчым, „па“, то мушу быць удзячным нашаму з Юраўскай вуліцы танц-клясісту Грачаніну. У яго я скончыў курс гэтых навук.

ДАМА

Я заўважыла адразу, што вы прайшлі добрую адукацыю. (Пауза).

СПРАЎНІК

Выражаючыся на сучасны лад, бяру сабе слова і ўношу пропозыцыю пакінуць спрэчкі й без рэзолюцыі пайсьці дамоў.

МІКІТА

Я протэстую, меджду протчым!

ДАМА

Мусье Зносілов, наша большасьць.

МІКІТА

Паддаюся, толькі-ж ня большасьці, а вашаму аднаму голасу, мадам-сіньёра.

(Госьці падымаюцца, адвітваюцца і апранаюцца ў прынесеныя Мікітам вопраткі. Поп ізноў падтыкае полы, каб выглядаць па-цывільнаму).

МІКІТА

(перад выхадам гасьцей).

Мадамы й мусьі! мы з мамашай, меджду протчым, вас нямножка правядзём. (Вышлі).

## ЗЬЯВА 14-я.

ЯНКА—АЛЕНКА—ГАРОШКА

АЛЕНКА

(пырснуўшы сьмехам).

Ха-ха-ха! Ну і панскае ігрышча, дык ігрышча! Ха-ха-ха!

ГАРОШКА

(выняўшы люльку з зубоў).

Цьфу! Няма на іх доўгай пугі.

ЯНКА

Але дзядзька густа іх сваёй піпкай падкурываў. Бачыў, як насамі круцілі ды кіхалі.

ГАРОШКА

А як іначай з гэткімі?—куралём іх, куралём! Шкада толькі, што маці гэтага імяніньніка ў гэтакую кампанію ўпуталася.

АЛЕНКА

(з удаваным смуткам).

Не ляжыць у таткі сэрца да іх, ой не ляжыць!

ЯНКА

Цікава, да каго-ж у цябе, Аленка, сэрца ляжыць?

АЛЕНКА

Вы ўжо аб гэтым павінны ведаць з майго лісту.

ЯНКА

А так: да навукі і навучаньня.

АЛЕНКА

Але-ж! Вучыцца і навучаць, навучаць і вучыцца. Вось да чаго маё сэрца ляжыць.

ЯНКА

Ня была-б то мая найздальнейшая вучаніца.

АЛЕНКА

Ды яшчэ, як вы казалі—беларускага роду. Ха-ха-ха! Перахваліце, пане настаўнік. Але ведаеце што... як...

ЯНКА

Не, ня ведаю.

АЛЕНКА

Ня можна перабіваць, пане настаўнік, калі іншы хто гавора.

ЯНКА

Ого! Мы нават сур'ёзнымі зрабіліся.

АЛЕНКА

Дык вось што. Як выехалі вы з Дуброўкі, я ў шапку ня спала і паехала ў Вільню!

ЯНКА

Аж у Вільню!

ГАРОШКА

А так, аж у Вільню, пане настаўнік.

АЛЕНКА

І там праслухала настаўніцкія курсы, і цяпер я—ваш таварыш: я таксама настаўнік!

ЯНКА (жартабліва).

Вельмі прыемна пазнаёміцца з новым конкурэнтам у маёй профэсіі.

АЛЕНКА

А цяпер я хачу вучыцца на курсістку, потым на доктара...

ЯНКА

А далей?

АЛЕНКА

Далей... ня ведаю. Але дзеля гэтай мэты мяне татка і ў Менск да вас прытарабаніў.

ЯНКА

Адно трохі ня ў час.

АЛЕНКА

Ня ў час?

ЯНКА

Так! Гэтыя новыя окупанты ды іншыя згрызоты не дадуць табе спакойна працаваць у Менску. На маю думку найлепей, покуль-што, ехаць на вёску і там прывучаць да навукі людзей і самой ад іх вучыцца. Бо я таксама выяжджаю на вёску.

АЛЕНКА

І вы? Ну што-ж? на вёску, дык на вёску! Нават хоць у пекла, калі вы параіце...

ЯНКА

О, там вельмі горача! Значыцца, згода?

АЛЕНКА
(падаючы руку).

Згода!

ЯНКА

Не адкладаючы справы ў доўгі мех, лахі пад пахі, ды яшчэ заўтра— марш на сьвежае паветра!

АЛЕНКА

Але й кніжак з сабой набяром?

ЯНКА

Абавязкова!

АЛЕНКА
(як-бы саромячыся, спускаючы вочы, сьціха).

Але толькі—беларускіх, дзядзька настаўнік!

ЯНКА

Аб іншых і рэчы быць ня можа. (Кароткая пауза).

ГАРОШКА (да Аленкі).

А ты, сарока, калі ўжо адсакатала сваё, аддала-б настаўніку тое, што прывезла.

АЛЕНКА

Калі я саромлюся.

ЯНКА

Мабыць нешта надта брыдкое.

АЛЕНКА

І зусім ня брыдкое, а нават, як цётка Агата казала, дужа прыгожае. Самі гэта скажаце. (Дастае з торбы прыгожа вышытую кашулю і саматканы ўзо-

рысты пояс і падае Янку, сур'ёзна кажучы). Прымеце,калі ласка, дзядзька настаўнік, гэту драбніцу ад сваёй шчыра вам удзячнай і адданай вучаніцы. З нашага лёну гэта кашуля і з нашай воўны гэты пояс. А сама я ўласнымі рукамі ад шчырага сэрца для вас выткала і вышыла.

ГАРОШКА

(падаючы новую, дзераўляную, памастацку зробленую лыжку).

А ад мяне прымеце вось гэта... З сваёй яблыні й сваімі рукамі зрабіў.

ЯНКА (расчулены).

Дзякую, ад усёй душы дзякую! Ня ведаю, чым і заслужыў на гэткую ласку? (Уваходзіць МІКІТА і ГАНУЛЯ).

## ЗЬЯВА 15-я.

ТЫЯ-ж—МІКІТА—ГАНУЛЯ

МІКІТА

(вясёлы, пасьвіствае і напявае).

Радуйся, вселенная! Абвяшчаю ўсім, усім, усім: Немцы окупіравалі, меджду протчым, Менск!..

ЯНКА

Ну і чорт з імі!

МІКІТА

І зусім ня чорт, пане, хэ-хэ-хэ! беларус. (Напявае).

Немцы едуць, нашы йдуць,
Немцы нашых падвязуць.

(Убачыўшы Мікітавы падарункі).

Меджду протчым, што гэта ў вас, пане профэсар?

ЯНКА

Праўдзівая кашуля, праўдзівы пояс і праўдзівая лыжка.

ГАНУЛЯ

Якія-ж прыгожыя!

МІКІТА

Як уважаю, то і вы сягоньня імяніньнік.

ЯНКА

А праўда, імяніньнік, толькі з іншай плянэты.

(Званок, Ганула выходзіць і варочаецца, а з ёю СЬПІЧЫНІ).

## ЗЬЯВА 16-я.

ТЫЯ-ж—СЬПІЧЫНІ

МІКІТА

(уніжліва вітаючыся).

Маё найніжэйшае ўшанаваньне, мусье профэсару! А я думаў, што сягоньня ўжо ня прыдзеце.

СЬПІЧЫНІ

Справы затрымалі. Але мы затое пазьней пазаймаемся.

ЯНКА

(да Ганулі, на бок).

А гэта, што яшчэ за такі позны госьць?

ГАНУЛЯ

Гэта ня госьць, а нейкі важны дырэктар. Вучыць Мікітку панямецку гергетаць. Хто ён родам — напэўна ня ведаю. Але сам ён кажа, што ён немец, людзі кажуць, што італьянец, а мне здаецца, што ён проста, як і мы, тутэйшы.

МІКІТА (да Ганулі).

Меджду протчым, мамаша, апаражнеце стол, бо нам трэба хутчэй вучыцца „урокаў“.

(Гануля прыбірае стол, пасьля ладзіць для Гарошкаў пасьцель на падлозе. Ходзіць у іншыя пакоі).

ЯНКА

(да Аленкі й Гарошкі).

А мы, пакуль яны будуць вучыцца сваіх „урокаў“, пойдзем у мой пакой. (Выходзяць).

## ЗЬЯВА 17-я.

### МІКІТА—СЬПІЧЫНІ—ГАНУЛЯ

МІКІТА

(паклаўшы на стол некалькі тоўстых слоўнікаў).

Меджду протчым, я гатоў, мусье профэсар.

СЬПІЧЫНІ

Можам прыступіць, мусье рэгістратар. Учора мы з большага прашлі аддзел прывітаньняў, сягоньня павінны іх паўтарыць болей стала. Як вы прывітаеце, спаткаўшы немца?

МІКІТА

Гута моргэн, гэр гэрманіш!

СЬПІЧЫНІ

Добра! А цяпер, як вы прывітаеце, спаткаўшы немку?

МІКІТА

Гута тахт, балабоста прусіш!

СЬПІЧЫНІ

І зусім не балабоста, а фрау. Паўтарэце: фрау, фрау, фрау!

МІКІТА

Фраву, фраву, фру, фруву... Фраву-ву...

СЬПІЧЫНІ

Добра! А як вы прывітаеце, спаткаўшы вось такое... (паказвае) малое немчанё?

МІКІТА

Шабас гут, гэр кіндар фатэрлянд, меджду протчым!

СЬПІЧЫНІ

Ой, куды вы заехалі, куды вы заехалі? Толькі ня шабас а... (Далёкі стук у дзьверы зьлева. Сьпічыні, ускочыўшы). Нехта ці нешта, здаецца, як-бы недзе стукае?

МІКІТА

А праўда, меджду протчым, стукае. Мажа ўжо гэр гэрманіш?

СЬПІЧЫНІ

Усякі стук мяне нэрвуе: не магу спакойна выкладаць лекцый. Пакуль-што, маю гонар выйсьці. Заўтра пачнём прывітаньні навыварат. (Хапае шапку і зьнікае ў дзьвярох справа).

МІКІТА
(усьлед Сьпічыні).

Да мілага спатканьня! (Да Ганулі). Меджду протчым, мамаша, мабыць, папраўдзе немец стукае, бо далікатна. Ідзеце адчынеце дзьверы і крыху прытрымайце яго, пакуль я пераадзенуся, бо чаго добрага прышоў на работу хапаць.

(Выходзяць абое. Пауза).

МІКІТА
(варочаецца пераадзеты папажарніцку з каскай на галаве, з тапаром пры поясе й з жалезякамі, што лазіць па слупох,—пры нагах. Становіцца ў позу і напявае)

Гусар на саблю опіраясь,
В глубокой горэсьці стоял...

(Уваходзяць ГАНУЛЯ і НЕМЕЦ у вайсковай форме).

## ЗЬЯВА 18-я.

МІКІТА—НЕМЕЦ—ГАНУЛЯ

МІКІТА
(бяручы „пад казырок“ і нізка кланяючыся).

Гута моргэн, гэр гэрманіш. (На бок). Абач, і немцы адзяюцца ў форму а-ля-кум пажарны, гэта—каб не хапалі мабыць іх саміх на работу.

НЕМЕЦ

Ці ня можна ў вас папрасіць у гэту манерку трохі вады?

МІКІТА (на бок).

На якую-ж халеру пацеў я столькі над шпрэхэндэйчам, калі яны панашаму лепей ад нас саміх шпрэхаюць?—Але мабыць гэта мне здаецца, або ён удае, што ўмее патутэйшаму. (Да немца). Зіхэнзіш... заразіш... (На бок). Зірну ў слоўнікі, як яму адказаць. (Шастае слоў-

нікамі). Можна... можна... колькі... колькі... хочаце... хочаце... вады... вады... Няма гэтага. Каб іх пярун спаліў такія слоўнікі! (Да немца) Кіндэр фравуву, меджду протчым, фатэрлянд, гэр гэрманіш... (Падказвае на мігі, што ўльс яму вады).

НЕМЕЦ

(падышоўшы блізка да Мікіты і прыглядаючыся да формы).

О-о! Што я бачу? Рыхтык рускі гэнэрал, (на бок) але хоча дурня клеіць, каб выкруціцца ад палону. (Бяручы „пад казырок"). Ваша прэвасхадзіцельства! Я вас павінен, як верны нямецкі салдат, забраць у палон, бо вы рускі гэнэрал.

МІКІТА (перапужаны).

Аяяй! Оеей! Куды-ж я падзенуся? Во, меджду протчым, папаўся, як мурза ў студню. Оеей! Оеей! Як-жа яму вытлумачыць, што я не гэнэрал, а калежскі рэгістратар? Пашукаю яшчэ ратунку ў слоўніках. (Шастае слоўнікам). Гэнэрал... гэнэрал... пажарная каманда... Оеей! Оеей! Мая ты босая каманда. Няма ў слоўніку. Дзе той Сьпічыні? Які яго нячысьцік выкруціў у гэту небясьпечную для мяне хвіліну? Оеей! Оеей! Што ён нарабіў мне гэты гэр профэсар з сваёй навукай? Оеей! Оеей!

НЕМЕЦ

Я чакаю, ваша прэвасхадзіцельства!

МІКІТА

Рыхтык, рэхт, меджду протчым, шабас гут, фрау... фатэрлянд... Зараз, зараз! Аяяй! Аяяй! А ратунку аднекуль, а збаўленьня аднекуль. Забярэ ў палон, у нямецкі палон, і жыві там, як хочаш.

ГАНУЛЯ

(ломячы рукі, да немца).

А мой-жа паночак, а мой-жа немчык! Не бяры ў мяне апошняга Мікітку.

МІКІТА

Ой! Ой! Што будзе, то будзе, папрабую загаварыць з ім панашаму, можа зразумее. Мусье немец! Ясны пане немец! Я не гэнэрал, а толькі пажарная каманда... Пажарнік Менскай, меджду протчым, пажарнай дружыны,—дакумэнт маю на гэта з пячацяй. Бачыце, я толькі кум пажарны. Каб я з гэтага месца ня зышоў, калі я гэнэрал!

НЕМЕЦ

Не магу паверыць, ваша превасхадзіцельства! Заўсёды гэнэралы кажуць, што яны не гэнэралы, калі іхняе гэнэральства пачынае ім самім бокам вылазіць. А дзеля гэтага—прашу ў палон!

МІКІТА

Ой! Ой! І зразумеў, і не паверыў. Гвалтам робіць гэнэралам. Чаму-ж ты скрозь дна не праваліласяя, мая ты пажарная каманда? Аяей! Аяей!

ГАНУЛЯ

(ходзячы па хаце і ломячы рукі).

Матачкі мае родныя, бацячкі мае хрышчоныя! Што гэта робіцца?

Садом і Гамора! (Стукае ў Янкавы дзьверы). Пане настаўнік! Дзядзька беларус! Ратуйце! Немец Мікітку ў палон цягне!

(Уваходзяць ЯНКА, АЛЕНКА, ГАРОШКА).

## ЗЬЯВА 19-я.

ТЫЯ-ж—ЯНКА—АЛЕНКА—ГАРОШКА

МІКІТА

(стаўшы перад немцам на калені).

Оей! гэр гэрманіш, кіндар фатэрлянд! балабостачка мой ненаглядны! Ня губі маёй маладосьці,—не бяры ў палон! Больш ніколі ня буду гэнэралам.

ЯНКА

(чуўшы гэту гутарку).

У чым справа?

МІКІТА

Оей! Оей! Мусье немец зрабіў мяне, меджду протчым, гэнэралам і хоча ў палон цягнуць, а я не хачу быць гэнэралам і не хачу ў палон цягнуцца. Оей! Оей! Пане настаўнік, бацька беларус! выбаўляй з ягіпецкай няволі!

ЯНКА

(адвёўшы на бок Мікіту).

Дайце яму тры рублі, і адчэпіцца.

МІКІТА

Дам дзесяць, а толькі ратуйце, меджду протчым! (Мацае па кішэні). Ой, грошы засталіся ў рэгістратарскіх „меджду протчым". Пажычце мне да заўтра. (Янка дае яму грошы, Мікіта падыходзіць да немца, становіцца на адно калена й падае грошы). Вось вам, ясьне мусье немец, гэр гэрманіш, пакульшто контрыбуцыя, заўтра дам анэксію, а там, калі ня хопіць, жонак, дзяцей залажу, меджду протчым, мамашу, толькі дайце перадышку, не цягнеце ў палон!

НЕМЕЦ

(хаваючы грошы).

Загаварылі-б адразу гэтакім языком, ваша прэвасхадзіцельства... (Бярэ „пад казырок" і выходзіць).

## ЗЬЯВА 20-я.

ТЫЯ-ж (бяз НЕМЦА).

МІКІТА

(Зрываючы з сябе й кідаючы па чарзе аб зямлю часткі пажарніцкага ўбору).

К чорту пажарніцкую каманду! К чорту пажарніцкую кар'еру! (Пускаючы аб зямлю кнігамі). І нямецкае шпрэхэн к чорту! І нямецкая губэрнатарская

канцэлярыя к чорту! Ад заўтрашняга дня займуся свабоднай профэсыяй— буду на Койданаўскай вуліцы гандляваць нямецкімі рублямі.

(Ганула падбірае параскіданае, Аленка што-хвіля пырскае сьмехам, Янка насьмешліва ківае галавой, Гарошка пыхкае мацней люлькай і плюе).

*ЗАСЛОНА.*

---

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ.

Позьняя восень. Сьцюдзена. Надвечар. Месца дзеі—кусок катадральнага пляцу, называнага іначай менчанамі „Брахалка",—бліжэй ад Койданаўскай вуліцы, з відам насупроць—вежа з гадзіньнікам. На пляцы колькі дрэў бяз лісьцяў, некалькі садовых лавак. Праз усю дзею праходзяць то сюды то туды рознага калібру грамадзяне, грамадзянкі і йграе наперамену лера й шарманка. Пры падняцьці заслоны першым праходзіць справа ўлева лернік з лерай, а пасьля шарманшчык з шарманкай. Некалькі быўшых паняў, стоячы радам, прадаюць усялякія хатнія манаткі. Непадалёк ад паняў такі самы тавар прадае Ганула.

### ЗЬЯВА 1-я.

ГАНУЛЯ—МІКІТА

МІКІТА

(у выцьвіўшым чыноўніцкім асеньнім пальце з настаўленым каўняром, з парасонам, уваходзіць справа; да Ганулі).

Меджду протчым, мамаша, прадалі што-небудзь, ці не?

ГАНУЛЯ

А ні на іголачку. Як хто зачараваў. (Паказваючы на паняў). У тых таксама ніхто нічога ня купіў.

МІКІТА

Нешчасьлівым для гандлю й мне сягоньняшні дзень выпаў. Каб хто хоць на сьмех запытаўся аб марках. „Рускія"—кажуць—давай, а нямецкія, кажуць, меджду протчым, немцу прадай. А дзе тут таго немца зловіш, калі—па чутках—амаль ня ўсе ўжо з гораду вышлі. (Да праходзячага грамадзяніна). На хвіліначку, пане мусье! Хачу вам нешта запрапанаваць. (Грамадзянін затрымоўвацца). Можа з ласкі сваёй купіце ў мяне маркі?

(Грамадзянін іронічна і падазронна зьмерыў яго вачыма ды пашоў).

ГАНУЛЯ

(да праходзячай грамадзянкі).

Панячка, купеце ў мяне пацеркі, а можа дамскі нэсэсэр, а можа во гэта?—усё за паўцаны аддам, усё за паўцаны! (Грамадзянка паглядзела-пагглядзела тавар і пайшла. Гануля да Мікіты). Вось так усе яны: паглядзіць і пойдзе, паглядзіць і пойдзе.

МІКІТА

Меджду протчым, мамаша, я вам не адзін раз казаў і яшчэ кажу: у вас няма зусім гандлярскай жылкі, у вас не хапае нават чуткай кемкасьці ў гандлёва-прамысловых справах, дзе вымагаецца ад прадаўца пэўнай веды ў пазнаваньні душы купляючага і яго грамадзянскага й соцыяль-

нага становішча. І вось, напрыклад, меджду протчым, вы толькі-што запрашалі: „купеце, за паўцаны аддам, за паўцаны“. Разумеецца, кожны падумае, што ў вас зусім дрэнны тавар, якога й за паўцаны ня варта купляць. Таксама паміж купляючымі трэба выдзяляць іхнія рангі й клясы—абавязкова; а вы, як напрыклад, толькі-што, не разгледзеўшыся дакладна, хто які йдзе, кажаце проста з моста: панячка, меджду протчым! А памойму зусім ня панячка, а самае меншае—мадама, а можа нават і мадам-сіньёра.

ГАНУЛЯ

Ды якая там яна мадама? Проста нейкая... нейкая...

МІКІТА

А хоць-бы нават, меджду протчым, і такая нейкая. Усё роўна. У гандлёва-прамысловых адносінах мы павінны рабіць від, што яна й не такая й ня нейкая. Для нас адно важна: каб тавар куплялі, каб тавар не залежываўся. (Паўза). Меджду протчым, мамаша, я ўважаю, што апрача ўсяго іншага, сягоньня ў дабавак нейкі выключны дзень, і вам ніякай гандлёвай „зьдзелкі“, бадай, ня ўдасца ўжо правесьці. Дзеля гэтага йдзеце з таварам дамоў і шыкуйце вячэру, а я застануся яшчэ тут. Думаю, што мне ўдасца злавіць, меджду протчым, якога немца і ўсучыць яму ягоныя маркі.

ГАНУЛЯ

(складваючы манаткі).

Толькі пільнуйся, сынок, каб ён ня ўздумаў цягнуць цябе ў палон і пры адступленьні, як тады—пры наступленьні.

МІКІТА

Не бядуйце, меджду протчым, мамаша,—я заўсёды знайду выхад з найгоршага крытычнага становішча. Ды я-ж прасіў вас, мамаша, не ўспамінаць мне аб гэтай трагэдыі майго жыцьця. (Гануля маніцца выходзіць). Ага! Калі спаткаеце профэсара гэр Сьпічыні, то напомніце яму, што я ўжо яго чакаю на практычную лекцыю аратарскага мастацтва, вось толькі схаджу на мінутку на Койданаўскую вуліцу паслухаць, як там стаіць курс на валюту.

(Пашоў. Гануля, а за ёй пані з манаткамі шнурам выходзяць. Па хвілі ўваходзяць ЯНКА і АЛЕНКА).

## ЗЬЯВА 2-я.

ЯНКА—АЛЕНКА

АЛЕНКА

Здаецца мы ўгаварыліся тут пачакаць на татку?

ЯНКА

А так—тутака. Пакуль прыдзе, можам хвіліну пасядзець.

АЛЕНКА

(сеўшы на лаўку, пасьля паўзы).

Як вы заўсёды, дзядзька настаўнік, мудра вельмі разважаеце, ажно мяне часам страх бярэ! Вось, напрыклад, ідучы сюды сказалі вы, што

мы павінны дабівацца, каб быць ня толькі гаспадарамі самі над сабой, але і над сваёй воляй.

ЯНКА

А як іначай, Аленка. Якімі-б раскошамі матар'яльнымі нас не надзялялі, ніколі яшчэ ня будзем шчасьлівы, пакуль чужая воля будзе гаспадаром над нашай воляй. Каб гэтага ня было, мы павінны растаптаць, зьністожыць даўгавечную ману, якая вучыць, што мы ня ёсьць мы, што мы нейкае нешта, якое абы накарміў, як быдлё, дык і сыта будзе. Мы павінны душу нашу народную выявіць у сваім „я“, у сваёй самабытнасьці і сьмела сягнуць па сваё неадымнае права самім распараджацца гэтым сваім „я“.

АЛЕНКА

Але цярністы шлях мусіць прайсьці душа народная, пакуль збавіць гэта сваё „я“ ад чужой няволі.

ЯНКА

(ня слухаючы).

Зірні, Аленка, на Менск! Тут калісь,—як сказана ў нашай песьні аб паходзе Ігара,—продкаў нашых галовы снапамі на таку слаліся, душу ім ад цела веялі, а чырвоныя берагі Нямігі ня зернем былі пасеяны, а касьцямі гэных-жа продкаў нашых. З гэтага бачым, што яны за нешта змагаліся, калі пад сьценамі роднага гнязда косьці свае пасеялі... А ўміралі, відаць, з славай, бо ў песьні іхняе ўміраньне засталося вечна жыць. А ці-ж увекавечыць песьня змаганьне і ўміраньне патомкаў? Не! Бо мы змагаемся і ўміраем за чужое.

АЛЕНКА

Шмат хто і з нас ужо змагаецца і ўмірае не за чужое, а за сваё, а песьня аб іх ужо не забудзе.

ЯНКА

Гэта адзінкі, мілая Аленка. А душа агульна-грамадзкая яшчэ дрэме.

АЛЕНКА

Скіне сваю драмоту і душа. Абы толькі гэтыя адзінкі, што ўжо змагаюцца, больш ясных паходняў распалілі і асьвяцілі сьцежкі ўсе для паўстаючай грамады.

ЯНКА

Што-ж, можа і праўда твая, Аленка. Мы як-бы пачынаем ужо адплюшчываць вочы і паўставаць проці тэй паганай маны, што мы ня ёсьць мы. Але яшчэ хістаемся то ўправа, то ўлева. Яшчэ ясна азначанай мэты ня можам сабе ўявіць. А мэта ў нас адна: Калісь амэрыканцы, змагаючыся з Англіяй за сваю незалежнасьць, напісалі на сваім сьцягу несьмяротныя словы: „Амэрыка для амэрыканцаў“. І гэта памагло: сягоньня Амэрыка вольная. Павінны пайсьці і мы па яе сьлядох і напісаць агністымі рунамі на сваім сьцягу: «Беларусь»...

(Уваходзіць МІКІТА).

## ЗЬЯВА 3-я.

ЯНКА—АЛЕНКА—МІКІТА

МІКІТА

(да Янкі, падыйшоўшы да яго пры апошніх словах і не пазнаўшы).

Пане мусье, можа патрабуеце маркі? (Пазнаўшы). Ах, гэта вы, меджду протчым, пане профэсар!

ЯНКА

Во, неспадзяванае спатканьне! Як маецеся, пане рэгістратар?

МІКІТА

Дзякую, меджду протчым. Так сабе. Нічога сабе. Што-ж вы тут парабляеце?

АЛЕНКА

Мы прыехалі татку з палону вызваляць. Бачыце, немцы яго ў вабоз пагналі, дык мы, баючыся, каб яго ў Нямеччыну не загналі, паехалі ўсьлед на падмогу. То-ж у мяне адзін татка на цэлым сьвеце, павінна ратаваць!

МІКІТА

Так, так! Было-б ня важна, каб зьвезьлі з хаты апошняга, меджду протчым, бацьку.

ЯНКА

А што вы тут парабляеце, пане рэгістратар: маркі людзям раздаіцё?

МІКІТА

Меджду протчым, не раздаю, а прадаю, а гэта вялікія дзьве розьніцы. Але, як уважаю, то вы яшчэ ня ведаеце, што я для стварэньня сабе новай кар'еры пакінуў чыноўніцтва і перайшоў на свабодную профэсію.

ЯНКА

Што-ж гэта? павашаму—гандаль на Койданаўскай біржы валютай —свабодная профэсія?

МІКІТА

А чаму-ж бы ня так? Памойму зусім свабодная. Вось хоць-бы судзіць з таго, што калі я перайшоў на яе, то пачуўся, як птушка тая, зусім свабодным. Меджду протчым, змалку дзён мяне цягнула да свабоды й гандлю.

ЯНКА

Хіба да свабоднага гандлю сумленьнем і гонарам.

МІКІТА

Меджду протчым, дзядзька беларус, вы мяне абражаеце.

ЯНКА

Выбачайце, пане рэгістратар,—можа я крыху й памыліўся.

МІКІТА

Медждy протчым. ня крыху, а зусім памыліўся. Але мяне зласьлівыя гутаркі зайздросных людзей мала абходзяць. На зло ім незадоўга пераходжу яшчэ на адну свабодную профэсію.

ЯНКА

Цікава—якую?

МІКІТА

Буду аратарам.

ЯНКА

Вы—аратарам? Ха-ха-ха! Ха-ха-ха!

МІКІТА

Медждy протчым, нічога тут сьмешнага. Не сягоньня—заўтра прыходзіць новая ўлада, а з ёй такая палітычная сытуацыя, пры якой здольны аратар будзе магчы купацца, як сыр у масьле.

ЯНКА

Але-ж вы, пане рэгістратар, звар'яцелі. Вашы дзікія—не скажу чорнасотніцкія—пераконьні і новая палітычная сытуацыя!?. Гэта-ж як узьлезеце на вышкі араторыць, то вам гэта новая сытуацыя такога пытлю задасьць, што і сваіх не пазнаеце. О, не! Гэтая свабодная профэсія не для вашага рэгістратарскага сьветагляду.

МІКІТА

Не разумею, прычым тут мой, медждy протчым, сьветагляд? Можна мець сьветагляд адзін, думаць другое, гаварыць трэцяе, а рабіць чацьвертае, як навучае мой профэсар гэр Сьпічыні. І я пастанавіў у сваёй аратарскай профэсіі моцна прытрымлівацца гэтай мудрасьці.

ЯНКА

Баюся, што гэта мудрасьць дасьць вам чэк на свабоднае месца ў Менскім астрозе.

МІКІТА

Медждy протчым, такіх невясёлых рэзультатаў і быць ня можа. Аратар, маючы кожны раз на пататове адшліфаваны практыкай язык, заўсёды патрапіць выпутацца з бяды.

АЛЕНКА

А чаму-б вам, пане Нікіці, замест коўзацца па сьлізкіх і небясьпечных для вашай асобы пуцявінах, не заняцца чым-небудзь болей рэальным і грунтоўным. Напрыклад, вы болей прынесьлі-б для сябе і для грамадзянства карысьці, каб узяліся... ну хоць бы...

ЯНКА (перабіваючы).

... на Камароўцы козы пасьвіць? І чаму-б, самдзеле, ня так? А профэсія чыстая і, разумеецца, свабодная.

МІКІТА

Меджду протчым, мусье беларус, такая свабодная професія ня вяжацца з маёй рангай калежскага рэгістратара.

ЯНКА

А шкада, вельмі шкада! Лепей быць добрым пастухом, чымся недапечаным рэгістратарам ці аратарам.

(Уваходзіць ГАРОШКА).

## ЗЬЯВА 4-я.

### ЯНКА—АЛЕНКА—МІКІТА—ГАРОШКА

ГАРОШКА

(уваходзіць з пугай, пыхкаючы люльку).

Во добра, што застаў вас! Я ўжо ўсё сваё зрабіў і можам ехаць дамоў. (Пабачыўшы Мікіту). І вы тут, ды яшчэ з парасонам?

МІКІТА

Як бачыце! Меджду протчым, што вы тут, дабрадзею, робіце з пугай: пасьвіце каго?

ГАРОШКА

А так! Зьбіраўся пасьвіць тутэйшых чынадралаў, але ня ўсьпеў,— прышлося выганяць з Менску абскубандаў.

АЛЕНКА

Не обскубанды, тата, але окупанты.

МІКІТА

І вы мабыць яшчэ адно пераблуталі: здаецца, немцы хацелі вас выганяць, пагнаўшы ў вабоз...

ЯНКА

Дзядзька Гарошка зусім не пераблутаў. Усё роўна на яго вышла: окупанты ўцяклі, а ён застаўся.

АЛЕНКА

(зірнуўшы ў бок).

А гэта што за такія пілігрымы брыдуць сюды?

(МІКІТА зірнуўшы).

Гэта, здаецца, мае былыя імянінныя госьці.

(Уваходзяць шнурам з хатомкамі за плячыма і з кіямі ў руках: ДАМА, ПОП, СПРАЎНІК і ПАН).

## ЗЬЯВА 5-я.

### ТЫЯ-ж—ДАМА—ПОП—СПРАЎНІК—ПАН

МІКІТА

(вітаючыся, надскаківаючы).

Каго я бачу, меджду протчым?! Якое мілае, неспадзяванае спатканьне! Ці не мядзьведзь здох? Цалую ручкі мадам сіньёры! Айцу ду-

хоўнаму маё сыноўняе ўпакарэньне! Вашародзіе, прымеце пакорны прывет! Мае найніжэйшае ўшанаваньне, ясьне пане грабя! Сядайце, калі ласка сядайце!

(Прышоўшыя сядаюць).

ПОП

Ох, дзелеса—чудеса! Прогрэшэнія нашы неісчысьлімыя. Навождзяху оне на себя возьмезьдзіе необозрымое.

МІКІТА

Куды-ж гэта, калі можна спытацца, мадам-сіньёра і мусье свае, меджду протчым, пэрсоны скіравалі?

СПРАЎНІК

Часова адступаць прышлося. Эвакуемся туды—на Захад, дзе сэрцу прытульней і грудзям дышыцца „вальготней".

ДАМА

Часова переношу сваю філянтропійную чыннасьць на тэрыторыю...

МІКІТА (перабіваючы).

Быўшых нашых ворагаў—гэрманаў, мадам-сіньёра?

ДАМА

Мусье рэгістратар, вы згадалі!

ГАРОШКА (да Пана).

Значыцца, паны даіцё лататы?

ПАН

А так, прыходзіцца, толькі хай там ваша вёска вельмі ў двор мой ня прэцца, бо як вярнуся...

МІКІТА (перабіўшы).

І ўсё гэта праклятая, меджду протчым, рэволюцыя нарабіла.

ЯНКА

Што, кусаецца? Вы пэўна-б хацелі і з печкі зваліцца і патыліцы не адбіць? Рэволюцыя, мае паны, ня цётка—па галоўцы гэткіх сваіх прыяцеляў ня гладзіць.

ДАМА

Мусье беларус, вы, як уважаю, напоўнены павевамі новага часу і належыце, мабыць, да новай партыі стоікаў, якія не паддаюцца эвакуацыі і застаюцца на месцы?

ЯНКА

Паддаецца эвакуацыі ў сягоняшні час толькі той, у каго або нячыстае сумленьне, або ён сядзеў тут збоку-прыпёку, не раўнуючы, як пустазельле на сялянскай градзе.

ДАМА МІКІТЫ

А вы, мусье рэгістратар, калі прыняць пад увагу довады, мусье беларуса, то пэўна заставацца тут ня будзеце і нашым шляхам пойдзеце?

МІКІТА

Мадам-сіньёра, вы не згадалі: я, меджду протчым, застаюся. Як істы рускі патрыот, я змушаны пакуль-што стаяць тут на варце сваіх рангавых і руска-існціных інтарэсаў. Хоць можа я гэтак рызыкую нават сваёй, меджду протчым, пэрсонай, але місію сваю мушу стойка выпаўняць.

ЯНКА

Мне здаецца, пане рэгістратар, што вы так запуталіся ў сваіх рангах, клясах і свабодных профэсіях, што ўжо ня здольны да ніякае місіі-нават да тэй сваёй роднай, існціна-рускай місіі.

МІКІТА

Меджду-протчым, не забывайце, пане беларус, што я найздальнейшы вучань акадэмікаў Скрынчанкі й Саланевіча. Апрача таго, нас бацька Пурышкевіч, быўшы ў Менску тут, замеціў і, ад'яжджаючы, на гэту місію багаславіў. (Пауза).

ГАРОШКА (да Папа).

А вы, бацюшка, таксама за імі (махнуўшы пугай) туды—у прочкі?...

ПОП

Нет, чадо мое. Акі пастыр, я должэн остацься пры агнцах своіх, я только провожаю сірых сіх, дабы іх напутствоваць на пуць неведомый.

СПРАЎНІК

Але, панове, час нам ужо ў дарогу! Вораг ня сьпіць і ўжо блізка: можа адрэзаць нам усе ходы для адступленьня.

ГАЛАСЫ

А так! Праўда! Час!

МІКІТА

Пагасьцілі-б, мадам-сіньёра і мусьі, яшчэ хоць з хвіліну!.. (Дама, Поп, Спраўнік, Пан—устаюць, раскланіваюцца і шнурам выходзяць у праціўны бок, з якога прышлі былі).

ПОП

(ідучы ўсьлед за адходзячымі, паказваючы на іх рукой).

Акі пціцы небесныя, отлетающчы на зімнее время в жаркія страны. Да храніт іх в странствіі мацер неопалімыя купіны і мацер крупіцкая!

## ЗЬЯВА 6-я.

МІКІТА—АЛЯКСЕЙ—АЛЕНКА—ГАРОШКА

МІКІТА

(як тыя вышлі).

Ах, забыўся запрапанаваць ім купіць у мяне маркі! Пэўна з „царскімі“ эвакуюцца.

ЯНКА

Ня турбуйцеся! Яны, як праўдзівыя патрыоты, з „царскімі“ не разлучаюцца.

МІКІТА

Вы, пане настаўнік, як я заўважыў, чагосьці не далюбліваеце нашай чыстай інтэлігэнцыі.

ЯНКА

Для вас, як для рускага колежскага рэгістратара, яна можа й чыстая, але для мяне яна—„Варшавске сьмецьце, гразь Масквы“, як сказаў вешчы Шаўчэнка.

ГАРОШКА
(паказваючы пугай).

А во яшчэ два дапатопы!
(Уваходзяць ВУЧОНЫЯ—адзін з аднаго боку, другі з другога, разглядаючыя праз свае падзорныя трубы).

## ЗЬЯВА 7-я.

ТЫЯ-ж—УСХОДНІ ВУЧОНЫ—ЗАХОДНІ ВУЧОНЫ

УСХОДНІ ВУЧОНЫ
(стукнуўшыся з Заходнім).

Чорт подзеры!

ЗАХОДНІ ВУЧОНЫ

Пся крэв!

УСХОДНІ ВУЧОНЫ

Ізвініце, судар!

ЗАХОДНІ ВУЧОНЫ

Пшепрашам пана!

УСХОДНІ ВУЧОНЫ

І вы зьдзесь?

ЗАХОДНІ ВУЧОНЫ

І пан ту?

(Кланяюцца адзін аднаму і прысутным).

УСХОДНІ ВУЧОНЫ (да Янкі).

Очэнь кстаці, что вы, господзін белорус, зьдзесь. Необходімо почэрпнуць от вас сведенія касацельно церрыторыальных данных обласьці, іменуемой вашым племенем—Белорусь.

ЯНКА

О, наша тэрыторыя, пане вучоны, вельмі вялікая—і вокам не дастаць! Уся Менская Брахалка, на якой вы, як бачу, гэтай тэрыторыі шукаеце, ды яшчэ далей.

ЗАХОДНІ ВУЧОНЫ

А чы не можэце, пане бялорусін, поінформоваць венцэй шчэгулово о тэм вашым „далей“?

ЯНКА

З гэтага нічога ня выйдзе, пане вучоны. Бо абхапіць гэтае „далей“ закараткі вашы пяты.

УСХОДНІ ВУЧОНЫ

Так, так! (Запісваючы ў нататнік). Пры опросе аборыгенов Северо-Западного края о процяжэніі занімаемой імі церрыторыі выясьнілось, что таковая включает в себе всю обласьць Мінской Брэхалкі да ешчо далей... На вопрос, как далеко распространяется оное „далей“, мой собеседнік із племені белоруссов об'ясьніл на местном обшчэруском говорэ, что для посьціжэнія сего „далей“ у наукі вообшчэ і в частносьці у Западной наукі короткі пяткі.

ЗАХОДНІ ВУЧОНЫ

Так, так! (Запісваючы ў нататнік у перамешку з Усходнім вучоным). Подчас бадання тубыльцув, осядлых на Всходніх Крэсах польскіх, о розмярах замешкалэго пшэз ніх тэрыторыуму зостало высьветлёным, іж данэ тэрыторыум вхланя в себе цалкем правінцыен Мінскей Брэхалкі і ешчэ далей... На запытане, як сень далеко распостшэня овэ „далей“, муй інформатор походзонцы од бялорусінув ожэкл в огульнопольскім мейсцовым нажэчу, іж для осёнгненьця онэго „далей“ наука наогул, а в шчэгульносьці наука Всходня посяда за крутке пенты.

УСХОДНІ ВУЧОНЫ

(скончыўшы пісаць).

Благодару покорно!

ЗАХОДНІ ВУЧОНЫ

(скончыўшы пісаць).

Дзенькуем упшэйме!

(Абодва раскланьваюцца і выходзяць—кожны ў праціўны бок, з якога прышоў быў).

## ЗЬЯВА 8-я.

МІКІТА—ЯНКА—АЛЕНКА—ГАРОШКА.

АЛЕНКА

На гэтых дык няма ніякага ўпынку! Шныраць і шныраць, як сьвіньні ў чужым агародзе.

МІКІТА

Мудрыя людзі—гэтыя вучоныя. Я заўсёды схіляю перад імі сваю, меджду протчым, галаву.

ЯНКА

Асабліва перад гэтымі вы павінны як найніжэй схіляць.

МІКІТА

Чаму так?

ЯНКА

Бо вы ад гэткіх вучоных чэрпаеце сабе ўдзяткадайны клёк для падтрыманьня сваіх рэгістратарскіх кар'ераў у тутэйшым краю.

АЛЕНКА

Ці ня час ужо, дзядзька настаўнік, пакінуць гамонку ды йсьці ў заезд, а то чаго добрага Шая замкне браму?

ЯНКА

Ой, час, час! (Да Гарошкі). А ці вы, дзядзька, пакупкі свае зрабілі?

ГАРОШКА

Дзе там! Дарма толькі вытаптаў з паў-Менску, — як у шабас усе крамы пазачыняны. Паеду без табакі.

АЛЕНКА (жартабліва).

Якое няшчасьце! Гэта-ж, як у таткі пачнецца вялікі табачны пост, дык задасьць ён усім нам табакі!

ГАРОШКА (дабрадушна).

Табакі не табакі, а перцу калі-небудзь дастанеш ты ў мяне за свой доўгі язык.

ЯНКА

Хаця не пабецеся стары з малой за табаку. Мушу хутчэй вас адгэтуль весьці. (Да Мікіты, адвітваючыся). Бывайце здаровы, пане рэгістратар! Жычу вам у новай аратарскай профэсіі дастукацца асэсарскай рангі.

МІКІТА

І вам таго самага, пане беларус, у вашай, меджду протчым, беларускай профэсіі.

(Янка, Аленка і Гарошка выходзяць. Па хвілі ўваходзіць СЬПІЧЫНІ).

## ЗЬЯВА 9-я.

### СЬПІЧЫНІ—МІКІТА

СЬПІЧЫНІ

Даруйце, мусье Зносілоў, што змусіў вас крыху на сябе чакаць. Але апошнія дні так многа маю лекцыяў па аратарству, што папасьці ўсюды ў свой час няма аніякай змогі.

МІКІТА

Я вельмі рад, што ўсё-ж-такі вам, гэр профэсар, удалося ка мне папасьці. Бо выступаць, меджду протчым, з трыбуны без практычнай лекцыі неяк ні сёе ні тое.

СЬПІЧЫНІ

Цяпер ужо будзеце магчы выступаць хоць і заўтра. Можам пачынаць, мусье рэгістратар!

МІКІТА

Меджду протчым, я гатоў, мусье профэсар!

СЬПІЧЫНІ

Узлазьце на трыбуну, мусье рэгістратар. (Мікіта становіцца на лаўцы).

Так! так! Цяпер зрабеце позу. Крыху ня так—прасьцей фігуру і вышэй галаву, вочы—ўдаль. Левую руку абапрыце на левы клуб. Так! Так! Правая рука застаецца свабоднай—гэта, каб у патрэбных момантах вашай араторыі, можна было, зацiснуўшы кулак, патрасаць ёю над аўдыторыяй. Цяпер, калі зрабілі сабе аратарскую паставу, пачынайце прамову. Спачатку кажаце ціхім-ціхім голасам, пасьля што раз мацней, а пад канец бухаеце грамабойным голасам і, разумеецца, на чым сьвет, патрасаеце кулакамі. Ну, цяпер пачынайце араторыю на тэму: „Пролетарыят і буржуазія“.

МІКІТА

Вельмі паважаныя, меджду протчым, мадамы, вельмі паважаныя, меджду протчым, мусьі! Да апошняга часу пролетарыят эксплёатаваў буржуазію. Буржуазія з усіх жыл выбівалася, каб здабыць сабе на чорны дзень якую жменю золата, або кусок якога маёнтку, а пролетарыят, меджду протчым, у гэты бок і пальцам ня ківаў; усёй работы яго было, што толькі, меджду протчым, працаваў, ды йшчэ за гэтую мізэрную працу цягнуў крывавую капейку з беднай буржуазіі. Буржуазія з кожным днём ад недастаткаў таўсьцела—казаў той—расла ня ўвышкі, а ўпапярэчкі, меджду протчым, як той гарбуз, а пролетарыят ад роскашы цянеў — казаў той—рос не ўпапярэчкі, а ўвышкі, меджду протчым, як тая тычка. Дзеля таго (трасучы кулаком) далоў!.. далоў!..

СЬПІЧЫНІ

Затрымайцеся на мінутку. У сваёй араторыі вы пераблуталі лёгічныя тэрміны, і там, дзе павінна стаяць першае, у вас чамусьці—другое, а дзе—другое, там стаіць першае. Ужо я вам казаў, што тэорыя аратарскага мастацтва ня любіць, каб выкідалася перад аўдыторыяй тое, што ў вас папраўдзе накіпела на вантробе. Можаце думаць усё, што толькі вам падабаецца, але гаварыць абавязаны толькі тое, што іншым падабаецца. Толькі такім чынам вы зробіце сабе на свабоднай аратарскай профэсіі яксьледную асэсарскую кар'еру. Цяпер папробуйце сказаць араторыю на тэму: „Рэволюцыйная самадысцыпліна“.

МІКІТА

Ша... Шан... Ня так... Меджду протчым, мае панячкі і мае паночкі! Рэволюцыйная самадысцыпліна... рэволюцыйная самадысцыпліна... гэта такая, меджду протчым, дысцыпліна, што мае два канцы—то яна ўсіх б'е, то яе ўсе б'юць, бо контррэволюцыйная самадысцыпліна ня сьпіць у шапку. З гэтае прычыны і рэволюцыйная самадысцыпліна ня мае права спаць, меджду протчым, у шапку, бо йначай прасьпіць усю сваю гаспадарку. Дзеля гэтага (трасучы кулакамі) далоў... далоў... І так, меджду протчым...

СЬПІЧЫНІ

Затрымайцеся. Гэта ў вас вышла нібы лепей. Цяпер выслухайце маленькія дзьве асьцярогі: першае—калі ўзыдзіцё на трыбуну, то ёмка зачашэце сабе на галаве думку аб тым, пры якой палітычнай сытуацыі выступаеце з араторыяй. Другое—найбліжэйшая палітычная сытуацыя, пры якой першы раз прыдзецца выступаць вам публічна, апіраецца на пэўных пляцформах. Дзеля гэтага, перш, чымся араторыць, вы павінны выбраць сабе стойкую пляцформу і толькі адну, а ня дзьве або тры, бо йначай можаце паскаўзнуцца й зваліцца з усіх трох разам.

МІКІТА

Меджду протчым, магу я зысьці ўжо, мусье профэсар, з трыбуны?

СЬПІЧЫНІ

Можаце ўжо зысьці, мусье рэгістратар, з трыбуны. (Мікіта выходзіць). Ахвяруем цяпер колькі хвілін на тэорытычнае асьвятленьне некаторых зьвязаных з аратарствам пытаньняў. Вось, напрыклад, як вы сабе разумееце мітынг?

МІКІТА

Мітынг, мусье профэсар, мітынг, меджду протчым, гэта нешта такое, што выдумалі ангельцы для тых, якія нічога ня хочуць рабіць, а толькі ходзяць і варон страляюць. Мітынг, меджду протчым, гэта тое самае, што пераліваньне з пустога ў парожняе. Мітынг—гэта тое з вушамі таварыства, дзе араторыць буду я, а слухаць будуць яны, і крычаць будуць: віват, рэгістратар Зносілов! калі іх па шэрсьці пагладжу, і—далоў, рэгістратар Зносілов!—калі пагладжу іх проці шэрсьці, меджду протчым.

СЬПІЧЫНІ

Усё гэта як-бы так і як-бы ня так. Але да гэтага яшчэ вернемся. Цяпер мне адкажэце на адно пытаньне і на сягоньня будзе годзе. Вы штонебудзь ведаеце аб Савецкім ладзе?

МІКІТА

Оей! Нават добра ведаю.

СЬПІЧЫНІ

Аб гэтым у вас павінен быць ясны, дужа ясны сьветагляд, адным словам—пад арэх.

МІКІТА

Савецкі лад... Савецкі лад, меджду протчым, Гэнрых Мотавіч... Савецкі лад... гэта... гэта такая чырвоная паводка... такая меджду протчым, паводка, аб якой ня сьнілася ні Фараону, ні Салямону... Савецкі лад гэта... гэта...

СЬПІЧЫНІ

(ускочыўшы з лаўкі).

Пардон! У мяне разбушаваліся нэрвы. Сюды машыруе нейкі немец. А я страшэнна ня люблю спатыкацца з ворагам, калі ён наступае і калі ён адступае.

МІКІТА

О так! Асабліва страшна з ім спатыкацца, меджду протчым, калі ён наступае.

СЬПІЧЫНІ

Маю гонар кланяцца! (Шпарка выходзіць. Уваходзіць НАСТА и НЕМЕЦ).

## ЗЬЯВА 10-я.

МІКІТА—НАСТА—НЕМЕЦ

МІКІТА

Наша найніжэйшае, меджду протчым, ушанаваньне, мамзэль Насьце!

НАСТА

Добры вечар! Добры вечар, мусье Нікіці!

МІКІТА

Што-ж гэта вы, мамзэль Наста, ня самі адны, а з гэрам немцам, як з нявіннай ахвярай свайго, меджду протчым, чарадзейскага сэрца?

НАСТА

Ужо даўно маё сэрца—не маё, а сядзіць у пастцы другога сэрца... (Усьмяхаючыся). Чыйго?.. Вы, мусье Нікіці, пэўна ведаеце. А немец? Як мне напэўна вядома з пэўных крыніц, то гэта апошні з роду Магіканаў, які згодна з Берасьцейскай умовай, пакідае сягоньня нашы Менскія палестыны і махае свае крокі туды, адкуль прышоў.

МІКІТА

Але й палонных, як уважаю, па дарозе хапае. Ці гэта можа вы дабравольна, меджду протчым?

НАСТА

О, немцам цяпер не да чужых гэнэралаў. Яны цяпер заняты спэцыяльна хапаньнем сваіх-жа ўласных гэнэралаў. Бо як чула я ад пэўных асоб, у іх таксама рэволюцыя. А вось гэтага—дык я толькі ахвяравалася правесьці да Брахалкі.

МІКІТА

А ці ня ведаеце, мамзэль Наста, можа яму на дарогу маркі патрэбны, бо я маю да праданьня?

НАСТА

Спытайцеся.

МІКІТА (да немца).

Меджду протчым, гэр германіш, можа купіце германскія маркі?

НЕМЕЦ

(паказвае на мігі, што не разумее ў чым рэч).

МІКІТА

(дастае портмонэ, а з яго грошы і на мігі паказвае немцу, каб купіў).

НЕМЕЦ

(тлумачыць на мігі, што яму грошы ня трэба, бярэ „пад казырок“ і выходзіць).

## ЗЬЯВА 11-я.

МІКІТА—НАСТА

МІКІТА

(палажыўшы, ня помнячы, портмонэ з грашыма на лаўку).

Ну і немец, медждy протчым! Сваіх-жа нямецкіх марак не хацеў купіць. Але што гэта—ці ён нямы, што ні слова не адказаў мне на запытаньне?

НАСТА

Не нямы, а толькі немец і панашаму не разумее.

МІКІТА

Гм! Цікава! А чаму той, што маніўся мяне ў палон, медждy протчым, узяць, як рэпу сек панашаму?

НАСТА

А гэта іншая рэч. У іх, як мне з пэўных крыніц вядома, ёсьць спэцы ад усялякіх языкоў, ну вы і нарваліся на гэткага спэца. (Пауза).

МІКІТА (набок).

Страшэнна, медждy протчым, адпаведная хвіліна, каб паўтарыць мамзэль Насьце сваю адвечную пропозыцыю.

НАСТА

Аб чым гэта вы так задумаліся, мусье Нікіці?

МІКІТА

Ды ўсё аб тым самым, медждy протчым, хэрувімская мамзэль Наста: аб вас мае думы ўпалі ў глыбокую задуму.

НАСТА

І глупства робяць гэтыя вашы думы. Я-ж вам ужо цяперся забараніла думаць аба мне, пакуль ня зробіцеся асэсарам! Значыцца, і ня маеце права думаць.

МІКІТА

Не магу вытрываць, сэрафімская, медждy протчым, мамзэль Наста, аніяк не магу вытрываць! (Становіцца на лаўцы перад Настай на калені, засланяючы з большага яе й сябе распушчаным парасонам). Мадоністая мамзэль Наста! Каханьне маё, медждy протчым, вульканічнае! Падаруйце-ж мне, нарэшце, сваю абымальную руку і сваё трапятлівае сэрца! Асэсарам буду я, вось пабачыце, што буду! Ужо я стаю на вялікай дарозе да славы, да славы знамянітага, медждy протчым, аратара. А там, як піць даць, атрымаю асэсарства. Медждy протчым, чырвоным асэсарам буду! Толькі прымеце мяне, жыватворнакрынічная мамзэль Наста, у пакорныя і вечныя слугі вашага, медждy протчым, сіньёрыстага сэрца.

НАСТА

Хапун вас ня схопіць, мусье Нікіці, калі яшчэ крыху пачакаеце на мае рукі й на маё сэрца. Толькі тады з гэтага квасу будзе піва, калі я з пэўных крыніц напэўна даведаюся, што вы не рэгістратар толькі,

а ўжо асэсар. А іншых залётаў, ды іншых каханьняў мой організм ня прымае. Пакіньце кленчыць на лаўцы, а так сабе на зямлі чакайце. Будзьце здаровы! Мушу зьбегаць у адну пэўную крыніцу. (Выходзіць).

МІКІТА

(яшчэ кленчачы і працягнуўшы з парасонам рукі ўсьлед Насьце).

О, ранга мая асэсарская! О кляса мая бонтонная, беспардонная!

## ЗЬЯВА 12-я.

МІКІТА—АБАРВАНЕЦ

АБАРВАНЕЦ

(увайшоўшы з таго боку, куды Наста вышла, да кленчачага з працягнутымі рукамі Мікіты).

Пажэртвуйце, таварыш, безработнаму!

МІКІТА

(зышоўшы з лаўкі набок).

Пачынаецца! Падумаеш, таварыш?! (Да абарванца). Выбачайце, я не таварыш, а медждў протчым, буржуаз, а як вам хіба ведама,—буржуазія нічым ня жэртвуе. (Сярдзіта адварачваецца набок).

АБАРВАНЕЦ

(патросшы кулаком, набок).

Пачакай! Заўтра ты ў мяне йначай запяеш! Заўтра ты ў мяне папросіш пажэртваваць. (Забірае пакінутае на лаўцы портмонэ і выходзіць).

## ЗЬЯВА 13-я.

МІКІТА (адзін).

МІКІТА

(да праходзячай з чырвоным сьцягам групы грамадзян і грамадзянак).

Мо', шаноўныя мадамы і мусьі, патрабуеце купіць марак? (Мацаецца па кішэнях). Новенькія... Але новенькія... Дзе-ж яны? (Прыглядаецца на зямлю, на лаўку. Грамадзяне й грамадзянкі пырснуўшы сьмехам пашлі). Сьцягнуў нехта! Апошнія грошыкі сьцягнуў, медждў протчым, і рускія і нямецкія. Заўтра ня будзе за што і рук зачапіць.

(Апускаецца з уздохам на лаўку, кладзе на паруччы рукі, зьвешвае на іх галаву і ўпадае ў глыбокую напаўсонную задуму. Пауза. Пачынаецца танец ценяў пад музыку шарманкі. Пасьля некалькіх мінут, раптоўна ўрываюцца зыкі вайсковай музыкі, граючай цэрэмоніяльны марш, і крыкі: Ура! Ура! Танцуючыя цені нікнуць. Мікіта ўскаквае і пад тахт музыкі топчацца на адным месцы. Пасьля быстра выцягвае з кішэні чырвоную хустачку, прывязвае да парасону, становіцца на лаўку і, таксама маршыруючы пад музыку на адным месцы, махае каля галавы парасонам з хусткай і крычыць).

Хай жывуць свабодныя профэсіі! Хай жывуць чырвоныя асэсарскія рангі!

ЗАСЛОНА.

## Лясьнічанка.

(*Поэма*).

**М. Грамыка.**

### ПЕСЬНЯ І-я.

Над Нёманам, рэчкай вядомай,
Што поіць Кляйпэду Літвы,
Дагэтуль вайсковыя громы
Сярдуюць на сон баравы.

І шэрыя жэрлы гарматаў
Пільнуюць і Захад і Ўсход.
Ня мае спакою араты
Над Нёмнам, ці першы-то год!

Сядзібы прымусіў пакінуць
Падужаны царскі казак:
„Вам лепей за Волгай загінуць,
Каб ў войска ня ўзяў вас прусак!"

І костачак бежанскіх соткі
Убачыў і стэп і Урал.
І гінулі дзеці, малодкі:
Слаў Нёман сыноў за Байкал...

Каб скончыць і бойкі і спрэчкі,
Паўсталі працоўных рады,
Крывёю заліліся рэчкі,—
І скінут царат наўсягды!

Над Дзьвіньню, над Сожам, Бярозай
Даўно паўцякалі паны...
Вось толькі над Нёмнам пагрозай
Сядзяць ўсё яны, як яны...

* * *

Дзе ў Нёман ўплывае Дубоўка,
Мяліны глядзяць з-пад вады;
Чаўнок абмінае іх лоўка,
Насунецца плыт заўсягды.

---

*) Прыс—жардзіна плытніцкая.

І плытнік стары, як належа,
Наваліцца прысам на пуп,
Слаўцом па-над рэчкаю ўрэжа,—
І ссунецца з меліны дуб.

Ёсьць гакаў на рэчцы багата,
А ёсьць і адзін астравок,—
На ім лясьніковая хата,
Як баечны нейкі куток...

Лазьняк і даўгія чароты
Хаваюць яго ад вачэй...
Здаецца, там дрыгвы-балоты,
І Нёман тут круціць байчэй.

Сьпяшаецца чоўн незнаёмы
Той востраў хутчэй абмінуць,
Каб часам ў віры-вадаёме
Дрыгвянай вады ня глынуць.

Дык мала хто ведае сьцежку
Да Броніка ў дзіўны куток;
Ня кожны там знойдзе начлежку,
Патрапіць на той астравок.

Праз лапіны буйнай парэчкі,
Што мурам ад дрыгвы расла,
Хаваючысь, сьцежка—прасечкай,
Як лесам, да хаты вяла.

Хавалася шэрая хата,
Вяла з хмызьнякамі хаўрус,
Бярвеньнем ды мохам багата,
Як любіць наш брат—беларус!

Курыла праз комін дымочкам
На жах саламянай страсе,
Крывенькім сьмяялася вочкам,
Нібы на крывенькай назе.

Сьвіронак, хлявок ды паветка
Сябрамі тулілі дварок.
Саху замяніла тут сетка,
Ды нерат, ды хітры жачок.

Ды часам, пад прасла садочку,
Паўна гаспадарчых клапот—
Сьпяшалася жоўтая квочка
Пусьціць куранят на гарод...

Было гаспадаркі тут мала;
Затое садок харашэў:
Чыясьці рука даглядала,
І кветкамі ён, як гарэў.

І ганак, у лісьце прыбракы,
Альтанкай зялёнай глядзеў.
Прад ганкам пляцок пасыпаны
Пясочкам адборным глядзеў.

Хто-ж быў жыватворчым дыханьнем
Таго астраўнога кутку?
Чыё нясупынна стараньне
Сьмяялася нават лістку?

Пануры лясьнік сівавусы
Свой кут не заўсёды сьцярог,
Бо меў ён ад службы прымусаў
Даволі у лесе трывог.

Са стрэльбай старой дубальтовай
Ён тут пільнаваў гушчары,
І ведаў зьвярыныя ловы
Яшчэ да вайсковай пары.

Ён сам быў, як лось той паважны,
Што чула глядзіць з-за галін;
Стары адзінота бадзяжны
На сьцежцы таемных дрыгвін.

Той Бронік упарты ніколі
Паном не стараўся служыць,
Хоць панскі той лес мімаволі
Даўно даглядаў ён, каб жыць.

—„Лясы нам з дзядоў паспадалі,
„Садзілі іх тут не паны,
„Дык трэба, каб іх пільнавалі,
„Каб-жа не пазьнікалі яны!“

Так Бронік у думках і словах
Свой чын заўсягды вызначаў,
І нават у панскіх умовах
Аб гэтым стары не маўчаў.

Але ён цаніўся па службе,
Як спрытны, сумленны лясьнік,
З сялянствам таксама жыў ў дружбе,
Бо з глупствам лавіць ня прывык.

Другім прыжывальцам тутэўшым
Быў Стаська, хлапчына адзін.
Нямы перавозчык цішэйшы,
Краіны няведамай сын.

Ледзь золак—ужо ён над рэчкай
Кіруе даўблёным чаўном;
То вынырне з ім між парэчкай,
То плясьне над Нёмнам вяслом.

Часьцей заплываў на Дубоўку,
Каб жакам абмацаць кусты,
Ці ў сетцы з даўгою вяроўкай
Лічыць карасёвы хвасты.

Агледзеўшы нераты, жакі,
Нямы азіраў берагі:
Ці трэба каму небарака
Падаць каб на бераг другі.

Ён з вострава ўсіх перавозіў.
Бяз Стаська ня трапіць туды!
А часам на вёску завозіў
Па шляху бягучай вады.

Ці-ж мог гэны Стаська бязмоўны
Прывабны куток ажыўляць?
Рабіць астравочак чароўным,
У кветкі яго прыбіраць?

Ды не, тут істота другая
Сваё выяўляла жыцьцё,
Як фарбы квяцістага мая,
Прыроды сьвятой багацьцё!

Дачка Браніслава, Галена,
Дзяўчына прывабных гадкоў,
Усім кіравала нязьменна,
І жыў астравок лясьнікоў.

Тут песьня за песьняй лілася,
Ледзь толькі вайшла у садок.
Вядома-ж, ня ціхага Стася
Тагды хваляваўся чаўнок!

Ня раз плытагон-вольналюбец,
Захоплены тым галаском,
Ламаў свой бусак*) адназубец,
Спыніцца каб тым астраўком.

Ды Нёман, дзядуня зайздросны,
Мацней тады шваямі трос,
І топкі плыток стаяросны
Шпарчэй з Навагрудчыны нёс.

Як бацька у лесе вартуе,
А Стасік рыбачыць ў кустох,
Тагды лясьнічанка жартуе
З дзядунькаю Нёмнам удвох.

*) Кій плытнiцкi з гаплiкам.

Ў парэчках тканіну скідае,
Са стромкага беражку—бух!
Тагды толькі Нёман той знае
Дзявоцкі няспынены рух.

Тагды ажыўляюцца дрэвы,
За рэчкаю бор зашуміць,
І чуюцца нібы-напевы:
Што добра з прыродаю жыць!

А белыя пруткія грудзі
Кіруюць на бераг другі.
Дарма,—іх ня бачыць вам, людзі,
Пакуль вы яшчэ не багі!

Далёка ніжэй на пясчанку
Выходзіць яна адпачыць.
Хто бачыў жывую вясьнянку?
Дзед Нёман?—Дык ён прамаўчыць!

Ўстае, азіраецца пільна.
Бяжыць па пясочку цішком,
І чайкаю б'е белакрыльнай
Праз Нёмнавы хвалі ніцком.

Гукае. Зьлятаюцца гусі,
І цягнуцца шыі да ног.
За хлебец зноў плысьці з ёй мусяць
На сьвежы зялёны разлог.

Ды досыць ужо асалоды!
Бяжыць апранацца хутчэй,
Бо хатнія трэбы-выгоды
Таксама ня ссунеш з вачэй.

Палуднаваць вернецца татка
Са Стаськам у чоўне сваім,
Дык трэба, каб пухлых аладкаў
Хапіла канешне траім.

Здаралася, трапіць у госьці
Чацьверты хто-небудзь з мужчын;
То лоўчы напрэцца чагосьці,
То нехта з вясковых дружын.

Галена тагды прымаўкала,
Ня тое,—сароміласъ—не!
Паважней нібы выглядала.
Ды раптам за стол, як зірне!

І новы той госьць нечакана
Глыне асалоды з вачэй.
Заные пякучая рана:
Ня спаць яму шэраг начэй!

Як пара віроў-азярынак,
Як летняга неба глыбінь,
Што часам зірне з-пад галінак,
Цягнула так гэтая сінь.

І бровак шнурок саматканы,
І вусны, як зрэзаў разьбяр,
Ці-ж можна раўнаць з маляваным
Жывы лясьнічанкі той твар?

У бацьку і ростам і станам,
Шчарсанкай па твару была,
Бо маці, паснуўшая рана,
Са Шчорсаў за бацьку пайшла.

А як апране аксамітны
З чырвоным узорам кабат,
Ды выпляце стужкай блакітнай,—
Загінуў хлапчына—сабрат!

Каму-ж яе сэрца належа?
Ці ёсьць хто, яе каб крануў?
Маўчыць рэчка Нёман і рэжа
Свой бераг, як быццам ня чуў!

Жыві крывічанская птушка,
Сьпявай у садочку свзім.
Сьпявай-жа, пакуль весялушка,
Ня думай аб лёсе благім!

Хто жыцьця дазнаецца сьцежкі,
Каб ёй без калючак прайсьці,
Каб ціха, як тыя арэшкі,
У пушчы сабе адцьвісьці?

Дык не, лясьнічанцы Галене,
Прыгожай валодарцы кос,
Шлях іншы дзявоцкіх імкненьняў
Упісаў, ня мылаючысь, лёс.

### ПЕСЬНЯ II-ая.

Жыць цяжка на крэсах усходніх,
Марнуецца дарма народ.
Гудзіць Навагрудак, Гародня
Пад Вільнюю ідзе карагод.

„Ня можна ужыцца з панамі,
„Як-бы ня тутэйшым стаў край.
„Цар неба, зьмілуйся над намі,
„Народу загінуць ня дай!“

„Хто-ж пройдзецца з плугам у полі,
„Каб сытнага хлебца здабыць?
„Ці-ж пан гэта зробіць,—ніколі!
„Ён лепей адмовіцца жыць“.

„Хто сьвечкі паставіць ў касьцеле,
„Хто будзе там „здровасьць“ сьпяваць?
„Паны?—Каб яны пазгарэлі:
„Яны-ж толькі здольны гуляць!“

Парадкі зямель пад'ярэмных
Ўжо лаяў стары каталік.
А моладзь, бяз слоў тых дарэмных,
Паўстанчаскі множыла лік.

За зьдзекі асаднікаў дзікіх,
За землі паснуўшых дзядоў,
За соткі няпраўдаў вялікіх,—
Паўстаўшыя здані вякоў;

За уціск тутэйшага слова,
За крыўду бяспраўных дзяцей,
Якіх праз чужацкую мову
З-пад родных зрываюць грудзей;

За войтаў насланых учынкі,
За брыдкі жаўнерскі пастой,
За сьлёзныя матак расінкі,—
Адна тут адплата—крывёй!

„Пакіньма прытульныя хаты!
„Хутчэй павяжы паясы!
„Хай ведаюць гэтыя каты,
„Што ёсьць яшчэховы-лясы!

„Няма пакуль стрэльбаў?—А вілы?
„Сякеры ды дым сярнічкоў?
„Хлапцоў ня спужаеш магілай:
„Пасьпім пад каронкай дубкоў!“

І шырыцца ў вёсках паўстаньне.
Хлапцоў падбываюць рады...
Чырвонага полымя зданьне
Палохаць ідзе гарады.

Тагды налятаюць жаўнеры,
На сьцягах бялее арол;
Сярэдніх вякоў кавалеры
Зьбіваюць усё навакол.

Хто тут ў барацьбе перамога?
Упарты, напужаны пан,
Ці той, чыё топчацца збожжа,
Чый ўвек зьневажаецца стан?!

* * *

Хто поўначчу ходзіць за рэчкай,
Ґукае кагось аганьком;
Як вокам, запаліцца сьвечкай,—
Раз... два,—і загасьне суздром?

Галена той знак разумее,
Бяжыць Стасюка разбудзіць.
Хлапец яшчэ болей нямее,
Праз цьму на дзяўчыну глядзіць.

— „Бярыся за човен,—гукаюць!
„Сюды, во сюды, на той бок!
— „Чаго?—Ды ня баўся, чакаюць!
„Хутчэй! Дзе пакінуў чаўнок?“

Бягуць удваіх пад вярбіну,
Штурхаюць той човен ад сну.
Трывожыць агоньчык дзяўчыну:
— „Ну, Стаська, чаго ты заснуў?“

„Там двое хлапцоў, разумееш?
„Дык іх каб сюды перавёз!
„Ды што ты, Стасюк, слупянееш—
„Сапіш, як благі паравоз!“

І клопат дзяўчыне і жарты,
Ды гэтак сьпіхнула дубок,
Што з рук тых Галененых, вартых
Хлапец хістануўся ўбок.

Бяжыць, азіраючысь, ў хату
Сустрэць нязвычайных людзей.
Ды трэба паштурхаць і тату,
Прыбраць хоць куток для гасьцей!

— „Татуня, ўставайце, татуня!
„Ідуць ужо тыя да нас!“—
— „Якія?“—Ну, Костусь з-пад Руні
„Ды гэты... Андрэйчык Тарас!“

— „Дапраўды? Што добра, дык добра!
„Дык знача хлапцы уцяклі!
„Ну, трэба-ж прыняць тых харобрых,
„Ці-ж мала іх там прыпяклі!“

І Бронік на рэчцы. Ледзь плешча
Вунь там з-за прылукі вясло.
— „Сюды!“—адгукнуўся. Трапешча
За хлопцаў: каб добра-ж было!

Ў цішы патаемнае ночы
Тры хлопцы растуць з чаўнака.
— „Здароў, бацька!“ першы падскочыў,
Шукае вітацца рука.

У хату ідуць. Небясьпечна
Размову вясьці тут утрох.
У хаце цішэй. Ды яешня
Напэўна чакае й тварог...

Сядзяць за сталом убрусовым.
Стары ажна чаркі дастаў,—
Бутэльку з настоем зубровым
У руцэ, яшчэ моцнай, трымаў.

— „Ну, выпі, хлапцы! Хай шанцуе
„У справе вялікай далей!
„Жандар бізуноў не шкадуе,
„Дык будзе й яму на алей!“

Ўсе разам: „Так будзе!“—„Галена“,—
Тарас на дзяўчыну зірнуў,
— „А вы з намі чарку? Ня дрэнна!“
І ў сінія вочы зірнуў.

— „Што-ж, вып‘ю за лепшую долю,
„За права усіх на зямлю,
„За нашую некалі волю,
„Глядзеце, Тарас, і я п‘ю!“

— „Дачка у мяне малайчына!“
Стары лесавік пахваліў.
— „Ну вып‘ем, браткі, за айчыну!
„За тых, хто тут поту праліў!“

— „Ну, як уцякалі, скажы-ка?
„Ды як не забіў вас жаўнер?“
— „Э, бацька, а мы хіба з лыка,
„Хоць носім няшыты каўнер!“

— „Ды б‘юць-жа, сабакі, удала,“
Дадаў рудаваты Кастусь,
— „Ну, сып там, дзе мякка,—дык мала:
„Як скруцяць,—аж костачка хрусь!“

Усе замаўчалі панура.
Галены палаючы твар
Зірнуў праз вакенца, як бура,
Як слаў ён тым катам пажар.

Але час праходзіць. Сьвітаньне
Каб іх не застукала тут!
Сказаць, дык ня надта жаданьне
Пакінуць гасьцінны той кут.

Ня выдаць-жа востраў жандарам,—
Куды!—Лепш у Нёман на дно!
Ці-ж з гэтым чаруючым тварам
Прапасьці ёй тут заадно?

Тарас паглядзеў на дзяўчыну,
Заныла пад сэрцам чамусь;
Нэрвова паправіў аўчыну.
— Ну, годзе! Зьбірайся, Кастусь!

Падняліся хлопцы.—„Бывайце!"
І голас Тарасаў дрыжэў.
— „Ня хутка у госьці чакайце",
Дадаў ён і раптам зьбялеў:

Сустрэўся з вачамі дзяўчыны.
Па іх спачуваньня дымок
Прабег, як туманчык з лагчыны.
Галена крутнулася ўбок...

Знайшлася старая вінтоўка:
Лясьнік адкапаў з-пад кустоў.
— „Плывеце уніз, за Дубоўку,
„Сягоньня тут мала плытоў.

„Вось гэты вам чоўн старавата,
„Але утрымае дваіх.
„Схавайце яго там заўзята
„У ісланкіх плаўнях глухіх."

Лясьнік падае ім нараду.
Галена над рэчкай стаіць...
Вэнэрына зорка лямпадай
У небе прадраньнім гарыць.

— „Як трапіце часам да нашых,
„Скажэце Андрэю Плыту,
„Што ў Шчорсах заварым мы кашу!"—
Хтось кінуў з хлапцоў ў цемнату.

Галена ў адказ ім: „Пабачу
„Праз тыдзень я нашых хлапцоў.
„У Шчорсах я часу ня страчу!"
І зьніклі два цені плаўцоў.

Стары і Галена стаялі
Яшчэ час нядоўгі ў кустох.
Дзесь пляскала нешта аб хвалі,
Ды ветрык трапаў пералог.

Бяз слоў вараціласа ў хату.
І зноў астравок засыпаў;
І толькі дзед Нёман, як кратаў
Яго берагі, падмываў.

## ПЕСЬНЯ 3-ая.

Агні па паверхах палацу
Скрозь ліпы гараць, як маяк;
Вядуць сярод ночы там працу
Натоўпы прышэльцаў ваяк.

Ўвесь двор пазаняты аддзелам
Бліскучых кракоўскіх гусар;
З начальнікам іх ашалелым,
Прыхільнікам жудасных кар.

Сам граф у палац вараціўся—
Ў Варшаву спачатку уцёк.—
Цяпер хлебасольствам хваліўся,
- ліўся тут смачны мядок.

Ў портрэтах прадзедаўскіх заля
Што ноч разважала гасьцей;
Вячэра зьмянялася балем,
Капэльля іграла часьцей.

„Нех жые ойчызна", сьпявалі
І „пупсіка" сьледам вялі.
Ну, словам, паны балявалі,
Ну, словам, гусары жылі!

Зьбіраліся часам шляхцянкі
Пабачыць вяльможных паноў.
З кутоў пазіралі падпанкі,
Каб спольшчыць тутэйшую кроў.

Дзяўчаты ня йшлі у палацы
Да гэтых благіх малайцоў.
Ды як з панічамі ім знацца,
Што ловяць, страляюць хлапцоў!

Палкоўнік Бжэзіцкі акрутны
Дае па гусарах загад:
Каб выступіць заўтра нячутна
У лес на вясёлы парад...

— „Пачэшуць за сьпінамі хлопы,
„Павыб'ем мы з іх барбарызм,
„Бо Польска ест вартай Эўропы
„І трэба спыніць бальшавізм"!

— „Пан Вацлаў са мною ня згодны?"
З усьмешкаю кінуў убок.
— „Але то гусарам выгодна:
„Нам трэба зрабіць гэты крок!"

Палкоўнік сказаў, як адрэзаў,
І старкі для моцы глынуў,
І ў вочы халодным жалезам
Сваім падначальным зірнуў.

Пан Вацлаў Ржэвуцкі, паручнік,
Узяў плашч свой і выйшаў у сад.
З палацу шоў гоман шматгучны,
Бег ветрык па ліпах прысад.

Як ціха і добра ў прыродзе!
Які і каму тут загад?
Бяз соймаў тут сонца усходзе,
Бяз соймаў ідзе на закат...

Пан Вацлаў успомніў падзеі
Айчыны кіпучай сваёй:
Памылкі, бясслаўе, надзеі,
І новага часу развой.

„Дзяржава! Айчына дзяржавай
„Зноў выйшла на роўны той шлях.
„Якая бязьмежная слава,
„Які неабмераны гмах!

„Што-ж бачым? На розныя кшталты
„Учынкі глухой барацьбы.
„І яўныя зьдзекі і гвалты,
„І зноў і паны і рабы!..

„Навошта нам гэтыя крэсы?
„Навошта чужы калідор?
„Нам іншыя трэба протэсы,
„Каб Польшча жыла, як узор!

„За Польшчу паляк чырванее,
„Сумленны, вядома, паляк,
„Сіл колькі прыгодных марнее.
„Ды што ім?—Скачы кракавяк!

„А гэты тут люд нешчасьлівы?
„Што ім мы ад брацтва даём?
„Крывавай культуры палівы!
„Бяспраўя і сьлёз вадаём!“

І сум агарнае Вацлава,
Як цень ад руін уначы.
„ О Польшча, о Кракаў, Варшава!
„Чым ім сабе памагчы!“

І доўга сядзеў ён на лаве
Пад ліпай дуплістай старой.
Успомнілась вёска на Млаве
І бацькаў садок пад гарой.

Затым ён пайшоў да жаўнераў
Праз сад і праз двор пад павець.
Тут некалькі з іх кавалераў
Зьбіраліс вясельле глядзець.

— „Куды?“ запытаўся гусараў.
— „На хутар, вунь той праз лагі.
— „А хлопы дадуць як вам жару?
— „Не, пане, народ не благі.“

„Ніхто з іх злавацца ня будзе,
„Іх крыўдзіць ня просты жаўнер!
„Свае мы, напраўдзе, там людзі,“
І голаў схіліў афіцэр...

Ды раптам надумаў: „Станіслаў!
„Пазыч марынарку сваю,
„Ды боты. Няхай-жа пра Віслу
„Ня ўсё —адно блага пяюць!“

—„ То добра, то добра, мой пане!
„Хай пан праканаецца сам,
„Што тут, як і нашы сяляне,
„І скачуць ня горай, як там!“

* * *

Апранут жаўнерам Ржэвуцкі
З жаўнерамі госьцем сядзіць.
Ўсё чынна у хаце, палюдзку,
І чынна вясельле гудзіць.

Ўжо моладзь наладзіла скокі,
Хоць тут бракавала хлапцоў,
Пабраўшыся ў моцныя бокі,
Дзяўчаты шапталісь з кутоў.

Як раптам, праз нізкія дзьверы
Стары і дзяўчына вайшлі.
Хто быў тут, усе кавалеры,
Як пчолы ў той міг загулі.

Ржэвуцкі шмат бачыў паненак,
Бо быў ён, як-не-як, гусар,
І колераў розных адценак
Ён ведаў, як гляне на твар.

Чаму-ж ён цяпер задзівіўся?
Ці гэтым выразным вачам,
Дзе сіні агоньчык стаіўся,
Ці шыйцы, ці пруткім плячам?

Ўсё разам яго прыкавала:
Выразнасьць яе пекнаты,
Каса, што вужакай спаўзала,
І нейкі размах прастаты.

Зірнула яна на вайсковых,
Але ня зьдзівілася ім.
Нібы тым гасьцям выпадковым
Патрэбна тут быць, як сваім.

—„Чаму-ж гэта войска, панове,
„На нас навалілі зашмат?“—
Спытаўся лясьник ў простым слове
І сьмела зірнуў на салдат.

—„Здаецца, і вы ад зямелькі,
„З Бужанскіх, ці іншых палёў,
„Дык гонар, выходзіць, ня велькі
„Ісьці ваяваць мужыкоў!“

Галена, падкінуўшы слова,
Да хлопцаў сваіх падыйшла.
Відаць, што між імі умова
Аб нечым паважным ішла.

І раптам пачуліся гукі
Праўдзівых забускіх складоў.
Ў іх чуліся скаргі і мукі,
Хоць сэнс не даваўся тых слоў.

Галена зірнула. Бялейшы
З гусараў пачаў гаварыць,
Па твары нібы маладзейшы,
Ў вачох абурэньне гарыць.

Што кажа?—Што поляк ня кожны
Ідзе за урадам сваім,
Што Польска, затым, што вяльможна,
Дык вось дагаджае ня ўсім.

Што ёсьць абурэньне ў народзе:
Сялянскі сілкуецца дух;
Што розныя станы ня ў згодзе;
Расьце і рабочы там рух.

Што прыдзе той час, і ў Варшаве
Засядзе за ўладу народ.
Засядзе над Бугам і Млавай;
Што з крэсаў пазьнішчыцца дрот.

Відаць, гаварыў ў праканаьні:
Казаў аб тым твару выраз.
І дзіўна, што ў гэтым убраньні
З вайсковым каўнерам якраз!..

І змоўк. І забілі ў далоні,
Відаць закранула усіх.
Музыка ня ўседзеў на ўслоне
І „польку“ урэзаў уміг...

Пан Вацлаў Галене: „Мне трэба
„Вам зараз-жа нешта сказаць“.
—„Дык выйдзем!“—І вышлі пад неба,
Дзе тыя ўсё зоры гараць.

І тут ёй Ржэвуцкі прызнаўся,
Што быў ён ня просты жаўнер,
Што заўтра паход пачынаўся,
Што іхні начальнік, як зьвер.

—„Ці верыць?“—„То панны ест справа!“
—„Ну, добра! Скажэце: куды,
„І нашыя хлопцы расправай
„Ня будуць памшчацца тагды“.

—„Ня будуць страляць у гусараў?“
—„Не!“—„Добра! Тагды я скажу“.
Ён крыху прыблізіўся тварам,
Галены напружыўся слух.

Шапнуў. Да рукі дакрануўся,
І зьнік за бліжэйшым кустом.
І зноў за кустом мільгануўся,
Як чорныя крыльлі,—плашчом.

Хутчэй! Ужо часу замала!
Галена у хату бяжыць.
З хлапцоў аднаго адазвала,
Што-сь шэпча, а твар, як гарыць.

—„У чым справа?“—„Нічога, нічога!“
—„Усё добра. Музыка,—іграй!
„А ну-тка, хлапцы, ад парога!
„Лявоніху, Грышка, паддай!“

## ПЕСЬНЯ 4-ая.

У лесе вялікім трывожна,
Таемна між шэптаў начных:
Цяпла раскладаці ня можна,
Ня вабіць каб зрокаў благіх.

На лапінах дрэў, за карчамі
Грамадка малойцаў ляжыць...
Хто ў зоры упёрся вачамі,
А хто завінуўся і сьпіць.

Багата турбот на Тарасе.
Ня сьпіць тых хлапцоў атаман.
Глядзіць, як па зорным папасе
Бяжыць сівавусы туман.

Вось хруснула нешта па хвоях.
Падняўся на локці Тарас,
Нашчупаў скрозь торбу набоі
З наганам прысунуў пояс.

Ды не! хто палезе уночы
На іх малайцоў, у гушчар?
Захоча хто вырмаліць вочы,
Пад волава выставіць твар?

То, мусіць, сава небарача,
А можа драпежніцкі рысь
За здобычай сочыць-маяча,
Праз пушчу крадзецца кудысь.

Зноў ціха. Бармочуць спрасоньня
Табарышы долі лясной.
Тарас пераходзіць ва ўлоньне
Снатворнае казкі начной.

З туману, як здань, выплывае
Зялёны садок-астравок.
Дзяўчына яго там чакае,
За ім пасылае чаўнок.

— „Галена, галубка Галена!"
Ён шэпча, цалуе яе,
Цалуе пяшчотна, сумленна
І словы губляе свае.

Дзяўчына яго супыняе,
Паклала руку на плячо,
І неяк убок пазірае,
І сьлёзы ён бачыць ў вачох.

— „Галена!"—Аж востраў зьнікае.
Вайсковы ляціць на кані,
З падковаў агонь высякае
І сам у адзеньні-агні.

Зірнуў на Тараса сярдзіта,
Каня перад ім асадзіў,
І конь агнявое капыта
Над тварам ў паветры спыніў.

І жах прабірае хлапчыну
Ляжаць пад узьнятым канём.
І зноў ён гукае дзяўчыну,
І вусны палаюць агнём...

Прачнуўся. У лесе сьвятлела.
Запоўз пад шынэль халадок.
На грабе птушынка запела.
Дрыжэў на ляшчыне лісток...

Чу! Нехта сьпяшыць праз гушчары.
Хто?—Свой, бо па сьвісту пазнаць.
У хлопцаў увага на твары:
Чакаюць, а хочацца спаць!

На сьвіст той каротка, умоўна
Тарас адгукнуўся сьвістком.
— „Гатуйсь!" ён падаў аднаслоўна,
І ўсе паўставалі суздром.

Падбег Васілёк Асаёнак,
Хлапчук пад трынаццаць гадкоў.
— „Што сказаш?"—Дрыжыць варанёнак,
Глядзіць на старэйшых браткоў.

—„Да вас лясьнічанка паслала,
„Дык я на каня ды сюды.
„Ўцякаць каб адсюль, загадала
„Убок, на старыя Брады".

—„А конь дзе?"—„Стаіць пад гушчарам".
—„Ну, добра! Ну, дзякуй, браток!
„Дык знача,—забава гусарам:
„Ідуць паляваць у лясок!

„Палядзім!—Нас зловіш ня хутка!
„Хіба толькі зьнішчаць лясы.
„У пушчы, дзе лёг, там і будка!
„Ну, хлопцы, натуж паясы!

У момант канчаюцца зборы.
—„Рассыпся! Кірунак на Брод!
„Сыйсьціся пад вёскай Дукоры
„З вярсту ад яе на усход!

„А ты, Васілёк, даражэнькі,
„Да Нёмну скачы, якхутчэй
„На бронікаў востраў маленькі,—
„Хавайся, брат, панскіх вачэй!

„І там аддасі лясьнічанцы
„Вось гэта... лісток тут, паняў?
„Вітай там! А ну, галадранцы,
„Уперад! каб пан не заняў!"

І рушылась ціха грамадка
Бяз сьпеваў і нават бяз слоў.
Відаць было іншых спачатку,
Ды пушча глынула сыноў.

Васіль да каня вараціўся.
Канёк ціхамірна чакаў,
Глядзеў навакол і дзівіўся,
І шыю аб лісьце часаў.

Як выйшлі з канём на прасеку,
Сеў верхі і рушыў трушком.
Хлапец адчуваў небясьпеку—
Каб выбрацца з лесу цішком.

Вось пушча з усходу радзее.
Бач, сонца стаіць пад паўдня...
Як раптам два конных зладзеі
Канямі спыняюць каня.

—„Стой, пся крэв!“ І хлопчык зьмярцьвелы
Убачыў сталёвы замах,
І твар з-пад брывей азьвярэлы,
І рула халоднага жах.

—„Папаўся, паслугач бандыцкі!
„Нам трэба яго абшукаць.
„Каб пане палкоўнік Бжэзіцкі
„Прычыны ня меў зазлаваць!“

Забыўся хлапчук з перапуду,
Што ў шапку паперку паклаў.
Але-ж Васілёк той Іудам,
Хоць як ні пыталі,—ня стаў!

—„Той ліст да каго?“—І маўчаньне
Ім кідае хлопчык у твар.
Зноў б'юць, толькі чутны стагнаньне
Ды шэпты ідуць між гусар:

—„Вось гэта хлапец! Малайчына!
„А тут яны ўсе, як адзін...
„Ды што, кажуць, ёсьць і дзяўчына.
„То лепш атаман за мужчын.“

Палкоўнік пытае: „Што хлоп той?“—
—„Ні гуку, хоць выйшла крыві,“—
—„То птушку, то птушку мы маем,—
„Усіх ў лесе, пад лесам,—лаві!“

І ловяць, і цягнуць у кучу
Старога, малога, дзяўчат,
Зьдзіраюць кашулі, анучы,
Шукаюць вайсковых прылад.

Крык, стрэлы, каманда, як рэха,
Па лесе лунае ўвесь час.
То водгульле п'янага сьмеху,
То дзікі пужлівы галас.

Пан Вацлаў, смутнейшы за хмару,
Таксама у лесе тым быў.
Глядзеў на глумленьні, і кару
У душы сваёй чулай насіў.

Як раптам учуліся крыкі.
Ржэвуцкі у пушчу бяжыць,
І бачыць учынак там дзікі,
Што трэба хутчэй бараніць.

—„Жуць зараз!“—Ён рушыў, як сокал,
І кінуў гусара пад пень.
Зірнуў той драпежна навокал,
А хустачка зьнікла, як цень.

—„Як сьмееш!“, ускочыў граф Шэцкі,
Схапіўся за шаблю уміг.
Ды зьбіў яго штурх маладзецкі.
І гнеў закруціў абаіх...

—„Цяпер ты пра гонар успомніў,
„А гвалціць.—то права дзядоў?“
Ржэвуцкі гудзеў няпрытомна,
І выцяў гвалтоўніка зноў...

І шаблю занёс ён, як кару,
Ды раптам чыясьці рука
Спыніла разьвязку гусара:
Стаяў сам злы гэні палка.

—„Зьвязаць!“, загадаў ён жаўнерам.
Ржэвуцкі адскочыў назад.
Туман абвалок кавалера,
Ён кінуў палкоўніку: „Кат!“

І выпаліў з браўнінга ў ката.
Ды раптам прытомнасьць згубіў:
Па ім, як прабеглі салдаты,
Пад грудзі хтось горача ліў...

Пазьбегліся людзі ў мундурах.
І шэпты пайшлі па радох,
І чуўся па гушчах пахмурых
Прыгнечаны нейкі спалох.

## ПЕСЬНЯ 5-ая.

„Дзе-ж ты, мой саколік,
„У лесе ці, у полі?—
„Ці з стрэльбай, ці з шабляй
„За праўду стаіш?
„А мо' ўжо спачыў дзе,—
„Змагаўся даволі,
„Ці ўсё яшчэ моцны,
„Пад неба ляціш?
„Над Нёмнам дзяўчына
„Малойца чакае,
„Ня з тых яна, праўда,
„Што сьлёзы ліюць:
„Як толькі ёй сумна,
„Дык песьні складае,
„А ў пушчы за Нёмнам
„У трубы гудуць...
„І трубы склікаюць
„Гурткі баявыя,
„Паўстанцы за волю
„На пана ідуць.

„А здарыцца бойка,
„Хай сэрца ня ные,
„Хай сьпевы, як трубы,
„Па пушчы гудуць“.

Сьпявала вось так лясьнічанка
На тым-жа сваім астраўку,
Чакаючы некага зранку,
Хто-б з весткай прыплыў праз раку.

Дзяўчыніна сэрца, як пушча,
Жыве патаемным жыцьцём.
Ей сінія вочы ня сплюшчыць,
У марах ня спаць забыцьцём!

Час важны усклаў на дзяўчыну
Адказных ня мала турбот:
Наднёмнаву звольніць краіну
Унукам прыйшоў карагод.

Ды добра сябе адчувае
Галена ў сваёй грамадзе:
Тут кожны душу пашырае
У думках, у працы, ў бядзе...

А бацька! Стары маладзее,
Як моладзі сыпне гурток.
Для іх ён супроць ліхадзеяў
Аддаў свой прытульны куток.

„Хіба мяне пушча ня знае?
„Ці стрэльбай ня здольны крутнуць“?
Стары між хлапцоў разважае,
Каб моладзі спрытнасьць крануць.

І Стась перавозіў праз Нёман
Паўстанчаскіх тых арлянят,
І чуўся стрыманы тут гоман,
І шэптаў згавораных лад.

* *

Дзень сходзіць. Ад рэчкі сьвяжэе.
Над бельлю забухала вып.
Паветра павольна ціш эе.
Схілілася хмарка, як грыб.

З-за Нёмну няма веставога...
Дзе Стасік? Галена глядзіць.
Чаканьне ў вачох і трывога,
Аж не, такі нехта стаіць!

Гэй, Стаська! Ды хлопча сам бачыць
Чаўнок ужо гладзіць ваду.
А хлопец за рэчкай маячыць,
Абходзячы дрэў чараду.

Галена насустрач: „Як справы?
„Ніхто не папаўся на лоў?“
—„Чакаюць утрох там расправы:
„Двох з нашых,—а трэці з паноў“.

—„З паноў?“—„Так, гусарскі паручнік:
„Ў палкоўніка стрэльнуў за нас“...
Галеніна сэрца у клюшні
Заціснула неяк ураз.

І вобраз, ўсё болей прыемны,
Жывы прад Галенай стаяў,
Ў плашчы сваім шэра-таемным,
Як ночкай тагды ён зьнікаў.

У думках прабегла няўхільна:
„Сьпяшацца, ісьці ратаваць!
„Даць ведаць Тарасу ўсё пільна,
„Ўсе сілы туды згуртаваць!“

—„Ты, Янка, бяжы да Тараса:
„Скажы, каб зьбіраў малайцоў,
„А я, ня губляючы часу,
„Як золак іду да паноў“.

—„Да замку?“—„Так, выглядзець трэба,
„Дзе вязьні пакуль-што сядзяць,
„Якая ў настроях там глеба,
„Каб дарма людзей ня губляць“!

— „Ну, пойдзем, пакуль-што, да хаты:
„Табе павячэраць ня грэх.
„У хаце парадзіць нам тата,
„Каб меўся у справе пасьпех“!..

Назаўтра у Шчорсах дзяўчына:
Прыборшчыцай трапіла ў двор.
Абходзіць паветкі, адрыны,
З тым, з гэтым вядзе разгавор.

Прыгожасьць сваю прыхавала.
Ды ўсё-ж ненарокам жаўнер
Кране, як вайсковы... Спыняла
Галена разьвязнасьць манер.

Патрошку дайшла да палацу,
Дазналась, дзе вязьні сядзяць.
Сачыць, ня кідаючы працы,
Каб вязьням тым знак як падаць.

Баб некалькі разам з Галенай
Да ладу прыводзяць гарод.
Вось сьпевам працягла-даўжэнным
Даюць сярод працы чарод.

Стаіць пад вакном вартаўнічы,—
Дык знача за гэтым вакном
Сядзіць той гэрой ваяўнічы,
Што тут перажыў пералом.

Ржэвуцкі пачуў тыя сьпевы.
У смутку да шкла падышоў,
Зірнуў на ставок, што скрозь дрэвы
Залёты з праменьнямі вёў.

Зірнуў на прысады, на волю
Блакітных, ледзь хмарных нябёс...
Ды нехта, як рэзнуў пра долю,
Пра хутка надходзячы лёс.

Чакай-ка! хто хусткай махае?
Раз... два... Аа! Чырвоны сыгнал!
Чакай-ка! Ці-ж твар ён прызнае?
Няўжо!—Так, ён воблік пазнаў!

Так, вочы, зноў тыя, зноў вочы!
З душы вас цяпер не пазбыць:
Праз вас адчыніўся ён ноччу,
Іначай надумаўся жыць!

„Рабіць што?—Аб чым тыя знакі?
„Цяпер уцякаць? Не, чакаць!
„Заб'юць яго зараз сабакі,
„Ды брыдка, так сьмерць атрымаць.

„Што думаць? Ды знакі спынілі,
„Ды стукнуў жаўнер: адыйдзі!
„Суровы! Душы ня ўзбудзілі:
„Пільнуй, несьвядомец, глядзі!

„Спаўняй, папрывычцы, загады
„Начальнікаў панства... пакуль!
„А зьведай: дзе брацьці, дзе гады,—
„Ты знойдзеш кірунак для куль"!

## ПЕСЬНЯ 6-ая.

За днём клапатлівай надзеі,
Трывожных чаканьняў, панук,
Ноч ціха спыніла ўсе дзеі,
Але не пазбавіла мук...

Так цяжка, так сумна Вацлаву...
Што зранку чакае яго?
Загіне, ня ўбачыўшы Млавы,
Дзён першых кутка сваяго!

Загіне! Рассыплецца ў порах
Увесь ён; вось гэта рука,
І косткі, і вочы, каторых
Кранула сьляза бедняка.

Рассыплецца, так! Але нешта
Нібы астанецца тут жыць,
Мо' болей каштоўная рэшта
Што будзе з жывымі лучыць:

То думкі, то шчырыя словы.
На сэрцы яны прарастуць,
І ў формах ўсё новых, ды новых
Ў кім-небудзь ізноў ажывуць!

Ня трэба залішняе славы,—
Жыў брацкі і братам памры!
Успомніць хто-небудзь Вацлава,
За праўду як згас без пары...

О, праўда! Калі запануеш
Адна ты на кулі зямной?
Няўжо-ж ты яе абмінуеш,
Ўзьляціш да плянэты другой!

* *
*

Чу! Крокі цяжкія па залі.
Астрогі і шаблі зьвіняць.
Ўстаў Вацлаў, каб вочы спаткалі
Таго, хто зноў хоча пытаць.
— „Што трэба?"
— „Ад пана нічога!"
— „Пакіньце!"
— „Ня можна: для пана дарога
„Ўжо хутка—Палкоўнік..."
— „Вы гуку пустога
„Ня траціце дарэмна!
„Увесь гэты слоўнік:
„Паручнік, капітан, палкоўнік,—
„Нішто для Вацлава!"
— „То надта прыемна!
„Паручнік даўно анархісты?
„Ха-ха! А можа ідэй комуністых
„Ржэвуцкі ад хлопаў набраўся?
„То мушу зазначыць: дарэмна
„Ржэвуцкі у гэтым стараўся!
„Яму не пасобяць ідэі!"
— „На вашыя словы, зладзеі,
„Ня я адкажу,—пачакайце!
„Надыйдзе той час абурэньня,
„Хоць лайце вы нас, хоць ня лайце!
„Захоча народ вызваленьня,
„І вашая гніль-пакаленьне
„Адыйдзе у цемру скляпеньня.
„Балюйце пакуль-што, іграйце!"
—„Ржэвуцкі—прарок мітынговы!
— „Якія гарачыя словы!

„Ха-ха! Але зраньня шлях новы!
„Суд будзе ня надта суровы:
„Ухваляць—раз, два, і гатова!“
Зноў крокі цяжкія па залі,
Зноў новыя шаблі зьвіняць:
Ня ўсе яшчэ зьдзекам пыталі!
Ржэвуцкі паставіў: маўчаць!

* * *

„Раз-раз!“ прасякаючы вушы
Пальнула па садзе агнём.
„Раз-раз!“ зноў паветра хтось суша,
Гарачым праводзіць вуглём...

— „Панове! Трывога, панове!“
Пайшло па палацы гуляць.
І раптам каманда на мове,
Якой тут ці мусіў чакаць!

— „Бі лямпы! Бяжы, хто пад вартай!
„Бяжы ў цемнату на стаўкі!“
Р-раз-раз! Зноў пальнула упарта
Агнём ад умелай рукі...

Ржэвуцкага голаў плыў кругам.
Ён рынуўся ў цемру на стрэл,
Да тых, хто стаў родным і другам,
Скрозь шэраг напужаных цел.

— „Стой, здраднік!“ Ды Вацлаў ня струсіў,
Як дзік той між гончых сабак,
Шлях вольным зрабіць ён прымусіў,
Расьсекшы кагось аб вушак.

І дзікам прабег ён скрозь залі,
Туды, дзе чуваў галасы.
Яго там, здаецца, гукалі
Уховы начной паласы...

— „За мною, сюды пад прысады!“
Яго хтось схапіў за руку.
А там страляніна йшла ззаду,
Біў шрот па жалезным таку...

Прабеглі стаўкі, дзе калісьці
Трымалі паны лебядзей.
На ліпах страсалася лісьце,
Як-бы з нечаканых падзей.

Прабеглі і двор.—„Адпачынем“,
Сказаў спадарожнік яго:
„Ваколіцы вокам акінем,
„Каб тут не чакала чаго!“

Прыселі пад дрэва, на ўзгорку.
Хлапец па краюсе дастаў.
Вёў ветрык начную гаворку,
З-пад лесу да іх набягаў.

Вацлаў, чыркануўшы машынку,
На момант іх твар асьвятліў,
І гэтай, як промень, хвілінкай,
Сябе як маланкай спаліў!

Прад ім асьвятліліся вочы
Тых добра знаёмых глыбінь;
Агоньчык трывалы, дзявочы,
Як вугля гаручага сінь...

— „Галена,—то вы! О, Галена!
,,Так вось хто мяне вызваляў!“
І Вацлаў прыпаў на калены
І раз у жыцьці зарыдаў...

Ён чуў, як лажыліся рукі
На голаў, каб сьлёзы сьцішыць,
І голасу ветлага гукі
Ніштo-б не змагло заглушыць!

—„Ну, годзе! Нам трэба сьпяшацца.
„Цяпер не палеце агню.
„Да лесу. Там зможам схавацца,
„А там і да хаты, да дню!“

Падняўся Ржэвуцкі. Пабеглі,
Кіруючысь проста на лес.
Здаваўся ён надта адлеглым,
Як брацъ праз лугі ў перарэз.

Дабеглі. Спыніліcь з аддышкай.
Кроў бегла па целу, як вар.
Над імі, скрозь хвойныя шышкі,
Гарэў ўсіх сузор'яў стажар.

Як водгульле, чуліся стрэлы
І топат далёкіх падкоў.
Але, калі двое, дык сьмела:
Ці ёсьць лепш за пушчу ахоў!

Шоў лесам Вацлаў за дзяўчынай,
І пушчу ён нёс у душы.
Усё зблытаў: гусараў, айчыну,
І здані таемнай глушы...

Галена! Ня дужа так лёгка
Стаць сябрам яе характва!
Відаць, яе воля ня крохка,
Ня з тых, што спадзе, як ліства.

Што ён, афіцэр, для Галены?
Пан Вацлаў, яе заслужы!
Змаганьню аддайся сумленна,
І шчырасьць у ім пакажы!

—„Аддамся! Ды сам-жа з сялянаў!
„Граф Шэцкі... палкоўнік... а я?
„Што я для вяльможнага стану?
„Ня з імі айчына мая!".

ПЕСЬНЯ 7-я.

Тэй ночкай ня спаў астравочак:
Сваіх і гасьцей спатыкаў.
Што раз лесавы аганёчак
З чаўном Стасюка выгукаў.

Паляк пераехаў з Галенай,
Ды з пару за імі стральцоў.
Нарэшце, у смутку страшэнным,
Сустрэлі яшчэ малайцоў:

У хату нясьлі атамана.
Быў ціхім, бяскроўным Тарас.
Затое крывавая рана
Лягла, як чырвоны кутас.

—„Сюды, во сюды! Асьцярожна!"
Тарас, як скрозь сон, застагнаў,
І сьціхла гаворка, і кожны
У смутку трывожным чакаў...

Галена падбегла да ложка,
Паклала руку на руку,—
Тарасавы вочы патрошку
Жывіць пачыналі шчаку.

Павольна яны расчыніліся
І раптам як крыкнулі: жыць!
Вільготныя хвалькі каціліся,
А вусны прамовілі: „піць!"

—„Галена!" Ці гэта здалося,
Ці праўда яе ён гукнуў?
—„Пабачыць... як вас... давялося"—
Сказаў, і з усьмешкай заснуў...

Стары лесавік гаспадарыць:
Павыслаў з пакою усіх,
Вакно адчыніў, а сам варыць
Прымочку для ран тых благіх.

—„Як ранены?" хлопцаў пытае.
—„Ды шабляй гусар разануў.
„Вось выпала доля благая.—
„Лепш з нас бы дзесятак паснуў!"

Так хлопцы шкадуюць Тараса:
Нялёгка яго замяніць!
А трэба атаман адразу,
Бо ўжо барацьбы ня спыніць.

І хлопцы пад хаткай у садзе
Размову праводзяць цішком.
Здаецца, і Нёман штось радзіць,
І ветрык, што бег лазьнячком...

Галена хлапцоў сьсябравала
З Вацлавам. Віншуюць яго.
—„Шкада, што вось гэтакіх мала,
„А болей тут панства таго!"

—„Нішто! Між жаўнераў даволі,
„Што ўжо зразумелі і нас,
„Што шляхам тым самым да волі
„Нам разам ісьці ў гэты час"...

Вацлаў да Галены: „Як можна!
„Пашто нас спасаў атаман?
„Ці-ж варты усе мы і кожны
„Вось гэтых расчыненых ран?"

—„Ржэвуцкі, што зробіш? Бо трэба,
„Інакшым ня быў-бы Тарас.
„Для справы то добрая глеба,
„Як прыклад для іх і для нас".

— „Для іх?" запытаўся пан Вацлаў
— „Для ворагаў нашых, паноў:
„Хай бачаць, што іншых няма слоў,
„Што кожны зрабіць так гатоў".

Пайшлі яны садам над рэчкай.
Гукала дзесь птушка-бугай.
Пахнуў на іх вецер парэчкай,
І пушчы прыслухаўся край...

— „Што-ж, з войскам я досыць знаёмы,
„З лясамі спазнаюсь цяпер.
Наладзім там новыя громы:
„Цікава бадзяцца, як зьвер!"

— „Ржэвуцкі, я бачу, што многа
„У вас яшче панства жыве.
„Няяснага досыць, благога
„Гнязьдзіцца у вас ў галаве!"

— „Гнязьдзіцца? Што-ж, вашае права,
Галена, мяне скіраваць—
„Паручніка родам з-за Млавы...
„З кім лёс свой я мушу зьвязаць?

Галена ў адказе: „З народам“!
— „З якім-жа? З тутэйшім? Сваім?
— „З працоўным. Яго ўсім выгодам
„Служэце і дбайце аб ім“.

— „Каб з зьвера ляснога стаць свойскім,
„То трэба ня дзень і ня два.
„Гусарам я ўчора быў польскім,
„Дык сёньня йшчэ сьпіць галава!“

Абодвы над Нёмнам стаялі.
З-пад зорак той, як уцякаў;
Каўзаліся цёмныя хвалі,
А з лесу хтось нібы ґукаў...

— „Вы чулі?“ „Так. Ціха, чакайце!“
— „Эй, хлопцы, азбройся хутчэй!“
— „То нашая варта!“—„Цякайце!“
Дайшоў ужо голас грамчэй...

* * *

І раптам загуў той куточак.
— „На чоўны! на бераг! у лес!“
О, мала, як гэтая, ночак
Тут кожны з людзей перанёс!

Ўжо чулася блізка пагоня.
— „Мы зброю у човен, ды—так!
„Во, чуеце, топаюць коні...
„А як-жа з Тарасам? Ён як?“

Тараса цягнуць немагчыма.
Ўсё роўна загіне Тарас...
І хлопцы з сьлязнымі вачыма
Ўсе жычуць апошні той раз...

— „Вы з намі, Галена, на бераг?“
— „Канешне, ня з вамі, Вацлаў!
„Вы мусіце весьці наш шэраг“...
Ржэвуцкі, як слуп той, стаяў.

— „Галена!—„Ну, годзе! Вядзеце!“
Яна працягнула руку:
„Галену вось там памянеце!“
Мятнула яна за раку.

Сам Бронік таксама застаўся...
Цяпер тут было іх сам-трох.
(Нямы дзесь ад жаху хаваўся).
І смутак на сэрца налёг...

„Якое пытаньне! Ці-ж кінуць
„Тараса вось так аднаго?
„Не, лепш ёй тут разам загінуць“—
Вось думкі ля ложка яго.

Ўжо цяўкалі стрэльбы далёка...
„Ці-ж выйшлі хлапцы з паласы?“
Жаўцелі Тарасавы шчокі,
І пот пазьліпаў валасы...

Прад ім нахілілась Галена;
На грудзі, як камень налёг;
Бясьсільна спаўзла на калены,
Бяскроўных кранулася ног...

* * *

Выразны быў час разьвідненьня,
Калі надыйшлі груганы,
Гэроі крывавых здарэньняў,
Краін пад'ярэмных паны.

— „Дай чоўны!“ з-за рэчкі няслося,
Пад залпы бясстыжыя слоў!
Вядома, навальнік як просе!
— „Выходзь там!“ пачулася зноў.

І кулі наўкол загулялі,
Як градам пайшлі па лістох.
Жандары ізноў палявалі,
Пужалі ізноў пералог...

Пазьбілі, нарэшце, плацінкі
(На конях прыстаць не змаглі).
Па сьцежках пасеклі галінкі.
Атаку на хатку вялі...

Пад дрэвам стаяў палясоўшчык,
Як лось, што чакае сабак.
Маршчын засмуглеўшыя тоўшчы
І вочы спаткалі ваяк.

Ня ўсьпелі старога угледзець,
Як выпаліў ён па ваўкох,
Пасьпеўшы кагось папярэдзіць,
Зямлю таму выбіць з-пад ног.

„Паль!“ раптам раўнула каманда.
І лось заваліўся пад куст.
Па садзе рассыпалась банда.
Пайшло пагалосьсе і хруст...

Галена ў той міг ачуняла,
Як банда у хату вайшла.
Ўся полымем гневу шугала,
І як-жа прыгожа была!

Ваякі спыніліся на момант.
—„Хто гэты?“—„Ня рушце яго!“
—„Атаман бандыцкі!“ роў гоман.
—„Давай жанішка сваяго!“

—„Ня сьмей ты!“ і пхнула у грудзі,
„Хоць дайце яму вы сканаць!
„Зьвяры вы усе тут, ня людзі!“
Начальнік ёй крыкнуў: „маўчаць!“.

—„Я праўду вам сыпну у вочы!
„Страляйце, вось грудзі мае!
„Народ наш жыць з панствам ня хоча,
„І зьдзейсьніць ён думкі свае!

Той момант ускочыў атаман.
Сабраўся апошні ў ім дух,
Каб сам сваёй воляй, свой аман
Тут скончыць, свой скончыўшы рух.

—„Злавілі? Папаўся у рукі?
„Ды лжэце! Жывога ня ўзяць!
„Дык вось вам, падбаўлю дакукі!“
І раптам павязкі ляцяць...

Мундыры пазьбіліся ў дзьверы.
Стаяў перад імі Тарас,
Як сьмертная здань тых жаўнерам,
Крывёю сыходзіў і гас...

## ДАСКАЗАНЬНЕ.

Што далей? Ці выйдуць-жа песьні
Аб тым, як дзяўчыну ўзялі,
Як Нёман зірнуў ёй балесьне,
Як дрэвы усьлед загулі?

Ці трапяць-жа высказаць словы,
З якім адчуваньнем яна
Агледзела бацькавы кровы,
Дзяцінства і смутку паўна?

Як сэрца стрымалась Галены,
Таго ня учуе жандар,
Калі, скрозь крывавую пену,
Яшчэ адзін глянуў ёй твар!

Той твар быў бязмоўнага таты,
Што кут свой яшчэ вартаваў.
Ці бачылі гэта вы, каты?
Каб з вас хоць адзін ня стрываў!

А далей? Вязеньне і краты...
Ідуць пагалоскі наўкол:
Ці, кажуць, замучылі каты,
Ці што не схаваў частакол;

Што ёй уцячы давялося,
Вядома, ў паўстанчаскі стан;
Што там, дзе Галена, дык просе
Ратунку староста і пан.

Што песьні пасклалі паўстанцы,
А ў песьнях дзяўчына-гэрой,
А панства пазбавілі танцаў,
А крэсы напружылі строй.

Ды баюць пра той астравочак,
Дзе Бронік з Тарасам ляжаць:
Хлапцы пахавалі уночы,—
І ціха абодвы там сьпяць...

Паснулі і дрэвы і хатка.
Парэчка зьдзічэла саўсім.
Прырода заводзіць парадкі,
Пануе над месцам глухім.

А Нёман? А Нёман, як плача,
Сумуе бяз жартаў стары,
Крутне пад карчы, небарача,
І стогн адгукнецца ў бары...

На гэтым канчаюцца песьні.
Даруйце, браточкі, за іх.
І вы, першакветкі прадвесьня,
Сястрычкі куточкаў глухіх!

Даруйце за верш, за няскладзьдзе.
Ці-ж вершам ахопіш людзей,
Прасторы каб даць пагуляць дзе,
Прасторы для гэтых падзей!

Менск, 25/II—24/IV—24 г.

# Вандраваньне Васіля.

А. Сянкевіч.

I.

Ціхі летні вечар. Высока ўзьняўся месячык і аблівае срабрыстым сьветам хаткі з прытуліўшыміся хлявушкамі, высокія ліпы, якія стаяць, нібы прытаіўшыся, перад Тамашоваю хатаю, вузенькую вуліцу і карагод дзяўчат з хлопцамі на канцы вуліцы. Адгэтуль на ўсю вёску нясецца сьмех, рогат, маладыя жарты і песьні.

У хатах цёмна. Змораныя цяжкаю працаю сяляне ляглі адпачываць, каб досьвіту зноў падняцца. Толькі ў хаце Тамаша Каляды няма спакою. На вуліцу прарываюцца дзікія вокрыкі.

Паўгода назад сям'я Тамаша служыла прыкладам для ўсёй ваколіцы. Заўсёды ў гэтай хаце панавалі лад і згода, пакуль ня прышлося жаніць меншага сына Васіля.

У Тамаша зьявіліся дзьве нявесткі. Сьвякруха была больш прыхільнаю да старшай нявесткі, апроч гэтага, заставалася яшчэ і дачка на выданьні.

Поўная хата баб—дзе тут быць згодзе. У хаце завялася сварка. У гэтую ноч найбольш крычалі бабы.

Каб цябе крыжам выцягнула!

— Каб ты апруцянела!

— Падавецеся вы гэтымі пер'ямі!—крычала Ганул́я, жонка Васіля.

У сварку скора ўпляліся і мужчыны. Ад моцных слоў скора хваціліся за чупрыны. Старэйшы Антось схваціў таўкач і, каб Тамаш ня ўстрымаў яго, ён напэўна насадзіў-бы гуз малодшаму брату.

Таўкліся чуць не да раніцы, пакуль сон не змарыў і не пamірыў усіх.

А ўся сварка пачалася з-за фунта пер'яў. Сьвякруха падзяліла гэты фунт паміж старэйшаю нявесткаю і дачкою. Ганульцы нічога не засталося, бо яна прышла ў хату без пасагу.

Сварка ў хаце ня зводзілася. Сёньня сварыліся з-за пер'я, заўтра—з-за палойкі лёну альбо фунта воўны.

— Беднота наша—вось што не дае спакойнага жыцьця,—мармытаў у сівыя вусы стары Тамаш.

Часта абапёршыся на кульбаку з люлькаю і доўгім цыбуком у зубох раздумляў сівы дзед над тым, як-бы пазбыцца сваркі ў хаце.

— Нічога ня будзе: дзяліць трэба. Аддзялю Васіля з Ганул́яю, а Сымон няхай астаецца і даглядае мяне і старую. Ён спакайнейшы.

Ганул́я гэтак сама не давала спакою Васілю:

— Ці-ж я не працую, як і ўсе, устаю ранюсенька. І каровак на пашу выпушчу і на поле першая бягу...

Чаму-ж яны мяне абдзяляюць? Лён і палола, і рвала, і трапала разам з імі, а пражу і палотна сьвякруха для дачкі схавала.

— Чым-жа я горшая? Ці я-ж вінавата, што з беднай сям'і к табе прышла?

Аддзялемся, Васіль, аддзялемся, дарагенькі.

Цяжка было Васілю думаць аб дзяльбе. Гатовых грошай у гаспадарцы няма, зямлі ня так многа. Як тут будзеш жыць падзяліўшыся? Але й Ганулі жаль...

Нарэшце сваркі і таўканіна так абрыдлі Васілю, што раз у нядзелю прыстаў ён да бацькі.

— Дзялі, тата, а то яшчэ граху набярэшся, разам жывучы ў гэтай таўканіне,—казаў Васіль.

Збудаваў сабе Васіль хатку бяз сенцаў у пазавулачку, прыстроіў гуменца.

У восені, як толькі пазьбіралі ўсё з поля, пачалі дзяліцца.

І тут не абыйшлося бяз сварак і бойкі: сёньня з-за хамута, заўтра з-за аглоблі. Ня раз па вузенькай вуліцы Навасёлак раздаваўся дзікі крык і лемант. Самі не пагадзіліся. Прышлося клікаць пісара і старшыню і кончыць дзела судом.

Такая ўжо доля сялянская...

Цяжка жылося Васілю на дзьвюх дзесяцінках. Зямля пясчаная, да і тая раскідана ў дзевяці мясцох вузенькімі палоскамі. Працы процьма, а карысьці жаднай няма.

Ад бацькі Васіль дастаў адну кароўку і пару авечак, а коніка прыйшлося наймаць.

Крывавым потам заліваўся Васіль з Ганулькаю. Прышла восень. Трэба падатак плаціць. Падрахаваў Васіль сваё дабро: аддасі падатак—самому ня будзе чаго есьці. Ня з торбаю-жісьці? І застаўся Васіль нядоімшчыкам. Быў-бы конь, зімою-бы хоць што зарабіў на соль, на запалкі. А тут прышла вясна. За нядоімку ў Васіля кароўку апісалі. На вясну зьявілася на сьвет і малое. Новы рот—новы расход. Саўсім выбіўся з сіл Васіль. Часта, седзячы ў нядзелю з Гануляю, гадалі яны аб тым, як паправіць свой лёс.

— Ведаеш што, Ганулька? Чуў я, што ў Амэрыцы людзі шмат грошай зарабляюць. Вунь Янка Брыль што-месяц шле сваёй дзесятку-другую даляраў. Не паехаць-бы мне туды?

— А як-жа ты пакінеш мяне і дзіцё? Як-жа застануся без цябе, мой дарагі Васілёк!

Цяжка было Ганулі згадзіцца на разлуку. Але-ж і так далей жыць немагчыма. Згадзілася.

Пажагнаўся Васіль з сямейкаю.

Сьціснула яго сэрца, калі ён у апошні раз абняў сваю Ганулю.

— Глядзі-ж, не пайдзі сьцежкаю за Брыліхаю. Няхай помніць гэтая сьцерва, ня доўга ёй ашукваць свайго мужыка і на яго грошы баляваць з маладымі хлопцамі.

— Але-ж ты ня гэтакая... ты будзеш помніць толькі свайго Васіля.

Зборы былі нядоўгія. Знайшоўся агэнт, які і грошай пазычыў і граніцу абяцаў перавясьці.

З вялікаю трывогаю краў Васіль граніцу, але перайшоў без здарэньняў.

Нямеччына. Якась жудасна стала Васілю сярод гэтых чужых, незнаёмых людзей.

З якім страхам і зьдзіўленьнем глядзеў Васіль на высокія гмахі гарадоў, на электрычны трамвай, аўтомобілі і вуліцы поўныя руху. Апроч свайго маленькага павятовага гораду, Васілю дагэтуль нідзе не здаралася быць. Ня раз Васіля штурхалі пад бок і потым паказвалі на яго, як на якоесь дзіва пальцамі.

Васіль зразу адчуў сябе, як тая галінка, якую адламалі ад дрэва і кінулі ў бурлівую рэчку. І ён, як тая галінка, плыў у новае жыцьцё, бясьсільны, бязвольны.

Праз усю дарогу Васіль толькі марыў аб тым, як ён, знайшоўшы працу, пачне зарабляць даляры, як ён адбудуе ў Навасёлках новую хатку, прыкупіць дзесяціну-другую зямлі, завядзе скаціну і зажыве прыпяваючы з сваёю чарнавокаю Ганулькаю.

За гэтымі думкамі ён мала прымячаў аб тым, што тварылася навакол яго. Усіх эмігрантаў IV клясы зьмесьцілі ў самай ніжняй часьці параходу. Набілі іх тут, як селядцоў. Ехалі тут і грэкі, і галічане, і італьянцы. Шмат было беларусоў, найбольш з Піншчыны й Кобрыншчыны.

Не зварочваў Васіль увагі і на адносіны нямецкай каманды. А ў гэтых адносінах, асабліва к ехаўшым з царскай Расіі, адчувалася грубасьць, зьнявага. Прыкра стала на сэрцы Васілю, калі ён раз пачуў за сабою «русіша швайн». Моўчкі зносілі кпіны і зьнявагу эмігранты, уцякаўшыя ад царскай няволі. Недзе ім было шукаць абароны.

Мала зварочваў Васіль увагі і на бурлівае, страшэннае мора, якое кідала вялізарны параход, як тую трэску.

Толькі раз ноччу, калі параход чуць ня стаў сторча галавою, Васіль усхапіўся з пасьцелі і пачаў са спалоху хрысьціцца.

А магутны акіян раўў і шыраў горы вады. Вагромныя хвалі то ўздымаліся валам, то раскідваліся срабрыстымі йстужкамі.

Вось сталёваю сьцяною йдзе вал за валам, адзін другога вышэй, адзін другога магутней. Падымаецца ўвысь, зноў падае... перад вамі нібы расчыняецца глыбокая, глыбокая яма. Трэці... пяты... шосты... і вось з шумам і ровам ляціць магутны дзевяты вал.

Як турганецца аб сталёвую машыну, уздымае параход на самы грабень і зараз-жа кідае дзесь у бяздоньне.

Мора вады шуганула палубаю. Гора таму, хто хацеў-бы спрабаваць моц стыхіі.

Акіян грозна шуміць, раве. Трашчаць і скрыпяць шчоглы. Гойдаюцца з боку на бок сталы, людзі, снасьці.

Над высокімі хвалямі ўскаквае меч-рыба, навакол карабля снуюць акулы, кашалоты, якія-то паказваюць сьпіну, то зноў хаваюцца.

Не разьбярэш—дзе канчаецца неба і пачынаецца мора. Усё зьлілося, сьмятусілася.

Праз чатыры дні бушаваў акіян. Людзі аж пазелянелі ад морскай хваробы. Толькі Васіль яе не баяўся. Яго толькі на першы дзень знудзіла. Ён захацеў палячыцца ад морскай хваробы і выпіў чуць ня бутэльку ангельскай віскі.

Заміж хваробы Васіль праз усю дарогу меў воўчы апэтыт і дзівіўся, як гэта другія ня могуць дакрануцца да сьняданьня ці абеду.

Акіян заспакоіўся. Падарожнікі днём і вечарам выходзілі на палубу. Палуба, як і памяшканьне, была падзелена на чыстую і чорную палавіны. На першай маглі гуляць толькі падарожнікі першай і другой клясы.

Цёмнымі вечарамі на палубе чуўся ціхі сьмех і шэпт. Гэта некаторыя з жанок, што ехалі да сваіх мужыкоў, карысталі апошнія гадзіны волі...

Цэлых адзінаццаць дзён вандраваў карабель па акіяну. Аж абрыдла Васілю. За гэты доўгі час перадумаў ён усе свае думкі. Яму так заджадалася зноў бачыць зямлю! Але ня той новы сьвет, куды ён ехаў, а свае родныя Навасёлкі з маленькаю хаткаю, з гуменцам, з тою дзікаю йгрушаю, што расьце на прыгуменьні. Моцна сьціснулася яго сэрца, калі ён успамінаў аб сваёй Ганулі.—Не, яна не такая, як Брыліха, яна будзе чакаць свайго Васіля. А можа пашанцуе ў Амэрыцы, тады і яе вазьму да сябе.

Скора на небасхіле сталі зьяўляцца чайкі. Спачатку адна-другая. Далей цэлаю чарадою плывуць яны ў паветры за параходам.

Скора зямля, новы сьвет. Як ён сустрэне Васіля? Што дасьць ён яму?

На дванаццаты дзень к вечару наперадзе штосьць зачарнела. Спачатку, як добрая чорная кропка. Чым бліжэй—гэтая кропка большала, шырылася. Абыходзім маяк. Віднеюцца рысы берагу. Гэта яшчэ не матэрык. Гэта Эліс Айлянд—востраў пакуты і сьлёз для прыбываючых у новую зямлю. На беразе высока паднялася і пазірае на акіян „Статуя Свабоды“. Вось яна, краіна Колюмба.

## II.

Востраў Эліс Айлянд служыць карантынам для эмігрантаў „ніжэйшай“ працоўнай клясы. Падарожнікі „вышэйшай“ клясы абмінаюць гэты востраў пакуты і проста сходзяць на бераг. Васіль не належаў да гэтай клясы, і яго павялі ў каменны гмах карантыну. Як у турме, за ім зачыніліся дзьверы, і ён апынуўся ў пакоі, вокны якога былі закаваны кратамі. Шмат было тут усякага народу; былі і такія, якіх зварочвалі назад да Эўропы. Прычыны былі розныя: у аднаго ня было знаёмага, які мог-бы паручыцца, другога знайшлі хворым, трэці зьявіўся політычна „небясьпечным“. Васіля разоў пару цягалі на дапрос. Гаварыў з ім тлумач ня то на польскай, ня то на чэскай мове. Надта зьдзівіла Васіля запытаньне аб тым, ці зьяўляецца ён анархістым альбо полігамістым. Ніколі ня чуў ён гэтых выразаў. А калі яму растлумачылі, што полігамісты гэта той, хто разам жыве з дзьвюма альбо трыма жонкамі, дык Васіль аж разрагатаўся.

Дзякуючы таму, што Васіль меў знаёмага Брыля, які жыў у Бронзьвілі, яго хутка выпусьцілі.

Пад'яжджалі к Нэў-Іорку ноччу. Дзіўным, як у тэй казцы, зьявіўся перад вачыма Васіля гэты новы Бабілён.

Пабудованы на каменнай высьпе, ён цягнуўся ўверх сваімі пяцёхдзесяцёх-павярховымі гмахамі-небаскробамі. Увесь ён ад верху да нізу быў заліты электрычным сьвятлом. Яшчэ больш зьдзівіла Васіля, калі Брыль сказаў яму, што да Бронзьвіля ім прыдзецца ехаць падземнаю машынаю, што гэта машына йдзе спачатку пад вадою, потым пад усім горадам Бруклінгам і выходзіць аж на канцы Бронзьвіля.

Тунэль, па якому ходзіць падземная машына,—расказваў Брыль Васілю, прабівалі гэтакія-ж гарапашнікі - эмігранты, як і я з табою. Многа поту пралілі яны тут, ды гавораць, былі і чалавечыя афяры.

У Васіля ад усяго, што ён бачыў і перажываў, аж галава закружылася.

Брыль прывёў Васіля да свайго дому. Гэты дом арандаваў якісь галіцыянін, а жонка яго трымала больш дваццацёх бордэраў (кватарантаў). У пакоях, ня можна сказаць, каб было чыста. Падлога нямытая, бялізна

на пасьцелі брудная. На сталох Васіль заўважыў пустыя бутэлькі ад выпітага піва. Гарэлка й піва, як заўважыў Васіль, наагул была тут у модзе. І калі ён, выпіўшы чарку, далей пачаў адмаўляцца, яму сказалі:

— Ты, мусіць, не з Расіі прыехаў, калі так мала п'еш.

— Ён яшчэ грынгорн (зялёны),—казалі другія,—пажыве з намі—навучыцца.

Места Бронзьвіль спадабалася Васілю. Яно мала чым розьнілася ад гарадоў Беларусі. Насельнасьць яго ў большай часьці жыды і беларусы; праўдзівага амэрыканца, як той казаў, і з сьвечкаю ня знойдзеш. Кругом ён чуў сваю беларускую альбо жыдоўскую мову. Нават паліцыянты і тыя гаварылі больш парасійску.

У адным гумарыстычным журнале якісь штукар намаляваў такі абразок.—У Бронзьвілі зьявіўся амэрыканец. На гэтае зьявішча пачалі зьбягацца дзеці, таргоўкі, кінуўшы свае прылаўкі, мясьнік, вандруючыя па Бронзьвілю козы. Пад малюнкам красаваўся надпіс „Сэнсацыя".

Адно было кепска. Васіль ня мог знайсьці працы. Злучаныя Станы перажывалі ў той час цяжкі прамысловы крызіс. Па ўсёй краіне лічылася пяць мільёнаў беспрацоўных. Галодныя, халодныя сланяліся яны ад месца да месца, ніадкуль не атрымліваючы жаднай дапамогі. У некаторых гарадох адбываліся дэманстрацыі беспрацоўных. Якісь дзівак пачаў гуртаваць армію беспрацоўных, каб вясьці яе ў Вашынгтон і запатрабаваць там хлеба і працы. Організацыя дабрачыннасьці, на чале якой стаяла ўсім вядомая „армія спасеньня", раз у дзень выдавала беспрацоўным міску якойсь бурды, якую называлі „кава і маленькі кавалачак хлеба". Перад ядальняю што-дня стаялі даўжэразныя хвасты. Ня раз можна было заўважыць, як той ці другі з няшчасных, самлеўшы ад голаду і холаду, тут-жа падаў.

І ўсё гэта рабілася ў той час, калі ў магазынах і крамах усё ламалася ад тавараў і хлеба, калі па Нэў-Ёрку снавалі тысячы самаходаў, калі таўстыя пузатыя насельнікі Нэў-Ёрку, праўдзівей кажучы, яго часткі, аддыхалі ў Мэтраполітан-Опэры, слухаючы Карузо, Шаляпіна і іншых мастакоў. У гэты час беспрацоўя, голаду і нуды ў аднэй з Нэў-Ёркскіх газэт быў зьмешчан эпізод з жыцьця каралёў золата. У аднэй мільярдэршы Нэў-Ёрку захварэў сабачка. Мясцовыя лекары не маглі даць рады. І вось ёй нараілі вэтэрынара, які жыў у Каліфорніі. Залатая каралева наняла цэлы экстраны цягнік і павязла ў Каліфорнію лячыць сабачку.

Не вязло Васілю ў падшуканьні працы. Часта блукаючы па горадзе, ён праходзіў па жыдоўскіх і італьлянскіх „гэтто". Жылося тут людзям, як у пекле. Зьверху грукатаў паветраны трамвай. Паветраны мост, які праходзіў па-над дамамі і вуліцамі, засланяў ад людзей сонца. Усюды бруд, галота, кучы абарваных засмугленых людзей. Будынкі аблезлыя, задымленыя. На дварох гуляюць абадраныя, абшарпаныя дзеці. Вось ён Нэў-Ёрк—горад золата, адлітага з згусткаў крыві працоўных, горад, у якім адзін з дванаццацёх жыхароў зьяўляюцца паўпэрамі. Офіцыяльная статыстыка паказвае, што кожны дванаццаты з уміраючых хаваецца за кошт дзяржавы, бо родныя на пахаваньне ня маюць сродкаў.

Што-дня раненька выходзіў Васіль з дому і бегаў па фабрыках, каб дастаць працу. Выходзіў ён і а шостай і а чацьвертай гадзіне зрана. І калі-б ня прышоў Васіль, перад варотамі фабрыкі ён знаходзіў доўгі хвост беспрацоўных. Станавіўся Васіль у чаргу і чакаў. Чакалі доўга —дзьве-тры гадзіны. Млелі ногі, было холадна. Трывалі, бо працу дастаць трэба—ня ўміраць-жа з голаду.

Гудок. Чарадою йдуць рабочыя.

— Якія яны шчасьліўцы,—думалася Васілю.

І ён, як і рэшта чакаючых, стаяў, упёршыся вачыма ў браму. Прайшло ячшэ з паўгадзіны.

Вось паказаўся тоўсты дзябёлы загадчык канторы. Абглядзеў усіх, як тое быдла.

У Васіля сэрца калацілася.- Авось на мяне кіне вокам. Загадчык падышоў к аднаму, к другому, памацаў мускулы. І нарэшце вызваў трох чалавек. У гэтую тройку шчасьлівых не папаў Васіль, і з панураю галавою ціха пашыбаваў да хаты.

Адзін раз задумны, расчарованы Васіль ня прымеціў, як зайшоў у верхнюю частку гораду.

Тут перад яго вачыма паўсталі цудныя, пекныя асабнякі і віллы. На вуліцы чыста, як у тым пакоі. Ні груку, ні шуму. Вось прабегла куча дзетак—усе яны выглядалі, як тыя кветкі, здаровыя, вясёлыя. Ды і ўвесь народ выглядаў тут як-бы з другой плянэты. У багатым убраньні, сытыя, жыцьцярадасныя. Яны, мусіць, ніколі ня бачылі тэй пакуты, тэй нэндзы, якая пануе ў ніжняй частцы гораду, а калі й бачылі, то праходзілі міма.

Моцна задуманы йшоў Васіль да дому. У яго галаве не магло зьмясьціцца, як гэта мажліва, каб адны людзі купаліся ў раскошы, а другія тут-жа побач дохлі з голаду. Ніяк ён гэтага ня мог сабе растлумачыць. Яго думкі перабіў голас.

— Здароў, рускі! Што, працу шукаеш?

— Але-ж,—адказаў,—вось ужо два тыдні хацеў, ды ніяк не магу ніга знайсьці.

Незнаёмы быў добра ўбраны. Васіль лічыў яго за амэрыканца і быў зьдзіўлены, пачуўшы ад яго расійскую мову.

— Хочаш ехаць у другі горад, то атрымаеш джоб (працу).

— З ахвотаю,—адказаў Васіль.

Васіль паехаў-бы ня толькі ў другі горад, а паехаў-бы ў самае пекла, каб толькі дастаць працу. Незнаёмы павёў Васіля ў кантору.

*(Працяг будзе).*

## З „сініх этюдаў“.

*(З украінскага).*

**М. Хвілёвы.**

### І. ЮРКА.

I

У Данеччыне завод.

Уночы над заводам цёмна, і недасяжна думае неба.

Праліваецца на неба золата залатога шлаку—тады ў пасёлку сьніцца.

На ночнай зьмене былі: Астап, Юрка. Юрка: горы Юры (у Швэйцар'і), юрта, за юртаю тайга—холадна ў сьнягох: бары, бары і няма ім краю,—(гэта—я).

Быў Перакоп, а пасьля Перакопу Юрка сказў:—Або ў завод, або за кардон—рэволюцыю рабіць.

Паслалі ў завод.

Уночы над заводам мабыць прайходзяць хмары; калі з паўночы—адходзяць да мора, калі з усходу—на запароскі стэп.

Цэх. Увайшлі. Позна.

Маўчліва шумелі машыны ў таемным напружаньні: зьнікалі постаці за машынамі: насілі жалеза. Пагасаючы, стаяў дух заводаўскае ночы, глыбокае, як мора каля японскага берагу.

Йшлі: Юрка, Астап—людзі аднальковыя, людзі розныя, (Прайходзілі дні—халодныя й цёплыя, блізкія далёкія... людзі аднальковыя, людзі розныя).

Над посёлкам цем, над заводам ноч. Што думае ноч?

Астап забіраў вялікія крокі, Юрка адставаў. Глядзеў на сажнёвую постаць Астапаву...

—Так, як пачнеш шукаць праўды, то, глядзі, й залезеш у крыўду. А чалавек я цёмны, хоць і пролетары. Ну, а Наталька хай ходзіць да вас, я нічога ня маю. Абы не ў шалапуты, ня люблю я іх: пасьвінячаму шукаюць праўды: багародзіц наробяць—адна распуста.

... Адчыніць дзьверы Наталька, трошка заспаная, цёплы кабечы дух ад яе. У яе ногі трошкі калясом і цыцкі, як у маладзенькае дзяўчыны—(гэта Юрка).

—...Быў я ў партызанах. Яшчэ з Махном хадзіў, а што да чаго—й дагэтуль ня ўцяміў. Гэтакая ўжо ўдача: як вып'ю пляшку, то й за ўласьць саветаў. Бальшавікоў падавай і квіта.

Юрку было абразьліва, а Астап казаў:

— Маё якое дзела: хто пабярэ—нас ці мала. А Наталька хай у ячэйку ходзіць, я нічога ня маю.

Балота засланіла ноч. Дзе балота? То—жабы. Калі ўвайшлі ў дзьверы, Наталька ў аднэй сарочцы сустрэла. Запытала:

— Таварыш Юрка! Што гэта такое—эмісія? А пасьля, што гэта такоё—дэвольвацыя?

— Ты лепш пасьцель пасьцялі,—гэта Астап.

А Наталька, сьцелючы пасьцель, ужо з сумам:

Мабыць доўга вучыцца нам: рэволюцыя наша, а словы—ня нашы.

... Разьдзяваліся, гутарылі.

... Увайшла, белаю плямаю стала збоку стала:

— Я забыла зачыніць вакно. Зачыні.

Моўчкі ўвайшла. Юрка думаў пра яе. Балелі плечы, балела сьпіна: цэлы дзень насіў рэйкі.

## II

Без рэволюцыі, калі няма творчасьці, жыцьцё цячэ нудна, аднастайна (або, або: дух творчасьці, дух руйнаваньня). Жыве ў пасёлку шмат людзей. Шмат з іх творць, шмат—так.

Ранкам, калі праляціць цьмянае адутлае сьвітаньне,—гудок. Адзін, два, тры. Наталька будзіць і гаспадара, і Юрку. Астап ідзе раней, Юрка— пасьля. (Пасьля): кідаецца ў дзьверы.

Наталька супыняе.

...— Што?

— Пачакай, я вам сьнеданьне загарну, усёроўна спазьніліся.

... А то падстаўляе да яго твару люстэрка.

— Пекны?

Ён ведае, што ўвесь твар у сажы. Яму ніякавата: 4 дні ляжаў не разьдзяваючыся. Ня ўмываўся.

— Эх, Наталя!

Ён уздыхнуў, але зачапіць яе не адважыўся. Пасьпяшае цераз сонны пасёлак. Паўз Торац водгалас, а далей водгалас у стэпу: жудліва глядзець на стэп, дзе мрэе лагчына. Наталька глядзіць сонна, так бывае нячаста, так глядзяць ня ўсе.

## III.

І ўсё-ж-такі Юрка звычайны чалавек, хоць і комуністы—(гэта не Амэрыка, але праўда, здаровая лёгіка). Ужо праклінаў завод,—важка, а калі прыходзіў дамоў, упарта думаў пра Натальку.

Цячэ жыцьцёвая рэчка аднастайна, глуха перагукваючыся ў асацэ: (зялёнае багавеньне ў навальніцу глыбака сядзіць у вадзе, і яму ня страшна)...

Ёсьць заводаўскі клюб. Наладзілі выстаўку—заводаўская моладзь. (Заводаўская моладзь у футбол і лаўн-тэніс іграе). Сёньня наладзілі гэткую—на дзіва.

Сам рабочы напісаў: і рай быў і пекла было. Казалі (як трэба) прамоўцы: адзін апавядач, а рэшта так, свае, заводаўскія.

Аднаму крычалі:

— Та ты, Яўхіме, хіба зьлезь, не крыміналь нашае фірмы.

Яўхім ня слухаў і ўсё-ж-такі дагаварыў. І ўсё-ж-такі закругліў: былі воплескі: закончыў „гуром“. Хтось стукнуў па халяве і з задаваленьнем адзначыў:

— Хоць свойскі, ды хітры...

Каб цябе дажджом змачыла!...

Астап, Юрка, Наталька—так сама на выставе. Астап так сама сказаў:

— Вось табе й рэволюцыя: і ня відна яе і відна яна. Як тая благадаць з неба: штосьць, дзесьць, а ў рукі ня возьмеш, мэрам вужака выскаўзьне.

Наталька сядзела поруч з Юркам. Яе цела краталася яго цела, і яму было добранька. І запытала Наталька:

— А чаму гэта так, што і капітал Маркса і „Нива“ Маркса: дырэктарша колісьці выпісвала.

Юрка сказаў Натальцы і зарадавалася яна:

— А я, вось, два дні думаю: як-жа гэта так, што і ў буржуяў быў Маркс і ў нас Маркс. Няўжо адурылі Леніна?

...Прышла маўчанка. Пасьля вячэры былі танцы. Юрка пазяхаў.

## IV.

Заводаўскі паркан выглядае мармуровым: сіверна, дымна, хмарна. Выйдзеш за вароты—жоўтая непарадкасьць ніў,—зазіраюць, адбягаюць назад.

...А гэта я:

Даўно гэта было, у моладасьці маладой, калі юнацкія званы юнацкасьць маладую званілі...

Га?... Гукалі, гукалі „кукушкі“, стукалі, стукалі, стукалі малаткі за брамаю, а назад няма звароту...

...Пасёлак затуліўся ў ралкі дзярэў,

Да заводу ходзяць праз чугунку,—дарожка гэткая, выбітая паўз Торац,—рэчку гэткую: фабрычна-заводаўская, хаваецца ў стэпах.

Хадзіў Юрка. А да Юркі прыхадзілі комітэтчыкі, сэкрэтары. Казалі, што ня гэтак лекцыі чытае, што час эпізодычных мінуў. Юрка згаджаўся, а дзесь на іcподзе свае душы пытаў: (—а вы адкуль ведаеце?). Пасяброўску пахлопвалі яго па сьпіне, а яму было чагосьці няпрыемна.Васпаваты, мулаваты, „тыпічны сур‘ёза“, але яны ўважалі сябе за сапраўдных прадстаўнікоў пролетарыяту.

,...І сказаў Астап з кутка:

— Усё гэта добра, а яшчэ было-бы лепш, калі-б хто з вас хоць паўпляшкі дастаў.

Старшыня фабзаўкому прыжмурыў вока:

— І сапраўды, хлопцы, ці ня выпіць-бы?

Юрка засупярэчыў. Тады падышлі ўсе, і сталі яго ўломваць.

Пі, да не прапівай розуму,—гэта сэкрэтар. І Наталька падышла:

— Да што гэта вы, Юрка! Няўжо мы запісаліся ў манахі? Хіба-ж такі Троцкі ня п‘е?

Ён хацеў сказаць, што ня п‘е, але падумаў, што яму ўсёроўна не павераць: „ён-жа з ім ня жыве“.

...Вышлі ў садок, гарэлі зоры, цяклі зорачныя патокі: аэролiты.

...Выпілі няшмат, больш ня было і закончылі. Гутарылі.

...—От цяпер і я скажу: падавай мне бальшавіцкую ўладу, а хочаш, та запісвай і ў самую ячэйку.

Наталька села каля Астапа:

— Што ў п‘янага на языку, то ў цьвярозага на думцы. Таварыш Юрка, запішы яго ў ячэйку.

Наталька казала шчыра, і яе твар быў сьветлы, як віновае паветра ўвосень,—раньнюю.

...Над заводам зноў думала неба—цёмнае, недасяжнае. Сэкрэтар сказаў:

— Плюю на ўсіх і на ўсё. Мая ўлада і баста!

Яго запыталі:

— А я?

— Ї твая.

— А я?

— Ї твая.

Наталька ўзяла Юрку за руку.

— Ї іхняя?

Усе паглядзелі і падумалі, а сэкрэтар сказаў:

— Гэта госьць.

А Астап п'яна і нагла засьмяяўся:

— Гэта той, як яго... як той мітынг быў... папутчык. Ха... ха...

Юрка спалахнуўся, а ўсе зарагаталі, а сэкрэтар пахваліў:

— Нічога, хоць папутчык, за тое дарагі,—і пацёпаў Юрку па сьпіне.

... Зоры зазорылі ўсё неба. Было ціха, а на чыгунцы сьвістаў паравік.

## V.

Сёньня вазіў рэйкі ваганеткаю Юрка—з вальковачнага цэху.

... Жалеза пяяла. На двары сьвітала, верашчалі малаткі. У гострых лезах тонкага ўпаду Юркавае ціхае спагады.

... Папутчык... так...

Перакладзіны, бятонныя кроквы і жалезныя, каменныя—мы. Мы—кароль зямлі. Мы той, што ў няпрытомна-рухаючым танцы машын кіруе агнявою электрычнаю вагою—непераможнаю, усясільнаю.

... „Отчэ наш, электрычнае сыстэмы веку, да будзе твая няўхільная воля там—на зямлі, як тут—у заводзе.“ (Глядзі маю поэму выд. Усеукрліткома, 1921 год).

... У вальковачным цэху кіпела штаўбаваньне загартованых кускоў. Па падлозе поўзалі вогненыя гадзюкі з дробным сьмехам. (Вы ведаеце Нью-Йорк? Вы ведаеце Капаўскі завод?).

... Папутчык... так...

Юрка адпачываў, Астап стаяў каля распаленае печы. У руках цяжкая сталёвая жардзіна... Скрозь шчыліны праточваліся вогненыя языкі, бушаваў белы пар з нагартованага катла. Стагнала—на надворнае паветра.

Астапавы мускулы жалезныя, пруткія. Ён крыкнуў:

— Э-эх!

Стукнуў (энэргічна) па зямлі жардзінаю і дадаў:

— Падавай! Падавай!

Падкацілася аднакалёска да печы, шчыльна прытулілася, як дзяціна да мацярынае спадніцы. Астап з сілаю адкінуў дзьверцы і ўсадзіў у печ жардзіну.

І быў белы дым, а ў ім казачны волат—Астап. Ён змагаўся з вагнём і зноў крыкнуў:

— Дзяржы!

Раптам палілася белая гушча, і бахнуўся нагатованы зьлёпак.

— Гата!

... Папутчык... так...

Юрка глядзеў на гэта не ўпяршыню.

Нудзіць пад сэрцам—так заўсёды.

Доўгія дні цэлага году, ціхая лютасьць, пруткая Астапава сіла. Падышоў.

— Запалім?

— Давайце!

Памаўчалі. Казаў Астап:

— Ну што-ж? Сказалі ў ячэйцы, што Наталька піла?

Паціснуў плячыма Юрка. Маўчалі...

Яны былі розныя людзі, людзі аднакавыя.

... Жалеза пяяла...

VI.

Людзі жылі ня толькі ў заводзе, а й за заводам. Людзі—не валы. Хадзіла Наталька, хадзіў і Астап „гуляць“. Юрка амаль не хадзіў.

(Я думаю аб канцы этюду. Як жылі іншыя—пра гэта ў другі раз).

... Міргацелі чэрвнёвыя зараніцы—ня зоры. Палаў краявід — за вечарам. Было душна. Заводаўская моладзь неадчэпна дамагалася, каб Юрка ім чытаў лекцыі. Ён казаў, што ня мае часу, а яны зноў прыходзілі і йзноў дамагаліся.

Астап пашоў у трактыр (зноў быў трактыр): прышлі а шостай гадзіне, з заводу.

У пакоі быў ён, Юрка і Наталька—чырвоная, гарэлі вочы. Падвяла вочы ад кніжкі.

— Добра...

— Вам падабаецца кніжка?

— Мне падабаецца кніжка.

Ён падумаў і ўзяў яе за руку.

— Добра?

Наталька празрыста паглядзела.

— Добра.

Ён каля яе сеў:

— Добра?

... Былі апошнія дні чэрвеня, пахучыя, у садку кудзеліў цьвет, ляцеў.

Зацьвіла мяцеліца—развой красы.

Трымаў яе руку, яна апусьціла вейкі.

Ён зразумеў і ў яго забілася сэрца.

... Мінула летняя мяцеліца, а ў кінематографе грала музыка — мяшчанскі матыў: сьветазмрок, будні, сум, як да рэволюцыі.

VII.

Перасыпаліся дні, перасыпаліся тыдні: у кошыку часу,—сінія ночы, далёкія зоры, ружовыя дарогі, бэзавыя ранкі.

І прышла нядзеля. Наталька сказала:

— Хадзем на бераг Тарца.

(Астап пашоў да фабзаўкому).

Юрка:

— Хадзем.

Сказаў прост?, было няпроста.

Пашлі акопаным месцам. Наталька сёньня надта вясёлая, сьмяялася і грудзі яе манліва кглыхаліся. Была, як і заўсёды, босая, а таму, праходзячы паўз калючкі, або крапіву, яна раз-у-раз голасна ўскрыквала. А калі яны ўзышлі на іржышча, Наталька села на зямлю і рашуча заявіла:

— Я далей не пайду.
Юрка сказаў:
— Хадзем, таварышка!
Наталька сказала:
— Не пайду, не пайду!
Ён знаў, чаго яна хоча і з незадаваленьнем кінуў:
— Я не Астап, у мяне бычае сілы няма.
Тады яна падхапіла:
— Астап! Астап! Астап!

Перад імі прамігнула сьцежка срэбна-лусковае рэчкі. Падбеглі да вярбы, што самотна на беразе Тарца стаяла. Сюды зайшоў дым Торацкага заводу.

Калі селі ў цяньку лапастае галінкі на пяску, Наталька са сьмехам расказвала, як яна маленькаю дзяўчынкаю хацела адзін раз купацца, да не пасьпела разьдзецца, як каля яе вырас дырэктараў сын.

— Цяпер, кажуць, за кардон уцёк. Ён хацеў са мною купацца, а я на яго наплявала: такі плюгавенькі ды паршывы.

Пасьля яна сышла ўніз к вадзе. Забулькала, паважна разглядала куст асакі.

... Каля Тарца сыра, а цень ад вярбы к захаду лапасьцейшая, гусьцейшая. За Тарцом шырокія маўчлівыя палі. Сонца імжыць золата на рэчку. Полем ідзе лёгкі смутак.

Юрка сеў каля Натальки, абняў яе аднэю рукою. Яна не гаварыла, яна глядзела ўніз. Ён узяў яе за грудзі—яна не гаварыла. Ён пацалаваў ёй шыю—яна не гаварыла...

Юрка азірнуўся назад—было шырокае поле і ўсё было відаць. Яны сядзелі цэлую гадзіну—так.

Яна не гаварыла.

Юрка думаў яе схіліць на зямлю.

Тагды на рэчку ўпала з усходу цяжкая сіняя цень—ішла ноч.

І сказала Наталька журбліва:

— Ось я ўжо й забыла. Ніяк не запамятаю эмісію і дэвольвацыю. З паўгадзіны думаю дзе тое, а дзе іншае! Думаю, думаю і ніяк не ўгадаю.

Тады Юрка раптоўна закруціўся, а Наталька паглядзела на яго зьдзіўлена.

Юрка сказаў:

— Пара дадому.

... Яна ледзьве яго дагнала.

## VIII.

Юрка пісаў да таварыша (заўтра)... „досі чую гарматы, досі бачу барыкады. Клянуся, што комуністы. Я ня вынесу гэтае цішы. Прыпусьцім, я не пашоў на завод. Ну? Я заведываў-бы райрыбаю. Ты разумееш—райрыбаю!!! А можа райсольлю? Ха! Чаму мяне ня пускаюць за кардон? Я наладзіўся зрабіць замах, хоць на самога Пуанкарэ. Я радзіўся для выбухаў... А на заводзе я таксама не магу,—тут трэба марудная праца, а я не магу. Я досі чую гарматы, а заведываць райрыбаю я таксама не магу“. Я...

Ён (Юрка) пісаў доўга, натхненна.

## IX.

Яшчэ была ноччу трывога: гулі гудкі—на заводзе пажар. Астап прышоў позна—толечкі лёг. Павярнуўся, разбудзіў Юрку:

— Пажар!

— Дзе?

— На заводзе.

Юрка сказаў:

— Я захварэў, я не пайду.

Астап пацягаўся, скардзіўся:

— Паставяць яго за інжынэра, а ён ні бэ-бэ. Вось і пажар.

Юрка не сьцярпеў:

— А вы мабыць і сёньня выпілі?

Ї адпавеў Астап нядбайна:

— Гэта наша дзела, заводаўскае.

Ї вышаў.

... Папутчык... так...

Наталька, як пашоў Астап, адразу захрапла.

## X.

Праз тыдзень быў суботнік: пасьля пажару прыбіралі. Пашлі на работу ўсе. Юрка не пашоў, яму гатавацца да лекцыі.

У пасёлку было ціха, толькі дзеці на вуліцах крычалі.

Юрка падышоў да Натальки:

— Наталя!—і голас яго задрыжэў.

Яна паглядзела на яго і пабляднела.

— Што табе?—і села на ложку.

Ї ён сеў.

— Я вам, як таварыш, як...

Яна паглядзела на Юрку,—яго гарэлі вочы, і яе спалохалі вочы.

Ён узяў яе галаў і моцна абняў.

Яна ціха гаварыла:

— У мяне яшчэ ня было дзяцей... Што вы кажаце?.. Я не хачу...

... На розе ў мяду гарэла ліпа,—прайшоў салодкі дух.

—... Што вы кажаце? А Астап?.. Не хачу.

## XI.

(Я супыніўся на найцікавейшым месцы. Праўда? Ї як вы думаеце, ці ня час мне плюнуць і пачаць новую новэльлю? Час, пэўна, час. Вось-жа, апошнія патугі).

## XII.

... Хтось закрычаў на вуліцы. Наталька наставіла вуха. Пасьля ўсхапілася.

— Некае няшчасьце.

Заводаўскія жанкі чуюць няшчасьце—сэрцам. Выскачыла.

... На розе ў мяду гарэла ліпа.

А пасьля ў пакой унясьлі Астапа й палажылі на ложак.

З крану сарвалася сталёвая храстовіна і перабіла Астапу правую нагу.

## 2. САЛОНСКІ ЛОГ.

### I.

Да слабажанскіх Млінкоў падышлі магутныя лясы Палтаўшчыны і за тры вярсты супыніліся.

Стаяць сьцяною, хмурацца. У гушчэрню дарожка праз папаратнік, паўз сьветла-зялёныя кусты, да Салонскага логу.

Салонскі лог: роў і сяло.

У сяле пахне дубовым маладняком, стаіць над ровам-сялом, а ніжэй у правалiны паплянталіся стройныя цёмныя явары, і толькі за дзесяць вярстоў вырынаюць, каб маўчліва адыйсьці на захад, на поўдзень.

Удзень над сялом спускаецца кавалак мацiцовых хмар, а ўночы хмары зьнікаюць за правальлем, тады Салонскі лог гарыць праменем— і лес, і сяло, і неба. Тады гарыць, чаруе папарацъ.

Салонскі лог—прыродная фортэца.

Салонскія вастрожнікі казалі:

— Ёсьць халодны лог, а гэта Салонскі лог... А то-ж...

А ў Млінкоўскай воласьці скардзіліся:

— І сукіны-ж сыны! Прахвосты! Ліха іх выдзера адтуль!

Чухалі патыліцы. Зьбіраліся на сход. Меркавалі. Яшчэ чухалі патыліцы.

— Якую тут практыку зрабіць? Га? Запятлілі, як той казаў...

...Калі прыходзіць ноч, Млінкі натужна ўзіраюцца ў цёмную сьцену палтаўскага лесу і чакаюць. Але невядома, у які хлеў заклыпаюць салонскія ваўкі. Толькі раніцою шуміць сяло.

Раніцою даведваюцца, каго абабралі „да цуркі“.

...Стаіць магутны дуб на паўдарозе да лесу, а перад ім шарэе ранешні шлях, ад ветракоў паварочвае на дзялянку маладняку.

...У нямытае вакно валаснога комітэту дарогі бадай ня відаць.

Саўка Гардзеенка—бязвусы, галава з гострым аблiччам—паглядзеў у вакно і падышоў да грамады.

— Ну, што? І сёньня абабралі каго?

— А як-жа: Мацея Яўхіменку.

Падышоў яшчэ адзін селянін і бездарадна разьвёў рукамі:

— Няйначай, як дывізію трэба сюды.

— Яму ўтораць.

У пакоі сьмярдзіць архіўнаю папераю, а пісарчукі пер'ямі рыпяць.

Саўка стукнуў сабе па лбу:

— Вось напасьць... Прыдзецца ваяваць.

Згадзіліся.

— Глядзеце, вам відней... А што напасьць—то праўда.

Але Саўкаў сусед папярэдзіў:

— Ты глядзі, Саўка, пяць прадсядацеляў зьбёдавалі, то... можа й цябе адправяць на той сьвет. Гэта, браце, табе ня фронт, не аўстрыяк галічанскі.

...А ў сяло з Салонскага логу вылазілі постацi і зьнікалі за платамі. І чутно было стуль пра Саўку:

— Такі яму лёс: дрэнным будзе—хай кіруе, а зачэпіць—выхаластаем...

...Над Салонскім логам растаў апошні промень, у лесе пачало цямнець. З поўначы паплыла хмара, таксама йшла на захад.

...Пахла дубовым маладняком.

II.

...„Прыказваю *як найхутчэй* вылавіць банду, што ў Салонскім логу. Атраду прысляць не магу, бо амаль ня ўсе людзі ў разьездах".

Гэтакі адносьнік ад павятовага вайсковага камісара.

Саўка падумаў: „сапраўды, пара".

Сабраў міліцыянэраў:

— Гайда!

Міліцыянэры—старыя партызаны, дух партызаншчыны глыбока сядзіць.

Руды міліцыянэр, старшыня, кажа:

— А што таго... можна будзе ў Саланіўцах самагону... Чуеш, Саўка?

Галава ня чуе, задумаўся. Думае ён, што яму рабіць: вастрожнікаў, звычайна, на сяле не застанеш, а саланчане сваіх ня выдадуць.

Хутка ўехалі ў лес. Коні наставілі вушы і прыслухоўваюцца да рэха, што гучна адыходзіць у гушчэрню ад стуку капытаў.

Глухія, стагоднія лясы Палтаўшчыны—і чагось тут журбаваць.

Настаражыліся кусты, трашчаць галінкі. Зрэдка коні рушаць убок, і тады шалясьціць лісьце на ўвесь лес.

Руды міліцыянэр палез за капшуком, а другою рукою параўняў каня з Саўкавым.

— Слухай, сябра, можа ня будам трывожыць іх, паладзім?

— Гэта каго? Саланчан?

— А вядома!

Саўка сказаў:

— Наказ ёсьць з павету. Нельга.

— Ага... Ну, то іншая рэч... А пасьля пагладзіў караваю рукою карасьлівую шыю свайго каня.

— Чуеш, Саўка! Кажуць з газэтак, што румынскі кароль сялянам свабоду прагаласіў?

— А табе што з таго?

— Ну як-жа-ж: усё-ткі свабоду...

Саўка сумліва пакатаў галавою:

— Мала табе свабоды!.. Пад кім ты сядзіш: пад каралём, ці не? Га?

— Вядома, што не.

— Тота-ж бо й ёсьць! Бандыты вы харошыя, як на вас паглядзіш.

Апошнія чацьвера міліцыянэраў пахкалі цыгаркамі і маўчліва азіралі гушчэчу. Сівы дым махоркі хмаркаю стаяў над атрадам, а пасьля палойкамі расходзіўся за гальлём, за зеленьню.

... Пад'яжджалі да Салонскага логу.

Дарожка вядзе проста ў сяло, а трэба заехаць з іншага боку.

Пусьцілі коней у гушчэчу,—і зашумеў, затрашчаў лес. Коньнікі паўгіналі голавы, а коні лёгка храплі і ўпарта прабіраліся на прагал.

Сонца ўжо даўно стаяла над лесам, але тут яго ня было.

Тут ніколі ня было сонца, а заўсёды стаяў цень.

... Парашылі: калі выедуць на прагал, пакіруюць на Галахвацкі край (гэта квартал у Салонскім логу). Вінтоўкі прыгатовіць, але без наказу галавы, не страляць.

Яшчэ прадзіраліся, і, нарэшце, скрозь гушчэчу праскаўзнулі палойкі сьвятла.

Нарэшце, ганцы выскачылі на гала.

... Забрахалі сабакі. Па раўку забегалі постаці.

— Стой! Куды бяжыш? Стой!

Галасы ганцоў мятушыліся ў зелені і з усіх канцоў адгуквалася рэха

Саўка крыкнуў:

— Страляй у паветра!

Бухнуў стрэл над Салонскім логам, і раптам сяло стала мёртвым:

Пад'ехалі да галахвацкіх будынкаў.

— Дома гаспадары?

Выходзілі бабы, перапалоханыя глядзелі на ганцоў, але распазнаўшы млінкоўскіх хлопцаў, усплясквалі рукамі.

— А, каб вам ні дна, ні вечка! Як-жа вы напалохалі. А мы падумалі—і сапраўды комуністыя наскочылі.

Саўка сурова паглядзеў і запытаў:

— Дзе ваш прадсядацель?

— Які прадсядацель?

— Да, бач, стараста!

— Так-бы вы й казалі... Марфа! а ну пазаві галаву!

Неўзабаве прышоў і галава.

Да яго:

— Дзе твае галахвастаўцы? З павету прышоў наказ заарыштаваць іх.

Усьміхаецца:

— Дзе-ж я іх вазьму... госпадзі! Лясы-ж гэткія, дзякуй табе, Мікола ўгоднік, не маленькія—ёсьць дзе схавацца.

А пасьля замаргаў падсьлепаватым вокам:

— Пачакай, Саўка, я мабыць пайду дастану чагосьць. Як-жа так: госьці прыехалі, трэба-ж усё-ткі падправіцца.

Саўка рашуча адсек:

— Ніякага гвазду! Выпаўняй, што патрабуюць.

Руды міліцыянэр нездаволена пачухаў патыліцу:

— Чуеш, Саўка, а барыш і не памяшаў-бы, дальбог!

Але млінкоўскі галава нічога ня слухаў. Вялеў сваім хлопцам выбіраць з галахвастаўскіх скрынь шмацьцё, а „старасту“ вялеў неўзабаве падаць падводу.

Загалёкалі, заскуглілі бабы: замятусіўся „стараста“. Зашумеў Салонскі лог. У кожнай хаце была адчынена скрыня і выбрана з яе адзежа на падводу.

А выяжджаючы, Саўка паабяцаў яшчэ й спаліць усё галахвастаўскае гняздо, калі вастрожнікі ня зьявяцца добрахвотна ў Млінкі. Хутка ганцы з падводаю зьніклі ў лесе, і да хатаў пасунуліся чалавечыя постаці. І доўга чуваць было пагрозны гоман у Салонскім логу.

III.

У Млінкох гаманіў кірмаш. Там-сям некалькі аселых, тутэйшых цыганят тузалі коней за хвасты і выгуквалі, як і дзьвесьце гадоў таму.

Бегалі, балбаталі гандляркі.

А каля блішчастых гор гаршчкоў стаялі паважна ганчары з Палтаўшчыны.

Саўка і руды міліцыянэр насілі па рынку лахмацьцё, што забралі ў Салонскім логу і выгуквалі:

— Людзі добрыя, пазнавайце сваё дабро!

Падыходзілі, лапалі адзежу,ківалі галовамі, але ніхто не рызыкаваў пазнаць сваё. У натаўп падала белае сонца і пахла сьлівамі і яблыкамі. Нясло яшчэ конскім потам, і мукалі карліва каровы.

... Да Саўкі падышоў нізенькі чалавек у падранай сьвітцы. Твар яго сьцягнула маршчынамі і здавалася, што ён плача.

Палапаў зялёную хустку, пагладзіў яе далікатна і ледзьве чутна прамовіў.

— Вядома, Дуньчына... Дунькі мае...

Але раптам кудысь зьнік: нырнуў у натаўп. Толькі каля „патрабілкі“ ён падышоў зноў да Саўкі і тоненька, нібы гарох рассыпаў, запытаў:

— А што, Саўка, ці ня чутно, яшчэ доўга вайна будзе?

А пасьля яшчэ памацаў зялёную хустку і ўздыхнуў пра сябе:

— Вядома, Дуньчына...

... Мэкаюць авечкі. Праз рынак прайшло стада і пыл схаваў сонца. Дзесь выкрыкваюць шчаціньнікі і бяжыць гул за выган, дзе стаяць забытыя панскія будынкі.

— Людзі добрыя, пазнавайце сваё дабро.

— Але ня бачыць Саўка, што за ім сачаць саланчане; зласьліва, хітра глядзяць на яго. А калі паварочваецца да іх, яны паказваюць яму сьпіну, а па сьпіне ліха яго пазнае.

Руды міліцыянэр паблісквае чырвоным носам, і ад яго далёка нясе самагонам. Яшчэ з гадзіну пахадзілі—ніхто не прызнае...

— Што за напасьць!

Пашлі ў валасны комітэт, злажылі саланчанскае шмацьцё каля шафы.

... У комітэце поўна народу. Зайшло некалькі чалавек у пакой прадсядацеля:

— Ня так вы робіце, Саўка, ня варта яго выносіць на рынак.

— Чаму гэта?

Падышоў да Саўкі Анішчэнка з комітэту незаможных, на вуха кажа:

— Тут яны?

— Хто гэта?

— Да саланчане, галавахвастаўцы.

Стукнуў сабе Саўка па патыліцы:

— Дык вунь яно, чаго ніхто не вызнае!

Паклікаў рудога міліцыянэра:

— Зараз зьбяры хлопцаў, трэба акружыць, галахвастаўцы тут.

Паківаў галавою руды:

— Дзе цяпер ты іх нойдзеш... Давайце лепш удвох.

Некалі Саўку дурыцца, схапіў вінтоўку і пабег. Ходзіць паміж ганчароў, як быццам-бы гаршкі паважна разглядае, а сам вокам устраміўся ў натаўп. Іграе сонца ў гаршках і весела выблісваюць горы ганчарскага дабра.

... А галахвастаўцы мабыць запрымецілі нешта нядобрае—да коней пашлі.

Нарэшце Саўка загледзеў іх. Кінуўся ў натаўп.

Але ўжо было позна: толькі пыл закурэў к ветракам, што на Палтаўскі лес.

— Гэй, трымай!

Саўка нацэліўся і выстраліў.

Галас! Галас! Галас!

Але галахвастаўскія коні зьніклі ўжо за ветракамі.

Кінуўся Саўка да воласьці, скочыў на кабылу, паклікаў рудога міліцыянэра і гайда за саланчанамі.

... Затрывожыўся рынак, ганчары завіхнуліся складваць гаршкі на вазы, цыганяты пацягнулі за хвасты коні, пакіравалі людзі да хаты.

Толькі шчаціньнікі паважна разглядалі свой тавар у скрынках і яшчэ зазывалі да сябе напалоханы народ.

Дзесь крычала перакупка:

— Куды ты пацягнуў, разбойнік! Людзі добрыя, дзяржэце злодзея!

IV.

... Цёмная наша бацькаўшчына. Разьбеглася па жоўтых кварталах чарназёму і сьлязіваю расою на шнурках сваіх залатых ніў. Блудзіць яна за ветракамі і ніяк ня знойдзе вясёлага шляху.

... Баліць наша мільённае сэрца і хочам мы запаліць ёй грудзі сваім комуністычным сяйвом... Цёмная наша бацькаўшчына...

... Намыленыя коні прыпыніліся на ўзьлесьсі. Сказаў Саўка:

— Уцяклі!

У рудога міліцыянэра ад шалёнага бегу нос быў як цыбуля. Уціраў хусткаю пот.

— Павернем хіба дадому, ці што?

— Не! Едам на Салонскі лог.

— Дык чаго-ж мы паедам?

— А таго, што трэба выглядзець, абрыдлі ўжо.

Руды казаў, што небясьпечна ўдвох у гэткае гняздо йсьці. Але Саўка быў упарты.

Паехалі.

За паўвярсты супыніліся, пазлазілі з коней і з гушчэчы аглядалі Салонскі лог. Саўка спадзяваўся, што каля двароў будзе мятусіна, але на вуліцах нікога ня відаць было: і лог, і лес, і сяло—усё хавалася ў зялёнай цішы.

Гэтак перабылі можа з дзьве гадзіны. Пасьля Саўка казаў пераехаць на другі край, што йшоў у дубняку, куды не дабіралася вока.

Калі паселі на коні, у лес зайшоў ужо вечар і зноў гостра пахла маладняком. Сарваўся заяц і залапатаў па лісьцях.

(... Цёмная наша бацькаўшчына, і цёмныя ў ёй лясы. Цягнуцца яны ў Палтаўшчыне маўчліва на захад, на поўдзень).

... Казаў міліцыянэр:

— А можа-б пагадзіліся... Чуеш, Саўка?

— Нельга ..

— А то, дальбог, барыш запілі-б...

Саўка ўстраміў вочы ў гушчэчу.

Сонца сышло за небасхіл, і ў лесе ўжо хадзіў цяжкі змрок.

Калі йзноў узьехалі на сьцежку, што вядзе на Млінкі, Саўка раптам хапіўся за вінтоўку. Але ў гэты момант—грымнуў стрэл і далёка пашло пагрознае рэха.

Коні рванулся і кінуліся з лесу.

Засьвістаў вецер.

Грымнуў яшчэ адзін стрэл і зашумеў лес ад тупу капытоў: за млінчанамі ляцела пагоня з галахвастаўцаў.

Руды міліцыянэр супыніў каня:

— Браткі, ня беце!

Але Саўка разумеў, што яму спагады ня будзе. Як няпрытомны гнаў ён сваю кабылу на Млінкі.

— Цок! Цок! Цок!

Сьвішча вецер у вушох.

Гнядая кабыла супынілася, цяжка сапе на дрэўцы... (няўжо дагоняць?).

... Сьвішча вецер.

... Нарэшце Саўка выскачыў у поле.

На захадзе прамянела неба. Дзесь гарэлі бур'яны пад вагнём палявога паветра. Поле гарэла бур'янамі.

Зноў грымнуў стрэл—то выскачыла на ўзьлесьсе шайка саланчан.

Саўчына кабыла праляцела яшчэ некалькі крокаў і гопнулася на землю.

Захрапла.

Саўка залёг за конскае тулава і пачаў адстрэльвацца.

Шайка супынілася.

Але то было на адзін момант: адразу-ж саланчане пашлі ў абход.

Тады Саўка ракам папоўз да Млінкоў.

Каля ветракоў ён выпусьціў апошнюю кулю і кінуўся да першае хаты.

Ускочыўшы ў двор, ён залез пад камору...

...Хутка ў дварэ былі і саланчане.

...Млінкі мэрам бы вымерлі, толькі сабакі заўзята брахалі па дварох.

Пачуўшы страляніну, млінчане пахаваліся па хатах, ня выходзілі.

Галахвастаўцы выцягнулі з хаты гаспадара:

— Кажы, дзе ён? Ты-ж бачыў, куды ён схаваўся?

— Дык я-ж дальбог... Сьвіснула чмелем у паветры нагайка.

Гаспадар заплакаў і падказаў на камору.

Зараўлі саланчане, абкружылі будынак.

— Гэй, ты! Чаго перапалохаўся—вылазь!

І накіравалі к каморы атразанкі.

...Саўка моўчкі вылез, паглядзеў навакол сябе і схіліў голаў.

Ліхамыснымі агнянкамі гарэлі ў галахвастаўцаў вочы.

Падышлі да Саўкі, маўчліва разьдзелі яго і голага павялі ў поле.

Ішоў Саўка па дарозе і тупа глядзеў на Палтаўскі лес.

...Млінкі маўчалі.

...За ветракамі галахвастаўцы супыніліся:

— Хлопцы! У каго гастрэйшы нож? Вымай!

...А пасьля двое адышлі ўбок, падышлі да хаты і падпалілі з двух канцоў.

...На далёкіх гонях гарэлі вагнём сухога паветру пахучыя бур'яны.

Падняўся вецер.

Зашумелі Млінкі.

Зазванілі ў разьбітыя званы.

Загаласавалі вуліцы.

— Ратуйце! Ратуйце!

...А глыбокаю ноччу са зьлізанага пажарам краю, пасунуліся натаўпы людзей да галахвастаўцаў.

... Таею-ж ноччу вялізарны промень пажару стаяў над Салонскім логам.

І зноў на далёкіх гонах гарэлі вагнём сухога паветра пахучыя бур'яны і гостра пахла дубовым маладняком.

## 3. ШЛЯХЕТНАЕ ГНЯЗДО.

Надзвычайнейшая баба, але яе завуць бабуляю, дзеда—дзязюляю. Бабулі—66, яна кадка для бялізны з жарам, ад яе сырая бялізна з попелам. Бацька дзядулін чумакаваў у Крым па соль, таму і ў дзядулі шырокія суворыя бровы навісьлі, чорныя, яму—70, а косы на галаве, як пух з трусіка для касторавага капелюха,—сівы, сівы.

Дзядуля патрыярх і цяпер: праўнучаты, унучаты, дзеці—усе разам, 60 дзесяцін не падзелена, 30 адабраў раўком, — гэта дык раўком, а пасьля прышоў выканком, а зямлі ўсё-ткі не вярнулі...

У дзядулі быў і сын,—яго Бубырац-незаможнік „згроб“, а пасьля Бубырца „зграблі“, і загінулі абодва. Дзядуля патрыярх, і сын быў-бы патрыярх, калі-б не 14 год: уцягнулі ў спажывецкае таварыства за скарбніка і хадзіў ужо ў зборню. А сынавы сыны ўжо ня тое: вынесьлі хату ў стэп—каля швэдзкіх магіл, і ўжо хацелі не 60,—а 260. У Харкаў у банк езьдзілі, каб дзядуля ня ведаў. Вось-вось нешта ў Папуцячым маёнтку,—Папуці—прозьвішча—вось-вось...

Кожны тыдзень адпраўлялі службу—у нядзелю, у нядзелю ўміраў тыдзень і нараджваўся другі. Тыдні ўміралі і тыдні йшлі. Камусьці бліжэй да сьмерці, а камусьці да нараджэньня. І гэтак вякі, калі яшчэ й Слабаджаншчыны ня было—доўга, доўга.

Тыдні былі галасьлівыя, крывавыя, буйныя. Андрэя—сынавага сына завабіў воўчы шкураўскі загон, а Васіль і... дагэтуль жыве дома. Есьць гэткія ў нас, і дагэтуль нікому ня служылі: ні нашым, ні вашым. І ня хітры лёс, кажуць. Вось і Васіль.

Уночы рассыпаюцца зоры і зьнікаюць у Папуцячым лесе—цяпер грамадзянскі. Дзядуля неяк ня мог звыкнуцца: як-то грамадзянскі? А яму забаранілі нават і ламачча зьбіраць без дазволу. Пасьля гэтага ён саўсім не разумеў: як гэта? у маім лесе?

Пасьля праведаў, што гэта—закон такі, а калі закон, та гэта ёсьць закон.

Раніцаю дзядуля кажа бабулі:

— Дагледзі за хлопцамі, а я хіба пайду.

І йдзе ў свой—ня свой лес. Ён таксама даглядаць. Пры гэтым дзядуля моцны дзед: і цяпер, як возьме касу, дык не вагнацца за ім. Старое пакаленьне, з тых, што 20 гадоў бяз портак у цуркі йгралі.

Даглядае дзядуля добра: калісь застаў сябра выканкома,—лес сек не па закону,—дык было дзела!

Каля Вялікае Швэдзкае Магілы—дзядулін хутар. (Хутары, атрубы, Сталыпін). Каля хутара Гарбанькава возера. Добрая зямля. Увечары дзядуля запрагае валы і—праз лес—невялічкі, лахматы, няпрыгодны, і хвоі на поўнач хіляцца. Рыпіць воз да Вялікае Швэдзкае Магілы. Пясок-пясок, а далей стэп, чарназём цяжкі, пладлівы, моцны, цяпліковы: культура...

(... Заўважаецца часамі, што ўся Ўкраіна цяплік—дзесьці там, ублізку мора туліцца. І падплываюць да яе караблі—шмат караблёў з чырвоным сьцягам...).

... Рыпіць воз—ры-пп! (кажуць тут, недалечка, быў цар Пятрусь першы, той, што Палуботку нашага—ня нашага замучыў, той, што на касьцях згвалтаваных, неспакойных стэпавікоў нашых збудаваў Пецярбург—вакно ў Эўропу).

Цягнуцца валы да Вялікае Швэдзкае Магілы. Вялікае таму: адгэтуль Мазэпа ўцякаў, акаянны, праклятыя гэтман. Ласьне ён мог даць волю ўкраінскаму народу?

Прышлі сюды з поўначы людзі—з далёкае поўначы, з блізкае поўначы, а мы хацелі волі... Ласьне ён мог даць волю невясёламу краю?

... Дзядуля прыдзе на хутар і глядзіць на ярыну. І тут ярына і далей ярына. Другая ярына—свая-не свая. І сэрца радуецца—толькі з сумам—і за сваю, і за сваю-не сваю...

Раскошліва дзьмецца ўгору ярына...

(... І Украіна дзьмецца ўгору... І люблю я яе—бальшавіцкую Украіну —ясна і буйна...).

... Ходзіць дзядуля па кварталах, вартуе дзядуля, а сонца ліецца на яго патрыярхаву голаў і сьмяецца сонца: хутка-хутка ўмрэш ты, дзядулька, адыдзеш у вечнасьць і на зямлі цябе, дзядулька, ня будзе. Цяпер зямля бальшавіцкая.

Увечары праўнучка Манька прыганяе каровы з дзядулінага свайго-не свайго выгану. Бабулька становіцца супроціў іконы і моліцца:

— Адча наш іжа ясі на небясі...

І глядзіць у вакно: праўнучка Манька заганяе ня ў тую кашару дойную Маньку. Бабулька крычыць у вакно:

— Ах ты, пакасная дзяўчына! Куды-ж ты глядзіш?

І йзноў да іконы:

— Адча наш іжа ясі на небясі.

Але Манька ня слухае, і бабулька йзноў крычыць і йзноў да іконы.

У бабулькі ўсе ключы ад усіх скрынь. Бабулька—гаспадыня, а маладзіцам і жонцы сынавай—паслухмянасьць і праца. Праца доўгая, вечная, да самае сьмерці,—як коні, як валы, як заўсюды восень. Гэта тое, што высьпеўваюць у сумных песьнях дзяўчаты ў бураках. Працягнулася гэтая песьня на вялікія сьцяповыя гоны. Ня можна ня слухаць гэтае песьні: яе нашы мацяркі сьпяваюць, нашы сёстры, нашы жанкі. І цёмна ў гэтай песьні, бо сумна ў ёй, гэта народная песьня, гэта жаночая песьня, і ўсюды і заўсёды трэба казаць пра яе. Слухаў і я гэтыя песьні каля Швэдзкіх Магіл, і нагарнулі яны ў маіх грудзях вялікую магілу народнага гора...

... У нядзелю прыяжджае да дзядулі бацюшка. Дзядуля—царкоўны стараста, два мадалі на грудзях. Палашка прыносіць самагон ад Анухрэя, і яны садзяцца за стол. Бацюшка кажа:

— Ох часы, часы, і вы, смутныя часы.

А дзядуля кажа:

— Не разумею, бацька Палікару, у чым тут рэч. Адабралі ў мяне лес, і паплавы, і зямлю. А ласьне гэта ёсьць закон?

Бацюшка выпівае шкляначку і голасна, каб за вакном чулі, каб усе чулі:

— Закон! дзядулька. Бальшавіцкі закон.

А пасьля нахіляецца да дзядулінага вуха і, аглядаючыся, шэпча:

— Стаўпатварэньне вавілёнскае. Смутны час у Расіі. Ён вунь што! Разумееце? Ён вунь што! Але дзядуля не разумее: сталыпінскія атрубы, вайна, рэволюцыя, бальшавікі, паўстанцы, белыя, чырвоныя, комуністыя, зялёныя, бандыты, партызаны,—дзядуля не разумее.

Дзядуля—патрыярх.

Якісь чад, якісь тлум ходзіць па сёлах і выюць сабакі па сёлах—дзядулька не разумее.

У нядзелю прыходзіць і настаўнік, ён хітры, ён скандальнік—гэтак кажа дзядулька.

Выпівае і настаўнік са шкляначкі.

— За ваша здароўе!.. А ўсё-такі вы, дзядулька, афяруйце штось на кніжкі. Дальбог нечым вучыць дзяцей?

Дзядулька калісь быў папячыцелем, а цяпер—не.

Кажа:

— Ага, зноў да мяне! Як даглядаў школу, то і ўсё было.

Настаўнік:

— Тады й бяз вас было... Бывайце здаровенькі (п'е)... Вы й тады нічога не давалі.

Стары хвалюецца:

— Ах ты, скандальнік! Як-жа нічога не даваў? Затое даглядаў. Га?

Бацюшка ведае, што настаўнік у чырвонай арміі быў, і ён беражны.

— Будзе, Зьмітро Яўхімавіч, будзе, галубчык... Бывайце здаровенькі (таксама п'е).

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Свой—ня свой лес, шчасьлівы—нешчасьлівы Васіль. Шчасьлівы — не забілі, нешчасьлівы—жывы.

За паветкаю стаіць кузьня: было вялікае гаспадарства і была патрэбна кузьня. Яна й цяпер патрэбна.

Васіль каля кавадла.

З паплавоў ідзе пах сьвежага сена, ідзе пах сьвежага вугольля—з кузьні сплятаюцца і йдуць да хлявоў, да загонаў, да валоў. Валы жуюць пахілыя—і думаюць пра ранкі, калі іх выжануць на работу, калі за іхнімі капытамі зарыпіць воз, а яны будуць цягнуць на захад сонца, а яны будуць цягнуць да Вялікае Швэдзкае Магілы.

Васіль кажа аб сабе:

— За што забілі бацьку? За што забілі брата?

А пасьля йзноў маўчыць і адбівае малатком па кавадле. Ён думае: старое ня вернецца. І шкада яму: ня бацькі й брата, не дзядулінага й бабулінага дабра, а шкада яму газэты — „Новае Рады", што выпісваў калісь бацька, а шкада яму Харкаўскага банку і думак непакойных аб 260.

Васіль ведае, што старое ня вернецца. Сьмяецца жыцьцё: траплялі людзі ў Сібір шукаць золата і шчасьця, думаў выкупіць у іх надзелы. А людзі думалі аб таемнай тайзе, аб „сьвяшчэнным" Байкалу, аб няведаным Сібіру—залатым і арыштанскім. І прышлі зноў людзі — голыя й галодныя, і адбіралі праданыя надзелы.

А ў расправе той-жа Япіфан, той-жа Кірыловіч, а ў расправе Васілю ўсё-ткі ня месца, — адрэзаны шматок, адрэзаныя шматкі і сіла іх сіленьская сіла. Ён ужо ня ёсьць ён. Трэба жыцьцё перавярнуць і сваё, і сям'і, усяго Папуцячага гнязда.

... Каля кузьні праляцеў кажан, завыў Серка на ланцугу. І было ў галаве далёка і было сяло не сяло.

... Гэтак пасьля выбухаў. А ў маленькай хаце ёсьць яшчэ й малая хата—жанкі нездаволены.

— Глядзеце і заўтра штось спалкомшчыкі загадаюць вясьці.

Другая:

— На заможных заўсёды адбыткаў больш было.

Трэцяя:

— І чорт з ім, з гэтым заможніцтвам. Не хачу жыць тут. Пакіну—і больш нічога. Пайду лепш дзе-кольвечы ў найміты.

І кажа Параска—жонка дзядулінага сына, таго што загінуў:

— Госпадзі, што ты кажаш, Дунька.

І йдзе Параска ў кашару, выцірае запаскаю сьлёзы, і адчувае, што ўжо штось ня вернецца—ня толькі чалавек, што ўжо чагось ня мае, хоць і ёсьцека яшчэ ў бабулькі ключы, а ў скрынях пад замком саладошчы, цукеркі для гасьцёў. Да ня будзе ўжо цяпер гасьцёў тых.

Над сялом месяц, над сялом блакітныя галубы. Ня сьветла на душы —штось мінае, штось ня вернецца.

Бабулька прачынаецца, толькі што зашарэе. У яе пакоі гарыць каля іконы лямпадка—божая маці з сынам. У другім пакоі хтось цяжка кашляе. Бабулька моліцца:

— Божая маці! Ды калі-ж ты аджанеш гэтую нячыстую бальшавіцкую сілу?

Але няма злосьці ў яе словах, яе злосьць у мінулым і крохкацелая, як сама бабулька.

У пакоі сьвітае. Бабулька моліцца:

— Багародзіца-дзева, радуйся.

Але ўспамінае, што ўжо пара каровы выганяць і кліча:

— А ну-ж, хлопцы, уставайце! Ужо ня рана.

І йзноў:—Багародзіца,-дзева, радуйся...

... Дзядулька ўчора не паехаў на хутар: ён сягоньня едзе. Васіль запрагае валы, Васіль заўсёды з невясёлаю думкаю.

... Рыпіць воз: ры-ып! Цягнуць валы да Вялікае Швэдзкае Магілы. Сьвежы вецер дзьме на дзядуліны сівыя косы. Яго шырокія чумацкія бровы хмура навісьлі, яго бровы задумаліся.

Дзядулька маўчыць. Васіль маўчыць. Цягнецца воз, абмінаюць яго хвоі лахматыя, на поўнач пахіліліся. Ходзіць па хвоях ранішні вецер, выбягае з хвой ранішні вецер і ляціць на поле да грэчкі.

... Маўчыць дзядулька...

Хутка-хутка адыдзе дзядулька ў вечнасьць і ня будзе дзядулькі на зямлі.

Цяпер зямля бальшавіцкая...

... Праехалі лес, выехалі ў стэп.

У стэпу паднімаецца Вялікая Швэдзкая Магіла.

*З украінскага пераклажыў* **Цішка Гартны.**

# Курская аномалія.

## Т. Гушча.

### I.

Каб ня ўводзіць людзей у зман, скажу зразу, што гэта ня тая аномалія, якая знаходзіцца ў нутрах Курскай зямлі і якую дасьлядуе прафэсар Лазараў.

Не, ня тая.

Праўда, і гэта аномалія таксама Курская, але аномалія зусім другога парадку. Наогул трэба заўважыць, што Куршчына—край аномалій. Напрыклад: з Куршчыны вышаў вядомы дэпутат дзяржаўнае думы Маркаў-другі. Некаторыя комуністыя з Куршчыны, як гэта было ў Абаяні, зганялі з цэркваў і з манастыроў папоў і манахаў з харугвіямі і ўсенародна служылі хвалебны малебен за дараваньне пабеды над Дзянікіным. Таксама і курскія салаўі ёсьць да некатарай ступені аномалія.

І яшчэ адна аномалія мела месца ў той-жа Куршчыне. Выявілася яна так.

Рыгор Андрэевіч Угоднік—такое было яго прозьвішча—ляжаў на цьвёрдым ложку, закінуўшы ногі на жалезнае біло. У яго пакойчыку было пуста, няветла і няпрытульна. Дух стаяў сьпёрты і цяжкі. Было халодна і сыра. Пабел на сьценах разьмяк ад вільгаці і адкідаўся. На выступах сьцен нагусьцілася многа пылу. Угары каля столі цэлымі кудламі зьвісала павуцьцё. У павуцьці над печчу гайдаўся шкялет мухі. Яна заблуталася там яшчэ да рэволюцыі 1917 году, а цяпер ужо быў марац 1918 г.

Рыгор Андрэевіч ляжаў і думаў. Ён думаў аб тым, што на гэтым самым ложку ляжала і Настася Мікалаеўна Гулькіна. Яна была тут настаўніцаю да яго. Бачыў яе разы са два, і тым ня меней сягды-тады яна прыходзіла яму на памяць. Настася Мікалаеўна была сваячка папа і жыла цяпер у горадзе, таксама настаўніцаю ў школе другой ступені. Цяпер, можна сказаць, ён аб ёй перастаў думаць. Не, цяпер яго думкі не такія. Ён думаў аб сваім жыцьці, аб тым, што няма чаго есьці. Ці не паехаць і яму па хлеб на Украіну, як езьдзяць усе? Толькі вось пытаньне: навошта выменяць хлеба? Засталося адно толькі паліто, можа і далі-б пуд хлеба. Але як яго прывязеш? Адбяруць у дарозе, і ня будзе ні паліта, ні хлеба. І вось яшчэ кепска, што аддзел народнае асьветы ня плаціць пэнсіі. Яшчэ за два леташнія месяцы ня выплацілі.

І яшчэ думаў Рыгор Андрэевіч і аб „трудавых процэсах“ у школе. „Трудавыя процэсы!“ Аб іх толькі цяпер і гутаркі. Аб іх пішуць, аб іх гавораць, але што яны такое, як ужываць іх у школе, у якіх формах карыстацца імі, ня ведае ніхто: ня ведае загадчык аддзелу, таварыш Гітман. Ды і скуль ён можа ведаць, калі ён—кравец па профэсіі? Ня ве-

даюць і школьныя інструктары. Адны кажуць—трудавыя процэсы: напілаваць з вучнямі дроў, вымыць падлогу, нанасіць сабе вады. Другія ходзяць з вучнямі рэзаць дубцы і плятуць кошыкі. Ломяць голавы бедныя пэдагогі, як і чым утрудзіць сваю школу. Сказана проста, што ніякіх програм у школе не павінна быць: школа—гэта жыцьцё, жыцьцё колектыву, дзе павінен выяўляцца творчы дух, і настаўнік не павінен зьвязвацца ніякаю програмаю. Школа—гэта кузьня, дзе выкоўваецца і загартоўваецца новае жыцьцё.

Кузьня то яна кузьня, але калі няма жару і вуглёў, то ня выкуеш і клямкі.

Праўда, у яго школе ня было ніякіх процэсаў: ні трудавых, ні гультайскіх. Ня было проста з тае прычыны, што ні да каляд, ні пасьле каляд ніразачку не прапальвалася ў печы, і вучні самі пакідалі хадзіць у школу. Школка гэта была царкоўна-прыходзкая. Яна больш была дапасована дзеля таго, каб вартаваць царкву, чым да навукі. А кнігі, якія былі ў школе, парасьцяганы і раскураны.

А ўрэшце аб іх і шкадаваць няма чаго. Папершае—кнігі старыя, падругое—царкоўна-славянскія, і патрэцяе—адзін школьны інструктар чытаў даклад на павятовым зьезьдзе настаўнікаў: даклад на тэму: Ці можна навучыць дзяцей грамаце бяз кніг, паперы і карандаша або пяра?

З дакладу выходзіла, што можна. Адзін настаўнік тут-жа зазначыў, што ён навучыў сваіх хлопцаў пісаць палкамі на сьнезе! І ўсе знаходзілі, што гэта арыгінальна і проста.

Можа яно і можна. Сам Рыгор Угоднік такой спробы не рабіў. З гэтае прычыны яму было крыху і нядобра, проста няпрыемна была сама мысьль, што ён ніякае карысьці, як настаўнік, за гэты год ня прынёс. Вось людзі жывуць ня лепей за яго, але яны нешта робяць, нават ухітраюцца вучыць пісьму на сьнезе.

Настаўнік паварушыўся на сваім цьвёрдым ложку, зьняў ногі з біла і лёг на бок. Трэба было так ці іначай выходзіць з гэтага застою. Ён чуў, што ён апускаецца на нейкае дно, што жыцьцё прыдушыла яго, і невядома, ці ён сьпіць ці жыве. І ўсё на сьвеце страціла для яго цікавасьць. А тымчасам трэба было нешта рабіць, трэба было кудысь пайсьці. Але куды і чаго?

Тут ён успомніў, што яшчэ зранку была ў яго думка схадзіць да Міканора Платоныча, заможнага селяніна-крупарушніка. Ці не разжыўся-б там карвегі хлеба. У той час, калі зьявілася гэта думка, Рыгор Андрэевіч знаходзіў, што гэты візыт ён зробіць лёгка і проста і дастане карвегу хлеба. Але вось цяпер гэта ахвота хадзіць прайшла. Ну, як-жа гэта прыйсьці да чалавека і сказаць:

— Міканор Платоныч, дай хлеба. Чаму Міканор Платоныч павінен даваць яму хлеба? І як папрасіць: кусок ці цэлы баханец? Даваць кусок, як жабраку, Міканорка пасаромеецца, а даць цэлы баханец пашкадуе.

Рыгор Андрэевіч ведае з практыкі, чаго варты такія раздабыткі і як балючы яны і няпрыятны.

І ён застаўся ляжаць на сваім цьвёрдым ложы.

## II.

А жыцьцё білася сваім пульсам і пісала замыславатыя старонкі свае кнігі. Усе даступныя нашамуназіраньню і разуменьню формы яго напаўняліся ім, жылі, гаманілі на свой лад. І нават сам Рыгор Андрэ-

евіч жыў ня толькі ў сваёй цеснай і халоднай каморцы: ён жыў таксама і на сходцы, што адбывалася цяпер у тэй-жа самай вёсцы, дзе меў сваю настаўніцкую пасаду Рыгор Андрэевіч.

На сходзе разглядаліся самыя звычайныя вясковыя пытаньні. Пасьля таго, калі павестка дня была разгледжана, нечакана вынікла адно важнае для вёскі пытаньне, якое ня значылася на павестцы. Цяпер, уласьціва кажучы, і пачалася самая жывая і самая цікавая часьць сходкі.

Справа ў тым, што вёска ўжо паўгода жыве без папа. Стары бацюшка памёр, а месца яго пустуе да гэтага часу. А бяз бацюшкі вельмі неспадручна: ці да хворага паклікаць, дзіця ахрысьціць, адслужыць паніхіду, ці жэніцца хто,—у кожным разе трэба ехаць за некалькі вёрст да чужога папа. А ці мала на гэта зводзіцца часу? Ну, каб ужо ня было цэркви або прыпынку папу, а то і царква ёсьць і ўсё ёсьць, няма толькі папа. Усе другія прыходы маюць папоў, а чаму яны ня маюць? І калі сказаць праўду, то тут справа датыкаецца іх гонару: чым яны горшыя, скажам, за Бабрышова, Красьнікова або Рудавец? У Рудаўцы таксама памёр поп, але царква не запуставала: на Украіну трапілі, а папа дасталі. і поп ня кепскі. Проста людзі сьмяюцца з іх.

— Няўжо мы так-такі някудышныя, што ня можам папа свайго мець?—скончыў свой даклад царкоўны стараста Міхайла Фёдараў.

З першых-жа слоў усіх прамоўцаў выявілася, што патрэба ў папу насьпела пільная, і пытаньне аб ім трэба разьвязаць ня толькі ў тэорыі, але і прывясьці яго ў жыцьцё і прывясьці неадкладна.

— Яно-то вядома, без папа не выпадае,—аформліваў жаданьні грамадзян старшыня сходу, ён-жа і старшыня сялянскага комітэту. Гэта быў рослы і шырокі селянін з паважнаю барадою.

— Але вось у чым задача: дзе ўзяць папа? Ня ехаць-жа і нам на Украіну.

— Ты думаеш, на Украіне папоў з галушак табе выляпліваюць? Калі рудаўчане прывезьлі адтуль, то гэта і ня поп быў, а дыякан, а ўжо потым на папа яго высьвяцілі.

— А ці ня ўсё табе роўна, хто ён быў, ці дзяк ці дыякан? Абы цяпер папом быў,—асадзіў Міхайлу дзед Сьвішч.

— А вы паслухайце, рабяты, што я вам скажу,—выціснуўся дзесь з-пад парогу дзядзя Мітрыч і апошні раз з засосам пацягнуў цыгарку:—нашто нам ламаць голавы, калі можна абабраць за папа і Рыгора Андрэіча, нашага вучыцеля. Чым ня поп будзе?

На адно мгненьне сход замёр, а потым усе, як адзін, бурна запляскалі ў далоні.

— Брава! брава, Мітрыч!

— Вось гэта, называецца, слова сказаў!

— Лепшага папа і не сасьніш!

— Поп—што твая разьлюлі маліна!

Некаторы час на сходзе стаяў гуд і густы шум. Дзядзю Мітрыча за яго трапнае слова хацелі нават на руках пагушкаць. Старшыня сходу забыў пра свае старшынёўскія абавязкі і даў поўную волю сходу выявіць бурлівую радасьць, і сам ня меней другіх выказваў яе.

У чым-жа былі вартасьці кандыдата ў папы?

Перш за ўсё і галоўным чынам кандыдатура гэта збаўляла ад лішняга клопату. Ня трэба было вандраваць па сьвеце ў пошуках папа. З папом на старане заўсёды больш клопату. Раз поп пачуе, што ў ім ёсьць патрэба, само сабою зразумела, ён заломіць і цану сабе і будзе моцна

таргавацца. Затым, з такім папом усё роўна не абмінеш і консысторыі. Праўда, так ці йначай з консысторыяй мець дачыненьне прыдзецца, але адно дзела, калі ты ўжо маеш гатовага папа, і зусім другая справа, калі гэтага папа трэба яшчэ лавіць.

Другое: намечаны кандыдат — чалавек малады, значыцца, можна спадзявацца, што ён і жыць будзе доўга. Што-ж датыкаецца яго здольнасьцей, як папа, то і з гэтага боку ніякіх перашкод няма: чалавек вучоны, сьпяваць у царкве ўмее, апостала чытае выразна і прачула. А папрактыкуецца яшчэ, то такі выйдзе поп, што і сабор гарадзкі можа пазайздросьціць.

Усё гэта было на сходзе прынята пад увагу. Але тут было і яшчэ нешта такое, што павялічвала вартасьць высунутай кандыдатуры: настаўнік быў чалавек бедны, і толькі тут, на сходцы, выявілася, што за жыцьцё няшчаснага настаўніка. Жыве адзін, жыве ў холадзе, у голадзе, ні родных, ні сваякоў, хто-б дапамог яму, ня мае. Ну, як тут не зрабіць чалавеку дабра?

Мала таго, што сялянства, выбіраючы за папа Рыгора Андрэевіча, разьвязвае проста сваю папоўскую справу, яно яшчэ дапамагае чалавеку выбіцца з яго цяжкога лёсу, бо хто ня дасьць папу на пражытак? Тут нават выявілася спогадзь, дабрата і мяккасьць сэрца сялян. Адным словам, кандыдатура Рыгора Андрэевіча мела ў сабе такое шчасьлівае злучэньне, калі агульная справа разьвязваецца як найлепей, у інтарэсах абедзьвюх старон.

Вось чаму, калі старшыня сходу паставіў на галасаваньне кандыдатуру Рыгора Андрэевіча, усе рукі, як адна, падняліся ўгору.

На гэтым, разумеецца, справа не магла быць скончана — гэта быў толькі яе добры пачатак.

Як вядома, поп павінен мець і пападзьдзю. Рыгор-жа Андрэевіч быў чалавек халасты. Ужо гэта палажэньне падказвала сялянству, што трэба было таксама падумаць і аб жонцы яго. У гэтым пытаньні сьпярша ня было згоды ў поглядах сялян. Адны казалі, што жонка—справа прыватная, лепш усяго пытаньне аб ёй можа разьвязаць сама зацікаўленая асоба, г. з. сам Рыгор Андрэевіч. Другія даводзілі, што калі сход прыймае такую рэзолюцыю, то яна пашкодзіць агульнай справе, і раз само обчаства падняло гэту справу, то яно павінна само паклапаціцца і аб пападзьдзі. І толькі пасьля таго, калі слова ўзяў сам старшыня, спрэчка была спынена, і вырашэньне справы прыняло другі характар.

Старшыня казаў:

— Таварышы, не памыляйцеся! Калі выбар жонкі даручым самому кандыдату, то мы паступім па буржуйску. Гэта раз. Другое. Раз мы самі выбіраем сабе папа, то мы павінны самі-ж і выбраць яму жонку. І яшчэ: Рыгор Андрэевіч чалавек ціхі, ён ніколі першы не зачэпіць бабы, і покі ён сам жаніцца, можа прайсьці год і болей. А мы тут павінны—раз, два! і гатова!

Сход дружна запляскаў старшыне.

— А як ён не захоча яе, або яна яго, тады што? — спытаў якісь скэптык з натоўпу.

— Што значыць—не захоча?—грозна спытаў старшыня:—раз обчаства выбрала, то значыцца і быць так, гэта табе не старыя парадкі... Цябе мы можам папом паставіць! — яшчэ больш грозна наваліўся старшыня на скэптыка—і ты ня сьмееш адмовіцца. Мы можам выбіраць, ка-

аптавадь, рэквізаваць папу жонку і калі скажам — вось твая жонка!—ён павінен і мець яе за жонку!

Пасьля такога талкаваньня грамадзянскіх правоў, сходу аставалася прыступіць да выбару пападзьдзі. Усе мясцовыя кандыдаткі пасьля некаторай парады былі адкінуты і вось на якіх матывах. Пападзьдзя павінна быць з папоўскага роду, бо на тое яна матушка, ёй часам і ў руку прыдзецца пацалаваць. А як ты будзеш цалаваць, скажам, Маланцы або Марынцы, хоць яны пападзьдзі былі-б і ня кепскія? Усё-ж яны—свая мужыцкая кроў. І што скажуць людзі? Ды й сам іх поп меней меў-бы павагі. Калі поп, то трэба, каб поп быў ува ўсіх формах.

І сход пастанавіў: выбраць у жонкі свайму папу Настасю Мікалаеўну Гулькіну, а комісіі з трох асоб—старшыні, царкоўнага старасты Міхайлы Хвёдарава і дзядзі Мітрыча (яго заслугі перад грамадзянствам ня былі забыты)—даручыць пастанову сходу прывясьці ў жыцьцё.

III.

Павярнуўшыся на бок, Рыгор Андрэевіч зноў думаў. Цяпер ён думаў аб тым, што трэба зьбірацца куды-небудзь у другое месца, пашукаць другое пасады, хоць-бы замацавацца прыказчыкам у коопэратыву. Паволі ён губляў кантроль над сваімі думкамі, і ўжо сон пачынаў замыкаць яму вочы, але ён пачуў, як бразнулі дзьверы ў вадным канцы школы і заразжа за гэтым некалькі пар ног загрукалі наўперад у школе, а потым і ў карыдорчыку між школаю і яго кватэркаю.

Рыгор Андрэевіч прыслухаўся. Шлі якраз да яго.

— А можа яго і дома няма,—казаў адзін голас.

— А дзе-ж яму быць?—прабубніў басам другі.

— А вось пабачым!—і з гэтымі словамі Міхайла Хвёдараў папхнуў дзьверы ў пакойчык настаўніка.

Дзьверы былі замкнёны.

— Хто там?—спытаў настаўнік.

— Дома, дома,—адгукнуліся з карыдорчыка старшыня, дзядзя Мітрыч і староста Міхайла.

Рыгор Андрэевіч падняўся з ложка і адамкнуў дзьверы.

Увайшла комісія ў поўным складзе.

— Здарова, Рыгор Андрэевіч!

Усе члены комісіі павіталіся з сваім кандыдатам за руку. Кандыдат, чарнявы, прыпухшы ад голаду і холаду, ускудлачаны, досыць панурага віду, стаяў перад сваімі госьцьмі зьдзіўлены і ўстрывожаны.

— Ну, як жывеш?—запытаў старшыня.

— Ат!—махнуў рукою настаўнік—каму гэта цікава, як я жыву?

— Стала быць цікава, калі аб гэтым пытаюць,—адказаў за старшыню Міхайла. А дзядзя Мітрыч яшчэ дадаў.

— Чудачэц ты, Андрэіч, права-слова, чудачэц! Няўжо-ж ты думаў, што обчаства ніколі не паклапацілася аб табе? Або обчаства ня ведае, як ты жывеш? Ведае, брат, і яно гатова памагчы табе, толькі сам дурак ня будзь.

Сказаўшы так, дзядзя Мітрыч незаметна зірнуў на другіх членаў комісіі, каб на іх тварах прачытаць, ці добры тон узяў ён. Старшыня і Міхайла былі спакойны і нічым ня выказалі стану сваіх душ. З гэтага дзядзя Мітрыч вывеў заключэньне, што ён памылкі не зрабіў.

Настаўнік зьдзівіўся яшчэ болей і чакаў выясьненьня іх прыходу.

Мітрыч у сваю чаргу палічыў, што ён пачатак зрабіў, а цяпер няхай кажуць яны. Тут трэба і меру ведаць.

— Гавары, дзядзя Мітрыч, ты,—сказаў Міхайла.

— А сам што-ж? без языка? Цябе гэта бліжэй датыкаецца,—ухіліўся дзядзя Мітрыч.

Міхайла крута павярнуўся да настаўніка.

— Справа, бачыш ты, Андрэіч, такая: обчаства, значыць, выбрала цябе папом.

— Правільна!—пацьвердзіў старшыня і дзядзя Мітрыч.

— Значыцца, Андрэіч, обчаства цябе любіць, обчаство чэсьць табе аказвае,—дадаў яшчэ ад сябе дзядзя Мітрыч.

— Мяне? папом? што за чапуха?

Зьдзівіўся настаўнік і засунуў рукі ў свае чорныя валасы.

— І ніколі я ня думаў папом быць.

Члены комісіі заварушыліся ўсе разам. Кожны з іх хацеў цяпер сказаць сваё слова. Міхайла, як болей жывы і вёрткі, папярэдзіў сваіх таварышоў. Ён бордзенька сунуў адну руку ў бок старшыні, другую ў бок дзядзі Мітрыча, даючы ім гэтым знак не мяшаць яму, і сказаў:

— Пустое, Андрэіч, што ты ніколі ня думаў папом быць. Вось што ты мне скажы: ці думаў ты калі, як плодзіцца кракадзіл?

Зьбіты з тропу, настаўнік шырока расчыніў вочы і пазіраў на Міхайлу.

— Ну?!—энэргічна спытаў Міхайла зноў і, чутачку счакаўшы, сказаў:

— І я ніколі ня думаў, а вось прышлося падумаць. Быў я ў вучэбнай камандзе. На экзамінах пытае афіцэр аднаго:

— Скажы, як разводзяцца кракадзілы?

Яй-богу, так і спытаў!

Пры гэтым Міхайла моцна стукнуў рукамі па нагах вышэй кален.

— Ну, хто ж мог ведаць, як ён там плодзіцца? І вось я ўспомніў, як гадоў пятнаццаць таму назад нам адзін бацюшка казаў, што кракадзіл, як і курыца, з яйца выходзіць. Вось і падзі-ж ты! Такая вялікая падла—і яйцы нясе!

— Хто ведае?—пытае афіцэр.

— Я ведаю, ваша благародзіе!—кажу я.

— Ну, скажы, Хвёдараў!

— З яйца выходзіць, важа благародзіе!

— Маладзец, Хвёдараў!

Дык вось, бачыш, так і ты: ня думаў, а падумаць прыходзіцца. Ды й чаму табе папом ня быць? Перш-наперш ты ня будзеш у гэтым чулане сядзець, як воўк, а будзеш жыць гаспадзінам у папоўскім доме. Табе, брат, і корвег, і ляпёшак, і сала наносяць, бо бяз гэтага к папу ня прыдзеш. Чалавек ты вучоны, сьпяваеш пацаркоўнаму добра, апостала чытаеш і таго лепей. Будзеш сабе кадзілам памахіваць і гора ня знаць. Ды і фамілія твая, як ня трэба лепей, да месца даходзіць.

Думка аб папоўстве на першы раз паказалася Рыгору Андрэевічу дзікаю і недарэчнаю, але па меры таго, як Міхайла і другія члены комісіі пачалі разрысоўваць папоўскія кругагляды, протэст у яго душы ўсё слабеў і слабеў. Урэшце ён толькі сказаў:

— Да я-ж і не жанаты. Каб быць папом, то трэба жонку мець.

— Кінь, Андрэіч, пустое казаць!—у адзін голас загаманілі члены комісіі і рукамі замахалі,—перастань ты курэй сьмяшыць: падумаць—важ-

насьць якая, жонкі няма—у два міга жонка будзе табе! У чым, у чым, а ўжо ў гэтым дабры недастачы ня будзе.

— Да мы табе і жонку знайшлі, чудачэц ты гэтакі,—прамовіў дзядзя Мітрыч:—само обчаства ўсімі спосабамі на дапамогу табе йдзе, затым, што ты нам чалавек ёсьць прыятны.

Тут ужо проста цікава стала самому Рыгору Андрэевічу, і ён не без некаторага хваляваньня запытаў.

— А хто такая?

— А ты ўгадай,—прамовіў Міхайла.

Тут члены комісіі ясна ўбачылі, што іх справа выйграе, а дзядзя Мітрыч пастукаў рукою па плячы Рыгора Андрэевіча і з нейкаю цеплатою ў голасе сказаў:

— Настасю Мікалаеўну Гулькіну выбралі табе!

Рыгор Андрэевіч пры гэтым мімавольна падкруціў свой чорны вус, а дзядзя Мітрыч казаў далей:

— Чудачэц ты, Андрэіч! Няўжо ты думаў, што мужык не разумее нічога, што мужык далікацтва ня знае? Разумее ён, мілан ты мой, дзе, што, як і к чаму, затым, што ты нам, кажу, чалавек ёсьць прыятны.

— А вы-ж хіба пыталіся ў яе, ці згодна яна пайсьці за мяне?— асьведаміўся Рыгор Андрэевіч.

— А што пытацца? За вочы скажу табе: ня пойдзе—пабяжыць,— адказаў Міхайла, а старшыня дадаў:

— Няхай папрабуе фярдыбацтвы свае паказаць! мы, брат, жывым макарам прыструнім яе. Раз обчаства, значыць—закон!

— Да аб чым тут гутарка можа быць?—прамовіў дзядзя Мітрыч:— скажы, Андрэіч, проста: згодзен ты быць у нас папом?

Рыгор Андрэевіч крыху замяўся.

— Ну, разумеецца, згодзен, ці вы ня бачыце?—адказаў за яго Міхайла і тут-жа схапіў яго руку і стаў трасьці яе.

Тое самае зрабілі старшыня і дзядзя Мітрыч.

Праз нейкі нядоўгі час пасьля гэтага, так здаецца каля веснавога Міколы, у іх быў свой бацюшка а. Рыгор Угоднік і матушка Настася Мікалаеўна. Настася Мікалаеўна была вельмі давольна, што яна цяпер не настаўніца, а пападзьдзя, бо яе больш за ўсё на сьвеце палохалі трудавыя процэсы ў школе.

# Курс лекцый па гістарычным матар'ялізьме.

Л. І. Аксэльрод (Ортодокс).

## Лекцыя 3.

### Мэтодолёгічныя асновы соцыялёгіі ў іх разьвіцьці.

У папярэдняй лекцыі*) коратка і ў самых агульных рысах былі вылажаны галоўныя плыні філёзофічна-гістарычнае мысьлі да Гэгэля ўключна.

Сёньня я маю замер закрануць асноўныя падставы соцыялёгіі. Асновы і разьвіцьцё сучаснае соцыялёгіі з мэтодолёгічнага погляду павінны абавязкова папераджаць выклад мэтоды гістарычнага матар'ялізму, бо ў праціўным выпадку апошні застаецца няясным у сваёй аснове.

Але, каб ухіліцца непаразуменьняў, якія паўстаюць гэтак лёгка і гэтак часта і, значыцца, без паважных падставаў, паміж слухачом і лектарам, паміж чытачамі і пісьменьнікамі,—лічу канечна патрэбным зрабіць наступную агаворку. Маючы на мэце выявіць істоту мэтоды гістарычнага матар'ялізму, я спыняюся і буду спыняцца на тых плынях філёзофічна-гістарычнае ці соцыялёгічнае мысьлі, якія, на мой погляд, канечны дзеля гэтай мэты. З гэтае прычыны, зразумела, у гэтых уступных лекцыях ня могуць быць вычэрпваюча вылажаны сучасныя соцыялёгічныя плыні і гісторыя іх разьвіцьця. Як у папярэдняй лекцыі, я не прэтэндавала на выклад гісторыі філёзофіі гісторыі, што, к слову кажучы, можа быць тэмай для вельмі паважнае працы,—так і ў гэтым нарысе я ня маю намеру пісаць гісторыю соцыялёгіі. І пэўна, калі каму-колечы з чытачоў прыдзе ў голаву крытыкаваць гэту працу за непаўнату, то гэткае заданьне ёй патрапіць выпаўніць зусім лёгка. Варта толькі дзеля гэтага раскрыць энцыклёпэдычны слоўнік. Мэта, якую я сабе стаўлю ў гэтым нарысе,—гэта выявіць асноўныя мэтодолёгічныя падставы буржуазнай соцыялёгіі і разьвіццё гэтых падстаў, а разам з гэтым каб выявіць памагчымасьці ясьней мэтоду гістарычнага матар'ялізму. Вось і ўсё.

А цяпер да справы.

Прадстаўнікі сучаснай соцыялёгіі вельмі строга аддзяляюць галіну соцыялёгіі ад філёзофіі гісторыі.—Філёзофія гісторыі,—заяўляе М. Кавалеўскі,—ня ставіць перад сабой пытаньня а тым, «што трэба, каб элемэнты, з якіх складаецца грамадзянства, знаходзіліся ў гармонічным паміж сабой суладзьдзі». Філёзофія гісторыі ня можа заняць месца соцыялёгіі з тае прычыны, што апошняя ставіць перад сабой шырэйшыя заданьні. Філёзофія гісторыі вышукоўвае агульныя прынцыпы, ад якіх

---

*) Гл. „Полымя" №№ 7-8 і 1(9).

узалежнен увесь гісторычны процэс. Гэтая галіна ідэялёгіі ўдзяляе, дзеля гэтага, замала ўвагі соцыяльнай пабудове данага грамадзянства; яна гэтак сама ня можа быць крыніцай для азначэньня законаў практычнае судзейнасьці, што, галоўным чынам, і ставіць ёй М. Кавалеўскі ў віну. Агульная прычына адцягненага характару філёзофіі гісторыі замыкаецца, па думцы прадстаўнікоў соцыялёгіі, у яе мэтафізычным пахаджэньні. Філёзофія гісторыі, думаюць М. Кавалеўскі, Эвульд, Спэнсэр, Дюркгем і іншыя, мае ў сваёй аснове або тэолёгію, або мэтафізыку. Калі яна прыналежыць да першае катэгорыі, то мы ў ёй заўсёды спаткаем тую-ж асноўную думку, якой прасякнута «Сусьветная гісторыя» Босьсюэта, а іменна, што «чалавек непакоіцца, а ўсемагутны ім кіруе». Чалавечае супольства і яго разьвіцьцё апыняецца, гэткім чынам, у моцы боства, і дасьледваньне грамадзянскай структуры, і імкненьне да азначэньня грамадзкіх законаў, зьяўляецца, зразумела, зусім бескарыснай справай. Нічым істотным, з погляду М. Кавалеўскага і Эвульда, не адрозьніваюцца ад тэолёгічнага рэлігійнага пабудаваньня філёзофіі гісторыі філёзофска-гістарычныя погляды, выплываючыя з ідэалістычнае мэтафізыкі. «Ці многа,—ставіць пытаньне М. Кавалеўскі—дае нам для разуменьня ўмоваў і разьвіцьця прогрэсу, напрыклад, вядомая тэорыя а тым, што гісторыя ёсьць разгарненьне сусьветнага духа? Яна мае такую самую малую вартасьць, як і тэлеолёгічная доктрына, якая кажа, што «чалавек непакоіцца, а ўсемагутны кіруе». З погляду сучаснае соцыялёгіі гэта галіна не павінна зьвязвацца з ніводнай агульна-філёзофскай тэорыяй. Як тэолёгічная, гэтак і ідэалістычная філёзофія гісторыі пазбаўлены конкрэтнага навуковага значэньня. А дзеля гэтага соцыялёгія павінна ўнікаць сувязі з філёзофіяй наагул, якога-б кірунку апошняя ні была. Запраўднай тэорытычнай асновай соцыялёгіі павінна быць позытывістычная тэорыя.

Навуковая, запраўдная соцыялёгія паяўляецца, гэткім чынам, на сьвет разам і ў прычыннай сувязі з позытывізмам. Гэта знача, з тым сьветаглядам, які канчаткова парваў сувязі як з ідэалістычнай, гэтак і з матар'ялістычнай мэтафізыкай.

Закладчыкам позытывізму і соцыялёгіі зьяўляецца Огюст Конт. Гэткі погляд, шырока распаўсюджаны і пашыраны амаль-што ва ўсіх соцыялёгічных творах,—ня зусім правіловы з траякага пункту погляду. Папершае, закладчыкам сучаснага позытывізму быў мысьліцель-сцэптык Давід Юм, які бязумоўна меў уплыў на Ог. Конта; падругое, у сыстэме Конта займае выдатнае месца філёзофія гісторыі, прасякнутая ня толькі мэтафізычнымі пачаткамі, але і самабытнымі тэолёгічнымі элемэнтамі. Патрэцяе, соцыялёгічныя пабудаваньні бяз усялякай сувязі з агульна-філёзофічнымі поглядамі існавалі да Конта.

На разьвіцьці соцыялёгічнае мысьлі, папярэдзіўшай Ог. Конта, мы зараз і спынімся.

Паасобныя соцыялёгічныя разважаньні мы сустракаем, пачынаючы з Фукідыда і Плятона, амаль-што ва ўсіх буйных мысьліцеляў. У эпоху Адраджэньня, калі фэодальны ўклад пачаў развальвацца і калі пачала ўкладвацца новая грамадзянская дзяржава, навука а пахаджэньні, сутнасьці і заданьнях дзяржавы займае нязвычайна важнае месца ў рэволюцыйнай ідэолёгіі таго бурлівага і багатага духоўным зьместам гістарычнага кругабегу.

У працягу XVII і XVIII сталецьцяў пануе тэорыя грамадзкае ўмовы. Паводле гэтай тэорыі, грамадзянства і дзяржава адно й тое-ж. Асновай дзяржавы або грамадзянства зьяўляецца грамадзкая ўмова, завязаная

паміж уладарамі і падданымі ў імя дабра, шчасьця і спакою ўсіх членаў супольства.

Утвараецца рацыяналістычная тэорыя ўзьнікненьня супольства, паводле якое грамадзкае існаваньне вызначаецца грамадзкай сьвядомасьцю. Проблема соцыялёгіі была пастаўлена зусім ясна і сьвядома ўсімі абаронцамі тэорыі грамадзкае ўмовы—Гуго Гроцыем, Гоббсам, Сьпінозай і інш.

У XVIII сталецьці нязьмерна вялікую ўвагу зварачаюць на грамадзкія пытаньні францускія асьветнікі і матар'ялістыя. У папярэдняй лекцыі было адзначана, што як францускія асьветнікі гэтак і матар'ялістыя мала-што ўнесьлі ў філёзофію гісторыі. Перад грозным судом розуму асьветнікаў і матар'ялістых усё гістарычнае мінулае здавалася бязупыннай скандальнай хронікай. Прызнаньне гістарычнай законамернасьці грунтуецца на перакананьні ў тым, што гісторычны процэс абумоўлен строгай прычыннай канечнасьцю. Гэтага перакананьня ў францускіх матар'ялістых ня было. Характарызуючы наогул адносіны да гісторыі францускіх матар'ялістых, Энгэльс зусім справядліва кажа: „Погляд яго (францускага матар'ялізму. О. Л. А.) на гісторыю—паколькі ён меў гэткі погляд—быў істотна прогматычным: ён меркаваў аб гістарычных падзеях, ставячы іх у залежнасьць ад паасобных дзеячоў, дзяліў гэтых дзеячоў на чэсных і жулікаў і пераконваўся, што ў большасьці выпадкаў чэсныя застаюцца ў дурнях, а жулікі бяруць верх. З гэтае акалічнасьці ў яго ўкладаўся такі вывад, што ў гісторыі вельмі мала навучальнага". Іншымі словамі, у істоце, францускія матар'ялістыя не давалі ніякага тлумачэньня гісторыі, і, паколькі адзначаны погляд можа лічыцца тлумачэньнем, ён прыводзіў да суб'ектыўнае ацэнкі і ўсемагутнае ролі асабістасьцей, прычым гэта суб'ектыўная ацэнка ня была рэзультатам крытычнага разгляду пытаньня аб магчымасьці філёзофіі гісторыі, як гэткай, а зьяўлялася вынікам пагардлівых адносін да мінулага, адносін уласьцівых наогул рэволюцыйным эпохам.

Палкая ненавісьць і суровае асуджэньне ўсяго гістарычнага мінулага было канечным, мабыць, для таго, каб крута і рашуча парваць з ім.

Але з другога боку,тая-ж рэволюцыйная эпоха самым станоўчым спосабам паднімала соцыялёгічныя пытаньні і вымагала іх разьвязаньня. Як і ў якім сэнсе ставілі і разьвязвалі соцыяльную проблему асьветнікі і матар'ялістыя, вельмі добра асьветлена ў кнізе Г. В. Пляханава „К развитию монистического взгляда на историю". З нязвычайна лёгічнай віртуознасьцю і з уласьцівай Пляханаву яснасьцю мысьлі, у гэтай працы выяўлены асноўныя супярэчнасьці, у якіх білася мысьль энцыклёпэдыстых і матар'ялістых, калі яны прабавалі разьвязаць соцыяльную проблему. Але якімі-б ні былі гэтыя супярэчнасьці і, ня гледзячы на адсутнасьць цэлага і вытрыманага соцыялёгічнага сьветагляду, проблема была пастаўлена, гэта папершае. Падругое,—што асабліва важна ў данай сувязі,—гэта той бязумоўны факт, што францускія матар'ялістыя, грунтуючыся на сэнсуалізьме Локка і будучы матар'ялістымі, ужо, зразумела, ня ставілі ў сувязь сваіх соцыялёгічных поглядаў ні з тэолёгіяй, ні з ідэалістычнай мэтафізыкай. Як-бы значны і істотны ні былі супярэчнасьці, у якія няўхільна пападае нематар'ялістычная соцыялёгія,—у францускіх матар'ялістых была нейкая роўнадзейная. У апошнім выніку іх соцыялёгія зводзілася да псыхолёгізму, а псыхолёгізм, натуральна, як заўсёды, дапаўняўся рацыяналізмам. Грамадзянскае асяродзьдзе вызначаецца псыхікай асабістасьцей, якія складаюць данае грамадзянскае асяродзьдзе, а псыхіка асабістасьцей залежыць ад выхаваньня ў шырокім сэнсе гэтага

слова, у сэнсе ўплыву грамадзянскае душы. Але моральны ровень і духоўная культура асяродзьдзя залежыць у апошнім падрахунку ад спосабу дзяржаўнага кіраваньня. Гэльвэцы, які больш за ўсіх займаўся разьвязаньнем соцыяльнай проблемы, гэтак формулюе свой канчатковы вывад: „Толькі тады можна спадзявацца зьмяніць погляды народу, калі будуць зьменены законы, і рэформу звычаёвасьці трэба пачаць з рэформы законаў".

Справядлівае, дабрадзейнае законадаўства зьяўляецца, гэткім чынам, галоўнай падставай і кіраўнічым грамадзкага жыцьця. „Моралістыя павінны былі разумець і ведаць—кажа Гэльвэцы ў тэй-жа працы „Аб розуме"—што накшталт таго, як скульптор з пня дрэва можа зрабіць бога або лаўку, гэтак і законадаўца можа па жаданьню ствараць гэрояў, гэніяў і дабрадзейных людзей. Успамяну для прыкладу маскавітаў, якіх Петр Вялікі абярнуў у людзей". І калі Гэльвэцы адчувае недахваты ў гэткім разьвязаньні соцыяльнае проблемы, ён ідзе далей і прыходзіць да пераканаНьня, што ў аснову грамадзкага жыцьця заложаны эгоістычныя інтарэсы і патрэбы. Значыцца, зноў тая самая псыхолёгія. Да гэтых-жа вывадаў прыходзіў: Гольбах і Дыдро, калі яны закраналі соцыяльную проблему.

Гэтым-жа шляхам ішлі, як гэта правілова адзначае Пляханаў, соцыялістыя ўтопістыя, якія з большай дакладнасьцю і большай яснасьцю ставілі соцыяльную проблему. Соцыялістыя, імкнучыся да грунтоўнае грамадзкае рэформы на падставе экономічнае роўнасьці, натуральна, павінны былі стыкнуцца з соцыяльным пытаньнем у яго істоце, у яго асноўнай падставе. Вось чаму, незалежна ад таго, як іменна соцыялістыя утопістыя разьвязвалі гэтую проблему, але яна была пастаўлена імі куды больш дакладна і выразна, чымся ўсімі іх папярэднікамі буржуазнага складу мысьлі. Найбольш выдатным прадстаўнікам соцыялёгічнае мысьлі і пашыральнікам асноўных ідэй францускіх матар'ялістых быў Сэн-Сімон. Сэн-Сімон ставіць перад сабой нязвычайна шырокае заданьне угрунтаваць соцыяльную політыку, г. зн. соцыялёгію на строга навуковай падставе. Гэтай навуковай падставай павінна стаць позытыўная філёзофія. Позытыўная філёзофія ёсьць пэўная навука, акая абагульняе ў адно цэлае атрыманыя вывады з усіх паасобных дысцыплін, г. зн. з дзядзіны прыродазнаўства. Сэн-Сімон выказвае моцнае пераканаНьне ў тым, што становішча сучаснае яму позытыўнае веды дае поўную магчымасьць пабудаваць філёзофію на адзначаных падставах. „Філёзофія", —заяўляе катэгорычна Сэн-Сімон, — стане позытыўнай навукай. Недасканаласьць чалавечага розуму прымусіла чалавека дзяліць навукі на агульную і паасобныя навукі. Агульная навука або філёзофія разглядае агульнае факты паасобных навук, як элемэнтарныя факты; інакш кажучы, паасобныя навукі зьяўляюцца элемэнтамі агульнае навукі. Гэтая навука, якая ніколі не магла мець іншага характару, чымся яе элемэнты, была пабудована на дагадках датуль, пакуль паасобныя навукі былі гэткімі-ж. Яна сталася напалову позытыўнай, калі некаторыя паасобныя навукі зрабіліся позытыўнымі, а іншыя трымаліся яшчэ на дагадках. У гэткім стане яна знаходзіцца і ў сучасны момант. Філёзофія станецца цалкам позытыўнай, калі фізіолёгія ў цэлым будзе апірацца на дасьледжаныя факты, бо ня існуе зьявы, якая не магла-б быць назірана або з пункту погляду фізыкі неорганічных цел, або з пункту погляду фізыкі організованых цел, г. зн. фізіолёгіі".

Гэткім чынам для кожнага, хто хаця крыху знаёмы з гісторыяй

філёзофіі, зусім відавочна, што позытывізм у духу Конта і контыстых знайшоў сваё поўнае выяўленьне ў сыстэме поглядаў вялікага утопістага. Навуковая соцыяльная палітыка павінна быць. папершае,—угрунтована на асновах позытыўнае філёзофіі; падругое,—кіравацца тэй-жа об'ектыўнай мэтодай, якою кіруецца дасьледца пры дасьледваньні зьяваў прыроды. Але паўстае запытаньне, што, уласна, азначае об'ектыўнае. навуковае дасьледваньне соцыяльнае палітыкі, або, што тое самае ў сыстэме Сэн-Сімона, соцыялёгіі? Об'ектыўная мэтода ў соцыялёгіі, у адзнаку ад суб'ектыўнае, прадбачыць існаваньне об'ектыўнае асновы грамадзкага бытаваньня і грамадзкага разьвіцьця. Але гэтае асновы няма ў Сэн-Сімона, як яе ня было і ў францускіх матар'ялістых. і дзеля гэтага, патрабаваньне об'ектыўнае мэтоды застаецца ў істоце формальным прынцыпам бяз якіх-колечы адносін да рэчаўіснасьці. Азначаючы, якім спосабам павінна быць ажыцьцёўлена застасаваньне об'ектыўнае мэтоды, Сэн-Сімон кажа: „Навука а чалавеку. ас航ованая на фізіолёгічных пазнаньнях, будзе ўведзена ў програму народнае асьветы, і тыя, хто атрымаюць гэтую навуковую страву, дасягнуўшы сталага веку, будуць карыстацца пры разважаньнях над палітычнымі пытаньнямі мэтодай, якая ўжываецца ў іншых галінах“. Застасаваньне об'ектыўнае мэтоды да соцыялёгіі прыводзіць, гэткім чынам, да выўчэньня індывідуальнае псыхолёгіі чалавека, якая ў свой чарод вызначаецца фізіолёгіяй. Навуковая мэтода стасуецца значыцца. да псыхолёгіі, паколькі яна ўпіраецца ў фізіолёгічныя процэсы, а што датыча соцыялёгіі, то гэткага прадмету няма, бо адсутнічае элемэнт, які злучае людзей у супольства.

Стараннае і напружанае шуканьне об'ектыўнае падставы для соцыялёгіі прыводзіць мысьліцеля да біолёгіі, якая павінна даць магчымасьць тэорытычнага абаснаваньня грамадзянства і. значыцца. яго навуковага. об'ектыўнага дасьледваньня. „Я даведу, кажа Сэн-Сімон,—што прырода чалавека нічым не адрозьніваецца ад прыроды іншае жывёлы, што здольнасьць дасканаліцца ўласьціва наогул усім жывёлам, што, калі дагэтуль дасканаліўся толькі чалавек, то гэта дзякуючы таму, што ён спыніў і нават прымусіў павярнуць назад розум жывёлы, ня так добра організованае, як ён, што, калі чалавек шчэзьне з зямлі, жывёла, найбліжэйшая да яго па становішчы сваёй організацыі, будзе дасканаліцца“. Як-бы выдатна і цікава ні была выказаная тут ідэя трансформізму, якую мы, к слову кажучы. спатыкаем у Дыдро, і якая ў эпоху С.-Сімона знайшла поўнае выяўленьне ў Лямарка і ў Гэтэ, соцыяльная палітыка не магла. зразумела, на яе аперціся. А апошнім падрахунку ўсё прыводзіла да таго нязвычайна плённага навуковага вываду, што чалавек ня ўпадлы анёл. не грамадзянін двох сьветаў, а часьць прыроды і блізкі сваяк жывёлы, а адгэтуль ужо выплывала і тое далейшае разумаваньне. што чалавечая псыхіка вызначаецца фізіолёгічнымі функцыямі.

Да гэтых іменна вывадаў прыходзіць С.-Сімон, і навуковай асновай соцыяльнае палітыкі зьяўлялася ўсё тая-ж фізіолёгія чалавека.

Далей. Як соцыяльны палітык па сваіх асноўных заданьнях, С.-Сімон зварочвае свой востры, пранікальны погляд на зьявы соцыяльнага жыцьця яго эпохі. Узрастаючы капіталізм і посьпехі тэхнікі, пастаўленыя ва ўзаемнай сувязі. адкрываюць перад С.-Сімонам шырокія пэрспэктывы і радуюць яго сьветлымі надзеямі. „Усё праз прамысловасьць, усё для яе“—становіцца яго лёзунгам.

У прамысловасьці і тэхнічным разьвіцьці С.-Сімон бачыць новы кірунак у соцыяльным жыцьці, кірунак, які бязумоўна зьяўляецца пасту-

повым у стасунку да папярэдняе фэодальнае эпохі. Але паволі становяцца для яго яснымі непагаджальныя супярэчнасьці паміж капіталам і працай, паміж буржуазіяй і пролетарыятам. Заданьнем рэволюцыі мінулага сталецьця, справядліва разважае знакаміты ўтопічны соцыялісты, была політычная свабода, а мэтай нашага сталецьця павінна быць гуманнасьць і запраўдная соцыяльная роўнасьць. Сярэдні стан пазбавіў зямельных уласьнікаў політычнае ўлады, але іх становішча заняў сам гэты стан. Яго рухоўнай сілай быў голы эгоізм. Цяпер-жа трэба пабудаваць супольства на прынцыпах запраўднага брацтва. Але з якіх элемэнтаў, на якой падставе і пры дапамозе якіх сродкаў можа быць пабудована новае грамадзянства? Казаньне, пакірованае да ўсіх бяз выключэньня, і рэлігія. Старая хрысьціянская рэлігія павінна быць рэформавана і дапасована да новых акалічнасьцей жыцьця і нават да вывадаў навукі. Крытыкуючы тэолёгію ў духу „Сыстэмы прыроды“ Гольбаха, падкрэсьліваючы супярэчны характар старой веры ў бога, а гэтак сама тое, што старое хрысьціянства вычарпала ўвесь свой дадатны зьмест і абярнулася ў сваю ўласную супярэчнасьць,—С.-Сімон прыходзіць да вываду, што новае хрысьціянства павінна грунтавацца на „фізіолёгічным довадзе“. Фізіолёгічны довад замыкаецца ў тым, што чалавеку ўласьціва імкненьне да шчасьця, а шчасьце можа быць ажыцьцёўлена толькі і выключна ў грамадзянстве, пабудованым на гуманнасьці, соцыяльнай роўнасьці і брацтве.

Агульнае рэлігійнае завяршэньне сыстэмы поглядаў вялікага ўтопістага зьяўляецца бязумоўна рэакцыяй супроць сьветагляду францускіх матар'ялістых. Але гэтае рэлігійнае завяршэньне выцякала з поўнай лёгічнай канечнасьцю з соцыялістычных імкненьняў з аднаго боку, а з другога—яно было вынікам адсутнасьці фундаманту як філёзофскага, гэтак і соцыялёгічнага. Як соцыялісты, С.-Сімон імкнецца да соцыяльнае роўнасьці, але, ня маючы на гэта ніякіх рэальных, соцыяльных падставаў, ён хапляецца за рэлігію, як за якар збавеньня. Як позытывісты, адкідаючы агульна філёзофскія прадпасылкі, ён шырока расчыняе дзьверы рэлігіі.

Падрахуем цяпер агульныя вынікі дадатных пачаткаў соцыялёгічных шуканьняў С.-Сімона. Першая і галоўная заслуга яго замыкаецца ў выразна і дакладна азначанай думцы, што соцыяльнае жыцьцё мае свае цяўхільныя законы і што яно можа і павінна, дзеля гэтага, стаць дзядзінай строга навуковага назіраньня і дасьледваньня. Па-другое, што політычная дзейнасьць ёсьць скутак соцыяльных адносін і імі абумоўлена. Па-трэцяе, разуменьне ролі і значэньня тэхнікі і прамысловасьці. Чацьвертае, імкненьне да монізму, г. зн. шуканьне агульнага, аб'яднаўчага пачатку законаў прыроды і гісторыі чалавецтва з пункту погляду разьвіцьця. Мы бачым, гэткім чынам, што Сэн-Сімон намеціў і дакладна азначыў некаторыя формальныя прынцыпы соцыялёгіі.

Да ўсяго тут сказанага трэба дадаць зроблены Сэн-Сімонам падзел гістарычнага процэсу на крытычныя і органічныя эпохі. Пад першымі мысьліцель разумеў час распаду і пэрыоды рэволюцыі, пад другімі—эпохі спакойнага разьвіцьця. Гэты падзел быў, відавочна, падыктован вялікай францускай рэволюцыяй, з аднаго боку, і ўзышоўшай на шлях разьвіцьця прамысловасьцю і тэхнікай—з другога. Сэн-Сымон гэтак сама намеціў знамянітую трыаду, з часам прыпісаную выключна О. Конту, аб трох стадыях духоўнага разьвіцьця чалавецтва—тэолёгічнай, мэтафізычнай і позытыўнай.

*(Працяг будзе).*

## ФОРМЫ НАЦЫЯНАЛЬНАГА Й ОПОЗЫЦЫЙНАГА РУХУ НА БЕЛАРУСІ.

**Проф. У. Пічэта.**

Адвечнае змаганьне Расіі з Польшчай з-за Беларусі скончылася ў XVIII стагодзьдзі перамогаю першай. Шляхецка-польскае гаспадарства перастала існаваць. Тры суседнія імпэрыялістычныя драпежнікі падзялілі яго па частках, і Беларусь, як узнагарода пераможцы, адышла пад Расію. Праніканьне польскага зямельнага капіталу на Беларусь, памалу, але няўхільна вяло да опозыцыі тую групу жыхарства, якая трымала ў сваіх руках значную частку беларускага ўласьніцкага капіталу. Прамысловы капітал, часьць якога знаходзілася ў жыдоўскіх руках, быў вельмі слаба разьвіты. Зямельны капітал, трымаўшы ў сваіх мацках усю дзяржаўную ўладу, паставіў прамысловы капітал у такія ўмовы, пры якіх таргова-прамысловая кляса ня мела мажлівасьці як для свайго пляновага й сыстэматычнага экономічнага разьвіцьця, таксама і для ўзмацненьня свайго політычнага ўплыву; аднак яго ўплыў на буржуазію быў ня так моцны, каб прывесьці беларуска-жыдоўскае гарадзкое жыхарства да апалячаньня. Земляробская кляса, юрыдычна зьвязаная з земляўласьнікамі паншчынаю й варожна настроеная да сваіх уладароў, не паддавалася полёнізацыі і захоўвала ў чыстаце й недатычнасьці свой нацыянальны твар. Расійскі зямельны капітал, які даўно накіраваў свае драпежныя прагавітыя жаданьні на Беларусь, і дасягнуўшы добра спрыяючых для сябе вынікаў у канцы XVIII стаг., быў настроен варожна да польскага зямельнага капіталу, як свайго конкурэнта. Гэта конкурэнцыя двох зышоўшыхся нацыянальных зямельных капіталаў, пацягнула за сабою й нацыянальную барацьбу, цалком і ўсебакова падтрыманую царскім урадам. Зямельны капітал Расіі ў сваім імкненьні ад цэнтру к пэрыфэрыі, ад старых масхоўскіх абшараў к тэрыторыям, увайшоўшым у склад расійскага гаспадарства прыкладна ў больш позьні час, выявіў тэндэнцыю заняць усюды пераважнае месца з падчыненьнем сабе жыхароў тэй тэрыторыі, у якую гэтаму зямельнаму капіталу ўдавалася пранікаць. Гэтыя экономіка-політычныя імкненьні дваранскага зямельнага капіталу, падтрыманыя ўрадам, давалі мажлівасьць глядзець на вельмі стрыкатую ў нацыянальных адносінах тэрыторыю Расійскай дзяржавы, як на адзіны нацыянальны політычны організм, у каторым вялікаруская люднасьць займала пераважнае месца. Гэтае замацаваньне дваранскага зямельнага капіталу знайшло адбітак у сымболічнай формуле „Россия для русских“, формуле, меўшай вялічэзнае політыка-практычнае значэньне, бо неабходнасьць практычнага ажыцьцяўленьня яе мела за сабой цэлы шэраг першаступянёвай важнасьці заканадаўчых мерапрыемстваў. Расійскі зямельны капітал, досыць глыбока пранікшы на тэрыторыю Беларусі ў першай палове мінулага стагодзьдзя, у сваім зьдзейсьненьні нацыянальнай програмы, зышоўшыся з польска-беларускім шляхецкім зямельным капіталам, павінен быў аднесьціся варожа да ўсякага выяўленьня нацыянальнага жыцьця, бачачы ў

апошнім сур'ёзную для сябе экономіка-політычную пагрозу, перамагчы якую без дапамогі й падтрыманьня ўраду ён быў ня ў сілах. Гэта нацыяналістычная тэндэнцыя расійска-дваранскага зямельнага капіталу знайшла адбітак у тых заканадаўчых мерапрыемствах ураду Мікалая І, якія зьнішчылі ўсе асаблівасьці дзяржаўнага прававога жыцьця Беларусі й падгатавалі канчатковае злучэньне апошняй з Расійскай дзяржавай. З другога боку, аб'яўляючы Беларусь краем „исконно-русским“, але захопленым польска-жыдоўскім уплывам, гэта політыка павінна была ўбачыць у беларусе, толькі заходняга руса, нацыянальна й рэлігійна адвеку зьвязанага з суседнім велікарускім народам. Прымусовы зварот Беларусі ў „Западно-русский—Северо-Западный край“ стварaў для беларускай нацыянальнасьці зусім немажлівыя ўмовы для выяўленьня свайго нацыянальнага твару. Гэта нацыянальнасьць на сваім шляху к нацыянальнаму разьвіцьцю спатыкала з боку агульна-дзяржаўнай улады неперамагчымыя перашкоды, дзякуючы якім беларускі нацыянальны рух разьвіваўся надта няскора, і ў сфэру свайго ўплыву й зацікаўленасьці сабою захапляў параўнаўча нязначную групу асоб.

II.

Польскі зямельны капітал у асобе польскай шляхты заўжды разглядаў тэрыторыю Беларусі, як адзіную складаную частку польскага гаспадарства. Экономічна аслаблены й політычна разьбіты польскі зямельны капітал ня мог і не жадаў мірыцца з фактам скончэньня політычнага быцьця Польскага гаспадарства. У сваім імкненьні да політычнага адраджэньня, польская шляхта ставіла сваёю мэтаю рэстаўрацыю Рэчы Паспалітай у межах быўшых да падзелу. Стаўка польскага зямельнага капіталу была пабіта ў 1830 г. Пераможца, расійскі зямельны капітал, учыніў жорсткую расправу над сваім конкурэнтам. Няўдача паўстаньня 1830 г. ня зьнішчыла політычных імкненьняў польскае шляхты. Няўдача 1830 г. толькі адсунула тэрмін новага выступленьня рэволюцыйных сіл да таго моманту, пакуль для гэтага не ўтварыліся добра спрыяючыя політычныя абставіны. Рэволюцыйная польская шляхта, навучаная горкаю няўдачаю ў 1830 г., пераканалася ў тым, што без дапамогі й рэальнага падтрыманьня другіх агульна-грамадзкіх групаў, у асаблівасьці сялянства, ня можна спадзявацца на ўдачны канец змаганьня. Імкненьне прыцягнуць на свой бок беларускае сялянства й было прычынаю зьяўленьня проклямацыяў на беларускай мове, якія сабою ў орыгінальнай форме выяўлялі шляхецка-нацыянальны рух. Для польскага зямельнага капіталу, якому ў самой Польшчы давялося ў першай палове XIX стаг. зыйсьціся з нямецкім прамысловым капіталам, былі ворагамі маскалі і немцы. Змагацца на два фронты паасобку зямельны капітал ня мог. Прыцягненьне на свой бок сялянскае масы было зьдзейсьнена толькі шляхам соцыяльна-экономічных абяцанак, рэалізацыя якіх павінна была стварыць новыя формы для жыцьця вёскі беларускага сялянства. Зазначаючы ў сваіх рэволюцыйных проклямацыях адмоўныя бакі жыцьця беларускага селяніна пад уладаю маскалёў, аўторы проклямацыяў імкнуліся давесьці, што абаронцамі беларускага народу былі адны толькі палякі, у чым пераканаць сялянства бязумоўна было немажліва. Гістарычныя факты казалі супроць палякаў. Рэволюцыйная агітацыя не ўдавалася. Галоўная маса сялянства была раўнадушна да агітацыі польскай шляхты. Астаўленая адна польская шляхта была пабіта, і расійскі зямельны капітал у хаўрусе з нямецкім прамысловым капіталам, атрымалі поўную мажлівасьць для далей-

шага свайго росту на Беларусі. Польскае паўстаньне ў 1863 г. спрыяла паяўленьню і антырэволюцыйных вершаў, таксама напісаных на беларускай мове й прыстасаваных для беларускага селяніна. Да беларускай мовы зварочваліся й цэрквы—як каталіцкая, так і праваслаўная. Розныя кнігі рэлігійнага зьместу былі выданы на беларускай мове католікамі ў Варшаве, Несьвіжы, Менску. Асьветная дзейнасьць прадстаўнікоў праваслаўнай цэрквы, выявілася толькі ў надрукаваньні аднае кніжкі на беларускай мове. Так пачыналася адраджэньне беларускае мовы, як фактара нацыянальна-культурнага, але гэты рух, узьняўшыся пад уплывам рэволюцыйнага настрою польскага зямельнага капіталу, не атрымаў далейшага разьвіцьця, дзякуючы таму, што польскі капітал быў разьбіты. Па зьнішчэньні паўстаньня 1863 г. для беларускага нацыянальнага руху стваралюцца нязвычайна дрэнныя ўмовы.

Запанаваўшы расійска-дваранскі капітал ня мог дапусьціць нацыянальна-культурнага руху сярод беларускага народу, баючыся магчымасьці разьвіцьця сымпатыяў да польскасьці. Усякага роду друк на беларускай мове быў забаронены. Аднак польскае паўстаньне 1863 г., захапіўшае часткі тэрыторыі Беларусі, дало штуршок «да хаджэньня ў народ» з мэтаю вывучэньня беларускае мовы, этнографіі й народнай літаратуры. Гэты рух, у якім прымалі ўдзел большай часткай не беларусы, як П. Бяссонаў, Н. Гільдэбрандт, Насовіч і іншыя, даў мажлівасьць азнаямленьня з духоўнаю прыродаю беларуса, яго жывою моваю й бытам, а таксама ў той-жа час выразна вызначыў раз назаўсёды асаблівасьць беларускай нацыянальнасьці ад велікарускага народу. Жывая мова народу была яскравым паказчыкам гэтай асаблівасьці. Так хаджэньне ў народ устанавілі факты існаваньня беларускага народу. Беларускае нацыянальнае адраджэньне пачынае йзноў выяўляцца з канца 80-х гадоў, паступова нарастаючы к канцу прошлага стагодзьдзя. Гэта адраджэньне нацыянальнага руху было нямінуча. Эканомічнае становішча сялянскай масы было нязвычайна цяжкое. Пераважваючы на тэрыторыі Беларусі польскі зямельны капітал, адмовіўшыся ад романтычных хімэр і мараў, стаў на шлях рэальнай політыкі: ён пачаў бязьлітасна эксплёатаваць беларускую сялянскую масу, эканомічна пастаўленую ў вельмі цяжкія ўмовы. У гэтымжа кірунку дзейнічаў і больш слабы зямельны расійскі капітал. Разьвіцьцё таварнае гаспадаркі на Беларусі стварала яшчэ больш цяжкія ўмовы для жыцьця беларускай вёскі. Нарэшце, русіфікатарская, нічым ня прыкрытая політыка яшчэ больш заблытвала нацыянальна-політычныя адносіны на Беларусі. Усе гэтыя об'ектыўныя ўмовы далі штуршок да новага ўздыму нацыянальна-культурнай хвалі. Вышыня ўздыму апошняй была розная ў той ці іншы момант. Уздымы пэрыодычна зьмяняліся з ападамі, але спыніць гэты рух было фактычна немажліва. Уся лёгіка адносін і здарэньняў была за яго. Гэты новы ўздым нацыянальца-культурнага руху закладваў фундамант для больш грунтоўнага ў будучыне нацыянальна-культурнага разьвіцьця. Беларускі нацыянальна-культурны рух пераплятаецца самым цесным парадкам з нацыянальна-політычным, першыя праменьні якога ўжо можна знайсьці ў нелегальнай беларускай газэце „Гоман“, якая праводзіла вельмі вызначаныя ідэі аўтономіі Беларусі. Паміж іншым, для разьвіцьця гэтай ідэі тагочасныя політычныя ўмовы вельмі мала спрыялі. Беларускія інтэлігэнтныя дзеячы, выйшаўшыя з духоўнага мяшчанскага й чыноўнічага асяродку, выпіхалі на першы плян ідэю вывучэньня Беларусі як у нацыянальна-культурнай мінуўшчыне, таксама і ў сучасным яе становішчы. Мысьлячы Беларусь, як Паўночна-За-

ходні Край, дзеячы беларускага руху толькі ў гэтай форме маглі гаварыць і пісаць аб прошлым і сучасным Беларусі. Для гэтага пэрыоду беларускага нацыянальнага руху маюць вялізнае значэньне выданьні «Северо-Западнога» календара, выйшаўшага ў Маскве ў 1889—1890 г. пад рэдакцыяй быўшага буйнейшага дасьледчыка Беларусі пр. М. В. Даўнар-Запольскага пры чынным удзеле В. Завітневіча, які пасьля быў пр. Кіеўскай Духоўнай Акадэміі. У «Северо-Западном» календары Беларусь мысьлілася, як край, зусім асобны ад Польшчы ў этнографічнай і гістарычна-культурнай будове, які зьвязаны з Расіяй агульна-палітычнымі й экономічнымі ўмовамі, але этнографічна й культурна ад яе абасоблены. Усе гэтыя кіруючыя ідэі прыходзілася выказваць вельмі асьцярожна, бо ў праціўным выпадку мажлівасьць легальнага слова была-б забаронена. Для гэтага пэрыоду нацыянальна-культурнага руху Беларусі вельмі характэрна навуковая дзейнасьць А. П. Сапунова, аўтора „Витебской Старины" і шэрагу другіх прац па гісторыі Беларусі, у асаблівасьці па Віцебшчыне. Працы Сапунова вельмі аднабочны па сваіх пунктах погляду. Яму не ўдалося мінаваць крайнасьцяў пры ідэолёгічнай іх пабудове. Аўтор зазначае выразную асаблівасьць Беларусі ад Польшчы, заўважваючы ўсе адмоўныя ўплывы Польшчы на Беларусь, робіць гэта далёка не ў об'ектыўным навуковым відзе. З другога боку, у працах А. П. Сапунова нязвычайна моцны расійска-праваслаўны пункт погляду, які гатовы апраўдаць у імя змаганьня з Польшчай усе мерапрыемствы царскага ўраду. Гэты пункт погляду зводзіць да нічога многія працы А. П. Сапунова, але апошні, як выдаўца матар'ялаў па гісторыі Беларусі, вынятых з цэнтральных архіва-хаваньняў, займае віднае месца сярод дасьледчыкаў мінуўшчыны Беларусі.

Беларусь у гістарычным культурным напрамку была менш за ўсё вывучана. Без гістарычнага фундаманту ня можа быць сільнага й цьвёрдаабаснованага нацыянальнага культурнага руху. Вывучэньне Беларусі ў яе мінуўшчыне дыктавалася ўсім ходам разьвіцьця гістарычнай навукі ў Расіі. Гэты рух, часткаю радзіўшыся ў 60-х гадох, атрымаў вялікае разьвіцьцё ў канцы 80-х гадоў. Ён сконцэнтрыраваўся галоўным чынам у колах унівэрсытэцкіх. За адсутнасьцю Унівэрсытэту на Беларусі навуковыя досьледы рабіліся за межамі апошняй, галоўным чынам у Кіеве, Маскве й Пецярбурзе. Гэты навуковы рух, у якім прымаў удзел шэраг выдатных адмыслоўцаў, як Н. І. Кастамараў, В. Б. Антановіч, П. Н. Галубоўскі, М. В. Даўнар-Запольскі, Д. І. Багалей, В. Е. Данілевіч, М. С. Грушэўскі, А. С. Грушэўскі, Е. Ф. Карскі, М. К. Любаўскі, В. І. Леантовіч, І. І. Лаппо, Н. А. Максіменка, І. А. Маліноўскі, В. І. Пічэта, В. А. Паноў, П. Н. Жуковіч, В. А. Харламповіч, А. Д. Савіч, ня гледзячы на розны падход да вывучэньня зьяваў прошлага жыцьця Беларусі, даў вялікі матар'ял для тэорытычнага абаснаваньня беларускага нацыянальна-культурнага руху.

З пачатку XX стагодзьдзя хваля беларускага нацыянальнага руху падымаецца ўсё вышэй і вышэй. Аб'яднаны расійска-польскі зямельны капітал, паміраўшыся адзін з другім на грунце самай бязьлітаснай эксплёатацыі беларускага селяніна, пачаў уважна прыслухоўвацца да таго народнага абурэньня, якое выходзіла з глыбіні беларускага сялянства, вынікі выбуху якога для земляўласьніцкае клясы былі небясьпечны. На грунце забароны земляўласьніцкага капіталу адбываецца канчатковае збліжэньне польскага й расійскага зямельных капіталаў.

Беларускі нацыянальны рух робіцца моцным штуршком у разьвіцьці беларускай культуры, а з моманту свайго ўздыму робіцца нацыянальна-палітычным я лёзунгам нацыянальнага й палітычнага вызваленьня. Ужо ў канцы 1890 г. група вучнёўскай моладзі ў Менску, пераважна польская, утварыўшы гурткі з мэтаю вывучэньня Беларусі, прышла да думкі аб мажлівасьці нацыянальнага й культурнага разьвіцьця беларуса пры ўмове яго палітычнай эмансіпацыі. Апошняя думка лягла ў фундамант беларускага нацыянальнага руху, які радзіўся і атрымаў далейшае разьвіцьцё за межамі Беларусі, галоўным чынам у Пецярбурзе, у якім знаходзілася многа беларускай вучнёўскай моладзі. Розная студэнцкая моладзь, яднамася ў арганізацыі, закладвала фундамант будучага нацыянальнага рэволюцыйнага руху. У 1902 годзе ў Пецярбурзе з'арганізаваўся „Круг Белорусской Народной Просветы и Культуры Белорусской", які займаўся распаўсюджваньнем выданьняў, выходзіўшых за межамі Расіі, а таксама спрабаваў выдаваць кнігі на беларускай мове ў Расіі. У 1903 годзе ў Пецярбурзе вырасла ўжо нацыянальна-палітычная арганізацыя „Беларуская Рэволюцыйная Грамада", у канцы 1903 г. зьмяніўшая імя на „Беларускую Социялістычную Грамаду", з нацыянальнай праграмай і з трэбаваньнем аўтономіі для Беларусі. Нацыянальна-палітычны рух даў штуршок большай сілы для беларускага мастацкага слова, нязвычайна расьцьвіўшага пасьля 1905 г. Беларуская мастацкая літаратура аздобна разьвілася ў першарэволюцыйную эпоху. З гарадзкое масы выйшла цэлая плеяда выдатных прадстаўнікоў мастацкага слова ў асобах Ї. Д. Луцэвіча (Янка Купала), К. М. Міцкевіча (Якуб Колос), Д. Ф. Жылуновіча (Цішка Гартны), М. А. Багдановіча, С. Плаўніка і іншых, якія працягнулі справу, пачатую Ф. К. Багушэвічам і Ї. Няслухоўскім, і дзякуючы поэтычнай дзейнасьці якіх беларуская мастацкая літаратура перажыла эпоху свайго пекнага росквіту. Беларускія пісьменьнікі,—гэта сыны беларускай вёскі, якая ў працягу доўгіх стагодзьдзяў змарылася ад драпежнай панскай эксплёатацыі. Беларускія мастакі слова—аполёгэты беднага прыгнечанага беларускага народу, пракрокі новага жыцьця, натхнёныя песьняры свабоднага й вольнага росквіту Беларусі. Народныя мотывы зьяўляюцца пераважваючымі ў поэзіі аж да самай Кастрычнікаўскай Рэволюцыі. Беларуская мастацкая літаратура, будучы аднэю з галін, выяўляючых нацыянальны рух, была самым важным фактарам апошняга. Яна будзіла сузнаньне забытай беларускай вёскі, яна натхнёна клікала ўсіх да новага жыцьця, яна загартоўвала ўсіх да надыходзячай барацьбы за вызваленьне. Яна клікала ўсіх будаваць новае радасна-пекнае жыцьцё.

Рэволюцыя 1905 г. выклікала да жыцьця легальную пэрыодычную прэсу, якая мусіла адбіваць усе нацыянальна-культурныя й палітычныя імкненьні беларускіх адраджэнцаў. Адражэньне легальнай беларускай прэсы было паказчыкам сілы й шырыні беларускага нацыянальна-культурнага руху, які ўжо вырас да такое ступені, калі нелегальныя лісткі, брошуры й зборнікі вершаў ужо не маглі здаволіць патрэбы бягучага моманту. Беларуская прэса зьявілася першы раз у Вільні, дзе ў верасьні 1906 г. выйшаў першы нумар новай тыднёвай газэты „Наша Доля", якая друкавалася расійскім і лацінскім шрыфтамі. На шостым нумары яна была зачынена. Рэволюцыйна-нацыянальны напрамак, бязумоўна, ня мог спадабацца ўрадавай адміністрацыі, якая была вартаўніком расійскага зямельнага капіталу і абаронцам прынцыпу неабасобленасьці беларуса ад велікаруса. Паміж іншым, беларуская прэса была задушана не адразу. З лістападу 1906 г. пачаў выдавацца беларускі тыд-

нёвік „Наша Ніва“, які ў эпоху сталыпінскай рэакцыі быў адзіным выяўнікам дум і інтарэсаў народнай масы. Новы тыднёвік, у якім прымалі ўдзел выдатныя дзеячы беларускага нацыянальнага культурнага руху, трапляў у самыя далёкія куткі беларускай вёскі, спатыкаючы ў апошняй натхнёны водгук, бо „Наша Ніва“ была абаронцам абяздоленага і абабранага беларускага сялянства.

Беларускі нацыянальна-культурны рух выпіхнуў і проблему пабудовы нацыянальнае школы. Беларускае настаўніцтва было першавесьнікам гэтае ідэі, спатыкаўшай у сялянстве жывы водгук. Нацыяналізацыя школы бязумоўна немажліва без адпаведных школьных выданыняў. Беларускія адраджэнцы кладуць грунт беларускім выдавецтвам (у Пецярбурзе, Менску, Магілёве). Выдавецтва „Загляне сонца і ў наша ваконца“ у Пецярбурзе выдае „Беларускі лемантар“ і „Першае чытаньне“, а потым і трэцюю кнігу для школы „Гутаркі аб небе і зямлі“. У траўні 1907 г. адбыўся першы зьезд беларускіх народных настаўнікаў, які злажыў організацыю „Беларускага Настаўніцкага Саюзу“; у програме гэтага саюзу знаходзілася трэбаваньне пачатковага навучэньня на роднай мове, а каб настаўнікі былі падрыхтованы да гэтага, дык програмаю вымагалася выкладаньне. беларускае мовы у настаўніцкіх сэмінарыях. Ад настаўнікаў не адсталі й вучні. У Глухаўскім настаўніцкім Інстытуце (Чарнігаўскай губ.) вынікла організацыя „Беларуская нацыянальная хэўра“, таксама вёўшая пропаганду ідэі нацыяналізацыі школы, якая то там, то сям была зьдзейсьнена. Так, у асобных школах Менскай, Магілёўскай і Віленскай губэрняў выкладаньне вялося на беларускай мове. Адным з фактораў беларускага нацыянальнага культурнага руху зьявіўся беларускі тэатр. Пачатак зьяўленьня тэатру быў даны групай беларускіх дзеячоў на чале з В. Галубком. Жывая мова, гучна йшоўшая са сцэны, на якой ставіліся п‘есы з беларускага жыцьця, была фактарам, прабуджаючым і паднімаючым нацыянальныя пачуцьці і імкненьні.

Беларускі нацыянальны культурны рух—гэта протэст супроць прыгнячэньня беларускага сялянства з боку насіцеляў польскай і расійскай культур. Далейшае паглыбленьне беларускага нацыянальнага культурнага руху было-б у выніках небясьпечна для ўладароў зямельнага капіталу, тым болей, што нацыянальна-культурны рух моцна сплятаўся з політычным, вельмі небясьпечным для земляўласьнікаў усякіх нацыянальнасьцяў. Спалоханыя прадстаўнікі польскай і расійскай культур зьвярнуліся да прэсы для распаўсюджваньня сваіх поглядаў. Расійскія і польскія рэакцыянэры пачалі выдаваць свае газэты, выяўляўшыя імкненьні ўплываць на беларускае жыцьцё. Прадстаўнікі польска-клерыкальных тэндэнцыяў пачалі выдаваць „Беларус“, а расійскія консэрватары на расійскай мове „Белорусскую Жизнь“ і „Северо-Западную Жизнь“. Абедзьве газэты аднолькава адмоўна адносіліся да беларускага нацыянальна-культурнага руху. Абедзьве нацыянальныя консэрватыўныя партыі беларускім нацыянальным лёзунгам ставілі супроць свае, аднолькавыя па ідэі, але розныя па конкрэтнаму ажыцьцяўленьню апошніх. У адносінах да беларускага руху выплылі антагоністычныя адносіны зямельнага як польскага, таксама й расійскага капіталу, зышліся ўсерасійскі і ўсепольскі пункт погляду. Д. Іл. Сьвяціцкі, аўтор апісаньня „Відрожене білоруськага пісьменства“ характэрызуе гэтыя адносіны такім парадкам: „калі лёзунгі рас йскай консэрватыўнай групы можна ўбраць у формулу офіцыйнага патрыётызму—самаўладства, праваслаўе й народнасьць з адпаведным дапаўненьнем, як, напрыклад, „хто ня прызнае гэтае формулы,

той бунтаўшчык і здраднік“, беларусы павінны быць толькі праваслаўнымі, зьлейшыя ворагі беларусаў—палякі й жыды, беларусы не павінны ствараць свае асобнае літаратуры—расійская іх зусім здавальняе, дык польская шовіністычная група зрабіла ў вышэйнапісанай формуле нязначныя зьмены: заместа самаўладства паставіла ўсепольскую ідэю, замест праваслаўя—каталіцызм, ворагамі беларусаў выстаўляюцца велікарусы, „беларусы павінны здавальняцца польскай літаратурай“. У беларускім руху польскія патрыёты ўбачылі толькі антыпольскую інтрыгу ў той час, як расійскія патрыётычныя колы ўбачылі толькі інтрыгу тых грамадзянскіх груп, якія ўвесь час імкнуліся к аддзяленьню Беларусі ад Польшчы, і лічылі яе краем выключна польскім. Аднак, беларускі нацыянальны рух, ня гледзячы на ўсе перашкоды, стаяўшыя на яго шляху, шырыўся й разьвіваўся і ў сваім паступовым разьвіцьці набываў характар настаяшчага нацыянальнага руху. Так цягнулася да 1914 г., да пачатку імпэрыялістычнай вайны, калі тысячы беларусаў былі сілаю змушаны зьняцца з сваіх наседжаных месцаў і перасяляцца ў цэнтровыя губэрні Расіі. Няўдача расійскай арміі на заходнім фронце, пацягнуўшая за сабою падзел Беларусі на дзьве часткі—Заходнюю і Ўсходнюю—спрыяла адраджэньню нацыянальна-культурнай ідэі ў окупаваных абшарах, пераважна ў Вільні, дзе браты Луцкевічы зьявіліся тым цэнтрам, наўкола якога пачалі яднацца насіцелі ідэі беларускага нацыянальнага культурнага руху. Нацыянальна-культурная праца ва Ўсходняй Беларусі стала мажлівай, ды й то ў вельмі вузкіх рамках, толькі ў часе окупацыі Бларусі польскімі войскамі.

## III.

Беларускі нацыянальны рух у сваім разьвіцьці цесна зьліваецца з рэволюцыйным настроем беларускіх грамадзкіх сіл. Гэта раўналежнасьць нацыянальнага й палітычнага руху была значнай у эпоху рэволюцыйнага ўздыму ў 1905 г. і ў рэволюцыйны 1917 год. У гады палітычнай рэакцыі нацыянал-культурнікі адыйшлі ад палітыкі і аддалі ўсе сілы выключна справе нацыянальна-культурнага адраджэньня. Сувязь чыста культурнага руху з палітычным дыктавалася ўсёй лёгікай тагочасных палітычных здарэньняў і адносін. Нацыянальна-культурны рух—гэта паўстаньне ўсіх прыдушаных і прыніжаных русіфікатарскай палітыкай царскага ўраду, які адчуваў сябе на Беларусі досыць цьвёрда і ўпэўнена. Нацыянальна-культурны рух—імкненьне абудзіць нацыянальна й агульна чалавечае самапазнаньне ў беларусе-селяніне для таго, каб вызваліць яго ад палітычнага й культурнага ярма, якое скавала яго духоўнае й палітычнае разьвіцьцё. Беларускі нацыянальна-культурны рух—гэта дэкларацыя, абвяшчаўшая ўсяму сьвету, што беларускі народ жыве й жадае жыць сваім самастойным нацыянальным культурным жыцьцём. Зьдзяйсьненьне ўсіх таемных плянаў кіраўнікоў беларускага нацыянальнага руху бязумоўна было немажліва пры рэжыме царскага ўраду. Вызваленьне народу ад нацыянальна-культурнага ўціску павінна было йсьці раўналежна з барацьбой за вызваленьне ад палітычнага дэспотызму расійскага самаўладзтва. Гэта вельмі добра разумелі насіцелі ідэі беларускага культурнага адраджэньня, палкія прыхыльнікі ня толькі палітычнага вызваленьня ад самаўладства, але й першавесьнікі новых умоў для палітычнага жыцьця беларускага народу. Рэволюцыйны настрой увесь час пераплятаўся з нацыянальна-культурным, і сіла апошняга дасягнула ў момант вялізарнейшага рэволюцыйнага напружаньня.

Польскае паўстаньне 1863 г., захапіўшае й частку Беларусі, было сьмелаю, адважнаю, гэройскаю пробай польскага зямельнага капіталу, моцным узмахам рэволюцыйных крыльляў скінуць з сябе экономічную й політычную дыктатуру расійскага зямельнага капіталу. Польскі зямельны капітал у сваім імкненьні знайсьці сьвежыя грамадзянскія сілы, на якія ён-бы мог апірацца, імкнуўся ўцягнуць у змаганьне з царызмам беларускае сялянства, але гэтыя спробы, дзякуючы соцыяльна-клясавай розьніцы, значнага пасьпеха ня мелі. Беларускае сялянства засталося збоку маўчлівым сьведкам тае палкае й жорсткае барацьбы паміж польскім і расійскім зямельнымі капіталамі, якая адбывалася наўкола яго. Для беларускага сялянства было аднолькава, чый капітал выйдзе перможцам з гэтай палкай няроўнай барацьбы. Політычным пераможцам выйшаў з гэтай схваткі расійскі зямельны капітал. Урачыста сьвяткуючы сваю перамогу, расійскія землеўласьнікі ня скупіліся на рэпрэсіі і далі волю й разгул сваім дзікім інстынктам. Нацыянальна-політычны разгул расійска-зямельнай рэакцыі стварыў для беларускай нацыянальнасьці немажлівыя варункі для нацыянальна-культурнага разьвіцьця. Апошняе было змушана затрымацца ў сваім росьце, бо беларускае сялянства, астаўленае само на сябе, не магло зьнішчыць стаяўшых на яго шляху перашкод. На Беларусі ня было опозыцыйных сіл. Беларускае сялянства экономічна й політычна было забітае і выяўляла сабою досыць нязначную ў політычных адносінах сілу. Беларускай буржуазіі ў літаральным сэнсе ня было. Гарады былі заселены русіфікатарскімі чыноўнікамі, вайсковымі й абрусеўшым жыхарствам; большую-ж частку жыхарства складала жыдоўства, якое выяўляла сабою рэволюцыйную сілу ў далёкай будучыне. Польскі й расійскі зямельны капітал, пры ўсіх сваіх супярэчнасьцях, рабіў паміж сабою згоду й компромісы ў справе эксплёатацыі сялянства і ў змаганьні супроць яго нацыянальна-політычных імкненьняў. На Беларусі ня было студэнцтва, якое ў пэўных політычных умовах зьяўляецца буйнай рэволюцыйнай сілай, штурхаючай народную масу да абуджэньня. Усе гэтыя соцыяльныя ўмовы вызначалі няхуткі тэмп беларускага нацыянальнага опозыцыйнага руху. Нарадзіўшыся ў гуртках беларускі нацыянальны рух у далейшым робіць шырокі ўплыў на жыхарства, захопліваючы сабою шырокія колы беларускага грамадзянства. Заснаваная ў Пецярбурзе ў 1902 г. „Беларуская Рэволюцыйная Грамада“, якая зрабілася ў хуткім часе „Беларускай Соцыялістычнай Грамадой“, была тыповым вузкім рэволюцыйным гуртком, галоўнымі ўдзельнікамі якое была вучнёўская моладзь Пецярбургу. Грамада шырока разгарнула сваю агітацыйна-пропагандыцкую чыннасьць, аставіўшы выразны сьлед у гісторыі нацыянальна-політычнага адраджэньня беларускага народу. „Беларуская Соцыялістычная Грамада“ выступіла з трэбаваньнем тэрыторыяльнае аўтономіі з соймам (Вільня) і дараваньнем шырокай нацыянальна-культурнай аўтономіі для ўсіх нацыянальных меншасьцяў на тэрыторыі Беларусі; адначасна-ж зазначала на неабходнасьць скарэйшай распрацоўкі зямельнай програмы на падставе бязвыкупнай конфіскацыі прыватна-ўласьніцкіх і дзяржаўных зямель. Агітацыйная дзейнасьць „Беларускай Соцыялістычнай Грамады“ дала некаторыя практычныя вынікі, але значнага ўплыву яна ня мела, і толькі ў 1905 г., дзякуючы рэволюцыйным здарэньням, „Беларуская Грамада“ змагла выйсьці за межы свайго гуртка і перанесьці сваю дзейнасьць на шырокія народныя колы. Рэволюцыя 1905 г. дала штуршок масаваму руху беларускага сялянства, якое паўстала супроць дыктатуры зямельнага капіталу. Гэтыя масавыя выбухі беларускага сялянства пад

кіраўніцтвам Паўночна-Заходняга Саюзу Р.С.Д.П. ня маюць спэцыфічнага мясцовага характару, а зьяўляюцца толькі адбіткам ахапіўшай тагочасную Расію рэволюцыйнай хвалі. Насіцельніцай ідэі беларускага нацыянальна-політычнага руху заставалася „Беларуская Соцыялістычная Грамада“, аб‘яднаўшая наўкола сябе ўсе беларускія опозыцыйныя сілы, лік якіх павялічыўся, дзякуючы 1905 году, і змусіўшая пэўны контынгэнт інтэлігэнцыі ўзяцца за справу нацыянальна-політычнага адраджэньня беларускага народу. Штаб „Рэволюцыйнай Соцыялістычнай Грамады“ знаходзіўся ў Вільні. Агульна-рэволюцыйна-нацыянальны пад‘ём змусіў Грамаду склікаць II зьезд у Менску для канчатковае апрацоўкі нацыянальна-політычнай програмы ў 1906 г. Новая програма высунула тыя-ж лёзунгі, якія былі прыняты на першым устаноўчым зьезьдзе; толькі ўсе яны атрымалі больш конкрэтную формуліроўку: так, напрыклад, аўтономія была заменена ідэяй фэдэрацыі.

Організуючая чыннасьць Б.С.Г. у выніку свайго посьпеху атрымала організацыю „Беларускага Сялянскага Саюзу“ (1906 г.) і „Беларускага Настаўніцкага Саюзу“ (1907); на зьезьдзе настаўнікаў у Вільні Б. С. Г. удалося організаваць на тэрыторыі Беларусі шэраг нелегальных сялянскіх зьездаў, а таксама дапамагчы ўтварэньню профэсыянальных саюзаў сярод рамесьнікаў і рабочых: шаўцоў, цырульнікаў. Такім-жа самым парадкам Б. С. Г. пакрывае Беларусь цэлаю сеткай культурна-асьветных гурткоў і організацыяў. Вільня зрабілася настаяшчым культурным і політычным цэнтрам Беларусі. Агульна-політычныя ўмовы, надышоўшыя ў першарэволюцыйны пэрыод, у значнай долі сьціскалі размах беларускага нацыянальнага й політычнага руху. Політычная рэакцыя зрабіла вельмі труднаю масавую політычную працу. Вымаганьні політыкі адыйшлі на другі плян перад нацыянальна-культурнымі мэтамі й задачамі. Аднак рэволюцыйная хваля ня скора стала ў свае берагі. Сялянская маса не хацела ды й не магла мірыцца з аб‘яднаным польска-расійскім капіталам. Протэст яе выяўляўся ў пастаянных схватках з аб‘яднаным зямельным капіталам. Перад пагрозай соцыяльнай рэволюцыі зямельныя капіталы, спрачаючыся й політычна конкуруючы паміж сабой, на час адмовіліся ад барацьбы й супарніцтва і выступілі на змаганьне з варожымі ім соцыяльнымі групамі аб‘яднаным фронтам.

Такім парадкам, абудвы лягеры гатаваліся да тэй барацьбы, якая зрабілася ўсебеларускай, стыхійнай, штуршок да якое дала першая рэволюцыя 1917 году і канчатковым этапам якое зьявілася Кастрычнікаўская Вялікая Рэволюцыя, вызваліўшая сялянства ад усякай залежнасьці ад польска-расійскага капіталу, бо самы капітал быў зьнішчан назаўсёды. Перад нацыянальна-культурным адраджэньнем адчынілася большая мажлівасьць і шырокія пэрспэктывы.

## IV.

На тэрыторыі Беларусі жыдоўскі народ зьяўляецца другою па лічбе групаю жыхарства. Пачаўшы засяленьне Літвы й Беларусі ў XIV стаг., у сувязі з казацкім рухам на Украіне, гэты народ пакінуў тэрыторыю апошняй і перасяліўся ў большасьці ў гарады й мястэчкі Беларусі. У пэрыод існаваньня самастыйнага Літоўска-Беларускага гаспадарства, а потым і Рэчы Паспалітай, у склад якое ўвайшла, як адзіная непадзельная частка, Літва й Беларусь, жыды йгралі відную ролю ў гаспадарцы дзяржавы, а асабліва ў пэрыод яе гаспадарчага росквіту ў XVI стагодзьдзі, покуль польскі зямельны капітал не зрабіў зьнішчаючага ўдара жыдоў-

скаму гандлёваму капіталу, які хоць і захоўваў свой кіраўнічы ўплыў на ўнутраны гандаль, але замежны гандаль быў вынят з сфэры яго ўплыву. Прыкладнасьць жыдоўскага гандлёвага капіталу да замежнага гандлю была нязначная. У эпоху свайго выдатнага ўплыву жыдоўскі капітал змог аддзяліць сябе ад прадстаўнікоў зямельнага капіталу і з'організавацца, чаму ў значнай меры спрыялі прывілеі в. к. літоўскіх, даваўшыя жыдоўскаму народу нацыянальна-тэрыторыяльную аўтономію, якая ў свой чарод прывяла да зьяўленьня й далейшага разьвіцьця органаў жыдоўскага самакіраваньня. Пры слабым разьвіцьці гандлёвага капіталу, першапачатковыя жыдоўскія хаўрусы былі організованы на прынцыпе шырокай дэмократыі, але ў далейшым, з узростам гандлёвага капіталу, уплыў апошняга ў жыдоўскіх хаўрусах павялічваецца, унутры хаўрусу адбываецца клясавае разьдзяленьне. Уся кіраўнічая, адміністрацыйна-судовая роля ў жыдоўскіх хаўрусах апынулася ў сфэры простага альбо ўскоснага ўплыву жыдоўскага гандлёвага капіталу. Выступаючы ў якасьці элемэнту, трымаючага ў сваіх мацках усе ніткі ўнутранага гандлю, і займаючы ў дзяржаве абасобленае ад другога жыхарства становішча, жыдоўскі гандлёвы капітал стварыў сыстэму політыка-гаспадарчага прадстаўніцтва, якому даводзілася разьвязваць усе бягучыя пытаньні, зьвязаныя з экономічным, фінансавым і юрыдычным становішчам жыдоў у Рэчы Паспалітай. Польскі зямельны капітал, конкуруючы з жыдоўскім гандлёвым капіталам, займаў выключна антыжыдоўскую позыцыю, але польскі антысэмітызм ня меў значных размахаў і ня сьціскаў ні жідоўскага самакіраваньня, ні жыдоўскага нацыянальна-культурнага разьвіцьця. Новы момант у гісторыі нацыянальна-культурнага жыцьця жыдоўства настае з моманту далучэньня Беларусі да Расійскай імпэрыі. Жыдоўскаму гандлёваму капіталу прышлося спаткацца з расійскім гандлёвым капіталам. Апошні, зьяўляючыся дыктатарам у Расіі на ўнутраным і часткаю на замежных рынках, не жадаў ні з кім конкураваць альбо дзяліцца барышамі. Страх расійскага гандлёвага капіталу перад тым, каб не аслабіць свае позыцыі на ўнутраным рынку Расіі, вызначыў тую жыдоўскую політыку, якое трымаўся ад пачатку XIX стагодзьдзя царскі ўрад. Руйнуючы жыдоўскія хаўрусы й не даючы жыдом грамадзянскіх правоў, уводзячы бесканечны лік усякіх абмежавальных норм, расійскі гандлёвы капітал захаваў для сябе дыктатарскае становішча на ўнутраным рынку. Але ўсё-ж-такі яму прышлося пайсьці на значныя ўступкі, каб уцягнуць жыдоўскі гандлёвы капітал у агульна-расійскае гаспадарчае жыцьцё, бо краіне вельмі патрэбны былі капіталы для гаспадарчага разьвіцьця пасьля ліквідацыі паншчыны. Расійскі гандлёва-прамысловы капітал быў змушан даць жыдом права жыхарства па ўсёй тэрыторыі, дазволіць займаць пасады лаўнікаў і сяброў земскіх і гарадзкіх упраў, а таксама вучыцца ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах. Гэтыя ўступкі з боку гандлёва-прамысловага капіталу далі аграмадныя вынікі вялікай культурнай вартасьці. Жыдоўскія буржуазныя колы апынуліся ўцягнутымі ў вір агульна-расійскага экономічнага й культурнага жыцьця. Пачынаецца процэс асіміляцыі жыдоўскага элемэнту з расійскім. Жыдоўская буржуазія прымае пэўны ўдзел у тым культурным руху, якім была ахоплена расійская дробна-буржуазная інтэлігэнцыя. Яна імкнулася весьці змаганьне з усякімі забабонамі, абмяжоўваўшымі выяўленьне індывідуальнасьці, змагаецца супроць абасобленасьці жыдоўства і стаіць за неабходнасьць прылучэньня жыдоўства да эўропэйскай культуры. Апалёгэт асіміляцыі й вызваленьня, жыдоўскі гандлёва-прамысловы капітал, быў ворагам жыдоўскай масе, жыўшай у „мяжы аселасьці" і ня пры-

маўшай ніякага ўдзелу ў буржуазна-жыдоўскім руху, тым болей, што жыдоўска-асьветная літаратура выдавалася на мовах стара-жыдоўскай і расійскай. Буржуазна-жыдоўскі прамысловы капітал даў з свайго асяродку шэраг выдатных прадстаўнікоў мастацкага слова, сярод якіх Абрамовічу трэба адвесьці першае месца. Пэрыод супольнага жыхарства жыдоўскай буржуазіі з расійскай быў вельмі недаўгавечным. Расійская буржуазія спалохалася больш рухавага жыдоўскага гандлёва-прамысловага капіталу й палічыла патрэбным вызваліцца ад усякай з яго боку конкурэнцыі, а дзеля гэтага пачала праводзіць прыгнечваючую нацыянальную політыку, ад якое атрымаліся дрэнныя вынікі для жыдоўскай буржуазіі. Настала эра выключных законаў супроць жыдоўства, цяжка выцяўшых па сярэдняй і дробнай буржуазіі, дзеля таго, што гэта мела за сабою крах прамысловага жыцьця стараны, бо ўплыў жыдоўскага прамысловага й фінансавага капіталу на разьвіцьцё народнае гаспадаркі быў вельмі значным. Абмежаваныя ўрадавыя мерапрыемствы 80-х гадоў зрабілі канец романтычным ілюзіям жыдоўскага гандлёва-прамысловага капіталу. Жыдоўская сярэдняя й дробная буржуазія была выкінута з асяродку буржуазіі расійскага грамадзянства і была змушана вярнуцца на бацькаўшчыну сваіх айцоў. Пачалася новая колёнізацыя жыдамі беларускіх гарадоў і мястэчак. Удар, зроблены жыдоўскай буржуазіі расійскім гандлёва-прамысловым капіталам, быў такі моцны, што гэта павінна было зрабіць уплыў на ідэолёгію жыдоўскай буржуазіі. Выкінутая з асяродку расійскай буржуазіі, пастаўленая за рамкамі расійскай культуры, аднятая ад мажлівасьці прымаць актыўны ўдзел у творчасьці апошняй, жыдоўская буржуазія не магла вярнуцца да дэмократычных слаёў жыдоўскай масы, ад якое яна была глыбока аддзелена клясавай належнасьцю й культурным настроем. Апынуўшыся на раздарожжы, жыдоўская буржуазная інтэлігэнцыя, шукаючы станоўчага ідэалу, знашла апошні ў так званым „сіонізьме", у якім рэльефна выявілася імкненьне жыдоў к духоўнаму нацыяналізму. Апошні атрымаў шырокае распаўсюджаньне сярод жыдоўскай буржуазіі і знайшоў крайняе выяўленьне ў організацыі жыдоўска-нацыянальнага гаспадарства ў Палестыне. Романтызм жыдоўскай буржуазіі, поўны меланхолікі й далёкі ад політычнай праўдзівасьці, сьведчыў толькі аб яе слабасьці й бясьсільлі рэагаваць на гвалтоўна-несправядлівае парушэньне элемэнтарных грамадзянскіх правоў. Гэты романтызм яшчэ раз сьведчыў аб глыбокіх клясавых супярэчнасьцях у асяродку жыдоўскага народу. Сіонізм захапіў сабою вялікі лік сярэдняй і дробнай буржуазіі. Ён заклікаў у свае шэрагі ўсіх прыгнечаных і абражаных, але не для змаганьня, а для сумаваньня й тамленьня па вышэйшаму граду, з маўчлівым замірэньнем з гнюснай „расійскай" праўдзівасьцю, як любіў казаць у цяжкія Мікалаеўскія часы Бялінскі. Жыдоўскі буржуазны капітал у сіонізьме й аполітызьме знайшоў самаго сябе. Выдзяліўшы з свайго асяродку бліскучую плеяду поэтаў, пісьменьнікаў, літаратараў, вучоных, пісаўшых і тварыўшых на стара-жыдоўскай мове, жыдоўская сіёністычна-настроеная буржуазія адыйшла назаўсёды ад свайго народу, што аднак не перашкаджала ёй, як гандлёва-прамысловай клясе, бязьлітасна эксплёатаваць жыдоўскую працоўную клясу.

Але ня ўсе жыды былі пакорны волі расійскай буржуазіі, ня ўсе жыды былі гатовы мірыцца з няпрыемнай для жыдоў расійскай праўдзівасьцю. У асяродку жыдоўства зароджвалася іншае нацыянальна-культурнае цячэньне, якое прымала нацыянальна-політычны характар і якое ў політычным вызваленьні жыдоўскай працоўнай клясы бачыла крыніцу

яго нацыянальнага адраджэньня. Гэтак намячаліся ў асяродку жыдоўскае масы два нацыянальна-культурных рухі. Адзін — абсолютная пакорнасьць; другі—бунт супраць прыгнячэньня ў імя політычнага й нацыянальнага вызваленьня.

Для прыгнечаных жыдоўскіх масаў зусім была відавочна немажлівасьць нацыянальнага адраджэньня без політычнага вызваленьня. Жыдоўскі нацыянальны й культурны рух, як і беларускі, пераплятаўся самым цесным парадкам з політычным рухам наогул, у якім жыдоўскім рабочым масам трэба аддаць першае месца. Рамясловы жыдоўскі пролетарыят, эксплёатацыя якога дасягнула к 90-м годам нячуваных разьмераў, выступіў пачынальнікам у барацьбе за політычнае вызваленьне. імкненьні й ступень значнасьці жыдоўскага нацыянальнага адраджэньня знайшлі найбольш яскравы адбітак у маладой мастацкай літаратуры на жыдоўскай мове. Жыдоўскія інтэлігэнты, большай часткаю паходзіўшыя не з буржуазных жыдоўскіх грамадзянскіх колаў, адбілі ў сваёй поэзіі і сваёй мастацкай творчасьці ўвесь страх быцьця жыдоўскіх народных масаў, усю бязвыхаднасьць становішча жыдоўства, у асаблівасьці жыдоўскіх кабет, запёртых у „мяжы аселасьці,“ гэтым новым жыдоўскім „гэтто“, ня маючых мажлівасьці куды-б то ні было выйсьці. Жыдоўскае мастацкае слова абуджвала ў жыдоўскім народзе пачуцьці павагі да ўласнай нацыянальнасьці і клікала к змаганьню за вызваленьне і асьвету. Жыдоўскія мастакі слова зьявіліся тварцамі жыдоўскае мовы. Яны збагацілі яе новымі словамі, яны надалі ёй нячуваную гучнасьць і прыгожасьць. Новажыдоўская мастацкая літаратура была вялікай важнасьці фактарам нацыянальнага адраджэньня, яна выявіла лік маючыхся багацтваў духоўных сілаў, якія знаходзіліся ў захаваным становішчы ў прыродзе жыдоўскай рабочай масы. Але жыдоўскі пролетарыят, быўшы пад нячуваным уціскам польска-жыдоўскага прамысловага капіталу, галоўным чынам, дробнага й сярэдняга, задаўлены, замучаны быў ня ўсілах адгукнуцца на кліч мастакоў слова. Трэба было спачатку скінуць з плеч свайго народу іга політычнага і экономічнага ўціску для таго, каб затым настала эпоха нацыянальнага росквіту, эпоха буры й націску,—момант выяўленьня ўсіх творчых мажлівасьцяў жыдоўскага народу. Жыдоўскі пролетарыят пайшоў па шляху політыка-экономічнай барацьбы, вымагаўшай ад яго вялікага напружаньня ўсіх яго сілаў і вялікіх ахвяр і барацьбы, якая спачатку мела цяжкія напружаньні й нязначныя дасягненьні. Жыдоўскі пролетарыят у цьвёрдай упэўненасьці і ўпэўненай стапою ішоў да вызначанай мэты з верай, што надыйдзе некалі дзень і адбудзецца політыка-экономічнае вызваленьне жыдоўскага пролетарыяту. Разьвіваючыся раўналежна з расійскім прамысловым рабочым рухам, жыдоўскі пролетарыят, разам з расійскім пролетарыятам, дабіўся ўрэшце экономічнага й політычнага вызваленьня. Перад жыдоўскім пролетарыятам адчынілася прасторная дарога для нацыянальна-культурнага вызваленьня, для вольнага выяўленьня ўсіх яго сілаў і здольнасьцяў, для нацыянальна-культурнай творчасьці. Жыдоўскі рабочы рух, пры адсутнасьці буйнага прамысловага пролетарыяту, ня меў добра спрыяючых папярэдніх умоў, як грунту для разьвіцьця самапазнаньня жыдоўскіх рабочых, так і для дружнай і моцнай атакі на капіталістых прыгнятацеляў. Першыя прыметы прабуджэньня жыдоўскага пролетарыяту належаць да сярэдзіны 80 гадоў мінуўшага стагодзьдзя, але масавым і нацыянальна-політычным яно робіцца толькі з канца 90-х гадоў, з часу ўтварэньня ў 1897 г. жыдоўскага рабочага саюзу Бунду, з часам ахапіўшага вельмі значны процант

ня толькі жыдоўскага прамысловага пролетарыяту, але й рабочых фабрычнай прамысловасьці Беластоку, Лодзі і Варшавы. На тэрыторыі Беларусі, да ўтварэньня адзінай нацыянальна-політычнай організацыі Бунду, было нямала соцыялістычных гурткоў і організацыяў, дзейнічаўшых самастойна і ня меўшых ніякае сувязі паміж сабою. Неабходнасьць аб'яднаньня выразна сазнавалася ўсімі дзеячамі раньняга жыдоўскага руху. Фактычна да 1895 г. усе жыдоўскія організацыі былі ўжо зьвязаны паміж сабою так, што Бунд, заснованы ў кастрычніку 1897 г. на першым зьезьдзе ў Вільні, фактычна зацьвердзіў і замацаваў тое аб'яднаньне, якое да гэтага часу ўтварылася ў сілу стыхійнага руху і салідарнасьці і коордынацыі дзеяў з боку асобных жыдоўскіх рабочых організацыяў і гурткоў. Зрабіўшы голаву рабочаму руху, Бунд дадаў апошняму тую спаянасьць і моцнасьць, чаго раней рух ня меў, і выступіў пад сьцягам нацыянальна-політычнай ідэолёгіі, якая была спаткана спачуваюча жыдоўскім пролетарыятам. Програма Бунду зьмяшчала ў сабе два важных для жыдоўскай рабочай масы моманты: нацыянальны й экономічна-політычны. Бунд імкнуўся весьці жыдоўскі пролетарыят да нацыянальна-культурнага адраджэньня й політыка-экономічнага вызваленьня. Пакуль Бунд акрэп і падчыніў свайму ўплыву жыдоўскі рамясловы, а часткаю прамысловы пролетарыят, яму прышлося здалець нямала стаяўшых на яго шляху перашкод. У жыдоўскім рабочым руху быў моцны экономізм. Трэба было весьці з ім барацьбу, трэба было рашуча і ўпэўнена выступіць супроць яго. Перамагчы Бунду экономізм і зьвязаны з ім аполітызм было ня так цяжка. Апошнім момантам у гэтай барацьбе было ўтварэньне ў Менску „Незалежнай жыдоўскай рабочай партыі“, якая зьявілася водгукам зубатаўшчыны ў Маскве, але Бунду ня трэба было асаблівых напружаньняў, каб разьвянчаць перад вачыма ўсіх жыдоўскіх рабочых масаў апошнюю і гэтым самым раздавіць раз назаўсёды экономізм і перайсьці да новае тактыкі к барацьбе за нацыянальна-політычнае вызваленьне жыдоўскае рабочае клясы. Экономістыя й незалежнікі атрымалі поўны крах у сваёй дзейнасьці. Рабочая кляса выйшла з сфэры іх уплыву. Адбыўшыся пералом ужо яскрава асазнавала пятая конфэрэнцыя Бунду, якая сабралася ў жніўні месяцы 1902 г. Рэзолюцыя гэтае конфэрэнцыі настойна радзіць: 1) весьці барацьбу ва ўсіх слаёх рабочае масы, а не ў якім-небудзь адным слою, у залежнасьці ад ступені яго сузнаньня й організаванасьці, а таксама выклікаць сярод грамадзянства рэволюцыйныя протэсты супроць самаўладства й падтрымаць гэтыя протэсты; 2) што соцыял-дэмократычная пропаганда й агітацыя ў рабочай клясе павінна весьціся ня толькі на грунце яго профэсыянальных і экономічных інтарэсаў, а таксама й на грунце соцыяльна-політычнага становішча пролетарыяту ў капіталістычным строю наогул і ў нашым самаўладным гаспадарстве ў асобку, а таксама выключнага становішча пролетарыяту прыгнечаных нацыяў. Бунд не адмовіўся ад кіраўніцтва экономічнай барацьбой, але лічыў, што „комітэты й другія нашы рэволюцыйныя організацыі, зусім не адмаўляючыся ад кіраўніцва экономічнай барацьбой, павінны ў сваёй дзейнасьці коордынавацца з агульнымі інтарэсамі ўсяго рэволюцыйнага пролетарскага руху і, значыць, глядзець на сябе, як не на прадстаўнікоў профэсыянальных організацыяў, а як на рэволюцыйныя організацыі, праводзячыя ў жыцьцё прынцыпы міжнараднай рэволюцыйнай соцыял-дэмократыі“. Рэзолюцыя пятае бундаўскае конфэрэнцыі пахавала непасьпеўшую расьцьвісьці жыдоўскую Незалежную Рабочую партыю, комітэт якое ад пятага лютага 1903 году прызнаў

патрэбным „на час прыпыніць сваю працу ў Вільні й скарыстаць сілы ў тым месцы, дзе яны змогуць зрабіць рабочым праўдзівую карысьць". Вырабляючы програму сваёй партыі, Бунд надаў вялікае значэньне нацыянальнаму пытаньню, да якога бундаўскія конфэрэнцыі не адзін раз зьвярталіся. Нацыяналістычныя тэндэнцыі былі так моцны ў Бундзе, што гэта прывяло к разрыву Бунду з Рас. Соц. Дэмократычнай партыяй, адбыўшымся ў сьнежні 1903 г.

Бунд ня мог не пакласьці ў грунт сваёй дзейнасьці нацыянальную проблему. Склад Бунду быў досыць стрыкаты: побач з рабочым пролерыятам былі ў яго складзе й дробна-буржуазныя нацыяналістычна-настроеныя інтэлігэнты, ведаўшыя простую праўду, што нацыянальна-культурнае адраджэньне жыдоўскага народу самым цесным парадкам зьвязана з барацьбою супроць самаўладства. Гэта й вытлумачвае ўваход у Бунд дробна-буржуазнай інтэлігэнцыі. Гэты саюз жыдоўскіх рабочых і дробнабуржуазных інтэлігэнтаў быў часовым і, пры відавочнай маемасьці клясовага антагонізму паміж пролетарыятам і буржуазіяй, разумецца, у будучыне павінен быў разваліцца. Ранейшыя саюзьнікі ў барацьбе за вызваленьне жыдоўскае рабочае клясы, пасьля перамогі рабочае клясы, пайшлі рознымі дарогамі. Програма Бунду па нацыянальнаму пытаньню выпрацоўвалася паступова. На сваім трэцім зьезьдзе Бунд (1900) у ліку сваіх політычных вымаганьняў выстаўляў „трэбаваньне грамадзянскага, а не нацыянальнага раўнапраўства". Чацьвертая конфэрэнцыя Бунду прыняла па нацыянальнаму пытаньню супольную рэзолюцыю, у якой конфэрэнцыя прызнала, што „па сэнсу соцыял-дэмократычнай програмы недапусьцімы ніякі ўціск аднае клясы над другою, ня толькі ўлады над грамадзянамі, але й аднае нацыянальнасьці над другою, панства аднае мовы над другою". Разам з гэтым зьезд прызнаў, што гаспадарства, падобнае Расіі, якое складаецца з мноства разнародных нацыянальнасьцяў, павінна ў будучыне перарабіцца ў фэдэрацыю нацыянальнасьцяў з поўнай нацыянальнай аўтономіяй кожнай з іх, незалежна ад абшару, які яна займае. Лічачы, аднак, несваячасным выстаўляць пры тагочасных умовах трэбаваньне нацыянальнай аўтономіі для жыдоў, зьезд знаходзіць, „што ў сучасны пэрыод досыць змагацца за адмену ўсіх выключаючых законаў супроць жыдоў, заўважваць і протэставаць супроць мерапрыемстваў, накірованых для прыгнячэньня жыдоўскай нацыянальнасьці, аднак ня трэба раздуваць нацыянальнае пачуцьцё, здольнае затуманіць клясавае сузнаньне пролетарыяту, што павядзе да шовінізму".

Гэтае выступленьне Бунду супроць прыгнячэньня жыдоўскай нацыянальнасьці яшчэ больш спрыяла ўзмацненьню ўплыву Бунду на шырокія жыдоўскія масы. Прыхільнасьць к Бунду дробна-буржуазнай інтэлігэнцыі зрабілася асабліва значнай. У рэволюцыйны 1905 год для жыдоўскіх рабочых масаў нацыянальная проблема мела вялізнае значэньне, а дзейнасьць Бунду была галоўнай штурхаючай сілай жыдоўскага нацыянальнага руху Расіі 1905 году.

Выступленьне пецярбурскіх рабочых 9-га студзеня прымусіла Бунд перайсьці да адкрытай рэволюцыйнай барацьбы. Дэклярацыі, шырока распаўсюджаныя на тэрыторыі жыдоўскага жыхарства, клікалі жыдоўскі пролетарыят да рэволюцыйнай барацьбы, адначасна выстаўляючы ніжэйнаступныя вымаганьні: 1) скліканьне ўстаноўчага сходу народных прадстаўнікоў, абраных усёй краінай, мужчынамі й кабетамі, бяз розьніцы рэлігіі й нацыянальнасьці, на грунце агульнага, простага й патаемнага вы-

барнага права; 2) роўных грамадзянскіх і палітычных правоў для ўсіх нацыянальнасьцяў Расіі, права культурнага разьвіцьця для кожнае нацыянальнасьці, права атрымоўваць асьвету й гаварыць ва ўсіх дзяржаўных агульных грамадзянскіх установах на роднай мове. Гэтыя лёзунгі спаткалі ў жыдоўскай масе агульнае спачуваньне. У імя апошніх жыдоўскія рабочыя масы выступілі і ў кастрычніку і ў сьнежні 1905 году. Перад гэтымі нацыянальнымі тэндэнцыямі палітычныя задачы рабочае клясы адыходзілі на задні плян. Вялізарнае маса жыдоўскае рабочае клясы не разумела ўсяе важнасьці палітычных задач рабочае клясы. Дробна-буржуазная стыхія заўладала жыдоўскай рабочай клясай. Перамога апошняй у значнай долі вытлумачваецца разрывам Бунду з Р. С.-Д. Р. П., дзякуючы якому Бунд у пэрыод 1903—1906 г. выступаў зусім самастойна. У рэвалюцыйныя гады ў 1905—1914 г. на тэрыторыі Беларусі і Бунд і Р. С.-Д. Р. П. існавалі, як-бы самастойна-палітычныя організацыі і дзейнічалі зусім раўналежна. Шэраг жыдоўскіх пагромаў падзейнічаў працьвярожваючым парадкам на нацыянальны настрой Бунду, а скарачэньне районаў яго ўплыву выразна паказала на неабходнасьць хутчэйшага выхаду з свайго ізоляванага становішча й злучэньня з Р. С.-Д. Р. П. Разглядуючы пытаньні аб злучэньні з Р. С.-Д. Р. П., сёмы зьезд Бунду (1906 г.) прызнаў програму Р. С.-Д. Р. П. програмай таксама й Бунду, але ўсё-ж-такі вымагаў прызнаньня Бунду, як соцыял-дэмократычнай організацыі жыдоўскага пролетарыяту, не абмежаванай у яе дзейнасьці ніякімі районнымі рамкамі, а таксама застацца з старой програмаю па нацыянальнаму пытаньню, прынятай на шостым зьезьдзе партыі. Апошні адбываўся за межамі дзяржавы ў верасьні 1905 г. і даў зусім ясную й выразную формуліроўку позыцыяў Бунду ў нацыянальным пытаньні, якое, па думцы зьезду партыі, можа быць разьвязна толькі пры дачы права ўсім народнасьцям Расіі на нацыянальна-тэрыторыяльную аўтономію, праз „утварэньне такіх публічна-прававых устаноў, якія даюць мажлівасьць для кожнай нацыі свабоднае культурнае разьвіцьцё“. Так, програма Бунду па нацыянальнаму пытаньню была об'ектам ажыўленых спрэчак на ўсіх зьездах, пачынаючы з трэцяга, і атрымала ўрэшце сваю канчатковую формуліроўку. Аб'яднаны зьезд, які адбыўся ў Стокгольме, прызнаў Бунд с.-д. організацыяй жыдоўскага пролетарыяту, не абмежаванай у сваёй дзейнасьці районнымі рамкамі, і даў яму права на выцякаючую адсюль „самастойнасьць у пытаньнях агітацыі, організацыі й пропаганды“ з правам мець свае мясцовыя організацыі, цэнтр, установы й зьезды і самастойна распараджацца ўсімі справамі сваёй мясцовай організацыі. Аб'яднаны зьезд пайшоў па гэтых пытаньнях на спатканьне трэбаваньням Бунду, але нацыянальная програма засталася перагледжанай аб'яднаным зьездам. Па гэтаму пытаньню Бунд атрымаў надзвычайна цяжкае паражэньне, хаця, паміж іншым, Бунд не адмовіўся ад сваёй програмы па нацыянальнаму пытаньню. Палітычная позыцыя Бунду да 1905 году была выдатна некаторало нявызначанасьцю. Толькі рэволюцыя 1905 г. змусіла Бунд выйсьці на арэну шырокай палітычнай дзейнасьці й зрабіцца орыгінальнай партыяй жыдоўскага пролетарыяту. Рэволюцыйны год быў годам бліскучага росквіту партыі, найвялікшым момантам яе ўплыву ў асяродку жыдоўскага пролетарыяту. Паміж іншым, і цяпер вызначаную позыцыю Бунд займаў нядоўга. Пад уплывам дробна-буржуазных элемэнтаў у партыі пачынаецца пэрыод хістаньня. У далейшым тактыка й палітыка Бунду, аж да лютаўскай рэволюцыі, коордынавалася з палітыкай і тактыкай меншавікоў.

Сіёніцкі рух, ахапіўшы значныя колы жыдоўскай буржуазіі, выклікаў у апошняй к пачатку XX стаг. вялікае расчараваньне. Сіёнізм быў марай і фактам далёкага будучага, можа быць ніколі ня зьдзейсьненага. Праўдзівасьць-жа, давіўшая ўсім сваім цяжарам жыдоўства, змусіла выступаць з шэрагаў сіёнізму больш чуткія жыдоўскія буржуазныя элемэнты і ў першую чаргу жыдоўскае студэнцтва, беспартыйная частка якога потым у значным ліку ўступіла ў Бунд, з чыннасьцю якога жыдоўская інтэлігэнцыя паступова азнаёмілася, і для якой была зусім да спадобы нацыянальная й дэмократычная програма Бунду.

Агульна-політычныя ўмовы і ў асаблівасьці ўмовы, пры якіх жыдоўскі капітал атрымаў мажлівасьць свайго праяўленьня, прымусіў пашавяліцца й жыдоўскую буйную буржуазію. Падымаўшаяся рэволюцыйная хваля захапіла апошнюю. Ужо ў красавіку 1905 году адбыўся ў Вільні зьезд жыдоўскіх грамадзянскіх дзеячоў, устанавіўшы саюз для дасягненьня раўнапраўя жыдоўскага народу ў Расіі, які ў сваёй політычнай позыцыі падыходзіў блізка да програмы констытуцыйна-дэмократычнай партыі. У нацыянальным пытаньні саюз ішоў за Бундам, формулюючы сваю програму на другім зьезьдзе ў м. лістападзе 1905 г. наступным парадкам: „У мэтах ажыцьцяўленьня поўнасьцю грамадзянскіх, політычных і нацыянальных правоў жыдоўскага народу ў Расіі неадложна прыступіць да скліканьня на пачатках агульнага выбарнага права ўсерасійскага жыдоўскага нацыянальнага сходу для ўстанаўленьня, згодна волі ўсяго жыдоўскага жыхарства, формаў і прынцыпаў яго нацыянальнага самавызначэньня й падстаў унутранае яго організацыі". Пры ўсёй умеркаванасьці політычнай позыцыі саюзу нацыянальная програма апошняга служыць паказчыкам адмаўленьня жыдоўскаю буржуазіяю ад асіміляцыйных ідэй мінуўшага часу і ад сіёнізму ў асобку. Калі програма саюзу мела ня вызначаны тэорытычны характар, у некаторых адносінах заўважваўся радыкалізм, дык асобныя жыдоўскія хаўрусы ў сваіх запісках на імя старшыні комітэту міністраў стаялі на больш конкрэтным грунце, указваючы: 1) на забарону жыдом прымаць удзел у выбарах у органы самакіраваньня; 2) на абмежаваньне іх у выбары праўленьняў заложаных імі пазычковых касаў; 3) на тыя смутныя вынікі, якія мае за сабою абмежаваньне жыдоў „мяжа аселасьці"; 4) на недапушчэньне ў навуковыя ўстановы; 5) на абмежаваньне ў правох, што ставіць жыдоў у вачох хрысьціянскага люду за па-за закону і падгатаўляе грунт для ўсякіх ганеньняў, беззаконьняў і гвалту.

Магілёўскае „Общество взаимного кредита", аб'яднаўшае наўкола сябе мясцовую жыдоўскую буржуазію, таксама падало запіску аб становішчы жыдоўства. Вырашэньне гэтага пытаньня можа быць дасягнута пры ўмове зьдзейсьненьня шырокіх політычных рэформ. Барацьба за раўнапраўства жыдоў пачалася і ў гарадзкіх органах самакіраваньня. Жыдоўскія касы, страціўшыя па закону 1892 г. актыўныя і пасыўныя выбарчыя правы ў гарадзкія думы, адмовіліся прызнаць прысутнасьць жыдоў „гласных" выявіцелямі патрэб жыдоўскага жыхарства і прапанавалі, каб самі „гласныя", калі яны шануюць сябе, ня прымалі ўдзелу ў думе па назначэньню і не выдавалі-б сябе, як прадстаўнікоў жыхарства, якое іх не выбірала. Усе гэтыя протэсты змусімі „жыдоў-гласных" у гарадох „мяжы аселасьці" адмовіцца ад выкананьня сваіх абавязкаў і заявіць, што яны лічаць мажлівым працаваць у думе пры ўмове абраньня іх народам. Уход „жыдоў-гласных" змусіў застаўшыхся „гласных" хрысьціян прыняць рэзолюцыю, вымагаўшую зраўненьня жыдоў у правох. Інды-

фэрэнтна да гэтага нацыянальна-палітычнага руху не засталася й жыдоўская вучнёўская моладзь. Так, студэнты жыдоўскага настаўніцкага інстытуту ў Вільні выступілі з наступным трэбаваньнем: 1) хутчэйшага спыненьня вайны й склíканьня ўстаноўчага сходу, абранага на падставе агульнага, роўнага й простага галасаваньня; 2) нацыянальнае свабоды; 3) свабоды слова, сходаў, саюзаў, совесьці; 4) роўнасьці ўсіх грамадзян перад законам, ня гледзячы на расу, нацыянальнасьць, стан і веравань-не; 5) недатычнасьць асобы й жылішча; 6) агульнага, вольнага, дарэмнага навучэньня ў духу міжнароднага брацтва. Барацьба за нацыянальна-палітычнае вызваленьне захапіла самыя шырокія колы жыдоўскай буржуазіі, якая групуецца ў партыі, з ліку якіх некаторыя выступаюць пад сьцягам соцыялізму, як, напрыклад: 1) Паолей-цыон—партыя рабочых сіёністаў, утвораная ў 1900 г., але толькі з 1905 году праявіўшая сваю палітычную дзейнасьць; 2) сіёніцка-соцыялістычная рабочая партыя і жыдоўская незалежная партыя, аб якой гаварылася вышэй. Усе гэтыя партыі адбіваюць імкненьні жыдоўскай інтэлігенцыі і дробнай буржуазіі, усё яшчэ марыўшай аб утварэньні жыдоўскага гаспадарства ў Палестыне. Паміж іншым, усе гэтыя нібы соцыялістычныя партыі мелі слабы ўплыў на жыдоўскія масы, і іх якасная вага ў рэволюцыйным руху 1905 г. была нязначная. Рэволюцыйны жыдоўскі рух разьвіваўся пад кіраўніцтвам Бунду, а выяўнікам настрою жыдоўскай буржуазіі быў вышэй-названы „Саюз паўнапраўства“, стаяўшы на дэмократычнай і нацыянальнай пляцформе пры выбарах у першую Дзяржаўную Думу, у якой 12 жыдоўскіх дэпутатаў утварылі радную фракцыю па пытаньнях жыдоўскага раўнапраўства. Склад „Саюзу паўнапраўства“ быў не аднолькавы па сваёй партыйнае належнасьці. Прысутнасьць у саюзе сіёністаў у значнай долі перашкаджала працы й ствярала ўнутры саюзу бесканечны лік непаразуменьняў. Раскол у саюзе быў нямінучы. Буржуазныя праціўнікі выйшлі з складу саюзу і ў 1907 г. утварылі асобную „Народную жыдоўскую групу“ прызнаваўшую сіонізм вельмі шкодным цячэньнем і знаходзіўшую немажлівым працаваць разам з сіоністымі. Станоўчая програма занова-утворанай палітычнай фракцыі не выдавалася радыкалізмам трэбаваньняў. Новая жыдоўская група вымагала пашырэньня правоў і дэмократызацыі жыдоўскага хаўрусу, у асаблівасьці надзяленьня яе шырокімі правамі ў справе школьнага выхаваньня: правам вольнага адчыненьня школ і вольнага выбару мовы выкладаньня, правам на ўзварот з дзяржаўнага краёвага муніцыпальнага бюджэту расходаў на тыя нацыянальна-хаўрусныя школы, аб‘ём выкладаньня ў якіх адпавядае нормальнай програме абавязковага навучэньня. Урэшце, у асяродку жыдоўскай буржуазіі ўтварылася трэцяя буржуазна-дэмократычная організацыя—„Жыдоўская народная партыя“, якая захавала свой буржуазны характар, і па сваёй нацыянальнай і палітычнай програме падыходзіла да Бунду. Раскалоўшыся, жыдоўская буржуазія, умяркованая й асьцярожная ў сваёй тактыцы, бязупыннаю аглядкаю на рабочы рух, у рэволюцыйнай барацьбе за нацыянальна-палітычнае вызваленьне жыдоўскага народу, ня мела ніякага значэньня. Увесь цяжар барацьбы выпаў на долю Бунду як у 1905 г., таксама й надышоўшыя пасьля рэволюцыі 1905 г., гады палітычнага й нацыянальна цёмнага шаленства, якое засталося ў паўнаце свае сілы недатычным аж да лютаўскай рэволюцыі 1917 г.

## IV.

Нацыянальна-польскі элемэнт пранікае на тэрыторыю Беларусі з канца XIV ст.—з часу заключэньня першае вуніі Літвы з Польшчай.

Першапачатковае яго праніканьне было нязначна, але пасьля 1519 г. польскі зямельны капітал атрымаў поўную волю й мажлівасьць для свайго распаўсюджваньня, бо ўмовамі Люблінскае вуніі адмяняліся ўсе абмежаваньні, не дазваляўшыя польскай шляхце прабірацца на тэрыторыю Беларусі. Ступень распаўсюджваньня польскага зямельнага капіталу на тэрыторыі Беларусі была не аднолькава: большая ў Заходняй, чымся ва Ўсходняй Беларусі. Адыход Беларусі ў выніку надзелу Польшчы да Расійскай імпэрыі пацягнуў за сабою конфіскацыі некаторае часткі зямельнае ўласнасьці, належаўшай палякам, што дало мажлівасьць пранікнуць і замацавацца расійскаму зямельнаму капіталу. Пасьля паўстаньня 1863—1864 г. польскае земляўласьніцтва было пастаўлена ва ўмовы, не аднолькавыя з расійскім. Расійскі зямельны капітал у сваім імкненьні выпіхнуць польскі, атрымаў усебаковае падтрыманьне ад расійскага ўраду, які сваімі законадаўчымі абмежавальнымі распарадкамі імкнуўся паставіць польскае земляўласьніцтва так, каб яно больш не распаўсюджвалася. Побач з буйным і сярэднім польскім земляўласьніцтвам існавала дробнае шляхецкае земляўласьніцтва, прадстаўнікі якога гардзіліся сваім шляхецкім пахаджэньнем і былі выдатны консэрватызмам свайго быту. Урэшце ў беларускіх гарадох маецца пэўны лік польскага жыхарства. Найбольшы лік апошняга выпадае на Вільню, у якой польская культура знайшла добра спрыяючы грунт для свайго захаваньня. Польскі элемэнт на тэрыторыі Беларусі адносна ўсяго беларускага жыхарства складае нязначны процант, але ён найбольш культурны, што надае своеабразны адбітак культурнага жыцьця ў Заходняй Беларусі. Польскі нацыянальны элемэнт аж да 1905 г. займаў становішча абарончага з боку наступаючага расійскага ўраду. Праўдзіва было трагічнае становішча польскага зямельнага капіталу, які быў сьціснуты ў сваім разьвіцьці і якому ў сваім наступленьні на сялянскую рабочую масу даводзілася змагацца з сваім галоўным ворагам—расійскім зямельным капіталам. Гэта палітыка змушанае згоды вымушала земляўласьнікаў ісьці на ўсялякія ўступкі перад расійскім урадам, нават пры добрых выпадках выяўляць свае монархічныя імкненьні, што давяло нават польскіх земляўласьнікаў прымаць удзел у Вільні пры адчыненьні помніка Кацярыне II. Гэта „угодаўская“ програма—сьведка панічнага страху, якім у прадчуваньні нямінуча-ідучых рэволюцыйных здарэньняў быў ахоплен польскі зямельны капітал, органамі якога была выдаваўшаяся ў паўночнай сталіцы газэта „К“. Пэўная частка польскіх земляўласьнікаў не забыла аб самастойнасьці Польшчы ў межах 1772 г. „Угодаўская“ тактыка выклікала ў іх пачуцьцё найвялікшага абурэньня. Не замірэньне, не актыўная праца з расійскімі земляўласьнікамі і стаячым за ім расійскім урадам, а барацьба за нацыянальна-палітычнае адраджэньне—вось бліжэйшая нацыянальна-палітычная програма, якое трэба было трымацца польскім земляўласьнікам на Беларусі,—так думала пэўная частка польскіх земляўласьнікаў. Гэтая нацыянал-дэмократычная партыя, паставіўшы сябе па-за ўсякія сувязі з социяльна-процівалеглым беларускім жыхарствам, выяўляла досыць актыўную дзейнасьць, паднімаючы такім парадкам у польскім грамадзянстве нацыянальныя непрымірэнчыя пачуцьці. Польскія земляўласьнікі, гордыя сваёю культурнаю перавагаю, разглядалі Беларусь, як край польскі, як складаную частку будучай рэстаўраванай Польшчы. Памылкі такое нацыянальна-палітычнае позыцыі наглядна выявіліся ў 1905 г.

Беларускі нацыянальна-культурны й палітычны рух змусіў польскі элемэнт на Беларусі адмовіцца ад свае абасобленасьці; гэта й пхнула

палякаў-земляўласьнікаў пераглядзець свае нацыянальна-палітычныя лёзунгі. Калі пэўная частка польскіх земляўласьнікаў засталася пры сваіх нацыянальна-палітычных поглядах, дык значная частка ў далейшай палітычнай дзейнасьці кіравалася ня толькі нацыянальна-палітычнымі мотывамі тагочаснага моманту, але й палітычнымі настроямі, ахапіўшымі ўсе клясы Беларусі. Гэта вызначыла ўваход значнай часткі земляўласьнікаў у кадэцкую партыю, зьдзейсьненьне програмы якое захоўвала-б за земляўласьнікамі кіраўнічае экономічна-культурнае становішча і дала-б мажлівасьць шырокага ўдзелу ў агульна-палітычным жыцьці краю. Зямельныя непарадкі зблізілі цесна польскі зямельны капітал з расійскім. Удзел польскага зямельнага капіталу ў агульна-расійскім руху дыктаваўся ўсёй лёгікай тагочаснага моманту. Хаця сярод польскіх кадэтаў ня было палітычнага аднадумства, аднак польскі зямельны капітал гатоў быў прыняць кадэцкія лёзунгі, толькі з некаторымі зьменамі, прыстасоўваючы да ўмоў Літвы й Беларусі і асабліва тае часткі, дзе датыкаліся організацыі кіраваньня і аўтономнага вырашэньня зямельнага пытаньня. Ставячы сябе супроць расійскаму зямельнаму капіталу, як нешта абасобленае і нават супраціўнае, польскі зямельны капітал вымагаў дэцэнтралізацыі кіраваньня й цэлага шэрагу асобных дробных узаканеньняў, якія датыкаліся аўтономнага вырашэньня зямельнага пытаньня. Хаця гэта спроба ўтварэньня самастойнай польска-кадэцкай партыі закончылася няўдачаю. Хіба-ж маглі польскія буйныя земляўласьнікі сур'ёзна думаць над вырашэньнем хаця-б мясцовага зямельнага пытаньня, калі ўсе іх імкненьні былі накіраваны да бязьлітаснай экспляатацыі беларускага сялянства. Дзеля гэтага для польскіх земляўласьнікаў была больш да твару контр-рэволюцыйная програма, знайшоўшая сабе адбітак у „Краёвай партыі Беларусі й Літвы“, выйшаўшай з Менскага вяскова-гаспадарчага таварыства, заўсёды адбіваўшага інтарэсы земляўласьнікаў. Програма гэтай партыі характарызавалася нязвычайнай умяркованасьцю, але агульна-палітычныя ўмовы дазволілі ёй актыўна працаваць толькі ў гады палітычнай рэакцыі. Няма нічога дзіўнага, што напужаны агульна-рэволюцыйнымі здарэньнямі польскі капітал ішоў у ногу з расійскім зямельным капіталам. Такі характар польскі капітал захоўваў аж да рэволюцыі 1917 г. Рэволюцыйныя здарэньні абудзілі да палітычнага жыцьця консэрватыўныя каталіцкія колы, на чале з каталіцкім біскупам баронам Э. Роппом, організатарам клерыкальнай „констытуцыйна-каталіцкай партыі“. Новая партыя імкнулася апірацца на шырокія каталіцка-грамадзянскія колы, галоўным чынам на сялянства. Вось ад гэтага ў програме мелася й забарона дробнай уласнасьці і арандатараў і барацьба за экономічную экспляатацыю сялян і рабочых, і падтрыманьне сялянскай колёнізацыі на дзяржаўныя і прыватныя землі з дапамогай ураду. Імкнучыся аб'яднаць беларусаў, католікаў і палякаў, констытуцыйна-каталіцкая партыя толькі з надворнага выгляду рвала з земляўласьнікамі, але па істоце ўся клерыкальна-дэмократычная програма астаўляла ў недатычнасьці ўласнасьць земляўласьнікаў, супроць якіх дэмократы-каталікі, бязумоўна, не маглі выступіць. Пад уплывам атакі з боку земляўласьнікаў—устаноўца партыі значна зьмяніў усе радыкальныя пункты свае програмы і адмовіўся ад дэмогогічных выступленьняў.

Цэркаў пайшла на службу к зямельнаму капіталу. Палітычныя крайнасьці краёвай партыі спаткалі адпор у пэўнай частцы польскіх земляўласьнікаў, галоўным чынам з Усходняй Беларусі, якія імкнуліся аб'яднаць польскія зямельныя колы на памеркаваных агульна-грамадзянскіх прын-

цыпах з прынцыпамі нацыянальнай самастойнасьці палякаў на Беларусі. Польскі дэмократычны саюз імкнуўся на грунце дэмократычнай грамадзянскасьці да замірэньня з нацыянальна-экономічнымі групамі. Пляны польскага дэмократычнага саюзу відавочна не маглі быць выкананы.

Нарэшце „Польскі саюз грамадзянскай дзейнасьці ў Літве й Беларусі" выбухнуў у канцы 1907 г. і пачатку 1908 г. і імкнуўся да аб'яднаньня наўкола сябе дробна-буржуазнае профэсіяльнае інтэлігэнцыі, палажыўшы ў грунт свае програмы і будучае дзейнасьці—карысьць Літвы й Беларусі і інтарэсы шырокіх народных колаў гэтых краін. Уся програма выяўлялася няяснасьцю і нявызначанасьцю. Толькі ў адным яна была вызначана—у прызнаньні Літвы й Беларусі краем польскім. Профэсіянальная інтэлігэнцыя стаяла на тэй-жа ўсяпольскай пляцформе, на якой стаялі ўсе літоўскія й беларускія земляўласьнікі. Найбольш яскравы адбітак гэта нацыяналістычная ідэя атрымала ў „Нацыянальна-дэмократычнай партыі", змагаўшайся за інтарэсы ўсяго польскага народу, для якога Літва й Беларусь былі няжывымі соцыяльнымі організмамі, заяўляўшымі на самастойнае існаваньне, а толькі гістарычнай тэрытярыяльнай адзінкай, ня маючай ніякіх каранёў для самастойнага політычнага і нацыянальна-культурнага разьвіцьця. Пасьля 1905 г. сярод палякоў на Беларусі й Літве яна мела вялікі ўплыў. Урэшце дробна-буржуазныя дзеячы, якія былі выдатны політычным радыкалізмам, організавалі гурток аўтономістых, у склад якога маглі ўваходзіць прадстаўнікі няпольскай нацыянальнасьці. Гурток аўтономістых склікаў свае партыйныя вельмі нацыянальна-разнакалёрныя зьезды. Удзельнікі зьезду не маглі прыйсьці да якое-небудзь пэўнае пастановы адносна Літвы й Беларусі ў нацыянальным кірунку, бо на зьезьдзе выказваліся за адзінства нацыянальных інтарэсаў Літвы й Беларусі, але ня было нікога супроць адзінства. Ва ўсялякім выпадку аўтономістыя сходзіліся на адным—гэта шырокая аўтономія для Літвы й Беларусі. Агульныя політычна-экономічныя ўмовы спрыялі політычнай організацыі сярод польскага сялянства на Беларусі. Зямельныя непарадкі на тэрыторыі Беларусі стварылі сур'ёзную пагрозу ня толькі шляхетным земляўласьнікам, але й заможнаму сялянству, якое ня ў меншай долі, чымся панскае земляўласьніцтва, эксплёатавала сялянскую гушчу пролетарскага і паўпролетарскага тыпу. Для заможнага сялянства была зусім ясна неабходнасьць умеркаваньня сялянскага руху ў наданьні яму большай організаванасьці. Старонячыся ад буйнага земляўласьніцтва і йдучы насустрач радыкальнай інтэлігэнцыі, сялянства імкнулася да аб'яднаньня гарадзкіх і вясковых радыкальных элемэнтаў. Так утварыўся „Народны саюз", які з аднаго боку імкнуўся да выпрацоўкі суцэльнага пляну сялянскага руху, а з другога—да выпрацоўкі агульнай програмы рэформы, якая-б адпавядала інтарэсам бяднейшага сялянства. Склад сяброў саюзу ня быў вытрымана клясовым, у ім былі самыя разнародныя па заможнасьці сялянскія элемэнты. Ад гэтага яго сябры не маглі дагаварыцца і выпрацаваць якую-небудзь вызначаную програму. Надыйшоўшая рэакцыя канчаткова пахавала й самы саюз.

Усяпольскі рух, прапітаны найвялікшым нацыяналізмам, стварыў умовы, пры якіх праца палякоў з другімі нацыянальнымі элемэнтамі была зусім немажлівай. Радыкальныя польскія дробна-буржуйныя інтэлігэнты аднак імкнуліся да таго, каб памірыцца з другімі этнічнымі элемэнтамі і супольна працаваць на політыка-грамадзянскім фронце. Была зробленасправа выданьня газэты „Gazeta Wileńska" якая імкнулася давесьці, што палякі на

тэрыторыі Літвы й Беларусі ў сваёй дзейнасьці павінны кіравацца інтарэсамі краю і раз назаўсёды адмовіцца ад пункту погляду колёнізатараў і культуртрэгэраў, якога толькі прытрымліваюцца прыхільнікі ўсяпольскага пункту погляду. Як ні стараліся гарадзкія радыкальна-польскія дэлегаты наладзіць цесную сувязь з другімі нацыянальнымі групамі, гэтая спроба не магла даць пажаданых вынікаў. Гарадзкі радыкальны элемэнт ня быў характэрным для польскага грамадзянства, у якім кіраўнічы напрамак давалі земляўласьнікі, з іх ідэямі ўсепалячаства. Застаючыся на сваіх ранейшых позыцыях, польскі зямельны капітал і нацыянальна-экономічны воража настроены беларускаму сялянству, надбаў для сябе ў гады Вялікай Кастрычнікаўскай Рэволюцыі смутны ўдзел, якая зьнішчыла зямельны капітал і пахавала раз назаўсёды польскія мары і імкненьні.

# Організацыя сіл.

*(Да гісторыі Савецкае Беларусі).*

## Ж. Х. З.

14 лютага 1918 году адчыніў сваю чыннасьць Беларускі Нацыянальны Камісарыят, зьмясьціўшыся ў гістарычным памяшканьні на Знаменскай вуліцы, дом 36. Гэтым адмяраўся першы крок па пуціне рэальнага вырашэньня беларускага нацыянальнага пытаньня. Было ясна, што Савецкая ўлада, у адлічча ад часовага ўраду меншавікоў і эсараў, падыйшла да гэтага пытаньня з дзяржаўнаю меркаю і адначасна з іншымі галінамі палітычнага і экономічнага характару павядзе яго к радыкальнаму вырашэньню. Само сабою зразумела, што паварот на гэты шлях беларускага пытаньня ўлічаўся за вялікі посьпех і лісьціў савецкія беларускія колы. Усякі намёк на опозыцыю Савецкай Уладзе, нават малейшая крыўда, аб якой яшчэ чулася на трэцім Усерасійскім Зьезьдзе Саветаў, пры гутарцы аб Усебеларускім конгрэсе—зараз сьціраліся. Між левымі коламі беларусаў і Савецкай Уладай было поўнае паразуменьне, поўная коордынацыя чыннасьці ў справе належнага вырашэньня беларускага нацыянальнага пытаньня. Ад гэтага хутка напрашвалася чароднае пытаньне,—зьліць Левую Беларускую Соцыялістычную Грамаду з Беларускай Комуністычнай Партыяй. І нясумненна, што яно зараж-жа магло-бы выліцца ў конкрэтную форму і гэтым адмеціць вобразнае завяршэньне ў эволюцыі наймацнейшай беларускай Соцыялістычнай Партыі, якою была на працягу лютаўскага пэрыоду рэволюцыі Беларуская Соцыял. Грамада ў яе левым крыле. Аднак здарэньні моманту, якія разварочваліся вакол Берасьцейскага замірэньня і наступу нямецкіх арміяў на Менск і Петраград, перамянілі ход разьвіцьця беларускага руху. Эвакуацыя чырвонае сталіцы і переезд ураду ў Маскву пакідалі пагражаючыя скуткі і дапаміналі аб цяжкім становішчы Савецкае Ўлады. Выразна вызначалася мажлівасьць заняцьця немцамі Петраграду, у зьвязку з чым высоўвалася пытаньне аб месцы нахаджэньня цэнтру. Беларускае Соцыялістычнае Грамады і аб працы яе сяброў пад окупацыяй. Пераносіць яго ў Маскву, разам з Камісарыятам, ня мела сэнсу; тым болей, што Петраград, багаты беларускімі рэволюцыйна-пролетарскімі масамі, мог-бы падпасьці пад уплыў менскіх незалежнікаў, якія хутка панаскаквалі-б у чырвоную сталіцу са сваёй агітацыяй. Каб вырашыць гэтыя пытаньні, на 11 сакавіка было склікана агульнае сабраньне Петраградзкай Організацыі Соцыялістычнай Грамады, на якім, поруч з іншымі пытаньнямі, стаялі і гэтыя пытаньні. Абгаварыўшы іх ўсебакова, агульнае сабраньне пастанавіла: 1) *аб сучасным моманце:* „Прызнаць патрэбным найбольшаму ліку сяброў організацыі астацца ў Пецярбурзе, калі яго зойме немец, каб застаўшыся

можна было разьехацца па окупаванай Беларусі і вясьці працу адраджэньня краю ды організаваць протэсты супроціў прылучэньня яго да Нямеччыны“ і 2) *аб пераносе ўправы*: „Пакінуць управу Грамады ў Петраградзе, як найбуйнейшым цэнтры беларускага нацыянальна-рэволюцыйнага руху“ *).

Гэткім чынам было санкцыянавана далейшае жыцьцё левай часткі Соцыялістычнай Грамады, адцягнуўшы яе злучэньне з Белар. С.-Д. Партыяй. На старонках выйшаўшай штотыднёвай газэты Камісарыяту „Дзяньніца“ зьявілася абвестка аб прыняцьці новых сяброў у Грамаду. Але ўсё гэтае давала зусім мала надзей на далейшае разьвіцьцё беларускага рэволюцыйнага руху ў Расіі ў напрамку захаваньня традыцыйных іменьняў і формаў яго. Уся актыўная праца ад партыяў перайшла ў установу, у Камісарыят. Лідэры Грамады, кіраваўшыя ёю ў цяжкія часы Керанщчыны, цалкам аддаліся рэальнай справе дзяржаўнага афармленьня беларускага пытаньня. Пры гэтым яны пакідалі Петраград разам з урадам і пераяжджалі ў Маскву. Петраград пераходзіў на другі плян, заміраючы ня толькі політычна, а і экономічна. Станавілася ясна, што з Масквы пачнецца наступленьне на Менск. Усё-ж, на тым-жа агульным сабраньні Грамады (11 красавіка) была перавыбрана ўправа і пастаноўлена—чыннасьці ня спыняць. Пасьля гэтага, праўда, Грамада яшчэ падавала азнакі жыцьця, але хутка замерла, перадаўшы большасьць сваіх сяброў Беларускай Комуністычнай Партыі, якая скора ўлілася ў Расійскую Комуністычную Партыю на правох аўтономнай сэкцыі. Апошняя, з пераездам Беларускага Камісарыяту ў Маскву, служыла магутнаю падпораю ў шырока разьвернутай працы застаўленага ў Петраградзе Пецярбурскага аддзелу Беларускага Камісярыяту. Яна паступова расла і павялічвалася і складала сабою крэпкае ядро ў комуністычным беларускім руху. Аднак, у адносінах да Комісарыяту, Беларуская Комуністычная Партыя зьяўлялася пэрыфэрыяй. Галоўная політыка, асяродак беларускай актыўнасьці зьбіраўся ў Камісарыяце, які зразу паставіў сваю працу на цьвёрдую нагу.

Пры сваім адчыненьні Беларускі Нацыянальны Камісарыят меў гэткія аддзелы: бежанскі, культурна-асьветны, статыстычны і выдавецкі. Час хутка дадаў да гэтага аддзел ваенны. Апошні зразу вырас і распачаў вялікую працу па організацыі беларускіх чырвонагвардзейскіх аддзелаў, на што вайсковы камісар (т. Падвойскі) даў дазвол. Пры клюбе Вараўскай Організацыі Беларускай Комуністычнай партыі былі заложаны кулямётныя курсы пад кіраўніцтвам т. А. Чарвякова і вяліся страявыя заняткі. На курсах вучылася шмат таварышаў. Хутка распачаў працу і аддзел выдавецкі, выпусьціўшы першы нумар „Весткі Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту“— „Дзяньніца“—1-га красавіка і ўзяўшыся за прыгатаваньне да друку шэрагу політычных брошур. Не адставалі і іншыя аддзелы, у скорым часе абагачаныя аддзелам юрыдычным. На першым пасяджэньні колегіі Камісарыяту 24 лютага, якраз перад уступленьнем немцаў у Менск, было вынесена шмат адпаведных пастаноў, напр.: адчыніць некалькі ніжэйшых беларускіх школак, курсы для настаўнікаў і курсы для сталых; узяць пад кантроль усе старыя беларускія вайсковыя організацыі, выбраць з іх соцыялістых і запісаць да чырвонае арміі, а астатніх распусьціць; адабраць усе панскія бібліятэкі і заснаваць з іх адну цэнтральную беларускую бібліятэку... У гэты самы час было прыступлена да організацыі „Гуртка ахвотнікаў беларускага народнага штукарства“, які хутка распа-

*) Пратаколы Пецярбурскай Організацыі Б. С. Г. Прат. ад 11 сакавіка 1918 г.

чаў сваю працу, а, таксама, была заложана каса ўзаемадапамогі беларускіх актыўных працаўнікоў. Усё разам казала, што Беларускі Нацыянальны Камісарыят стае цэнтрам савецка-комуністычнага крыла беларускага нацыянальна-рэволюцыйнага руху, што вакол яго сыдуцца ўсе сьцежкі, па якім павінна лінуцца паступовае змаганьне за дасягненьне галоўных мэтаў передавых сіл беларускага нацыянальнага руху—мэтаў пабудаваньня Савецкай Беларусі. Пэўна, пэрспэктывы гэтай працы былі дужа нявыразныя, затуманеныя, тым болей, што глеба, якая-бы падавала сьвежыя сокі, ляжала далёка ад месца знахаджэньня Камісарыяту, за высокай сьцяною фронту. Дрэнная палітычная сытуацыя ў зьвязку з захапленьнем немцамі Беларусі, падыхала сумам і балюча адбівалася на разгарненьні працы. Паўставалі розныя нечаканыя думкі і дагадкі — наконт далейшага лёсу Беларусі. Многія сымптомы былі вельмі паказны для гэтага. Папершае, перад уступам немцаў у Менск вышла з падпольля Рада Ўсебеларускага Конгрэсу, якая абвясьціла сябе ўладаю і з дапамогаю беларускае роты салдат завалодала дзён на тры Менскам. Падасьпеўшыя легіёны гэн. Даўбор-Мусьніцкага пераняли фактычную ўладу горадам да сябе, але Рада, выбраўшыся з дому губарнатара, дзе яна пакрулявала „вялікіх тры дні", ня сышла ў падпольле, а й з прыходам немцаў прадаўжала сваю працу. На пасяджэньні 9 сакавіка Выканаўчы Комітэт Рады выдаў „II Ўстаўную Грамату да народаў Беларусі", у якой, між іншым, гаварылася: „Беларусь у рубяжох расьсяленьня і лічбеннай перавагі беларускага народу абвяшчаецца Народнаю Рэспублікай. Асноўныя законы яе зацьвердзіць будучы Беларускі Ўстаноўчы Сойм. Да яго склікаьня заканадаўчая ўлада ў Беларускай Народнай Рэспубліцы належыць Радзе Ўсебеларускага Зьезду, дапоўненай прадстаўнікамі нацыянальных меншасьцяў Беларусі... Выканаўчая і адміністрацыйная ўлада, як і раней, належыць да Народнага Сэкрэтарыяту, які назначаецца Радаю Зьезду і перад ёю нясе адпавядальнасьць". Каб не аставіць „Грамату" суха-акадэмічным дакумэнтам, незалежнікі праставілі ў ёй і пытаньні, якія цікавілі востра сялянскія гушчы і нацыянальныя меншасьці—гэта пра мову і зямлю. У „II Устаўнай Грамаце" пісалася пра гэта: „Усе мовы на Беларусі раўнапраўны. Права прыватнай уласнасьці на зямлю касуецца. Зямля пераходзіць бяз выкупу тым, хто самі на ёй працуюць." 19 сакавіка на пасяджэньні Рады быў зацьверджан наказ, якім вызначаўся лічбенны склад Рады з 71 чалавека. А на пасяджэньні чародным, ноччу на 25 сакавіка, Рада прыняла пастанову аб аб'яўленьні Беларускай Народнай Рэспублікі незалежнай дзяржаваю, выдаўшы III Устаўную Грамату ўжо не ад рады Ўсебеларускага зьезду, а ад Рады Беларускае Народнае Рэспублікі.

Адначасна з актыўнай чыннасьцю Менскай Рады, падавалі аб сабе голас і віленскія незалежнікі. За час нямецкай окупацыі Віленшчыны, пасьля некаторага часу застою, у Вільні згуртаваўся новы крэпкі асяродак беларускіх сіл. Пачала выдавацца газэта „Гоман", шмат кніжак, і шырока разьвінулася культурна-асьветная праца. К канцу 1918 году па ўсёй Заходняй Беларусі, захопленай у 1915 годзе немцамі, налічвалася да 300 беларускіх школ. Ад культурнае працы віленцы паступова перайшлі да працы палітычнай. У канцы студзеня ў Вільні адбылася конфэрэнцыя, якая абрала Віленскую Беларускую Раду. Рада зразу прыняла востра-незалежніцкі напрамак, выдаўшы 18 лютага пастанову гэткага зьместу: „Палякі выказваюць захопныя тэндэнцыі на Беларусі; рускія войскі ня далі магчымасьці з'організавацца беларускай арміі і самі кінулі Беларусь безбароннаю; Беларусь мае ў гісторыі доказы магчымасьці не-

залежнага палітычнага існаваньня; бальшавіцкі ўрад вёў гвалтоўную палітыку над беларускім народам, аб чым сьведчыць разгон Усебеларускага Конгрэсу ў Менску. Прыймаючы ўсё гэта пад увагу, Віленская Беларуская Рада абвяшчае сувязь паміж Расіяй і Беларусьсю парванай. Рада зьвяртаецца да ўсіх заходніх дзяржаваў, асабліва да Нямеччыны, якая мае найбольш экономічных інтарэсаў, супольных з Літоўска-Беларускім краем, каб яны дапамаглі ў справе адбудовы дзяржаўнай незалежнасьці колішняга Літоўска-Беларускага гаспадарства, ня гледзячы на цяперашні разьдзел яго мяжою фронту".

Гэтыя факты яскрава сьведчылі за тое, што на пуціне пабудаваньня Савецкай Беларусі вынікаюць моцныя перашкоды. Разьвернутая праца менскіх і віленскіх незалежнікаў, хоць і пад няпрыхільным поглядам нямецкіх окупацыйных уладаў, затое ў блізкім стыканьню з беларускім працоўным народам, магла мець буйныя скуткі, адмоўныя для Савецкай Улады. К гэтаму, некаторыя мотывы дыктавалі нямецкаму камандаваньню окупацыйнымі войскамі, выкарыстоўваць для сябе працу незалежнікаў. Агрэсыўная політыка ў адносінах да Расійскай фэдэрацыі патрабавала выкарыстаньня розных сродкаў, якімі-б можна было прынесьці тую ці іншую шкоду Савецкаму Ўраду. Падпісаўшы грабежны Берасьцейскі акт, па якому большая частка Беларусі даставалася ім, нямецкія імпэрыялісты-юнкеры, аднак, чуліся за яго затулаю ня зусім бясьпечна і парушэньне беларускае незалежніцкае думкі ім было на руку. Як-ніяк, а і селяніна беларускага можна лягчэй адурачыць праз фіскальную гульню ў беларускасьць. І кіруючыся гэтымі пазывамі, час-ад-часу нямецкія окупанты падавалі повад радаўцам надзеяцца на посьпех іх прадаўнічай, з боку беларускага працоўнага народу, чыннасьці.

Гэткім чынам перад беларускімі савецкімі коламі, якія гуртаваліся ў Беларускім Нацыянальным Камісарыяце і ў Пецярбурскай Беларускай Комуністычнай Сэкцыі, вырастала настойная патрэбнасьць паставіць супроць незалежнікам сваю як моральную, гэтак і фізычную сілу. У кожным выпадку, і дзеля працоўных гушчаў заграніцы і дзеля буржуйных урадаў Эўропы патрэбна было адзначыць, што ўсе крыклівыя лямэнтацыі Беларускай Рады, усе яе захады да прадстаўніцтва ад беларускага народу—ніштo інакшае, як провокацыя. Сапраўдная Беларусь, яе працоўныя гушчы, заціснутыя ярмом нямецкай окупацыі, вельмі і вельмі далёкі ад ідэі паказной незалежнасьці і ўсёй інтрыгі авантурнай Рады. Працоўная Беларусь—хоча быць Савецкай краінай, хоча мець сваю работніцка-сялянскую ўладу. Настрой і пад немцамі і ў Усходняй Беларусі і сярод многалікіх бежанскіх масаў выразна казаў за гэта. Аставалася яго выявіць, сконцэнтраваць у адным фокусе і выліць у рознастайныя формы праз камісарыяцкую організацыю.

Кіраўнікі Беларускага Камісарыяту падлічвалі гэта і паступова разгортвалі сваю працу ў адпаведным гэтаму напрамку. На адным з пасяджэньняў колегіі Камісарыяту было пастаноўлена адчыніць аддзелы яго ў Віцебску, Смаленску і ў мясцох асяданьня бежанцаў, як: Саратаў, Тамбоў і Казань. Гэта пастанаўленьне зараз-жа прыняліся правадзіць. Ужо перад ад'ездам Белнакому ў Маскву быў камандзіраван у Віцебск памоцнік камісара т. Скарынка з мэтаю адчыненьня там аддзелу. Асабліва з Віцебскам справа не цярпела: трэба было загадзя пераняць мажлівы уплыў на жыхарства Віцебшчыны з боку Беларускае Рады, сэкрэтарыят якое зразу пасьля заняцьця Менску немцамі, пасьпяшыў закінуць вудачку ў Віцебскія супроць-савецкія колы. Каб зьмякчыць уражаньне ад окупа-

цыі Менску і затушыць мажлівыя выявіцца антынямецкія пачуцьці, Сэкрэтарыят Беларускае Рады хутчэй-жа паведамляў віцебчан тэлеграмаю, каб яны не баяліся нічога, бо ў Менску ўлада ў руках гэнэральнага сэкрэтарыяту (чытай-свая!), і што сэкрэтарыят сумее наладзіць жыцьцё. Хоць праўда, пакуль дайшла тэлеграма да віцебскіх установ—то і „ўлада" Сэкрэтарыяту пала, усё-ж нельга было пакідаць беларускія раёны бяз усякай савецка-нацыянальнай чыннасьці, якая-б у кожны адпаведны момант магла стаць супроць провокацыйна-антысавецкім выступленьням. К шкодзе, якраз, гэтага ўпарта не хацелі зразумець у той час Віцебская губэрская ўлада і прышлося нейкі час патраціць на выясьненьні бядовае абмылковасьці іх поглядаў. Нарэшце яны згадзіліся з довадамі прадстаўніка Белнакому, і к канцу сакавіка ў Віцебску было адчынена яго аддзяленьне. Праз нейкі час было заснована гэткае-ж аддзяленьне і ў Смаленску, у чэрвені, а далей—у Саратаве. У кожным з гэтых пунктаў закіпела работа па організацыі беларускае грамадзянскае савецкае думкі шпаркім тэмпам.

Прызывы Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту к беларускаму працоўнаму народу падняць голас протэсту супроціў нямецкіх окупантаў, якія захапілі вялікую частку Беларусі і пайшлі на гутарку з авантурнай Радай, каб зрабіць Беларусь асобнай рэспублікай пад протэкторатам немцаў,—атрымалі дружна-зьяднаны, гарачы водгук. Сялянства Віцебшчыны, бежанцы ў Саратаве і Маскве, бежанцы і матросы ў Пецярбурзе, політычныя партыі і аб'яднаныя на агульных зборах і на злучаных нарадах пачалі выносіць ваяўнічыя рэзолюцыі протэсту супроціў прыгнятацеляў і прадаўнікоў працоўнай краіны Беларусі. Гэтак, на агульным сабраньні Пецярбурскай Гарадзкой Організацыі Беларускай Социялістычнай Грамады 11 сакавіка аднагалосна была вынесена гэткая пастанова: „Політыку Менскіх Радаў прызнаць праступнай і асудзіць яе".*) І ў заключэньне прынята наступная рэзолюцыя:**) „Беларуская Социялістычная Грамада, як партыя рэволюцыйнага соцыялізму, першая пачала працу на ніве нацыянальнага адраджэньня дэмократычнага працоўнага беларускага народу і павяла гэту справу па тым шляху, які ня йдзе насупярэч клясавай барацьбе і вызваленьню ад экономічнага ўціску працоўнага народу. Але за апошні час, калі нацыянальна-соцыялістычны рух у Беларусі дужа пашырыўся і ахапіў усю Беларусь, да справы беларускай рэволюцыйнай дэмократыі пачалі прысяброўвацца розныя валацугі, падасланцы буржуазіі, зусім чужыя і шкодныя справе людзі, якія з-за аховы ўласных інтарэсаў і інтарэсаў буржуазіі прымазаліся да беларускага нацыянальна-соцыялістычнага руху, і справу культурнага адраджэньна беларускага народу пасіліліся зьвярнуць на другую пуціну, на пуціну згоды з беларускай буржуазіяй і панамі, з Украінскаю буржуйнаю прадажнаю Радаю і нават з польскімі контр-рэволюцыйнымі легіёнамі. Гэтак, у Цэнтральнай Вайсковай Радзе сабраліся „беларусы", якія, за сьпіною беларускай дэмократыі і беларускага народу, пахаўрусаваліся з Украінскай Радай і польскімі панамі; а заставшыся ад усебеларускага зьезду нейкі спаўняючы комітэт, туляючыся ад соцыялістычных організацый левага напрамку, узлажыў на сябе справу, на якую яго ніхто не ўпаўнаважваў: ён паслаў тайком ад ураду Расійскае Фэдэратыўнае Радавае Рэспублікі

*) Пратаколы Пец. Орг. Бел. С. Гр.

**) Рэзолюцыя была надрукавана ў „Дзяньніцы" № 4 за 1918 г. і няпоўнасьцю ў маім артыкуле „Два бакі беларускага нацыянальнага руху" „Полымя" № 3—4.

дэлегатаў з кадэтствуючых прадажна-буржўйных асобаў на нараду па замірэньню з немцамі; ад гэтых пасланцоў можна чакаць таго, што і ад Украінскае Рады. *) Прымаючы ўсё гэта пад увагу, Пецярбурская Організацыя Белар. Соц. Грамады абурана політыкай беларускіх самазванных радаў, рэзка адлучае ад сябе яе сяброў, аб'яўляючы ім бязьлітасную барацьбу, і, зьвяртаючыся да рэволюцыйных рабочых і сялян Велікарасіі і іншых нацыяў, якія жывуць у Расійскай Рэспубліцы, кажа ім голасна: Беларуская Соцыялістычная Грамада настолькі падзяляе нацыянальны рух, наколькі ён ня зрушае еднасьці рэволюцыйнага фронту і пасабляе хутчэйшаму вызваленьню працоўнага люду ад усякіх прыціскаў. Прэч буржуазію і яе ўстановы—Рады. Няхай жыве Савецкая Соцыялістычная Фэдэрацыйная Рэспубліка! Няхай жыве рэволюцыйная соцыялістычная беларуская дэмократыя! Няхай жыве работніча-сялянскі інтэрнацыянал!".

Гэта рэзолюцыя была адказам на першыя крокі чыннасьці менскіх радаў, пачынаючы ад Усебеларускага зьезду да ўваходу ў Менск немцаў.

Далейшая праца незалежнікаў, павёўшая за сабою абвяшчэньне Беларускай Народнай Рэспублікі і перагаворы з нямецкім камандаваньнем аб абвяшчэньні яе незалежнай—аб чым пранікалі весткі праз мяжу окупацыі—падняла цэлую хвалю протэстаў. З нумару ў нумар вестка Беларускага Камісарыяту, газэта „Дзяньніца" не пераставала біць трывогу аб паграджаючым становішчы Беларусі, прызываючы сялян і рабочых к абароне свае краіны.

На яе кліч з розных канцоў незанятае Беларусі і Расіі пачалі адгуквацца беларускія працоўныя гушчы, выказваючы сваю гатоўнасьць змагацца за захопленую Беларусь. На іх сходах, у пастановах і рэзолюцыях, выразна адзначалася глыбокае нацыянальнае пачуцьцё, якое, зьліваючыся ў адно цэлае, прадстаўляла магутны фактар, патрабуючы да сябе належнай увагі. 14 красавіка ў Пецярбурзе, а 21 красавіка ў Маскве адбыліся многалікія зборы бежанцаў, на якіх прадстаўнікі Белар. Камісарыяту, беларускай комуністычнай сэкцыі і левай соцыялістычнай грамады зрабілі даклады аб становішчы Беларусі. Тысячныя масы бежанцаў горача протэставалі супроць яе захопу немцамі і супроць Радаў, якія сваёю чыннасьцю аддавалі краіну ў доўгую няволю нямецкаму капіталу. Сьледам за гэтым пранеслася хваля протэстаў беларусаў-сялян Віцебшчыны. „Мы, грамадзяне Чэрнееўскай вол. Себескага павету Віцебшчыны,—гаворыць адна рэзолюцыя, надасланая ў Беларускі Нацыянальны Камісарыят:—сабраўшыся 7 траўня 1918 году на валасны сход і абгаварыўшы пытаньне ў зьвязку з вырашэньнем і ажыцьцяўленьнем Берасьцейскага замірэньня, пры гэтым аднагалосна пастанавілі: зьвярнуцца ў Беларускі Нацыянальны Камісарыят і ў урад Вялікай Расійскай Фэдэрацыйнай Рэспублікі з протэстам проціў намераў нямецкіх гвалтоўнікаў, якія праз розныя абяцанкі жадаюць абярнуць нас і нашых братоў беларусаў у сваіх нявольнікаў. Мы, беларусы, ня хочам міласьці нямецкіх кулакоў, а жадаем самі вырашаць лёс „Вялікай Роднай Беларусі" **). Таксама агульны збор (8 мая) сялян Старасельскай воласьці Віцебскага павету, абгаварыўшы бягучы момант, вынес пастанову, у якой паміж іншым кажа: „Самавызначэньне

*) Як вядома, Украінская Рада ў Брэсьце падпісала сэпаратную ўмову з немцамі, дзякуючы якой Украіна стала нямецкай провінцыяй.

**) „Дзяньніца" № 12 ад 17 траўня 1918 г.

Беларусі мажліва толькі бяз умешкі немцаў, якія сваім самавызначэньнем ставяць мэту адабраць здабытую намі з гэткай цяжкасьцю свабоду". Протэстуюць горача супроціў прыгнячэньня немцамі „нашае дарагое родзіны Беларусі" і сяляне Курынскай воласьці. На сваім сходзе таго-ж 8 траўня яны ў прынятай пастанове заяўляюць, што „ніколі не падчыняцца старым бюрократычным парадкам, хто-б іх не насаджваў". Яны просяць „усіх беларусаў аб'яднацца і выносіць катэгорычныя протэсты", а ў патрэбны момант і бараніць „нашу вялікую Беларусь ад бруднага нямецкага імпэрыялізму; а „камісара" па нацыянальных справах Беларусі просяць бараніць іх, запэўніваючы яго, што ў адпаведны момант „мы гатовы выступіць, як адзін чалавек, к вам на помач" *). Падобныя-ж протэсты прынялі на агульных, знарок сазваных, сходах беларускія сяляне Дамінікоўскай воласьці Невельскага павету, Ізмалінскай воласьці Себескага павету, Віцебскі павятовы савет сялянскіх і батрацкіх дэпутатаў і інш.

Побач з гэтым, падняліся протэсты ад бежанцаў, расьсеяных па розных глухіх кутках Велікарасіі. Частка гэтых протэстаў накіроўвалася ў Саратаўскае аддзяленьне Бел. Нац. Камісарыяту, частка надыходзіла ў Цэнтральны Бел. Камісарыят у Маскве. Бежанцы ў Царыцыне заяўлялі: „Мы, беларусы, што жывем у Царыцыне, заяўляем протэст на захапленьне немцамі Беларусі, бо мэта іх—аддаць беларускі працоўны народ у няволю. Нашы жаданьні—атрымаць самавызначэньне ў агуле з Расійскай Савецкай Фэдэрацыйнай Рэспублікай" **).

Агульны ўздым беларускай грамадзкасьці ў зьвязку з вострасьцю бягучага моманту ў гісторыі Беларусі вымусіў заварушыцца і левых соцыял-рэволюцыянэраў, беларусаў па нацыянальнасьці. У пачатку чэрвеня пры Беларускім Нацыянальным Камісарыяце ўзьнік ініцыятыўны гурток для ўтварэньня Беларускай сэкцыі левых соцыял-рэволюц. пры Цэнтральным Комітэце ў Маскве. Гурток гэтак акрэсьліваў абавязак кожнага рэволюцыянэра-беларуса: „Тое прыгнячэньне, якое беспасярэдна адчувае на сабе працоўны народ Беларусі, наперад усяго застаўляе кожнага рэволюцыянэра-беларуса падумаць аб вызваленьні краю ад нямецкага захопу і аднаўленьня ўлады мясцовай буржуазіі. Гэткім чынам, агульнае імкненьне рэволюцыйнай Расіі да змаганьня з нямецкім імпэрыялізмам прымае для беларусаў асаблівы, можна сказаць, востры характар. Беспасярэдная небясьпека для рэволюцыі ў краі, німінучасьць фізычнага змаганьня, неабходнасьць організацыі мясцовага насяленьня, галоўным чынам сялянства—усё гэта кліча да работы ў Беларусі тую партыю, якая высока трымае сьцяг рэволюцыі, напісаўшы на ім: „У змаганьні знойдзеш свае правы!" Але-ж тыя абставіны застаўляюць кожнага беларуса, які далучаецца да партыі левых соцыялістаў-рэволюцыянэраў, прыняць беспасярэдны і самы чынны ўдзел у справе вызваленьня краю" ***).

Сэкцыя хутка (26 мая) была з'організована і ў кароткі тэрмін налічвала ў сабе да соткі сяброў. 9 чэрвеня ў памяшканьні Сялянскай сэкцыі ЦВК яна склікала грамадзянска-бежанскі беларускі мітынг, на які сабралася да тысячы чалавек. На павестцы дню стаялі два пытаньні: бя-

*) „Дзяньніца" № 15 ад 7 чэрвеня 1918 г.
**) „Дзяньніца" № 12 ад 17 траўня 1918 г.
***) Аб Беларускай Сэкцыі левых соцыялістаў-рэволюцыянэраў. „Дзяньніца № 14 за 1918 год.

гучы момант і бежанскае пытаньне, як выплываючае з першага. Абгаварыўшы абодва гэтыя пытаньні, сход вынес па першаму з іх наступную рэзолюцыю: „Праслухаўшы прамоўцаў, якія абрысавалі політычнае становішча ў сучасны момант Расійскае Радавае Фэдэратыўнае Рэспублікі, у зьвязку з заняцьцем нямецкімі імпэрыялістымі ваколіц Рэспублікі, у асобку Беларусі, і, бяручы на ўвагу экономічны цяжар дамаганьняў усясьветнай буржуазіі, сход вітае Радавую Уладу за яе барацьбу, як з расійскаю буржуазіяй, гэтак сама і з народным ваяўніцтвам, за інтарэсы працоўнага народу, сялян і работнікаў. Утвораная нямецкімі ваяўнікамі-імпэрыялістымі злучна з беларускай буржуазіяй, так званая „Незалежная Беларуская Рэспубліка“, ёсьць ня што іншае, як спосаб да экономічнага і політычнага прыгону беларускіх сялян і рабочых, якія прынесьлі нязьлічаныя афяры дзеля заваёваў соцыяльнае рэволюцыі і якія падпадаюць цяперака пад усе жахі таго окупацыйнага парадку, перад якім бляднеюць страхі дзікасьцяў турэцкіх башыбузукаў. Сход протэстуе супроціў прадаўніцкага напрамку дзейнасьці Менскае Рады, якая прагаласіла „Беларускую Незалежную Рэспубліку“. Цяперашні сход без адлічча партыяў, каб чуў увесь сьвет, заяўляе, што самаскліканая прадаўніцкая рада, якая ня мае нічога супольнага з беларускім працоўным народам, ня мае права казаць ад яго імені нічога, ня мае права таргаваць яго крывёю, яго будучынаю ў Бэрліне і Кіеве; *) бо воля беларускага працоўнага народу настроена да цеснага яднаньня і братняга злучэньня з усімі вялікарасійскімі сялянамі і рабочымі, з усёю Радаваю Расіяю, якая высока трымае штандар барацьбы за правы і вольнасьці працоўных усіх краёў, усіх народаў. Сход зьвяртаецца з гарачым прызывам да зьяднаньня ўсіх беларусаў у барацьбе за вызваленьне роднае краіны; зьвяртаецца з поклічам да ўсяго працоўнага народу Расіі і Украіны і ўсіх старонак — пасобіць нацыянальнаму адраджэньню і вызваленьню працоўнае Беларусі, памагчы ёй змагацца з нямецкімі захопнікамі і гвалтаўнікамі, якія нясуць пагібель рэволюцыі і пабудову панства буржуазіі. Далоў заложаную нямецкімі штыхамі „Беларускую Незалежную Рэспубліку!“ Няхай жыве братні саюз паміж сялянамі, рабочымі й салдатамі Беларусі, Расіі, Украіны і ўсіх народаў! Няхай жывуць рады рабочых, салдацкіх, і сялянскіх дэпутатаў! Няхай жыве змаганьне за вольнасьць і правы працоўнага народу Беларусі **).

Як-бы ў дапаўненьне гэтай рэзолюцыі, сход прыняў пастанову аб організацыі беларусаў-бежанцаў праз павятовыя і губэрскія зьезды і праз Усерасійскі зьезд. Скліканьне апошняга было ўзложана сходам на Беларускі Нацыянальны Камісарыят, які хутка й прыступіў да падгатоўчай працы. У № 18 „Дзяньніцы“ (ад 7 ліпня) у пяршыню была зьмешчана адозва да ўсіх беларусаў-бежанцаў, павядамляючая аб хуткім скліканьні зьезду, аб пытаньнях, якія мецьмуцца на ім вырашацца і аб модусе прадстаўніцтва на ім. Сам па сабе гэты зьезд адкрываў шырокі шлях да далейшай організацыі беларускай савецкай думкі, пашыраючы яе ў сялянскія гушчы, гэтым падгатаўляючы будучую аснову беларускай дзяржаўнасьці. Беларускі нацыянальны камісарыят выяўляў сабе ўсю вялізную значнасьць гэтага зьезду, парашыў як найхутчэй склікаць яго, каб аднačасна з бежанскім пытаньнем пасьвяціць беларускія працоўныя масы ў становішча іх краіны.

*) Пры міравых перагаворах між Савецкаю ўладаю і Скарапацкім—у Кіеў сьдзілі прадстаўнікі Беларускай рады з сваімі дамаганьнямі.
**) „Дзяньніца“ № 17 за 1918 г.

Весткі аб зьезьдзе хутка разьнесьліся па ўсёй савецкай тэрыторыі і бурліва ўскалыхнулі бежанскія гушчы к назначанаму тэрміну. 17 ліпня зьехалася з усіх куткоў Расіі звыш 200 чалавек-дэлегатаў. Адчыніўшыся ўрачыста, зьезд цягнуўся пяць дзён і падрабязна абгаварыў бежанскае пытаньне, пытаньне культурна-асьветнай працы сярод беларускага жыхарства, чыннасьць Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту і сучаснае становішча Беларусі. У прынятых рэзолюцыях, па першым пытаньням зьезд выказаў сваю выразна-сьвядомую беларускую позыцыю і гэтым падкрэсьліў яшчэ раз пасьпешны ўзрост і разьвіцьцё савецкай беларускай грамадзкасьці, якой суджана будзе ў неўзабаве стаць на шлях дзяржаўнага будаваньня сваe савецкае краіны.

Разьвіцьцё здарэньняў няўхільна вярнула да гэтага. Там, за мяжою фронту, пад окупацыяй, Рада вяла сваю справу далей. Сказаўшы аз—яна сказала і букі. Ад нясьмелых мізэрных спробаў самастойнай чыннасьці яна мусіла пайсьці па кроках свае ўкраінскае аднайменьніцы—да нямецкага камандаваньня. Абвяшчаць Рэспубліку—адно, а правіць у ёй—другое. Для апошняга мала выбраць сэкрэтарыят, а трэба мець і аружную сілу, каб на што апірацца. Гэтай сілы, як вядома, Беларуская Рада ня мела. Фактычна яна была ў вольнай волі гэнэрала Фалькэнгайна, які насьмешліва пазіраў на яе ігру ў салдацікі, якая, вядома, нічога рэальнага ў сэнсе дзяржаўнага будаўніцтва „Незалежнай Беларускай Рэспублікі" не прадстаўляла. Трэба было знайсьці выйсьце. Беларуская Рада бачыла гэта выйсьце ў „хаўрусе" з немцамі. Да іх пакіравалі радныя з просьбамі, проэктамі і плянамі. Але поўнаўласнае ў Беларусі камандаваньне окупацыйным войскам ня было ўсё-ж компэтэнтным зрабіць гэткі адпаведны крок, як утварыць „беларуска-нямецкі хаўрус", ці хоць-бы вырашыць формальна пытаньне з Беларускаю Рэспублікаю. І Рада, доўга ня думаючы, шагнула праз голаў гэн. Фалькэнгайна, зьвярнуўшыся да самога Вільгэльма, нямецкага кайзара з вядомай тэлеграмай. Перад тронам тырана пакорліва схіліліся галавы і сяброў праваe Соцыялістычнае Грамады Партыі Соцыял-Дэмократаў і Беларускае Партыі Соцыялістых Фэдэралістых. Аднак, Вільгельм бязуважна прыняў нечаканую пакору і справа з „хаўрусам" мала пасунулася наперад. Усё-ж з надворнага боку гэты гістарычны акт меў вялікшае значэньне ў справе далейшага паглыбленьня здрадніцкай чыннасьці Беларускае Рады. У кожным разе ён даваў небясьпеку за будучыну окупаванай Беларусі. Магло стацца, што ў любы момант Вільгэльм можа хапіцца за добрую параду радных і папрабаваць зрабіць вопыт „нямецка-беларускага саюзу".

Па колькі можна было папярэдзіць гэткую провокацыю, нельга было адкладваць. Рэзолюцыі протэсту бурліваю хваляю прайшоўшыя па беларускай Расіі давалі зразумець, што, апроч Менскае Рады, ёсьць і іншыя прадстаўнічыя ўстановы беларускіх працоўных гушчаў; што гэтыя апошнія пільна сачаць за разьвіцьцём падзей у захопленай ворагамі радзіне і гатовы ў любы момант заявіць усяму сьвету, што ад іх аднялі яе на час, што ўпарадкаваньне ўлады і будаўніцтва залежыць зусім не ад Менскае Рады. Калі апошняя гатова аддаць Беларусь у прыгон юнкерам, то працоўныя масы будуць змагацца супроціў гэтага, бо яны хочуць мець незалежную Савецкую Беларусь. Гэта хаценьне, аб якім мала хто думаў і дбаў, аб якім Рада й не дагадвалася, — патрошку, з малога жаральца, хутка разьлілося ў бурлівую рэчку, абмыўшы сваімі хвалямі мнoгалікія беларускія працоўныя колы. Ужо ў рэзолюцыях протэсту віцебскіх сялян і бежанцаў мімаходам адзначалася, што будаўніцтва Беларусі павінна быць справай беларускіх працоўных масаў і мусіць ісьці ў напрамку са-

вавецкім. „*Мы, беларусы, хочам самі вырашаць лёс Вялікай Роднай Беларусі*“, канчаюць сваю рэзолюцыю сяляне Чэрнейскай воласьці Себескага павету (глядзі вышэй). „Нашы жаданьні—атрымаць *самавызначэньне Беларусі* ў агуле з Р. С. Ф. С. Р,“ заяўляюць бежанцы з Царыцына. „Мы стаімо *за самавызначэньне Беларусі* ў фэдэрацыі з Р.С.Ф.С.Р.“, патрабуюць сяляне Дамінікаўскай воласьці Невельскага павету. „Самавызначэньне Беларусі мажліва толькі бяз умешкі немцаў“, кажуць сяляне старасельскай воласьці Віцебскага павету (глядзі вышэй). І чым далей, тым гэта думка ўсё мацнела, а к часу Ўсерасійскага зьезду бежанцаў-беларусаў вылілася ў адпаведную форму выразнай пастаноўкі пытаньня. Замест „можам“ і „трэба“—стала зычаць моцнае, цьвёрдае—„павінна“ . „мусіць“. „*Беларусь павінна быць Савецкай Рэспублікай,* а не Незалежнай, Народнай! — Гэта мусяць ведаць тыя, хто бяз голасу працоўных масаў спрабуе вырашаць іх лёс“.

Разам з гэтым давалася разуменьне і для Савецкае Ўлады, каб яна помніла, што ў часы вызваленьня Беларусі з-пад нямецкай окупацыі—трэба будзе даць ёй самастойнасьць Рэспублікі. Беларускія працоўныя гушчы праз цёмную завесу мук і стогнаў свае краіны, праз сетку сваіх пакут, ачулі і праглядзелі шлях да самабудаваньня свайго жыцьця і жыцьця свае краіны. Гэта ляжала ў поўным самавызначэньні, у поўным нацыянальным вызваленьні, а пасьля—у цеснай братняй злуцы з працоўнымі гушчамі Велікарасіі, Украіны і ўсіх нацыяў вызваленай з царскага і буржуазнага прыгону быўшай Расіі.

Другога чэрвеня адбыўся ў Кронштаце агульны сход беларусаў-маракоў Бальтыцкага флёту і ўсіх грамадзян-беларусаў, якія пражывалі ў Кронштаце, у ліку звыш 500 чалавек, пад старшынством матроса Г. Мельнічэнкі. Сход, заслухаўшы даклады аб „Гістарычным лёсе і аб сучасным становішчы Беларусі і бежанскім пытаньні“—пастанавіў: „*Цэнтральны Беларускі Камісарыят павінен прыняць меры да скліканьня II усебеларускага Зьезду, які-бы канчаткова вырашыў лёс Беларусі*“. У рэзолюцыі прынятай па дакладу і некалькі блытанай, але цікавай па зьместу, вось як азначаецца тагочаснае становішча Беларусі і тыя шляхі, па якіх павінна пайсьці дзяржаўнае яе будаўніцтва: „Заслухаўшы даклад аб сучасным становішчы Расіі і, галоўным чынам, аб родным краі Беларусі, а таксама аб намерах прылучыць да окупаванай часьці яе неокупаваныя прасторы і праз гэта канчаткова заняволіць увесь край, сход маракоў-беларусаў усяго Бальтыцкага флёту ў Кронштаце і ўсіх грамадзян-беларусаў, якія пражываюць у Кронштаце, прызнае: 1) што становішча ўсяе краіны (Расійскай Фэдэрацыі) пад націскам заходняга імпэрыялізму і паўстаньня ў сярэдзіне з кожным днём горшае й страшнее. Цяпер ужо стала ясна, што ў пляны нападаючых ворагаў уваходзіць думка—зрабіць чорны падзел Вялікае Расійскае Рэспублікі. 2) Што аднэю з афяраў гэтага чорнага падзелу Расіі, па свайму гістарычнаму становішчы і сучаснаму бегу здарэньняў зьяўляецца наша, доўгія гады спаўшая, прыніжаная і абойдзеная Беларусь. Вагромныя абшары яе з натуральнымі багацьцямі, з крэпкім духам беларускага народу, з парубежным становішчам і гістарычным мінулым,—зьяўляецца выгадным таварам на міжнародным рынку і гэтым таварам імкнецца пакарыстацца ў першы чарод імпэрыялістычная Нямеччына. 3) Што захопніца Нямеччына зараз самым дзікім спосабам глуміцца над нашым родным краем у яго окупаванай частцы і ў агульным шоламе гатуецца дзікім зьвяром накінуцца і на астатнія, яшчэ незанятыя часткі Беларусі, каб і ў іх сабраць усё, што

можна, аж да адабраньня апошняга зерня цяпер багата сьпеючай нівы, а затым, выціснуўшы з беларуса апошні сок, на агульным міравым конгрэсе, які ўжо не за гарамі, кіне няшчасную Беларусь у цапкія рукі аднэй з монархічных дзяржаў. Гэткае становішча нашага роднага краю застаўляе нас зьвярнуцца да расійскай дэмократыі і прасіць: 1) Каб былі прыняты самыя рашучыя й неадкладныя крокі да ўзмацненьня абароны яшчэ незанятай усходняй часьці Беларусі, каб ня даць Нямеччыне багатага ўраджаю і не падчыніць апошнюю жменю беларусаў яе жалезнаму гвалту. 2) Каб была дадзена поўная мажлівасьць і гарантыя неадкладнага склíканьня другога Ўсебеларускага Зьезду, на якім сам беларускі народ скажа сваё рашучае слова аб далейшым сваім лёсе. Сход заяўляе, што самачынна ўтвораны ў Менску Ўрад Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ён не прызнае і супроціў яго протэстуе. Сход лічыць, што ўся Беларусь, па духу свайго беларускага працоўнага народу, па свайму гістарычнаму мінуламу і па ходзе Вялікае Расійскае Рэволюцыі—зьяўляецца неаддзельнай часткаю Расійскае Фэдэрацыйнае Рэспублікі, у якую яна павінна ўвайсьці, як аўтономнае, дзяржаўнае цэлае. Сход заяўляе, што ў мэтах абароны Беларусі і яе натуральнага самавызначэньня, у мэтах утварэньня агульна-расійскага Фэдэрацыйнага Саюзу, ён гатоў аддаць сябе ў распараджэньне тых колаў, якія возьмуць на сябе абарону адраджаючайся і самавызначаючайся Роднай Вольнай Беларусі. Сход таксама протэстуе супроціў агульнага імкненьня Нямеччыны навязваць працоўным народам окупаваных частак Расіі монархічны і буржуйны лад, адкідаючы культуру народаў і іх вызваленьне на цэлыя стагодзьдзі назад“.

Бежанскі зьезд, прадстаўляючы сабою тысячныя грамады беларускага сялянства, раскіданага па вялікіх абшарах Велікарасіі, запакутаванага дашчэнту ўдалёку ад радзімы, яшчэ рашучай паставіў кропкі над літарай і. У рэзолюцыі аб сучасным становішчы Беларусі ён выразна выказаўся за „*вольную работніча-сялянскую Беларусь*“. „Усерасійскі зьезд бежанцаў-беларусаў—гаворыць рэзолюцыя зьезду: „азнаёміўшыся падрабязна з тым палажэньнем, якое цяпер маецца ў нашай роднай старонцы, парашыў прызнаць, што з гэткім палажэньнем ніякім чынам нельга згадзіцца. Вось там, у Менску, залажылася нейкае, так празыванае „Беларускае Правіцельства“, якім кіруюць памешчыкі-палякі: Р. Скірмунт, Хржонстоўскі, Лянкоўскі і іх прыслужнікі, розныя хлусна-соцыялістыя. Гэты ўрад, нібы-та стараецца дастаць для нашае старонкі незалежнасьць, сапраўды-ж праз гэту незалежнасьць мерыцца ўвясьці ў нашай краіне скінуты царскі парадак і аддаць яе на абіраньне нямецкаму ваяўніцтву й буржуазіі. Пры гэткім парадку, калі яго дапусьціць зрабіць беларускі працоўны народ—ён ня будзе мець ні зямлі, ні волі і не дастане ні капейкі за зьнішчанае вайною сваё дабро. Беларускі працоўны народ, побач з другімі, дамагаўшыся зямлі і волі і дастаўшы яе праз вялікую Расійскую рэволюцыю, ніколі ня згодзіцца нанава падпадаць пад цяжкі прыгон памешчыкаў і капіталістых. Прычасьціўшыся волі, ён, як адзін чалавек, сумее паўстаць і адагнаць са свае краіны сваіх ворагаў і прыгнятацеляў. Толькі ў змаганьні—свабода! Усім-жа тым апякуном Беларусі, якія выпадкам, для сваіх выгад, спыніліся на ёй і стараюцца прывесьці яе не да незалежнасьці, а да самага страшнага прыгону, якога і дзяды ня ведалі і ня зносілі, скажа: „Вон з нашага краю, паганыя злыдні! Дэмократычны беларускі народ досыць ужо нацярпеўся на працягу гісторыі і ад польскіх паноў, і ад расійскіх чыноўнікаў і цяпер хоча быць вольным і шчасьлівым“. А гэта воля і шчасьце будуць з ім толькі тады,

*калі ён будзе жыць у вольнай злуцы з Расійскаю Савецкаю Рэспублікаю,* ня даўшыся ні ў лапы беларускіх паноў, ні ў пастку нямецкіх капіталістаў.

Далоў-жа насаджаную немцамі з дапамогаю беларускіх памешчыкаў незалежнасьць!

Няхай жыве, *Вольная Работніча-Сялянская Беларусь у цеснай братняй злуцы з Расійскаю Савецкаю Рэспублікай!*

Няхай жыве вольная злука працоўнага народу ўсіх краёў і ўсіх нацыяў!*)

Прадбачачы мажлівасьць торгу за окупаваную Беларусь між буржуазнымі дзяржавамі на міравым Конгрэсе, Усерасійскі зьезд бежанцаў папярэдзіў гэта наступнай рэзолюцыяй „па пытаньню аб прадстаўніцтве ад беларускага працоўнага народу на будучай мірнай нарадзе народаў: „Прызнаючы, што Беларусь павінна ўвайсьці ў будучыне ў склад саюзу свабодных народаў на падставе аўтономнасьці у фэдэрацыі з Расійскай Савецкай Рэспублікай, Зьезд прызнае неабходным, каб на будучай мірнай нарадзе народаў былі прадстаўнікі ад беларускага працоўнага народу для абароны яго інтарэсаў на падставе клясавага самавызначэньня і аднаўленьня яго культурна-гаспадарчага жыцьця, нашчэнт зруйнаванага імпэрыялістычнай вайною. Беларускі народ, як гэткі, ёсьць працоўны народ, а таму прадстаўнікі на мірную нараду павінны быць выбраны самім працоўным народам Беларусі бяз розьніцы нацыянальнасьцяў, якія ў ёй жывуць,—а не пасылацца ад імя якіх бы там ня было самазваных організацыяў і ўрадаў.**)

Беларускі Нацыянальны Камісарыят улічваў адпаведную сытуацыю ў політычным становішчы. Намер і рашучасьць з'організаваных беларускіх працоўных гушчаў абараняць Беларусь праз яе дзяржаўнае будаваньне на падставе прынцыпыў Кастрычнікаўскай Рэволюцыі вымагала ад прадстаўнічай беларускай інстытуцыі, якім быў Камісарыят пры Савецкай уладзе, рабіць належныя крокі да ажыцяўленьня гэтай думкі. Па разуменьню кіраўнікоў Беларускага Камісарыяту і беларускіх савецкіх організацыяў нельга было захоўваць неазначанасьць погляду на Беларусь з боку Савецкае Ўлады ў гэткі адпаведны для беларускага працоўнага народу момант. Нядбаньне аб дзяржаўным ладзе яе магло шкодна адбіцца на настроі проціўрадаўскіх колаў і саслужыць козырам для окупантаў. Абласны Комітэт Заходняй вобласьці, які знаходзіўся ў Смаленску і правіў незанятай немцамі часткаю Беларусі (Віцебшчына не хацела ўходзіць у Заходнюю вобласьць), не разумеючы ўсёй значнасьці нямецкарадаўскіх інтрыгаў і не прыдаючы вялікага значэньня беларускаму пытаньню, прапускаў яго скрозь пальцы. Болей таго, амаль ня з самага заснаваньня Камісарыяту газэта Абласнога комітэту Заходняй вобласьці „Известия Исполнительного Комитета Советов Западной Области“ і газэта „Звезда“ ўзялі варожы тон у адносінах да Камісарыяту і разад-разу нападалі на яго, лічачы яго непатрэбнай, нават шкоднай для справы рэволюцыі, установай.

Гэта хітра і ўмела падлічвалася радаўцамі, яны абмылкі Вобласнага Комітэту Заходняй вобласьці выкарыстоўвалі ў сваіх мэтах. „Заходняя вобласьць,—казалі яны: „ці-ж ня тое самае, што „Паўночна-Заходні Край“ —назва, дадзеная Беларусі царскім русыфікатарскім урадам з адпаведнаю мэтай? Чаму-ж бальшавікі, прызнаючы самавызначэньне народаў,

*) „Дзяньніца“ № 21 ад 26 ліпня 1918 г.
**) „Дзяньніца“ ад 30 ліпня 1918 г.

баяцца Беларусь назваць яе сапраўдным імем? Дзе-ж іх шчырасьць? На ненормальнасьць і дражлівасьць гэтага пытаньня ў адзін голас скардзіліся дзесяткі таварышаў-эмісараў падпольнікаў, якія пасылаліся Беларускім Нацыянальным Камісарыятам у окупаваную Беларусь і якія кожны тыдзень наяжджалі з дакладамі. Камісарыят выразна адчуваў гэту недарэчнасьць і, само сабою, першыя крокі па шляху дзяржаўнага будаваньня Савецкай Беларусі трэба было кіраваць на Смаленск. Трэба было высьніць заблытанасьць пытаньня з назваю Беларусі—Заходняю вобласьцю—і, паразумеўшыся з таварышамі обліскомзапцамі, павесьці далей агулам захады ў гэтым напрамку.

У першай палове жніўня месяца ў Смаленск адправіліся для перагавораў з Абласным комітэтам камісар Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту т. Я. Лагун і з ім т. Войтка. Я. Лагун падаў у комітэт даклад, які быў пастаўлен на разгляд на пасяджэньні комітэту ад 16 жніўня 1918 году. Вось тэкст дакладу:

„Заходня-Абласному Комітэту Расійскай Комуністычнай партыі (бальшавікоў) Загадчыка Беларускім Камісарыятам пры Народным Камісарыяце па справах нацыянальнасьцяў—даклад аб перайменаваньні „Заходняй вобласьці“ у „Беларуска-Літоўскую.*)

Спраўка: 1) Канстытуцыя РСФСР, разьдзел 1, глава 1, § 2: „Савецкая Расійская Рэспубліка зацьвярджаецца на падставе свабоднага саюзу свабодных нацыяў, як фэдэрацыя савецкіх нацыянальных рэспублік“. 2) Разьдзел II агульнага палажэньня канстытуцыі РСФСР § 2: „Саветы абласьцей, якія адлічаюцца асаблівым бытам і нацыянальным складам, могуць об‘яднацца ў аўтономныя абласныя саюзы, на чале якіх, як і на чале ўсялякіх могучых быць заложанымі абласных аб‘яднаньяў, наогул, стаяць Абласныя Зьезды Саветаў і іх выканаўчыя органы. Гэтыя аўтономныя абласныя саюзы ўваходзяць на падставах фэдэрацыі ў Расійскую Соцыялістычную Савецкую Рэспубліку.

Прымаючы на ўвагу прыведзеныя вышэй асноўныя законы РСФСР, і грунтуючыся на рэзолюцыях і пастановах, якія вынесьлі сэкцыя беларусаў комуністаў Ленінградзкага комітэту РКП, сэкцыі беларусаў РКП Ленінграда, Масквы, Тамбова, Саратава і многа іншых гарадоў, а таксама і організацыяў, якія стаяць на пляцформе Савецкае Ўлады, аб перайменаваньні Заходняй вобласьці ў Беларуска-Літоўскую і лічачыся з тым, што колы капіталістычных кулацкіх незалежнікаў-самасьційнікаў працуюць над замацаваньнем „Беларускае Незалежнае Рэспублікі“ ў абставінах окупаванай Беларусі, каб захаваць там сваё клясавае панаваньне; што пры гэтым яны агалашаюць і распальваюць нацыяналізм, дасягаючы мэты варожае Расійскай Рэволюцыі, як то было з 1-шым Усебеларускім зьездам, які адбыўся ў Менску 15/XII 1917 году і наглядна паказаў прыклад захапленьня цёмных народных гушчаў нацыянал-шовіністычнымі ідэямі, — трэба адзначыць, што напрашваецца сам сабою вывад — перайменаваць Заходнюю Вобласьць у Беларуска-Літоўскую і гэтым вырваць раз назаўсёды корань розных замераў да вузка-нацыяналістычных імкненьняў, а ў адносінах да несьвядомых культурна і політычна масаў стаць сваімі, дзеля ажыцяўленьня соцыяльна-клясавых заданьняў, якія паставіла Вялікая Кастрычнікаўская Рэволюцыя; зьнішчыць з карэньнем пытаньне „нацыянальнай незалежнасьці“ і перадаць доўга прыгнячаўшае рабочых і сялян і быў-

*) Формуліроўка пропозыцыі Бел. Нац. Каміс. ясна сьведчыць аб далікатных адносінах у той час да ўжо насьпеўшага вырашэньня беларускага пытаньня.

шае сродкам дзеля эксплёататараў на працягу стагодзьдзяў нацыянальнае пытаньне ў рукі рабочых і сялян ды накіраваць яго так, каб яно служыла дадаткам да дыктатуры бяднейшых над прыгнятацелямі. Левыя эс-ры якраз у апошні час і прынялі гэту тактыку, накіраваўшы сваю чыннасьць у окупаваныя часткі Беларусі, дзе праз сваіх агітатараў (а іх налічваецца па маіх вестках да двух з паловаю тысяч) няўхільна зацьвярджаюць беларускім працоўным масам—што справа вызваленьня Беларускага народу —ёсьць справа яго самога, што Савецкая Расія, падпісаўшы Берасьцейскі мір, прадала Беларусь, зьмяніла соцыялізму і г. д., а, дзякуючы гэтаму, сярод беларусаў окупаванай часткі Беларусі паўсталі сэпаратыскія імкненьні да неорганізаваных выступленьняў супроціў окупацыйнай улады, якія часта прыводзяць да зьніштажэньня немцамі цэлых вёсак, да растрэлаў і г. д. Знаёмячыся з павядзеньнем і тактыкаю левых эсэраў, можна быць пераконаным, што яны ёсьць рабочнымі пасобнікамі Менскіх Радаў капіталістаў-памешчыкаў, што яны дзеля таго, каб уцягнуць Савецкую Расію ў становішча вайны з Нямеччынай, пасаблялі Радзе замацоўваць незалежную рэспубліку, што яны таксама, як і Менская рада, няўхільна зацьвярджалі, што Савецкая Расія забыла аб беларусах. У зьвязку з дадатковай ратыфікацыяй мірнага дагавору і наступным ачышчэньнем немцамі некаторай часьці Беларусі, жыхарству беларускаму давядзецца весьці змаганьне супроціў самасьційнасьці, між тым гэтаму вельмі пасобіла-б перабудаваньне вобласьці водлуг констытуцыі РСФСР.

Не знаходзячы мажлівасьці прыводзіць больш доказаў, якія вымагаюць безадкладнага рашэньня пытаньня аб перайменаваньні Вобласьці (на III Вобласным Зьезьдзе С. Р. і К. Д. пытаньне гэта вырашана ў дадатным сэнсе) знаходжу, што раней, чым унесьці зачэпленае мною пытаньне на абгавор пасяджэньня пленуму зьезду, ён бязумоўна павінен быць абгаворан у вышэйшай інстытуцыі—у Абласным Комітэце Р. К. П. З гэтае прычыны Беларускі Нацыянальны Камісарыят мусіць згаварыцца з ЦКРКП, ЦИК Саветаў і Саўнаркомам, мотывуючы належным чынам сваю пропозыцыю, а пасьля, у залежнасьці ад паглядаў Цэнтральных установ улады, вынесьці і сваё рашэньне па гэтаму пытаньню. Дзеля гэтага прашу КРКП назначыць нараду, пасьвечаную пытаньню аб перайменаваньні вобласьці, паставіўшы Белнаком да ведама аб часе нарады.

Нарэшце трэба адзначыць, што Беларускі Нацыянальны Камісарыят, ставячы пытаньне аб перайменаваньні Вобласьці, лічыць, што дадатняе яго вырашэньне адначасна перадрашае пытаньні аб патрэбнасьці існаваньня некаторых аддзелаў Камісарыяту. Дзеля вырашэньня пытаньня аб Беларускім Камісарыяце патрэбна мець думку Наркомнаца. Загадчык Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту Я. Лагун.“ *)

Азнаёміўшыся з дакладам т. Я. Лагуна, Абліскомзап пастанавіў: „Пропозыцыю аб перайменаваньні Заходняй вобласьці ў Беларуска-Літоўскую, адкінуць. Прыняць пропозыцыю перайменаваць Заходнюю вобласьць у Заходнюю комуну“. Гэта пастанова была адаслана ў Народны Камісарыят па нацыянальных справах, а адтуль накірована ў Беларускі Камісарыят.

Такім чынам захады да пагоджаньня з таварышамі з Абліскомзапа па беларускаму пытаньню, які прыняў Белнаком—не прывялі к дадатным скуткам. Абліскомзапаўцы не адкінулі сваіх памылковых поглядаў на гэта, а, наадварот, цягнулі далей газэтную кампанію супроціў „гэтае зацеі“,

*) „Дзяньніца“ ад 25 кастрычніка 1918 г.

якою яны лічылі Беларускі Нацыянальны Камісарыят з яго політыкаю. У газэтных артыкулах т. т. з Абласнога Комітэту ня скупіліся на моцныя словы і вольныя выказы, сьведчачы гэтым аб безнадзейнасьці для Белнакому пачынаць справу дзяржаўнага будаўніцтва Савецкай Беларусі з гэтага боку. На незаслужаныя напады на Беларускі Нацыянальны Камісарыят „Звезды“ і „Известий И. К. С. Зап. Ком.“ газэта „Дзяньніца“ ў рэзкім артыкуле „Няпрыстойна комуністам!“ адказвала так: „Вось ужо на працягу доўгага часу „Известия И. К. С. Зап. Воб.“ і „Звезда“ нясьціхана вядуць сплетную інтрыжную вайну супроціў Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту і яго аддзяленьняў, накідаючыся на іх з усіх бакоў і чапляючыся да яго бяз усякай прычыны, за няма што. Калі прачытаць іх нападкі, то сорамна неяк становіцца за іх! Ня крыўда, ня злосьць, а проста нейкая няёмкасьць забірае цябе, калі ты бачыш, што расійская дзейнасьць, якая будуецца на закладзінах соцыялізму і рэволюцыйнага разьвіцьця, мае перад сабою гэткія прыкрыя рэчы, як напад аднае рэволюцыйнае ўстановы на другую. Хочацца думаць, дый трэба так думаць, што рэдакцыі „Известий И. К. С. Зап. Ком.“ і „Звезды“ або не разьбіраюцца ні ў чым па няведаньню і няяснасьці ўяўленьня сабе задачаў моманту, ці знарочыста робяць непачэснае дзела—цкаваньне другіх, роўных сабе, а мо‘ й вышэйшых устаноў, і працуючых у іх таварышоў. Беларускі Нацыянальны Камісарыят выклікан да жыцьця ходам і разьвіцьцём Вялікае Расійскае Рэволюцыі, якая напісала на сваім штандары і правяла ў жыцьцё прынцып: „Свабоднага самабудаваньня народаў на працоўных закладзінах“. Яна выпхнула на паверх жыцьця вышэйшую, раўнапраўную з іншымі інстытуцыямі Фэдэрацыйнай Расійскай Рэспублікі, інстытуцыю па нацыянальных справах рабочых і сялян розных нацыянальнасьцяў — Народны Камісарыят па справах нацыянальных. Пры гэтым Камісарыяце заложана ўжо цэлых 18 нацыянальных аддзелаў, у тым ліку і беларускі, якія агулам прынесьлі нязьлічаную карысьць для Расійскае Рэволюцыі— што ясна кожнаму шчыраму яе прыхільніку.“ *)

Падобныя артыкулы ў „Дзяньніцы“ былі скуткам нападнае кампаніі „Известий К. С. Зап. Ком.“ і „Звезды“ на Беларускі Нацыянальны Камісарыят, але яны зьмяшчаліся вельмі рэдка, ужо тады, калі нельга было не адказаць у інтарэсах самой рэволюцыі. Аднак, пасьля адхіленьня Аблiскомзапам пропозыцыі Белнакому аб перайменаваньні Заходняй Вобласьці ў Літоўска-Беларускую політычная сытуацыя ўнутры рэспублікі й пазамежамі была гэткай, што трэ‘ было больш чыньня, чым слоў. Вакол Камісарыяту стыхійна концэнтраваліся беларускія сілы, у якіх увачавідкі расло жаданьне і імкненьне будаваць Савецкую Беларусь, рабіць захады к Савецкаму Ураду аб пастаноўцы гэтага пытаньня на павестку дня. З окупаванай Беларусі даходзілі весткі аб разлажэньні нямецкае арміі, аб прагным чаканьні працоўнымі беларускімі масамі бальшавікоў. Сам ход разьвіцьця рэволюцыі казаў за тое, каб Савецкая Улада пайшла ў вызваленыя нацыянальныя вобласьці з ясна акрэсьленымі лёзунгамі нацыянальнай політыкі. Замест розных „незалежніцкіх“ рэспублік Радаў і Тарыбаў, працоўнае жыхарства Беларусі, Літвы, Латвіі мусела атрымаць вольныя Савецкія Рэспублікі, ідэяй, настроем, духам родныя Расійскай Савецкай Рэспубліцы. Інакшага шляху ня было—кожны гэта ведаў.

*) „Дзяньніца“ 25 кастрычніка 1918 г. артыкул: „Няпрыстойна комуністам“.

Яснай была пэрспэктыва і для Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту. Аставалася напружаньней організаваць сілы. Каб мэтазгодней павесьці працу ў гэтым напрамку, пры Камісарыяце ў канцы жніўня заложылася Беларуская Комуністычная Фракцыя, якая і прыняла на сябе гуртаваньне крэпкага комуністычнага асяродку, так патрэбнага для будучай працы ў вызваленай Беларусі. Побач з гэтым на 30 кастрычніка пры Камісарыяце была склікана нарада з адпаведных працаўнікоў Камісарыяту, яго аддзяленьняў і прадстаўнікоў беларускіх комуністычных сэкцыяў. Нарада, адчыніўшыся другога лістапада, мела мэтаю акрэсьленае ў тэлеграме, якая была паслана т. У. Леніну: „Першая нарада адпаведных працаўнікоў Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту, якая задалася мэтаю *сабраць сярод працоўнага жыхарства Беларусі рэальныя сілы для сусьветнай соцыяльнай рэволюцыі і дыктатуры пролетарыяту*, на першым пасяджэньні другога лістападу абрала вас, дарагі Уладзімер Ільліч, як правадыра сусьветнай рэволюцыі,сваім ганаровым старшынёю, просячы прыняць гэта абраньне“ *). Адначасна нарада паслала другую тэлеграму т. Сталіну гэткага зьместу: „Першая нарада адпаведных працаўнікоў Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту на пасяджэньні другога лістапада абрала Вас ганаровым старшынёю, *як сапраўднага выказчыка клясавага руху нацыянальнасьцяў*, і просіць заўтра, 3 лістапада, а 12 гадзіне наведаць сваім прысутнічаньнем“ **).

Гэта нарада падрабязгова абгаварыла пытаньні моманту і справу далейшай працы Беларускага Камісарыяту. Яна адмеціла разам з гэтым дадатныя ўмовы для спрыяючага разьвіцьця здарэньняў у бок вырашэньня беларускага дзяржаўнага пытаньня. Няўдача перагавораў т. Лагуна з Аблiскомзапам пасьведчыла для нарады ў тым сэнсе, што апошняя мусяла пачынаць справу вырашэньня беларускага пытаньня з цэнтру і пачынаць, як найхутчэй, каб не адстаць ад разьвіцьця здарэньняў.

Нарада пастанавіла таксама, заснаваць комуністычную сэкцыю пры Маскоўскім Комітэце Р.К.П., увайшоўшы з хадайніцтвам аб гэтым у Маскоўскі Комітэт.

Апошні зразу даў згоду на гэта, і 14 лістапада адбыўся організацыйны сход комуністых-беларусаў Масквы, які і выбраў часовае бюро сэкцыі з пяці сябраў і трох кандыдатаў (сябрамі ўвайшлі: З. Жылуновіч, Я. Лагун, А. Усьціновіч, А. Дзедзя і Хрэнаў, а кандыдатамі—З. Чарнушэвіч, Салтыкаў і Клыс). Гэты вялізнай важнасьці факт зразу мяняў справу далейшага дамаганьня за Савецкую Беларусь, за правільнае вырашэньне беларускага нацыянальнага пытаньня. Сэкцыя, хутка вырасшы ў магутную комуністычную організацыю, аднавіла падставіны для працы Нацыянальнага Камісарыяту, прыдаўшы ёй большую рашучасьць і аўторытэтнасьць. У Камісарыята знайшлася магчымасьць разьвінуць шырэй агітацыйную чыннасьць, як у Р.С.Ф.С.Р., гэтак, асабліва, і ў Беларусі. Амаль ня што-дня бюро сэкцыі адпраўляла ў окупаваную Беларусь беларусаў-комуністых, якія хутка заснавалі ў Менску беларускую сэкцыю і павялі шырокую працу. Была наладжана цесная сувязь паміж Менскам і Масквою, даючы гэтым праўдзівую орыентыроўку ў працы.

*) „Дзяньніца“ ад 19 лістапада 1918 г.
**) „Дзяньніца“ ад 19 лістапада 1918 г.

Дзякуючы гэтаму, пытаньне аб Савецкай Беларусі настойна вытыркала на паверх, выразьней і выразьней азначваючы на свае аблічча, і застаўляла гутарыць аб сабе на народных мітынгах, на нарадах Камісарыяцкай Колегіі, Бюро Белсэкцыі, на сходах беларускіх комуністых і асабліва на старонках „Дзяньніцы“.

У паветры ўжо насіўся подых блізкага прыходу вялікага нараджэньня Беларускай Незалежнай Савецкай Социялістычнай Рэспублікі.

# Пуці змычкі.

*(Беларуская літаратура ў яе адносінах да агульнай культуры пролетарыяту).*

## М. Байкоў.

Пытаньні, якія ўзьнікаюць у адносінах да зьяваў літаратурнай творчасьці больш, чымся іншыя культурна-акадэмічныя пытаньні, маюць жыцьцёвы, практычны характар. Яны выклікаюцца самым жыцьцём, а іх вырашэньне намячае шлях разьвіцьця літаратуры, які найбольш адпавядае запатрабаваньням жыцьця і будове грамадзянства. У сучасны момант, калі галоўным чыньнікам грамадзянства зьяўляецца пролетарыят, і на першым пляне павінны стаяць культурныя запатрабаваньні пролетарскай клясы ў цэ лым.як міжнароднага злучэньня працоўных мас, зусім натуральным і зразумелым зьяўляецца пытаньне аб адносінах беларускай літаратуры да агульнай культуры пролетарыяту, або, фігуральна кажучы, пытаньне аб змычцы на культурным фронце паміж беларускімі і агульна-пролетарскімі пісьменьнікамі. Гэта значыць, што беларуская літаратура павінна ацэньвацца, як фактор ня толькі нацыянальнага, але і агульна-пролетарскага значэньня. Больш конкрэтна: ацэнка твораў беларускага прыгожага пісьменства ня можа абмяжоўвацца цікавасьцямі толькі пролетарыя-беларуса; трэба прымаць пад увагу, наколькі гэтыя творы здавальняюць культурным цікавасьцям і запатрабаваньням пролетарыяў іншых, як прыкладам—расійскай, польскай, жыдоўскай і г. п. нацыянальнасьцяў.

Якія даныя знойдуцца для вырашэньня пастаўленага пытаньня ў самой беларускай літаратуры?

Кожны літаратурны твор, а таксама злучнасьць гэтых твораў—літаратуру, магчыма аналізаваць з розных пунктаў погляду, зьвяртаючы ўвагу на той, або іншы элемэнт, які прадстаўлены ў літаратурных творах.

Перш-на-перш зьяўляецца зразумелым *нацыянальны* элемэнт. Кожны літаратурны твор ужо з боку мовы зьяўляецца праявай творчасьці вядомай нацыянальнасьці. Апрача мовы, нацыянальны элемэнт знаходзіць сабе выраз і ў іншых рысах літаратурнай творчасьці: поэта-пісьменьнік апісвае „родныя зьявы“, творыць нацыянальныя тыпічныя вобразы, выражае нацыянальныя ідэі, пачуцьці і імкненьні. Напр., творы А. Пушкіна і Л. Таўстога, дзе абмаляваны расійскія нацыянальныя тыпы і выражаны расійскія нацыянальныя пачуцьці і імкненьні, зьяўляюцца запраўдна расійскімі нацыянальнымі творамі. З другога боку, А. Міцкевіч бязумоўна ёсьць нацыянальны пісьменьнік польскага народу. Нацыянальны элемэнт прадстаўляе сабою неабходную прыналежнасьць кожнай літаратуры, хоць і выражаецца ў розных фазах разьвіцьця літаратурнай творчасьці, у рознай большай або меншай меры. Звычайна, у асабліва моцнай меры выражаецца ён у пачатку культурнага разьвіцьця народу, у момант абу-

джэньня нацыянальнай самасьвядомасьці, калі народ самавызначае сябе, як самастойную адзінку. Гэта зразумела і з чыста псыхолёгічнага пагляду: перш, чымся зьвяртацца да сусьветных мотываў,—мотываў, якія маюць агульна-чалавечае значэньне і выражаюць лінію разьвіцьця пазанацыянальнай культуры, кожны народ павінен усьвядоміць свае „родныя зьявы“ і выкарыстаць свае родныя нацыянальныя мотывы. Таксама ўзмацняецца нацыянальны элемэнт літаратуры, калі народу прыходзіцца цярпець ціск з боку іншых нацыянальнасьцяў.

У такія моманты зноў абуджаецца нацыянальнае пачуцьцё, якое шукае сабе выхаду перш-на-перш у формах лірычнай поэзіі. Перавага лірыкі і прадстаўляе сабою адзнаку першастковай пары разьвіцьця нацыянальнай літаратурнай творчасьці і ўжо потым ад лірыкі адчыняецца шлях к формам нацыянальнага эпосу.

Калі з гэтага пункту погляду разглядаць новую беларускую літаратуру, якая пачалася ад канца мінулага сталецьця, то мажліва адразу ўбачыць, што нацыянальны элемэнт прадстаўлены ва ўсіх беларускіх пісьменьнікаў нават розных ідэолёгічных кірункаў. Гэта й ня дзіва.

Справа ў тым, што сама беларуская літаратура пачала разьвівацца раўналежна разьвіцьцю беларускага нацыянальнага руху і зьяўляецца выразьнейшым адбіткам поступу гэтага руху. Дакладна кажучы: не беларуская літаратура выклікала нацыянальны беларускі рух, а гэты апошні выклікаў да жыцьця беларускае друкаванае слова. Першыя прадстаўнікі беларускага прыгожага пісьменства кіруюцца запатрабаваньнямі ўваскрашэньня сваёй нацыянальнасьці. Зусім выразна выступае гэты мотыў у першага пісьменьніка ў добе навейшай беларускай літаратуры Ф. Багушэвіча. Пачынаючы пісаць пабеларуску, ён выходзіць з жаданьня захаваць сваю нацыянальнасьць. „Шмат было такіх народаў, што страцілі наперш мову сваю, так як той чалавек прад сканаsucceeded, катораму мову займе, а потым і зусім памёрлі. Не пакідайце-ж мовы нашай беларускай, каб не памёрлі“ (з „Прадмовы“ да „Дудкі Беларускай“). Дзеля таго, ён і адважваецца пісаць вершыкі ў беларускай мове і гэтыя вершыкі маюць зусім нацыянальны характар.

Па таму-ж самаму шляху йдзе сучаснік Ф. Багушэвіча, Янка Лучына (Я. Няслухоўскі). Нацыянальны мотыў чуваць амаль-што ня ў кожным яго вершыку.

Вельмі паказальна ў гэтых-жа адносінах увага Цёткі (А. Пашкевіч) у „Прадмове“ да „Скрыпкі беларускай“: „Доўга думала, як сябе зваць, аж покі не папала ў мае рукі „Дудка“ М. Бурачка; яна-то мне сказала, што хто гаворыць патутэйшаму, памужыцку, значыцца ён гаворыць пабеларуску, а хто гаворыць пабеларуску, той беларус. Прачытаўшы тую „Дудку“, я сказала: „Дзякуй табе, М. Бурачок, чэсьць і слава твайму слову! А ты, Дудка, грай і мне голас дай. З таго часу пачала я майстраваць інструмант. Выйшла з-пад рукі скрыпка“. Ня дзіва, што ў Пашкевіч, паміж іншымі вершамі, знаходзім такі адбіваючы глыбокай любоў да роднай зямлі верш, як „На чужой старонцы“.

Маркотна мне. Чужы я людзям.
Цесна душы. Цесна грудзям.
Бягу думкай ў край далёкі,
Ў сваю вёску, ў сваю ніўку...
Ой, да хаткі! Кінь мне, доля,
Хоць расінку з нашай вёскі,

Хоць пылінку, хоць дзьве кропкі
Ад палудня майго брата,
Ой, як люба родна хата,
Ой, як мілы родны край...

У далейшым разьвіцьці беларускай поэзіі нацыянальны элемэнт асабліва моцна, як вядома, прадстаўлены ў Янкі Купалы й Я. Коласа.

Тутака цікава адмеціць тое, у якім кірунку разьвіваецца творчасьць гэтых поэтаў у апошнія гады.

Творы Я. Купалы і ў рэволюцыйную эпоху напісаны ў пераважнай большасьці на нацыянальныя тэмы.

Калі ў пачатку сваёй літаратурнай дзейнасьці поэта бачыў прызначэньне сваё:

За родну песьню будзь ваякай...
Паслухай шэпты зямлі-маткі,
У скарбы ўсе яе заглянь,
Каб аж пашла весьць ва ўсе хаткі,
Як з ніў найбольшую браць дань.
Шчасьлівы ты, ці нешчасьлівы,
Будзі сыноў сваёй зямлі,
Над беларускай соннай нівай
Нязгасны сьветач распалі!...

(*„Шляхам жыцьця“ стр. 158*)

—дык і ў эпоху рэволюцыі ён увесь жыве, цалкам і выключна, сваёю спадчынай—старонкай роднаю:

Ад прадзедаў спакон вякоў
Мне засталася спадчына...
Аб ёй мне баюць казкі-сны,
Вясеньнія праталіны,
І лесу шэлест верасны,
І ў полі дуб апалены.
Аб ёй мне будзіць успамін
На ліпе бусел клёкатам
І той стары амшалы тын,
Што лёг ля вёсак покатам...
І ў белы дзень, і ў чорну ноч
Я ўсьцяж раблю агледзіны:
Ці гэты скарб ня збрыў дзе проч,
Ці трутнем ён ня зьедзены?
Нашу яго ў жывой душы,
Як вечны сьветач-полымя...

Гэты сьветач, як выразна паказвае зборнік вершаў „Спадчына“, поэта захаваў у сябе да апошняга часу...

Дзеля таго галоўная частка вершаў зборніку афяраваны бацькаўшчыне. Нават такі сюжэт, як „валачобнікі“ выклікае ў сьвядомасьці поэты думку:

Ці-ж нас такое з роду ўжо пракляцьце
Зачаравала чарамі сваімі,
Што мусім мы пад вокнамі стагнаці...
І, ня знаючы бацькаўшчыны-маці,
У ёрмах валачыцца між чужымі...

На нацыянальныя мотывы напісаны і эпічныя вершы ў V разьдзеле зборніку,—„Магіла льва“, „Бандароўна“ і інш.

Што поэзія Я. Коласа ў істоце зьяўляецца такой-жа высокай поэзіяй нацыянальнага патосу,—гэта не патрабуе асабістага давядзеньня. Сярод вершаў Коласа мы знойдзем шмат праяваў гэтага патосу, напр. у зборніку „Водгульле“—„Родныя малюнкі“, „У палёх Беларусі“, „Покліч“ і асабліва „Беларускаму народу“. З другога боку, родныя малюнкі й родныя зьявы,—вось на што пакіраваны ўвесь час думкі поэты.

І гэты нацыянальны патос поэты, як быццам, дасягае свайго найвышэйшага пункту ў яго ў апошні час выдадзеным творы,—поэме „Новая зямля“, якую на пэўным грунце можна прызнаць, што асабліва падкрэсьліў у сваім артыкуле „Пуціны беларускае літаратуры“ профэс. І. Замоцін, праўдзівай беларускай нацыянальнай поэмай.

Пад уплывам нацыянальных беларускіх мотываў увесь час стаіць нават беларускі пісьменьнік з жыдоў З. Бядуля-Ясакар. „Ён да таго зросься з беларускаю культураю і беларускім народам, да таго пакахаў беларускую стыхію, як-бы ён быў беларусам ад роду. Доля-нядоля беларускага краю востра адчуваецца ім і выразна адбіваецца ў яго творах. З. Бядулі міл і патайны сьвет беларуса: яго вера ў лясуны, у русалкі, у ведзьмы; поэта не абмінае іх у сваіх творах“. (З. Жылуновіч. Беларускае пісьменства. Зборнік „Беларусь“, стр. 311). У апошнім зборніку вершаў поэты „Пад родным небам“ вельмі выразна адбіваюць яго нацыянальную наладжанасьць першыя вершы зборніку, асабліва—„Беларусь“ і „Паходні“; нацыянальныя мотывы праходзяць і праз эпічныя творы, зьмешчаныя ў апошнім разьдзеле „Зачарованы край“.

Агулам кажучы, лінію разьвіцьця беларускіх пісьменьнікаў да рэволюцыйнага настрою можна падмячаць у тым, што ў іх з працягам часу формы нацыянальнай лірыкі пачынаюць зьмяняцца на формы нацыянальнага эпосу, але нацыянальны грунт іх творчасьці застаецца нязьменным.

Аднак падобныя-ж ноты можна чуваць і ў творчасьці рэволюцыйна-пролетарскіх поэтаў Цішкі Гартнага й М. Чарота. Тут, у адносінах да нацыянальнага элемэнту, розьніца паміж Я. Купалай і Я. Коласам з аднаго боку і Цішкаю Гартным—Чаротам з другога ня толькі *якасная*, колькі *колькасная*. Нацыянальны элемэнт у пролетарскіх пісьменьнікаў аслабляецца дзеля таго, што ён злучаецца з элемэнтамі рэволюцыйна-кастрычнікавым, але ў гэтым злучэньні ён усё-ж-такі застаецца прыметным:

Цяпер айчына—жыўчы дух
Дае адвазе рэўлюцнера,
К змаганьню будзіць гнеўны зух,
К пабедзе родзіць ў сэрцы веру...
І вечнай вольнасьці завет
Любоў к айчыне папаўняе.

(*Ц. Гартны. Песьні Пр. і Зм. 83 стр.*)

Дзеля характарыстыкі нацыянальнага настрою Гартнага нязьлішне будзе прыпомніць гэткае месца з яго роману „Сокі цаліны“.

„Пасьля двух год разлукі з родным краем, знаёмыя мясьціны пакаваліся Рыгору такімі блізкімі яго сэрцу, такімі роднымі і дарагімі, што ён зусім не прыкмячаў у ўспамінках тае межы, якая двухгадовай прагалінай ляжала ў яго жыцьці. Там, у глыбіне яго душы, якая ні на хвілю не пакідала дрэнціць па родным краю, па сваіх людзях,—цяпер, калі ўсё па-

казалася яго вачом, раптам забурліла кіпучая хваля любві і нейкага неаказнага натхненьня.

— Праўда, такі, то—разважаў ён у сваёй хаце,—што над родны край і над родную старонку нічога даражэй не знайсьці ў сьвеце. Кламяць тыя, несправядліва судзяць, кажучы: там наша родзіна, дзе нам жыць добра—падумаў ён, пры гэтым дастаў з-пад полу свой куфэрак, адамкнуў яго вынятым з кішэні ключыкам і, дастаўшы газэту, разьвярнуў яе і, тупаючы па хаце, пачаў дэклямаваць верш:

„Край мой родны, край мой мілы...“

У гэтых адносінах роман Цішкі Гартнага прыналежыць да тыповых твораў беларускага прыгожага пісьменства, нацыянальнага кірунку.

Ен можа быць названым нацыянальным беларускім романам, як по-[illegible] „Новая зямля“ ёсьць нацыянальнай беларускай поэмай.

Нацыянальная струйка прыметна і ў наймалодшага беларускага песьняра – Міхася Чарота.

Хто іншы, як ня Міхась Чарот, пісаў:

„Чорная краіна... Дзень цэлы ў сумоце,
І думкі да дому ляцяць,
Дзе хата старэнька стаіць пры балоце,
І вербы над рэчкай шумяць.
Дзе лепшыя хвілі жыцьця ў няволі,
Як хмаркі на небе, прайшлі;
Дзе ўсё міла сэрцу: балоты, і полі,
І кветкі, што ў лузе ўзышлі.
Заўсёды я думкай ў тым краю вітаю,
Я толькі жыву для яго.
Край родны, край сумны—крыжоў і балотаў,
Ці хутка спаткаюся з ім,
Ці хутка пачую я песьню чаротаў
Над сонным балотам тваім?

У зборніку „Завіруха“ на апошніх старонках даецца цэлы шэраг вершаў на падобныя-ж тэмы.

Праўда, гэтыя вершыкі амаль-што ня першыя творы Чарота, з якіх ён пачаў свае літаратурнае разьвіцьцё, і сам аўтор у прадмове да зборніку, як быццам, намячае іншы шлях свайго разьвіцьця, кажучы: „Час накладае свой адбітак. Тое, што было ўчора, таго няма сягоньня. Тое, штоабурвала ўчора, тое сягоньня забыта і спалена. Сагоньня новае.

Калі ў першым сваім вершы я казаў:

„Край родны, край сумны—крыжоў і балотаў,
Ці хутка пачую я песьню чаротаў
Над сонным балотам тваім,“

то сягонья сьпяваю:

Край новы ўзрасьце на бураломе—
Машыны будзе век...“

У рачавістасьці, нельга адмаўляць, што ў творчасьці Чарота ў рэволюцыйны час адбыўся значны перaлом і аб гэтым пераломе сьведчыць, у частковасьці, першая палова зборніку.

Але, здаецца мне, што Чарот ня верна кажа: „Тое што было ўчора, таго няма сягоньня“. У тым-жа 1922 годзе, калі выйшаў з друку зборнік „Завіруха“,

зьявілася і поэма „Босыя на вогнішчы“. Паводле ацэнкі с. Ігнатоўскага „Поэма дае нам агляд усясьветнай сучаснай рэволюцыі ў тым відзе і ў тым настрою, як *яна адбывалася і перажывалася ў нас на Беларусі*“. І т. Кнорын прызнае: „Босыя на вогнішчы гэта поэма рэволюцыі Беларусі.“ Такім спосабам, абодва крытыкі згаджаюцца ў тым, што гэта беларуская поэма. Значыцца, аўтор і тут яшчэ зварочваецца сярод сваіх нацыянальных вобразаў, перажывае нацыянальныя пачуцьці хоць і ў пролетарскай афарбоўцы. Я нават казаў-бы больш таго: мотывы сусьветнай рэволюцыі ў поэме выражаны вельмі слаба, калі ня лічыць апошняга разьдзелу. Поэма ў цэлым мае чыста мясцовую цікавасьць, нават цікавасьць ня ў межах Беларусі, а ў межах аднэй толькі Меншчыны.

Нацыянальныя мотывы дзе-ня-дзе паўстаюць і ў пазьнейшых творах поэты.

І не дарма, здаецца, у адным з сваіх апошніх твораў—поэме „Чырвонакрылы вяшчун“ поэта пачынае свой палёт з Беларусі разбуджанай і сканчае яго

Над Беларусьсю
Вольнай і злучанай.

Я ня буду спыняцца на іншых ужо другарадных і новазьяўных зорках беларускага небасхілу. Усе яны, як правіла, пяюць на адзін і той жа самы мотыў, ідучы па сьцежках буйных поэтаў, пяюць аб сваёй Бацькаўшчыне й карыстаюцца роднымі зьявамі (паказальны ў гэтых адносінах апошні вершык А.Александровіча у № 1 (9) „Полымя“).

Бязумоўна, што паказаны бок беларускага прыгожага пісьменства мае вялікую каштоўнасьць для самых беларусаў—для іх нацыянальнага самавыхаваньня.

Такія вершы, як верш „Беларускаму народу“, ніколі ня страцяць свайго значэньня для беларускай людносьці і будуць упісаны залатымі літарамі якраз у гісторыю беларускага рэволюцыйна-пролетарскага руху, як вершы, якія адбіваюць вялізарную няпраўду нацыянальнай політыкі буржуазнага ладу. І пакуль застанецца такая політыка, пакуль і ў комуністычным грамадзянстве будуць знаходзіць сабе праяву перажыткі буржуазнага часу, ня зьнікне крыніца, якая ўзгадоўвае нацыянальны нахіл у беларускай поэзіі.

Але зразумела, што такі нахіл будзе мець значэньне толькі ў межах вузка-беларускай культуры. Як-бы ні былі натхненны формы нацыянальнай лірыкі й прыгожы формы нацыянальнага эпосу, яны не прадстаўляюць безадноснай цікавасьці для пролетарыяў іншых нацыянальнасьцей,—асабліва для пролетарыяў буйных нацыянальнасьцей, як напрыклад, нацыянальнасьць расійская. Гэта й натуральна: па меры ўбуйненьня народу, па меры ўзрастаньньня яго ўвыш і шыр, зьнікае, або адходзіць на самы апошні плян нават яго ўласнае нацыянальнае пачуцьцё; народ усьведамляе сябе, як сусьветную велічыню і пранікаецца цікавасьцямі сусьветна-клясавага й робіцца абы-якім да якой бы то ні было праявы нацыянальнага почуцьця. Такім спосабам, ня будзе дзіўным, калі сучасны расійскі пролетары больш зацікавіцца інтэрнацыянальна-клясавымі творамі Сінклера, чымся, напр., нацыянальным у сваёй істоце творам „Война и мир“ *).

---

*) Для параўнаньня не бязьцікава прывесьці наступную вынятку „з артыкулу Альфрэда: „Святые камни Европы“ („Известия“ 1924 г. № 79)“. „Мне припоминается мой разговор с Артуром Шницлером в 1912 или 1913 году. Этот симпатичный и талантливый

І канечна, на грунце нацыянальных літаратурных мотываў *ня можа* адбыцца змычка паміж беларускім і агульна-пролетарскім культурным імкненьнямі.

Яна й незмагла-бы адбыцца, калі-б у літаратурнай творчасьці ня ігралі ролі побач з нацыянальным іншыя складнікі.

Ня менш важным, чымся ўплыў з боку нацыянальнага складніка, зьяўляецца ў культурнай творчасьці ўплыў з боку *социяльна-клясавых* суадносін. Кожны літаратурны твор і літаратура кожнай эпохі адбіваюць на сабе вядомую клясавую прыроду. У вось гэтых адносінах беларускае пісьменства мае бязумоўную перавагу ў параўненьні з літаратурай іншых, нават буйных, эўропэйскіх нацыянальнасьцяў.

На гэтую акалічнасьць, у часьцінnасьці, на перавагу беларускай літаратуры ў параўнаньні з літаратурай расіійскай, мне прыходзілася гаварыць і ў папярэдніх сваіх артыкулах. (Гл. „Пытаньне беларускай культуры і шлях беларускай інтэлігэнцыі". „Полымя" 1923 г., № 5—6) Цяпер я зраблю некаторыя дадаткі да таго, што было казана раней. Тут варта тое, што беларускае пісьменства новага часу пачало разьвівацца раўналежна з рэволюцыйным змаганьнем беларускага сялянства за яго экономічнае вызваленьне. Самы беларускі нацыянальны рух у значнай меры зьўляецца сродкам такога вызваленьня. Беларуская літаратура ёсьць амаль-што ня выключна *сялянская* літаратура й мае шмат такога, чаго не хапае літаратуры расійскай. Праўда, і ў расійскіх пісьменьнікаў знойдуцца творы з сялянскаго быту,—знойдуцца нават у выдатных пісьменьнікаў. І. Тургенеў і Л. Таўстой пакінулі пасьля сябе творы з вясковага быту. Ня кажам ужо аб Грыгаровічы, які нібыта наспэцыялізаваўся на гэтых тэмах. Але трэба адмеціць, што ў клясычнай російскай літаратуры аб сялянах пісалі пісьменьнікі з дваран. І гэта літаратура, афяраваная сялянству, у істоце сваёй была *нібы-сялянскай* літаратурай. Запраўдных пачуцьцяў, запраўднага твару хлопа і не маглі падмеціць пісьменьнікі—памешчыкі. Адгэтуль—або памылкова—сэнтымэнтальная абрысоўка сялянскага жыцьця, як то бачым у Грыгаровіча, або навучальны тон,—тон лубковых малюнкаў, што прыметна ў Л. Таўстога. Толькі ўжо пачынаючы з твораў Муйжаля ў 2—3 мінулых дзесяцілецьцях, сталі зьяўляцца ў расійскай мове больш-менш праўдзівыя абрысоўкі сялянскага быту. Але да моманту пролетарскай рэволюцыі пры засільлі ў расійскіх літаратурных кругох дваранска-буржуазных элемэнтаў трудна было прабіцца пісьменьнікам-сялянам, і толькі цяпер у эпоху рэволюцыі ў Расіі пачала разьвівацца запраўдная сялянская літаратура.

У межах беларускай літаратуры некаторую раўналежнасьць творам Грыгаровіча прадстаўляе сэнтымэнтальная літаратура паловы мінулага сталецьця, да якой можна было-б далучыць і творы выйшлых з шляхты Ф. Багушэвіча і Я. Няслухоўскага.

Але цікава, што ў беларускай літаратуры нават мінулага сталецьця

---

австрийский беллетрист удивлялся, почему его „Жизнь и приключения юного Медардуса" не пользуются в России такой популярностью, как прочие его произведения. Ответ, мне кажется, может быть только тот, что в Медардусе слишком силен местный венский колорит, понятный и милый только венскому эстету, именно тот колорит жизни прошлым, который мы пытаемся обрисовать здесь. Сюжет Медардуса взят из эпохи защиты Вены от Наполеона. Точно так же, как не всякий заграничный читатель может смаковать графа Ростопчина в „Войне и мире", так у нас не всякому доступен тонкий букет Медардуса, а страсть Достоевского к „святым камням Европы" получила даже обидную кличку «пассеизма»

амаль-што зусім ня чуваць мотываў дваранска-фэодальнага й буржуазна-гарадзкога настрояў. Гэтым мотывам тут ня магло быць месца дзеля таго, што сама беларуская мова, як мова мужычая, ужо даволі супярэчыла дваранска-буржуазнай прыродзе.

Пасьля Ф. Багушэвіча і Я. Няслухоўскага ўсе беларускія пісьменьнікі, за выключэньнем аднаго толькі М. Багдановіча,—выйшлі з розных сялянскіх станаў і, што асабліва вартае, як мы бачым на прыкладзе Я. Коласа, Ц. Гартнага, М. Чарота і інш.,—выйшлі з стану безьзямельнага сялянства. Ня дзіўна, адгэтуль, што мотывы сялянскага жыцьця побач з мотывамі нацыянальнага адраджэньня зьяўляюцца кіраўнічымі думкамі маладой беларускай поэзіі. Ад яе вее жывым пахам вясковай беларускай прыроды, магутным бадзёрым духам сялянскага жыцьця і з яе, як быццам, сочацца жывыя сокі цаліны. У гэтых адносінах беларускую поэзію можна паставіць на адзін ровень з Рэйтанаўскім „Chłopi". Асабліва выдатная зьява тут, як мне здаецца, роман „Сокі цаліны". З працягам часу, калі выйдзе гэты роман у скончаным відзе, літаратурная крытыка зможа больш выразна адмеціць месца Жылуновіча сярод ня толькі беларускіх, але і, агулам кажучы, сялянскіх пісьменьнікаў. Цяпер-жа можна заўважыць, што гэта—амаль-што не адзіночны ў Саюзе Радавых Рэспублік праўдзівы сялянскі роман, напісаны ў запраўдна-сялянскай мове селянінам. Вельмі выдатнай зьявай у гэтых-жа адносінах можна лічыць „Новую Зямлю" Я. Коласа. Гэта—амаль-што ня першая праўдзівая поэма сялянскага жыцьця.

З гэтага боку маладая беларуская поэзія, бязумоўна, прадстаўляе беспасярэдняю цікавасьць для сучаснага пролетарыяту і ў сялянскім кірунку яе, у яе сялянска-клясавай прыродзе практычна вырашаецца проблема змычкі паміж белаоускай і агульна-пролетарскай культурай. Беларуская літаратура, як літаратура ня толькі нацыянальная, але й клясавая, ня страціць і ў далейшым свайго сялянскага кірунку, і з другога боку,—кожны пролетары павінен цікавіцца праявамі творчасьці праўдзівай сялянскай стыхіі, як стыхіі працоўнай і рэальнай у эпоху пролетарскай дыктатуры.

Дзеля свайго клясава-сялянскага колёрыту займе месца сярод фактараў агульна-пролетарскай культуры й поэзія „нашаніўцаў".

Які пролетары не зацікавіцца й не захопіцца пекным вершыкам Янкі Купалы ад часу пачатку яго літаратурнай дзейнасьці:

„Я мужык—беларус,  
Пан сахі і касы;  
Цёмны сам, белы вус,  
Пядзі дзьве валасы;  
Бацькам голад мне быў,  
Гадаваў і карміў;  
Бяда маткай была,  
Праца сілу дала;  
Хоць пагарду цярплю—  
Мушу быць глух і нем;  
Хоць сьвет хлебам кармлю—  
Сам мякіначку ем...  
З цяжкай працы маей  
Карыстаюць усе,  
Толькі мне за яе  
Няма дзякуй нідзе"...

(*„З песьняў беларускага мужыка"*).

У пісьменьнікаў пасьля-нашаніўскай пары, у пісьменьнікаў, росквіт дзейнасьці каторых прыходзіцца на час пролетарскай рэволюцыі, мотывы творчасьці яшчэ больш збліжаюцца з запатрабаваньнямі пролетарскай культуры. Як быццам, тут новую лінію пачынаюць „Песьні Працы“ Ц. Гартнага. Гэтыя песьні працы як нельга больш блізкі настроям пролетарыяту і павінны заняць месца сярод твораў агульна-пролетарскай поэзіі. Калі другая частка роману „Сокі цаліны“ будзе афяравана жыцьцю й настрою рэволюцыянэра-рабочага, які выйшаў з сялянскай сярэдзіны і, працуючы ў буйным фабрычным горадзе, ня згубіў сваей сувязі з вёскай, зьявіцца ў рачавістасьці твор, які ў мастацкай форме ажыцьцёвіць змычку паміж культурнымі імкненьнямі сялянска-батрацкай і гарадзкой працоўнай стыхіі.

Такі нахіл поэзіі ў Гартнага прадстаўляецца зусім натуральным: ён сам быў гарбаром, сам працаваў у майстэрні ў гразі і смуродзе...

Нахіл да карыстаньня з мотываў гарадзкога працоўнага пролетарыяту прыметны і ў Міхася Чарота, які не адмаўляецца ад сваёй сялянскай музы, але ставіць сабе і іншыя заданьні.

„Ведай сьвет,—я вясковы мужыччы сынок
Я пяю, што пяе селянін,
А ты чуеш, іграе заводаў гудок,
Ў кузьні гучна зьвініць каваля малаток—
Пра адно мы пяём, як адзін.

(*„Ведай сьвет“*).

І ня дзіўна, што поэта пранікаецца лятуценьнем сучаснага пролетарыя-гарадчаніна:

„Машыны будзе век, ня трэба будзе конь,
Бляск электрычнасьці там хмара не заслоніць“.

(*Буралом*).

Падобныя-ж імкненьні прыметны ў пачынаючых поэтаў, асабліва ў *Аляксандровіча, які з працягам часу вырасьце ў вельмі значную велічыню на беларускім небасхіле*, а цяпер зьяўляецца выдатнейшым беларускім поэтай гораду.

Зразумела, што калі ўтворыцца такая чыста пролетарска-фабрычная беларуская поэзія, яшчэ больш узрасьце значэньне беларускага пісьменства ў справах агульна-пролетарскай культуры.

Аднак нельга адмаўляць таго, што такой поэзіі ў уласным сэнсе пакуль-што няма, ані ў Расіі, ані ў Беларусі, і тут у Беларусі маецца вельмі мала даных для яе рэзьвіцьця. Каб быць чыста пролетарскім пісьменьнікам, які адбівае быт і настроі фабрычнага пролетарыяту, пісьменьніку самому трэба выйсьці з пролетарскай сярэдзіны, трэба вырасьці і разьвінуцца пад уплывам жыцьця ў сучасным буйным фабрычным горадзе. У Расіі маецца глеба для такіх паросткаў у буйных фабрычных асяродках, як Масква, Ленінград, Цьвер, Іванава-Вазьнесенск і інш., маецца яна і на Украіне, у Данецкім басэйне. Што тычыцца да Беларусі, то сучаснае становішча фабрычнай прамысловасьці, даволі яшчэ нязначнай, не дае асновы цяпер чакаць узрастаньня пролетарска-фабрычнай поэзіі ў натуральных варунках. А бяз гэтых натуральных варункаў пісьменьнікі, выхадцы з сялянскай сярэдзіны, якія сталі-бы пісаць аб настроях і жыцьці пролетарыя фабрыкі, маглі-бы аказацца дылетантамі ў галіне

пролетарскай поэзіі і, зразумела, што цана іх поэтычных твораў пункту погляду цікавасьцяў агульна-пролетарскай культуры была-бы вельмі таннай.

Такія варункі з лічбы сучасных беларускіх пісьменьнікаў, як мне здаецца, апрача Ц. Гартнага маюцца хіба толькі ў аднаго А. Александровіча, катораму можна параіць не адрывацца ад гарадзкой фабрычна-пролетарскай сярэдзіны. Аднак іх няма, ня кажучы ўжо аб Купале і Коласе, ні ў З. Бядулі, ні ў М. Грамыкі, ні, нават, у М. Чарота. На „няма“, як ґаворыцца, „і суду няма“.

Такім спосабам, здаецца, што было-бы памылкай з боку большасьці сучасных беларускіх пісьменьнікаў імкнуцца, чаго бы то ні каштавала, да ўтварэньня пролетарскай поэзіі фабрычнага гарадзкога рабочага. Такая поэзія ў свой час зьявіцца й павінна зьявіцца. Цяпер-жа прад беларускімі пісьменьнікамі стаіць вельмі ўдзячная задача,—выкарыстаць, як мага, паўней тыя мотывы, якія прадстаўляе беларуская вёска. І быт селяніна, і яго настроі, і яго імкненьні,—усё гэта блізка да пролетарыя гораду. Але зразумела, што ня кожная сялянская ідэолёгія падойдзе да запатрабаваньняў агульна-пролетарскай культуры й будзе спагадаць мэце змычкі. Дробна-буржуазная ідэолёгія зьяўляецца ўжо перажыткам мінулага і не адпавядае ні сучаснай сялянскай рачавістасьці, ні ўмовам жыцьця. У гэтым сэнсе, я бы казаў, поэма Якуба Коласа „Новая Зямля“ толькі часьцінна можа мець цікавасьць з пролетарскага пункту погляду. Вельмі ўдалымі у гэтых адносінах, як здаецца мне, зьяўляюцца амаль-што ня лепшыя з зборніку „Пад родным небам“ вершыкі З. Бядулі „На хутарах“.

Абмаляваць быт і настроі селяніна ў сучаснай абстаноўцы, у момант зруйнаваньня форм і забабонаў дробна-буржуазнага жыцьця і зараджэньня новых форм комуністычнай вясковай гаспадаркі й новых ідэалаў і сьветапогляду,—вось практычны шлях, ідучы па якому Беларускія літаратары здольны зрабіць каштоўны ўклад у скарбніцу агульна-пролетарскай культуры.

Тут маюць значэньне два лёзунгі: „барацьба проці кулацкага быту і ідэолёгіі“ і „барацьба за паступовую комунізацыю вёскі“.

Трэцім пасьля нацыянальнага й клясавага складнікаў, якія адбіваюцца ў літаратурнай творчасьці й з боку якіх мажліва ацэньваць літаратурныя творы,—ёсьць складнік *агульна-чалавечага*, або як інача кажуць *сусьветнага значэньня*. Гэта той складнік, па якому людзі розных грамадзянскіх станаў маюць аднаковыя чалавечыя пачуцьці і імкненьні, радуюцца і церпяць пакуту, як адзінкі, кінутыя на неахапнай прасторы сусьвету, злучаюцца й разыходзяцца, як матылькі ў праменьнях вясковага сонца, той складнік, які прымушае мужчыну й жанчыну, незалежна ад іх прыналежнасьці да грамадзянскіх станаў, думаць, пачуваць і хацець згодна іх фізіолёгічнай прыродзе. Трэба думаць, што гэты складнік ніколі ня страціць свайго значэньня ў агульным культурным разьвіцьці чалавецтва і ім, у часьцiннасьці, абумоўліваецца няўміручасьць літаратурных твораў. Дзеля таго і цяпер яшчэ „жывуць“ поэмы Гомэра, трагэдыі Эсхіла, творы Гётэ, Байрона, Мольера і інш. сусьветных пісьменьнікаў, дзеля таго і ў пролетарскай грамадзе прадстаўляюць культурную каштоўнасьць, ня гледзячы на іх клясава-фэодальную, або буржуазную падставу, такія творы, як напрыклад, творы Пушкіна, Гогаля, Астроўскага і інш. расійскіх пісьменьнікаў дарэволюцыйнага часу. Мотывы ка-

ханьня й ненавісьці, зайздрасьці й вернасьці, помсты й дараваньня,— заўсёды будуць чапаць чалавечае сэрца, незалежна ад таго, чыё гэта сэрца.

Запытаньне: якія даныя мае беларускае прыгожае пісьменства ў гэтых адносінах?

Калісь, на беларускую літаратуру глядзелі, дзеля переваґі ў нашаніўцаў нацыянальных мотываў, як на вузка-нацыянальную па свайму зьместу. Гэта акалічнасьць, у часьцінасьці, дала повад профэсару А. Л. Пагодзіну зрабіць на старонках „Вестника Европы“ за 1911 г. (январь, 326—334 стр. (Белоруские поэты“) водзыў аб беларускай літаратуры, як чыста нацыянальнай і нясложнай ящчэ па свайму зьместу. „От белорусской поэзии“, згодна яго ацэнцы, „веет непосредственностью живой любви к родному краю. Разумеется, эта поэзия не сложна. Ей еще чужда утонченность мировых литератур“ (стр. 328).

Але можна запытаць: ці правільна гэта, ці правільна наогул зацьвярджаць, што беларуская літаратура старой дарэволюцыйна-пролетарскай школы зусім не датыкаецца да мотываў агульна-чалавечага зьместу што яна, як смакуе Карскі ў III т. „Белорусов“—„не сложна, однообразна, не затрагивает мировых проблем“?

Прызнаць гэта было-б простай памылкай, асабліва цяпер, калі беларуская літаратура значна разьвілася ў параўнаньні з тым, што было ў эпоху „Нашай Нівы“.

З лічбы беларускіх пісьменьнікаў дарэволюцыйнай пары агульна-чалавечы настрой, як вядома, асабліва выразна прыметны ў М. Багдановіча. Большасьць яго вершаў напісана на агульна-чалавечыя мотывы. Гэта прызнае й Карскі. Ён зацьвярджае: „Поэзия М. Богдановича не ограничивалась белорусской действительностью и не исключительно шла в грустных тонах: он затрагивал и общечеловеческие мотивы и изображал их, как поэт чистого искусства для искусства. Правда эти произведения не велики, но они довольно многочисленны, изящны по форме, очень разнообразны по своим размерам и содержанию“ (Белорусы, 319). Запраўдна, вершамі Багдановіча можа зацікавіцца кожны інтэлігэнтны чытач незалежна ад яго нацыянальнасьці. І калі чытаем Багдановіча, адразу можна прымеціць, што ён цікавіцца тымі самымі мотывамі і мае той самы ідэёвы нахіл, што і сучасныя яму прадстаўнікі расійскага прыгожага пісьменства.

У М. Багдановіча выразна азначаецца пералом у разьвіцьці беларускай літаратурнай творчасьці. Самая хупавасьць яго вершыкаў паказывае на поступ беларускай поэзіі, на выйсьце яе з першапачатковай стадыі. Такія агульна-чалавечыя мотывы ў дарэволюцыйнай беларускай поэзіі сустракаюцца ня толькі ў Багдановіча. Іх знойдзем мы і ў іншых пісьменьнікаў. Асабліва гэта можна сказаць аб Констанцыі Буйло. „Особенность поэзии Буйло“, прызнае Карскі, „составляет то, что у нея немало стихотворений посвящено вопросу общечеловеческих отношений между полами,—вопросу любви девушки к молодому человеку“ (Белорусы т. III, стр. 345). Падобныя-ж мотывы прымушан вучоны зацьвердзіць у адносінах да Янкі Купалы (ізноў тэма аб каханьні хлопца і дзяўчыны—Жал. 25,44; Гусьл. 40—43; Шляхам Ж.—87—106) Дзіўна, чаму ня прымеціў крытык гэтых мотываў у ідылічнай поэме „Яна і Я“ (Беларусь 1920 № 76—77, „Спадчына“ стр. 107—120). Увесь IV аддзел „Спадчыны“ мае сваёй тэмай агульна-чалавечыя мотывы.

Падобныя-ж мотывы можна знайсьці і ў іншых беларускіх пісьменьнікаў, асабліва ў Міхася Грамыкі, які з лічбы сучасных пісьменьнікаў больш за ўсё, як тыповы прадстаўнік інтэлігэнцкага складу думкі й настрояў, больш за ўсё зблізжаецца з М. Багдановічам, а таксама, адмецім, у Міхася Чарота (заўважым яго апавяданьні ў „Савецкай Беларусі“).

Разьвінуць гэтую лінію агульна-чалавечых мотываў—чарговые заданьне беларускіх пісьменьнікаў у бліжэйшы момант і выпаўненьне гэтага заданьня пашырыць шлях к збліжэньню беларускай і агульна-пролетарскай культур.

Ёсьць і яшчэ адзін шлях для збліжэньня гэтых культур.

Сучасны момант характарызуецца ня толькі адшукваньнем новага культурнага зьместу, але разам з тым утварэньнем новых форм культурнага будаўніцтва. У літаратурнай галіне гэтае імкненьне знаходзіць сабе праяву ў вынаходжаньні новых відаў і стыляў поэтыцкай творчасьці. Старыя стылі „акадэмічнай“ поэзіі ўжо даволі пастарэлі і ня могуць здаволіць бурнаму й жвавому зьместу рэволюцыйнай творчасьці. Адгэтуль знаходзяць сабе пэўны сэнс спробы Маякоўскага і яго таварышоў па “Лефу“.

Для беларускіх літаратараў можна прызнаць вельмі дадатным, што яны захапіліся гэтым імкненьнем рэволюцыйнай поэзіі, як сьведчаць аб тым апошнія поэмы М. Чарота й вершы Ц. Гартнага, А. Аляксандровіча і інш. І гэтыя поэмы й вершы, у часьцінасьці, даюць пераканьне, што ў мэтах дасяганьня новых пекных форм поэтыцкай мастацкасьці прад беларускай рэволюцыйнай поэзіяй адчыняюцца шырокія і вельмі прывабныя прасторы.

Менск.
7 красавіка, 1924 г.

# НЕКАТОРЫЯ ЎВАГІ ДА БЕЛАРУСКАЕ ЛІТАРАТУРНАЕ МОВЫ.

**Я. Лёсік.**

Нарадзілася беларуская дзяржаўнасьць, нарадзілася беларуская школа. Зьявілася пільная патрэба даць назовы й выражэньне тым новым культурна-нацыянальным формам жыцьця, якіх ня было, або якія былі, але даўно забыліся. Трэба вытвараць новыя словы, новыя фразеолёгічныя ды сынтаксычныя звароты.

Да гэтае работы наша інтэлігэнцыя выступіла з псыхолёгіяй расійскае мовы, з расійскім думаньнем, з расійскім, а часам і з польскім спосабам выкладаньня сваіх думак на пісьме. Захаваўшы поўны запас незабытых беларускіх слоў, нашая інтэлігэнцыя старалася выражаць свае думкі гэтымі словамі, але, навучаная школай пісаць парасійску, яна несьвядома для сябе, пры незнаёмстве з сынтаксычнымі фактамі беларускае мовы, злучала беларускія словы ў чужыя формы, паводле расійскага ці польскага сынтаксу. З гэтае прычыны сучасная беларуская літаратурная мова ўвабрала ў сябе шмат неўласьцівых беларускай мове сынтаксычных і фразеолёгічных зваротаў.

Пісаць пабеларуску мы ня вучыліся,—тымчасам, гаварыць у тэй ці іншай мове і выкладаць свае думкі ў гэтай мове на пісьме—гэта далёка не адно й тое. Ня вучыўшыся, ня кожны патрапіць дакладна выслявіцца на пісьме. Наша сялянства добра гаворыць пабеларуску, але граматны селянін не напіша пісьма пабеларуску. Гаварыць—гаворыць пабеларуску, а пісаць будзе парасійску, як навучыла яго школа. Гэтага, здаецца, зусім простага факту не разумеюць людзі падчас з высокай школьнай кваліфікацыяй.

Бяда ня ў тым, што літаратурная мова часам пазычае чужыя словы; пазычыць трэба, калі іх няма. Калі няма ў краі газы, а яна краю патрэбна, то яе трэба дастаць адтуль, дзе яна ёсьць, бо выдумаць сваю газу ня можна. Памен паасобнымі словамі адбываецца паміж усімі культурнымі народамі.) Адбываецца памен таварамі, а поплеч з гэтым ідзе памен назовамі гэтых тавараў, г. зн., паасобнымі словамі для абазначэньня прадметаў, спачатку матар'яльных, а потым і нематар'яльных, разумовых. Але кожны культурны народ, дастаўшы чужы тавар, перарабляе яго ды ў сваю чаргу выносіць на рынак. Разумеецца, вельмі добра было-б, каб можна было абысьціся бяз чужых тавараў, але на пэўнай ступені культурнага разьвіцьця памен таварамі становіцца няўхільным, а значыць поплеч з гэтым мусіць адбывацца памен паасобнымі словамі. Тымчасам, было-б зусім непагаспадарску купляць, скажам, нам, беларусінам, лес у суседзяў, калі мы маем свой; таксама зусім неразумна браць чужыя словы, калі ёсьць свае, беларускія.

Галоўная сіла не ў паасобных запазычаных словах: яны зараз-жа абеларушваюцца (спажываюцца) і мала адбіваюцца на духу мовы, як мала адбіваюцца на нашай беларускай прыродзе прывозныя продукты: газа, соль, жалеза, і т. далей. Дух мовы—гэта яе сынтакс, яе фразэолёгія, яе ўласьцівы спосаб выражэньня. Сіла тут не ў паасобных словах, а ў тых сынтаксычных формах, у якія мы злучаем словы для выражэньня таго, што нам трэба выказаць. Пераймаючы чужыя сынтаксычныя звароты, мы надаём нашай літаратурнай мове неўласьцівага беларускай мове характару і тым абарачаем яе ў нейкі ня існуючы дыялект, або ў карыкатуру. Наша кніжная мова, мова школьных падручнікаў, популярных народных кніг і асабліва мова штадзённых газэт, агулам кажучы, мала падобна да сапраўднай жывой беларускай, або крывічанскай ці крывіцкай мовы ды прыпадобнілася да адзежы з чужога пляча. І ня дзіва, што падчас некаторыя асобныя словы й звароты ў мове выклікаюць сьмех, бо хто-ж вытрывае, каб не засьмяяцца, пабачыўшы мужчыну ў спадніцы, хоць-бы гэта спадніца была з аксаміту?!

А што горш за ўсё, дык гэта тое, што пераймаючы чужыя сынтаксычныя формы, чужыя фразэолёгічныя звароты, наша літаратурная мова адрываецца ад народнага (дыялектычнага) грунту ды становіцца штучнай, няжывой, мёртвай, няздольнай зьмяняць ды разьвіваць *свае факты*. Фактамі мовы называецца ўсё тое, што йснуе ў мове—гукі, словы, зьмены слоў, сынтаксычныя формы і т. д. Мова жывая і мова мёртвая тым і розьняцца паміж сабою, што жывая мова нясупынна зьмяняецца ў вуснах людзей, незалежна ад іх волі, а мова штучная, мёртвая—не. Мы называем мову лацінскую ці ц.-славянскую мёртвымі мовамі ня дзеля таго, што палатыні ці пац.-славянску ніхто не гаворыць, а дзеля таго, што яны перасталі зьмяняць свае факты. У лацінскай мове*), напрыклад, гаварыла ў свой час (сярэднія вякі) бадай-што ўся інтэлігэнтная Эўропа, але гэта была мёртвая мова, бо яе факты акасьцянелі ды перасталі зьмяняцца. Лацінская мова была выпрацавана народам *з іншымі органамі мовы* пры іншых географічна-гістарычных умовах. Тое самае трэба сказаць і пра ц.-славянскую мову.

Мова кожнага народу разьвіваецца сваім асобным шляхам, залежным перш-на-перш ад фізіолёгічных асаблівасьцяй гэтага народу, а потым ад розных акалічнасьцяй яго прамінулага й сучаснага. Адгэтуль, кожная мова мае асаблівасьці—свае асобныя гукі, словы, зьмены слоў, свой асобны спосаб выражаць свае мысьлі, пачуцьці, пажаданьні і т. д.—словам, сваю фонэтыку, морфолёгію, этымолёгію й сынтакс. Усё гэта агулам становіць тое, што навука называе *фактамі мовы*. Факты мовы, зьвязаныя *з словам* мовы, дасьледжвае *граматыка*.

Адгэтуль і кажуць, што граматыка—гэта навука, якая знаёміць нас з *слоўнымі фактамі мовы*. Фізыка знаёміць нас з фактамі (зьявамі) прыроды, а граматыка з фактамі (зьявамі) мовы, але толькі з тымі фактамі, што вытвараюцца *словам*. Як факты прыроды падпарадкаваны пэўным цьвёрдым законам, якія адкрывае навука, так і факты мовы залежаць ад цьвёрдых законаў, якія адкрывае лінгвістыка (навука агульная аб мове).

---

*) Тут дарэчы будзе зазначыць, што пабеларуску нельга сказаць, як кажуць парасійску,—*гаварыць на мове* (языку); пабеларуску трэба сказаць: *гаварыць у мове*, а найлепш—*парасійску, панямецку, пафранцуску, патурэцку* і т. далей аб гэтым звароце бач. ніжэй.

Граматыка ня вучыць ні гаварыць, ні пісаць,—яна толькі знаёміць з фактамі мовы, або з тым багацьцем слоўнага матар'ялу, якое мае мова. Таксама фізыка ня вучыць нас выдумляць грамафонаў ці тэлефонаў,—гэта справа асобных людзей—Эдысонаў, Уальтаў,—але фізыка знаёміць нас з фактамі прыроды і з тымі законамі, якім падпарадкаваны гэтыя факты, а ўжо на аснове гэтых фактаў і іх законаў Эдысоны даюць нам грамафоны, тэлефоны, тэлеграфы, машыны і ўсё іншае, што патрэбна для практычнага ўжытку.

Мова літаратурная, як і мова народная (мова асобных народных дыалектаў, або паасобных гутарак, гаворак), служыць для патрэб практычнага, штадзённага ўжытку, для паразуменьня паміж людзьмі, але літаратурная мова розьніцца ад мовы паасобных народных гутарак (дыалектаў) тым, што яна *вытвараецца* для патрэбы ўсяго народу на аснове і з фактаў паасобных народных гутарак, або дыалектаў.

Граматыка знаёміць нас усіх з найбольш пашыранымі, характэрнымі фактамі народных дыалектаў, а ўжо поэты і пісьменьнікі твораць з гэтых фактаў на аснове тых законаў, якім падпарадкаваны гэтыя факты, супольную мову, адну гутарку, адзін дыялект, які называецца *літаратурнай* мовай. На пачатку літаратурная мова вытвараецца несьвядома, інтуіцыйна але сама гэтая несьвядомасьць, інтуіцыя падпарадкавана таму закону, які ляжыць у васнове літаратурнае мовы. Гэта значыць, што сапраўдны поэта, сапраўдны пісьменьнік ня можа пісаць сваім мясцовым дыялектам (гутаркай, гаворкай), бо ён хоча, каб яго чыталі ды разумелі найбольш шырокія кругі грамадзянства. Вось чаму мова сапраўдных поэтаў і пісьменьнікаў-пачынальнікаў звычайна кладзецца ў аснову літаратурнае мовы. Поэты й пісьменьнікі інтуіцыйна адчуваюць пануючыя, характэрныя факты розных дыялектаў свайго народу ды кладуць іх у васнову свае мовы. І іх мова звычайна бывае чыстай народнай мовай, калі яны не заражаны ўплывам чужой пануючай мовы...

Граматыка беларускае мовы (яе морфолёгія, этымолёгія, сынтакс) адкрывае ў ёй шмат багацьця й хараства. Трэба ведаць гэтае багацьце і адчуваць гэтае хараство, каб навучыцца выражаць сваё мысьленьне ў формах беларускае мовы, ня кажучы ўжо пра тое, што й нашае мысьленьне ў поўнай меры залежыць ад формаў нашае мовы.

Цьвёрда ўстаноўленай, у шырокім значэньні, беларускае літаратурнае мовы яшчэ няма, і гэтая неўстаноўленасьць нашае літаратурнае мовы становіцца нам у прыгодзе тым, што дае шырокія магчымасьці ды пазваляе перш-на-перш стаць на народны, дыялектычны грунт і ў сваім разьвіцьці пайсьці за разьвіцьцём жывое разгаворнае мовы. Іначай кажучы, наша літаратурная мова яшчэ мае поўную магчымасьць стаць такою мовай, якою загаварыў-бы сам народ, дайшоўшы адпаведнай ступені культурнага разьвіцьця.

Нямецкая літаратурная мова вельмі разьвітая, а тымчасам немцы, не зважаючы на сваю багата разьвітую літаратурную мову, пастаянна зварачаюцца да народных гутарак (мясцовых дыялектаў), каб асьвяжыцца, каб мець пастаянную сувязь з народнай моўнай крыніцай. Немцы разумеюць, што літаратурнай мове йдзе на карысьць, як існаваньне дыялектаў (паасобных народных гутарак), так і пастаянная сувязь з імі, іначай літаратурнай мове паграјкае небясьпека амярцьвець. Жыцьцё й сьвежасьць літаратурнае мовы можна захаваць толькі ў тым выпадку, калі нязьменна трымацца народных крыніц, народных формаў мовы ў

тым іх відзе, як яны (формы) жывуць і разьвіваюцца ў паасобных народных гутарках.

Як-жа нам зблізіць нашу літаратурную мову з мовай народнай? Як захаваць яе дух, яе асаблівасьці,—як навучыцца *пабеларуску* думаць, пісаць, гаварыць ды ня зьбівацца на чужое?

Рада тут можа быць толькі такая. Хто ня мае магчымасьці вучыцца ў самога народу, той павінен уважна чытаць народную вусную творчасьць у форме песень, казак, загадак, прыказак, дзе мова шліфавалася соткі год, а чытаючы, старанна адзначаць усё асаблівае, цікавае, беларускае,—свае словы, звароты, сынтаксычныя формы. А потым, трэба ведаць граматыку мовы, як школьную, так і навуковую, якая навукова знаёміць з фактамі мовы. Школьная граматыка знаёміць нас з агульнапрынятымі фактамі, а навуковая граматыка высьвятляе ўсе асаблівасьці мовы ў іх гістарычным разьвіцьці. Такое сьвядомае станаўленьне да фактаў свае роднае мовы памагае выпрацаваць у сабе пэўнае чуцьцё мовы, або тое, што немцы называюць Sprachgefühl. Гэтае чуцьцё асаблівасьцяй свае роднае мовы становіцца ў вялікай прыгодзе тады, калі думка, шырэючы ды йдучы ў глыб, шукае новых зваротаў у мове, калі трэба знайсьці сувязь паміж матар'яльным і разумовым (конкрэтным і абстрактным) значэньнем паасобных слоў і цэлых моўных зваротаў.

Вытварэньне літаратурнае мовы шмат і шмат залежыць ад суб'ектывізму аўтораў-пісьменьнікаў і поэтаў. Датрымліваючы асаблівасьць і дух свае народнае мовы, кожны аўтор крышталізуе, шліфуе,—словам, стылізуе, вырабляе народную мову, мову дыялектаў на ўзор таго, як гармонізуюцца народныя песьні Гэта й ёсьць тое, што становіць лінгвістычны, моўны густ таго ці іншага аўтора, або яго чуцьцё мовы. А літаратурная мова—гэта стылізацыя, або гармонізацыя народных гутарак, —найбольш пашыраных, характэрных, тыповых фактаў гэтых гутарак.

Стылізацыя, або гармонізацыя, народных гутарак, мясцовых гаворак павінна йсьці па аднэй пуціне ды кіравацца аднэй мэтай: пуціну для стылізацыі асьвятляе навука-граматыка, а мэту стылізацыі становіць тое, што кожны аўтор, кожны поэта ці пісьменьнік павінен шукаць таго ды вызначаць тое, што становіць сваё асобнае, адметнае, характэрнае й тыповае. Літаратар, пісьменьнік, стылізуючы народную мову, мусіць заўсёды мець на ўвазе ды ня спускаць з вока таго, ці пашыраны той ці іншы факт мовы ў шырокіх народных масах, каб не заблудзіць у паветалізмах, у малавядомых фактах. Бо толькі тая песьня варта гармонізацыі і прыдзецца да густу шырокім колам грамадзянства, якая пашырана ў народзе ды адбівае пачуваньні шырокіх мас. Песьні сьцісла мясцовыя, невядомыя або мала вядомыя грамадзянству, нават пры самай удалай гармонізацыі, ня зробяць адпаведнага ўражаньня, не захопяць публіку і ня стануць агульным набыткам. Гэтак і моўны факт, становячы сабою вузкі паветалізм, нават трапна стылізованы, заўсёды рызыкуе забыцца, не прышчапіцца і не абернецца ў літаратурны факт, каб стаць набыткам для агульнага ўжытку. Тут, пры выбары моўных фактаў, усё залежыць ад асабістага чуцьця таго, хто піша; самая лепшая рада тут мала памажа: тварыць ня кожнаму дано.

Літаратурная мова павінна быць морам, куды ўліваюцца народныя дыялекты. Як паасобныя рэчкі гінуць у моры, падымаючы й асьвяжаючы яго ровень, так і народныя гутаркі павінны разыходзіцца ў літаратурнай мове, каб асьвяжаць яе ды павялічаць яе глыбіню й шырыню. Гэта й

будзе тым шляхам, па якім павінна йсьці наша літаратурная мова ў сваім далейшым разьвіцьці.

Нашым літаратурным работнікам трэба даць як можна больш моўнага матар'ялу для апрацоўкі, для стылізацыі. Трэба пазнаёміць іх з багатымі сырымі запасамі нашае мовы, трэба паказаць ім нашае багацьце.

Чародным і найпільнейшым заданьнем для нашых філёлёгаў зьяўляецца тое, каб, поплеч з добра апрацованай школьнай і навуковай граматыкай і слоўнікам беларускае мовы, даць сэмазіолёгію беларускае мовы, дзе-б вызначаны былі асобныя, блізкія сваім значэньнем словы, *сынонімы*.

Сынонімы становяць вялікае багацьце мовы, разумеецца, калі з густам выбіраць іх, ужываючы пры выражэньні пэўных адценьняў нашага мысьленьня. Напрыклад, у выказе „Думаў доля сустрэнецца-спаткалася“ кожны адчувае, што сынонімы „сустрэнецца-спаткалася“ перадаюць самае тонкае супастаўленьне. Умець гаварыць—гэта значыць умець выказаць трапным злучэньнем слоў з адпаведным значэньнем самыя тонкія адценьні нашага мысьленьня і ўяўленьня, нашых пачуваньняў і перажываньняў.

У гэтым кароткім нарысе я хачу зрабіць некаторыя ўвагі сынтаксычнага характару што да беларускае мовы і тым стаць у прыгодзе нашай літаратурнай мове. Тут я пакажу на некаторыя, найбольш характэрныя ды пашыраныя хібы нашае сучаснае літаратурнае мовы ды падам іншыя формы й звароты, а таксама пакажу на тыя асаблівасьці беларускае народнае мовы, якіх літаратурная мова павінна трымацца, каб не адарвацца ад народнай (дыялектычнай) крыніцы да ня стаць штучнай і мёртвай, якой робіцца ўжо бліжэйшая да нас расійская мова.

Расійская літаратурная мова... Колькі мы чулі аб ёй дыфірамбаў, усялякіх хвалебных гымнаў! „О, великий, могучий русский язык!“ у захапленьні маліўся ёй іх пісьменьнік Тургенеў. Можна-б прывесьці сотні такіх гымнаў, і цікава, што ўсе яны ў пераважнай большасьці выходзяць з вуснаў саміх расійцаў.

Тымчасам, навуковае знаёмства з расійскай літаратурнай мовай не пазваляе так захапляцца. Надмеру заміловаяыя ў расійскую літаратурную мову раней ці пазьней, а прыдзецца даведацца, што заміловаы яны ў мёртвы твор, у прыгожа-прыбраную мумію, якую ніякі бальзам не захавае ад гніеньня. У лепшым выпадку яна стане тым, чым стала некалі ц.-славянская мова, пабудованая на старой баўгарскай мове ды штучна (літаратурна, праз кнігі да набажэнства) перанесеная на тэрыторыю ўсходніх славян—сучасных беларусінаў (крывічан), украінцаў і велікарусаў.

Сучасная літаратурная расійская (велікаруская) мова вытварана велікарускімі вышэйшымі камандными станамі і іх паслугачымі, адарванымі ад народных мас, на аснове ц.-славянскае мовы з элемэнтамі старасьвецкай беларускай (і ўкраінскай) літаратурнае мовы, таксама штучнай і далёкай ад жывой народнай мовы. І не зважаючы на пэўную прымесь у ёй элемэнтаў велікарускае *маскоўскае* гутаркі (дыялекту), гэтая расійская літаратурная мова з аднолькавым правам можа называцца беларускай і ўкраінскай мёртва-літаратурнай мовай, як некалі была такою мовай для гэтых народаў ц.-славянская мова. І, глянуўшы на расійскую літ. мову з гістарычнага боку, трудна сказаць з пэўнасьцю, хто быў яе пачынальнікам—самі велікарусы, ці беларуска-ўкраінскія выхадцы? Прынамсі, не падлягае сумненьню, што такія асобы, як Сымон Полацкі, Феофан Пракаповіч і іншыя, далей—

славянская граматыка Мелеція Сматрыцкага, што служыла ўзорам Ламаносаву, потым Гогаль, Булгарын, пра каторага наша поэма кажа, што ён быў „рэдактор усіх газэт“ (расійскіх, разумеецца), і шмат і шмат іншых, іменьні каторых „ты, госпадзі, весі“,—ня мала папрацавалі над расійскай літаратурнай мовай. Таксама ня мала папрацаваў над ёю і немец Грот; Грот блага нават гаварыў парасійску, а тымчасам даў расійцам свой, усім вядомы, правапіс, які пануе ў іх і дагэтуль.

Усё гэта, агулам узятае, не магло, разумеецца, спрыяць сапраўднай *велікарускай* літаратурнай мове і зрабіла тое, што яна стала мовай акадэміцкай, габінэтнай, мовай *кніжнай* у найгоршым значэньні гэтага слова. А з рэштай, як-бы яно там ня было, а факт застаецца фактам: сучасная расійская літаратурная мова чужая і малапрыступная шырокім велікарускім народным масам. Яе сынтаксычныя, фразоолёгічныя звароты, дзесяткі соцень такіх ц.-славянскіх слоў і зваротаў у мове, як—*одежда, надежда, рождество, хожденіе, расписавшийся, идущий, говорящий, удивительно, поразительно*, супярэчных жывой мове, каменным мурам стаяць паміж мовай народнай і мовай літаратурнай. Трэба спадзявацца, што ўжо недалёка той час, калі абуджаныя да культурна-грамадзянскага жыцьця шырокія народныя велікарускія масы адкінуць гэтую, штучна пабудованую літаратурную мову, як мову *панскую*, якая *наўмысьля* адрывалася ад народнай, каб ня быць падобнай да мужычай,—адкінуць ды выпрацуюць сваю, сапраўды велікарускую, а не расійскую, літаратурную мову. І цікава, што такія спробы ўжо рабіліся. Гэта было ў скорым часе пасьля рэволюцыі 1917 г., калі велікарусы-адраджэнцы залажылі былі сваю газэту „Великорос“, падобную да беларускае „Нашае Нівы“, дзе пісалі велікарускай, а не расійскай мовай, ды заклікалі грамадзянства перастаць быць расійцамі з вялікадзяржаўнымі замашкамі, а пазнаць сябе велікарусамі, як украінцы—украінцамі, а беларусіны—беларусінамі. Але гэтая першая спроба дзесь затапілася ў вірыстых хвалях рэволюцыі ды—ці-ж на доўга?!...

Тут цікава затрымацца яшчэ на адным непаразуменьні. Ня раз даводзіцца чуць такое запытаньне. Калі сучасную расійскую літаратурную мову аднолькава можна лічыць і беларускай літаратурнай мовай, як мову супольную для велікарусаў, украінцаў ды беларусінаў, дык ці варта нам, беларусінам, строіць сваю? Тым больш, што ўсім народам трэба мець адну мову, каб лягчэй дайсьці да агульна-чалавечага паразуменьня паміж сабою, бо мовы разлучаюць людзей, дзеляць людзей на чужыя паміж сабою народы, тады як працоўны люд складае адну вялікую сусьветную сям'ю, якая павінна мець адну мову і т. далей і так далей. Прыгэтым, некаторыя пасылаюцца яшчэ на эспэранто, як на відочны факт таго, што людзі сапраўды ймкнуцца да аднэй супольнай мовы, і такім парадкам, разьвіваць сваю асобную нацыянальную мову—гэта значыць супярэчыць таму, да чаго людзі павінны йсьці, ды рабіць дарэмную работу: тварыць сваю асобную мову, каб потым кінуць яе, як нікому непатрэбную.

Гэта, дык сапраўды непаразуменьне, выясьніць якога нельга без навуковага знаёмства з тым, *што такое навогул чалавечая мова* і якім законам яна падпарадкавана.

Справа тут у тым, каб мець адну агульна-чалавечую мову—*эспэранто*. Але ці магчыма эспэранто з тым сусьветным ці хоць з эўропэйскім заданьнем, якое эспэранто сабе ставіць? Іначай кажучы, ці можна штучна вытварыць такую мову, якая-б стала агульна-чалавечай мовай?

На гэтае пытаньне няхай дадуць адказ людзі навукі, лінгвістыя, якія знаюцца на тым, што такое мова, як яна жыве і якія законы чалавечай мовай кіруюць.

Тут мы дамо слова вядомаму расійскаму лінгвістаму: няхай адкажа нам лінгвісты, профэсор *В. Поржэзінскі*.

„Мечты о создании одного языка", кажа В. Поржэзінскі: „который бы служил взаимным средством общения для всего человечества, довольно давнего происхождения... Прежде всего, конечно, нельзя отрицать законности стремления к тому, чтобы найти средство, облегчающее взаимные сношения народов, разделенных различием языков. Сама жизнь, выдвигающая настойчиво это требование, привела к частичному разрешению этой проблемы. Мы знаем, что в известных областях культурных сношений издавна получили право всемирного гражданства некоторые отдельные языки. Так, в области дипломатических сношений международным языком является французский язык, для торговых сношений в известных географических пределах служат такими международными языками языки: французский, английский, испанский (в значительной части Нового Света) и т. д. Существуют, далее, условные системы для морских сигналов, для телеграфных сношений (международный телеграфный код) и т. д. Однако, искусственные языки в большинтсве случаев претендуют на нечто большее: *наиболее смелые изобретатели мечтали об одном всемирном языке, который заменил бы людям все местные языки* (курсіў мой).

В этом наиболее чистом и последовательном виде идея такого языка представляет сплошное недоразумение, об'ясняющееся явным незнакомством изобретателя с тем, что такое язык вообще.

Ведь допустим возможность осуществления этой мечты путем ли мирного соглашения народов или путем насильственного распространения такого общего языка, и мы увидим, што вскоре этот общий язык в разных углах земного шара начнет жить по своему и даст начало новым различным языкам. Это необходимо должно случиться вследствие тех же самых условий, которыя вызывают дробление живого языка на части.

Понятно таким образом, что идея всемирного языка в наиболее широком масштабе не имеет шансов на осуществление. В более скромных пределах эта задача рисуется в следующем виде: общий язык должен служить нуждам повседневной жизни, торговых, научных и других международных сношений, не вытесняя местных языков и являясь лишь заменою тех многих иностранных языков, которые приходится изучать; таким образом, в каждой культурной стране, кроме своего родного языка, знали бы обязательно только один, притом общий международный язык. Некоторые авторы еще скромнее: они имеют в виду только наш культурный мир, да и то в западно-европейских пределах.

Однако, и в этих пределах идея искусственного языка встречается с сер'езными затруднениями, подрывающими ее в корне. В самом деле, как бы мы не старались упростить звуковую систему такого языка, сделав ее наиболее приемлемой для большинства народов, несомненно, *каждый народ будет произносить написанные слова по иному (хотя бы первоначально только в оттенках), а отсюда неизбежно возникнут диалектическия различия и, значит, повторится то, о чем мы говорили выше* (курсіў мой).

Для искусственного языка нет ведь живого субстрата, нет родины в том смысле, в каком ее имеет каждый живой язык, следовательно, нет и не будет того контроля, той нормы, которая создастся, например, об-

щею нормою литературного произношения... Остальные возражения можно было бы даже обойти, но укажу еще на то, что легкость изучения, на которую ссылаются, например, эсперантисты, в общем эфемерна. Действительно, запас слов этого языка, состоящий из слов некоторых больших культурных языков, легко усваивается культурным человеком, знающим несколько языков, но ведь идея всемирного языка в первую очередь обращается не к таким индивидуумам. Схематизм и простота грамматики эсперанто на первый взгляд подкупают, но и здесь есть подводные камни, и среди самых эсперантистов есть реформаторы, так что взамен естественного дробления языка тут может создаться искусственное его расщепление. Наконец, наиболее осторожные сторонники всемирного языка и не претендуют на самостоятельное литературное его значение, и действительно, трудно поверить в то, чтобы язык искусственно созданный, схематический, лишенный красочной пестроты живого языка, мог служить для художественного воплощения творческой мысьли, тем более, что высшая ступень этой сферы деятельности теснейшим образом связана именно с родным языком, воспринятым с раннего детства, с которым данный человек совершил весь путь своего духовного развития.

Не лучше обстоит дело с попытками воскресить латинский язык (хотя бы в упрощенном виде) для целей международного обмена, так как очевидно не приходится мечтать о том, чтобы какой нибудь один живой язык стал таким общим международным языком во всех отношениях и во всяких географических пределах. Мертвый латинский язык пришлось бы дополнить большим количеством новых слов, так приспособить его к новым условиям, что в сущности мы имели бы опять таки искусственный язык". (*Введение в языковедение, стр. 210—212*).

Перад тым, як перайсьці да прадмету свайго кароткага нарысу, мушу зазначыць яшчэ, што каб дакладна разумець тое, аб чым пойдзе гутарка ніжэй пры выясьненьні некаторых сынтаксычных асаблівасьцяй беларускае мовы, трэба хоць крыху быць знаёмым з граматычнымі паняцьцямі і з беларускай граматычнай тэрмінолёгіяй.

## I. Дзеяпрыметнікі.

Ідучы за расійскай літаратурнай мовай, наша літаратурная мова ўпадабала сабе ды вельмі часта ўжывае дзеяпрыметнікі (*парасійску — причастия*) з формамі на—**чы**,—**шы**,—**мы**, як напрыклад: „*Жыўшыя й жывучыя* на зямлі істоты", або „Стогі *парыжэўшыя стаяць*" (Як. Колас) *), „Птушкі марудны *прыстаўшай* палёт", „Паміж пяскоў *сінеючага* Ніла" (М. Багд.), „*спасьцерагаемы*", „*будучы час*", „*зацьвярдзеўшыя* гукі" (Б. Тарашкевіч, граматыка) і т. д.

Тымчасам, у беларускай мове ня можа быць такіх сынтаксычных зваротаў, бо беларуская мова ня мае дзейных (актыўных) дзеяпрыметнікаў на—**чы**,—**шы**, і залежных (пасыўных) на—**мы**. У нашай мове ёсьць толькі дзеяпрыметнікі залежныя (пасыўныя) на—**ны,—ты,** напрыклад: *зроблены, разьбіты, памыты, замкнёны—замкнуты, выбраны, падкованы, утомлены, латаны, умыты, паломаты—паломаны, забіты, пазапірата—пазапірана, чуцен—чутно, чутна, парыжэлы, пасівелы, састарэлы і т. далей.*

*) Цікава, сам Якуб Колас сьведчыць, што ён ніколі такіх дзеяпрыметнікаў ня ўжываў, а пісаў правільна пабеларуску—„Стогі *парыжэлыя* стаяць", а гэта ўжо рэдактары яго твораў павыпраўлялі на неўласьцівы беларускай мове лад.

Лёгка зразумець, што каб пісаў беларусін, незнаёмы з расійскай літаратурнай мовай, дык у яго дзеяпрыметнікаў, невядомых беларускай мове, мы не знайшлі-б, а калі такія дзеяпрыметнікі сустракаюцца ў нашай сучаснай літаратурнай мове, дык гэта аб'ясьняецца несьвядомым перанясеньнем расійскіх зваротаў у беларускую мову. Таксама лёгка даецца зразумець і тое, што ўносячы чужыя звароты ў сваю мову, мы тым самым надаём ёй характар чужы як для нашага вуха, так і для нашай сьвядомасьці.

Праўда, у беларускай мове сустракаюцца таксама формы дзеяпрыметнікаў на—**чы**, як *стаячы*, *ляжачы*, *скрыпучы*, *гарачы*; на—**мы**—*незнаёмы*, *вядомы*, і нават на—шчы—вочы *завідушчыя*, рукі *заграбушчыя*, але іх вельмі мала, і яны перасталі ўжо мысьліцца *дзеяпрыметнікамі* ды абярнуліся ў звычайныя *прыметнікі*. У такіх словах, як *ляжачы* (Пад *ляжачы* камень вада не цячэ. *Ляжачага* ня б'юць), *рабочы*, *стаячы*, *знаёмы*, *сьвядомы*, *завідушчы*, *заграбушчы* (Вочы *завідушчыя*, рукі *заграбушчыя*), гуляшчы, рабацяшчы—ужо не адчуваецца дзейнасьці, чыннасьці; яны ўжо ня маюць часоўнага характару, як дзеяпрыметнікі, а паказваюць толькі на пэўную прымету прадмету, як звычайныя прыметнікі (як *добры*, *харошы*, *зялёны*, *прыгожы*), а некаторыя пасьпелі ўжо стаць іменьнікамі назоўнымі (существительными), як напрыклад: *кіраўнічы*, *паплаўнічы* і іншыя. Трэба ані на момант ня спускаць з увагі, што факты мовы нясупынна зьмяняюцца, і гэтая зьмена фактаў мовы не залежыць ад волі паасобных людзей.

Такім парадкам, калі мы цяпер кажам: *хадзячы*, *ляжачы*, *гуляшчы*, то гэта ўжо ня тое, што ў ц.-славянскай мове *ходящий*, *лежащий*, *гуляющий*; гэта ўжо ня той, што ходзіць, ляжыць, гуляе і т. д. Такія словы як „вада *жывучая* й *гаючая*", выклікаюць у нашай сьвядомасьці ня *дзею*-прымету, а звычайную прымету прадмету.

Заместа фіктыўных дзеяпрыметнікаў на—**чы**,—**шы**, калі (разумеецца, пры перакладах, бо хто думае ды піша пабеларуску, у таго такіх выпадкаў ня можа быць) няма адпаведнага трапнага прыметніка дзеяслоўнага ці недзеяслоўнага пахаджэньня, то трэба абыйсьці іх апісальна. Напрыклад, заместа „*жыўшых* і *жывучых* на зямлі істот", трэба сказаць: „істот, *што жылі й жывуць* на зямлі". Або — „Вы, што чытаеце або слухаеце гэтую кніжку, думаеце"... а не—„Вы, чытаючыя (читающие) або слухаючыя (слушающие) гэтую кніжку, думаеце"... Замест „спасьцерагаемы факт", трэба сказаць: „факт, які дае сябе спасьцерагчы", або—„які спасьцерагаецца".

Ідучы за сапраўднай народнай мовай, усе мёртвыя (ц.-славянскія) дзеяпрыметныя формы лёгка замяняюцца апісальнымі зваротамі. Напрыклад,—замест: „І бачыць, што ўсе ў трывозе плачучыя, галосячыя моцна", трэба сказаць: „І бачыць, што ўсе ў трывозе плачуць і „галосяць моцна"; або замест „І знайшлі яго сідзячага (седящего) сярод настаўнікаў, слухаючага (слушающего) і пытаючага (вопрошающего)" трэба сказаць: „І знайшлі яго, як ён сядзеў сярод настаўнікаў, слухаў іх і сам запытваў".

Часам фіктыўныя дзеяпрыметнікі замяняюцца дзеяпрыслоўнікамі аднолькавага пахаджэньня. Напрыклад: „Сустрэне чалавека, нясучага гляк вады". Тут дзеяпрыметнік „нясучага" (несущего) можна замяніць дзеяпрыслоўнікам „нясучы": „Сустрэнеш ты чалавека нясучы гляк вады", а самае лепшае сказаць так: „Сустрэнеш чалавека з глякам вады". Але пра такую замену дакладней будзе гаварыцца ніжэй—*II. Дзеяпрыслоўнікі*.

Формы дзеяпрыметнікаў на—(ў)**шы**,—**чы** штучныя ў беларускай мове. Калі ў сучаснай літаратурнай мове яны часам трапляюцца, дык іх зараз-

жа трэба выкараніць, каб ня сталі яны традыцыйнымі. Граматычныя тэрміны Б. Тарашкевіча „будучы (час) і „зацьвярдзеўшы“ (гук) трэба замяніць другімі словамі, хоць-бы, напрыклад, так: *наступны* час, *зацьвярдзелы* гук.

Як відаць з апошняга слова—„зацьвярдзелы“,—расійскія (ц.-слав.) дзеяпрыметнікі на—(**ў)шы** даюцца замяніць беларускімі дзеяпрыметнікамі ад дзеясловаў прошлага часу на—**лы**, як слова *прошлы*. Напрыклад: *загарэлы* (загарэўшы) твар, набалелыя (набалеўшыя) грудзі, *пагаслыя* (пагасшыя) вочы; *засмаглыя* (засмагшыя) вусны; *зашлы* (зайшоўшы) чалавек і так далей. З прыведзеных прыкладаў відно, што беларускія дзеяпрыметнікі ў параўнаньні з расійскімі больш пасыўнага характару; яны й азнаку часу страцілі ды становяць сабою чыста граматычныя формы дзеяпрыметнікаў, а не па свайму значэньню. Дзеля гэтага іх ня можна ўжываць у тых разох, дзе адпаведны расійскі дзеяпрыметнік на—**ший** мае часоўны характар. Пабеларуску тады можна выслвіцца апісовымі дзеяслоўнымі зваротамі або адпаведнымі дзеяпрыслоўямі (аб гэтым бач. ніжэй II). Напрыклад, расійскае: „Не состоявшийся вчера концерт состоится“... пабеларуску можна перадаць так: „Концэрт, што не адбыўся ўчора, адбудзецца“... або з заменай дзеяслова адпаведным дзеяпрыслоўем: „Концэрт, не адбыўшыся ўчора, адбудзецца“.

Дзеяпрыметнікаў на—**мы**, як ужо зазначалася, у беларускай мове няма. Замест іх можна ўжываць або апісовыя звароты, або дзеяпрыметнікі на—**ны** ад дзеясловаў незакончанага трываньня. Беларуская мова ведае дзеяпрыметнікі на—**ны** ня толькі ад дзеясловаў закончанага трываньня, але й ад дзеясловаў незакончанага трываньня. Напрыклад: *гаіць—гоены* (Гоенае раны ня трэба дражніць); *гадаваць—гадаваны*, *яднаць—яднаны* (Воўк гадаваны, а непрыяцель ядняны—усё роўна); *даравáць — даравáнае* (Другое даравáнае даражэй за *куплёнае*).

Тут трэба зазначыць, што ў беларускай мове дзеяпрыметнікаў іменных (з скарочанымі канчаткамі) на ўзор расійскіх „несен, веден, бит“ бадай што зусім няма. Гэтыя дзеяпрыметнікі найчасьцей ужываюцца ў поўнай форме, напр.: *зроблены*, *выбраны*, *высыпаны*, *утомлены*, *зьменены*, *латаны*; *набіты*, *разьбіты*, *умыты*, *паломаны—паломаты* і т. д. Іменныя формы дзеяпрыметнікаў пасыўнага значэньня сустракаюцца толькі ў форме ніякага роду, як недзеяслоўная частка сустаўнога выказьніка з неазначальным значэньнем, напр.: „Хто парушыць—будзе *біт*“, „біць біту“; у безасабовых сказах: „Тут іх яшчэ за паншчыны паселена“, „Так яму зроблена“, „Яго сына забіта на вайне“. Але замест такіх зваротаў часьцей ужываецца дзейны зварот, дзе лёгічны дзейнік становіцца граматычным дзейнікам: „Тут іх яшчэ за паншчыны *пасялілі*“, „Яго сына *забілі* на вайне“ і т. д.

У беларускай мове бываюць часам ад аднаго дзеяслова паралельныя формы дзеяпрыметнікаў на—**ны** і на—**ты**. Кажуць, напрыклад, платы *поламаны—поломаты*, хаты *пазамыканы—пазамыкаты*, вароты *пазапіраны—пазапіраты*, быдла *паколата—паколена; апрануты—апранены*, *зацягнены—зацягнуты*, *сабраны—сабраты*, *дана—дата* ў Менску, а часам разам—**н** і **т**: *чуцен*, *чутна*, *чутны*.

## II. Дзеяпрыслоўнікі.

Калі дзеяпрыметнікі ў беларускай мове сустракаюцца толькі залежнага значэньня на —**ны**—**ты**, то *дзеяпрыслоўнікі* вельмі пашыраны. Наша літаратурная мова мала выкарыстоўвае гэты факт.

*Дзеяпрыслоўнікі* (дзеяпричастия) маюць сваё пахаджэньне ад іменных (скарочаных, без канчаткаў) дзеяпрыметнікаў. Дзеяпрыметнікі дзейнага значэньня з канчаткамі (з формамі займеньнікаў *ён, яна*) або зусім загінулі, або абярнуліся ў звычайныя *прыметнікі*, як, напрыклад, *гарачы, ляжачы, рабочы, гуляшчы, рабацяшчы і іншыя*.

Брак канчаткаў перашкаджаў кароткім дзеяпрыметнікам так цесна злучацца з іменьнікамі, як злучаюцца з імі дзеяпрыметнікі з поўнымі канчаткамі, і яны сталі бліжэй да дзеясловаў, як звычайныя прыслоўі, а тымчасам поўныя формы цясьней прымыкалі да йменьнікаў, дапасуючыся з імі ў родзе, ліку і склону. Стаўшы бліжэй да дзеяслова, кароткія формы дзеяпрыметнікаў ужо ня мелі патрэбы ў сваіх радавых, склонавых і лічных канчатках ды з часам перайшлі ў нязьменныя формы дзеяпрыслоўнікаў. Істота гэтага працэсу (пераход дзеяпрыметнікаў у дзеяпрыслоўнікі) ляжыць у паступовым разьвіцьці дзеяслоўных элемэнтаў мовы ў кірунку іх перавагі над элемэнтамі йменнымі. Ні ў чым гэтая перавага так выразна ня выявілася, як у ператварэньні інфінітываў у элементы дзеясловаў і кароткіх, г. зн. іменных, дзеяпрыметнікаў у дзеяпрыслоўнікі.

Беларуская мова, як і ўкраінская, захавала ў сабе пабудову сказаў з дзеяпрыслоўнікамі ад даўнейшых іменных (кароткіх) дзеяпрыметнікаў, што злучаліся (дапасоўваліся) некалі ня толькі *здзейнікамі (суб'ектам), а й з простым дапаўненьнем (об'ектам)*. Напрыклад: „Ой пайду я дарогаю *бягучы*, ці ня стрэну п'янічэнькі *ідучы*"—тут даўнейшы йменны дзеяпрыметнік, цяперашні дзеяпрыслоўнік *йдучы*, дапасаваўся з дапаўненьнем *п'янічэнькі*, як цяперашні дзеяпрыслоўнік *бягучы* дапасаваўся з дзейнікамі *я*. „Ой зіма мая маразьлівая, не марозь мяне з паходу *йдучы*, каня *вядучы*, шаблю *нясучы*, зброю *вязучы*." Як у першым прыкладзе „ідучы", так тут дзеяпрыслоўнікі „ідучы, вядучы, нясучы, вязучы" стаяць на месцы даўнейшага *другога в'навальнага склону*. Дакладней аб гэтых формах будзе гаварыцца ніжэй.

I. У беларускай мове, як і ў іншых славянскіх мовах, найбольшае пашырэньне маюць тыя дзеяпрыслоўнікі, што вытварыліся з *назоўнага* склону даўнейшых іменных дзеяпрыметнікаў, якія дапасаваліася з *дзейнікамі* (суб'ектам). Напрыклад: Ой пайду *я гукаючы*, свае долі *шукаючы*.

У нашай мове захаваліся яшчэ дзеяпрыслоўнікі прэдыкатыўнага (выказальнага) характару, г. зн., тыя дзеяпрыслоўнікі, што вытварыліся з дзеяпрыметнікаў назоўнага склону ў сустаўным выказьніку: „Яны былі *не дзяліўшыся*. Ён трохі *выпіўшы*. Я сёньня яшчэ *не абедаўшы*. Ён так і *стаяў* там *падпёршыся*; так і *застаўся* там *сплючы*.

Дзеяпрыслоўнікі, што вытварыліся з дзеяпрыметнікаў назоўнага склону, дапасованых даўней з дзейнікам, складаюць у сучаснай мове дзьве конструкцыі: а) дзеяпрыслоўнікі, што станавілі некалі другі назоўны склон азначэньня, выражанага дзеяпрыметнікам і дапасованага з першым назоўным склонам—*дзейнікам*; б) дзеяпрыслоўнікі з тых дзеяпрыметнікаў назоўнага склону, што ставіліся ў сказах бяз першага назоўнага склоку (бяз дзейніка) пры дзеясловах-выказьніках у форме *загаднага* ладу, г. зн. там, дзе дзеяпрыслоўнік сам станавіў сабою назоўны склон.

Найбольш пашырана першая конструкцыя, дзе дзеяпрыслоўнік стаіць на месцы другога назоўнага склону дзеяпрыметнікаў. Напрыклад: „Засьві-

сталі ўсе стралкі з паходу *йдучы*. Ой пайду я *гукаючы*, свае долі *шукаючы*. Айцец-мамка плачуць каля Дунаю *ходзячы*, у Дунаю *просячы*. Вочы так і гараць *пазападаўшы*". Дзеяпрыслоўнікі гэтае конструкцыі—з другога назоўнага склону,—могуць замяняцца інфінітывам пры тых дзеясловах, што могуць мець пры сабе інфінітыў. Напр.: „Ой пайду я гукаючы свае долі *шукаць*".

Дзеяпрыслоўнікі гэтага пахаджэньня могуць мець пры сабе свае паясьняльныя словы, напр.: „І сустрэне вас чалавек, *нясучы гляк вады* (г. зн. „І сустрэне вас чалавек з глякам вады)". „Хто з вас, *маючы сто авец і страціўшы адну з іх,* не пакіне дзевяцьдзесят дзевяць у пустыні ды ня пойдзе шукаць згубленае".

Дзеяпрыслоўнікі з даўнейшага першага назоўнага склону (з дзейніка, выражанага дзеяпрыметнікам) знаходзім у такіх сказах: „Ня кайся рана *ўстаўшы*, маладым *жаніўшыся*". „Не хваліся *згінаючыся*, а хваліся *выпрастаючыся*". Тут дзеяпрыслоўнікі „устаўшы", „жаніўшыся", „згінаючыся", „выпрастаючыся" стаяць на месцы даўнейшага дзейніка (подлежащего), выражанага дзеяпрыметнікам (причастием). Яшчэ прыклады: „Увесь закурэў *ідучы*". „*Сядзеўшы* нічога ня высядзіш". „*Пытаючыся* запытаешся" і шмат іншых.

Дзеяпрыслоўнікі з назоўнага склону даўнейшых дзеяпрыметнікаў з канчаткамі на **а (я)** ў беларускай мове сустракаюцца вельмі рэдка, і толькі ў такіх зваротах: *як мага*, *колькі змога*, *што хаця*, *куды хаця*, напрыклад: „Памагалі адзін аднаму, як мага". „Далі яму есьці, колькі яго змога". „Вольна йсьці, куды хаця". „Еж, што хаця".

Як відаць з гэтых прыкладаў, дзеяпрыслоўнікі на **а (я)** ўжываюцца толькі ў прэдыкатыўнай (выказальнай) форме, зьвязаныя з асноўным выказьнікам злучным словам—„як", „што", „куды", „колькі". У іншых позыцыях яны сустракаюцца яшчэ радзей напрыклад: „Ат! Ясі *пасаля*" „Прыехаў мой міленькі з поля, заплакаў ля коніка *стоя*". *Стойма* стаіць, *бегма* бяжыць". У вапошніх двух прыкладах дзеяпрыслоўнікі „бегма", „стойма" маюць памацняльнае значэньне пры дзеяслове.

II. *Другі вінавальны склон*. Цікавую асаблівасьць беларускае (і ўкраінскае) мовы становяць тыя дзеяпрыслоўнікі, што паходзяць з даўнейшых дзеяпрыметнікаў, якія дапасаваліся (согласовалися) *ня з дзейнікам, а з дапаўненьнем*. Тут могуць быць дзьве конструкцыі: а) дзеяпрыслоўнікі з даўнейшых дзеяпрыметнікаў у давальнай форме, што дапасаваліся з дапаўненьнем у давальным склоне («Надаела мне *лежучы*») і б) дзеяпрыслоўнікі з даўнейшых дзеяпрыметнікаў у вінавальнай форме, што дапасаваліся даўней з дапаўненьнем у вінавальным склоне.

Разгледзім спачатку формы сказаў з дзеяпрыслоўнікамі вінавальнага склону.

Другім вінавальным склонам называецца *азначэньне* да простага дапаўненьня, выражанае прыметнікам або дзеяпрыметнікам ці йменьнікам назоўным у форме прыдатку да простага дапаўненьня, напр.: „Выгнаў дачку *босую*". „Купіў кніжку *падраную*". „Узяў сабе сірату *за дачку*" і інш. Тут словы „босую", „падраную", „за дачку" становяць сабою тое, што ў граматыцы называецца *другім вінавальным склонам*, бо ў першым вінавальным павінна стаяць дапаўненьне, г. зн. іменьнік (существительное) або іншае слова, што падмяняе йменьнік.

У беларускай мове ўсе тыя дзеяпрыметнікі з дзейным значэньнем, што стаялі даўней у другім вінавальным склоне, абярнуліся ў дзеяпрыслоўнікі, напр.: „Угледзілі яны *чалавека* на полі *аручы*". „Найшла *мужа* Ўльлянка *аручы* палянкі каля свае хаткі". „Чула я малада *салаўч сьняваючы*". „Калі ўгледзіш *татку йдучы*"... „Ці ня бачыў ты *войска йдучы?*" „Знайшлі *яго* пад кустом *сплючы*". „Ой зіма мая маразьлівая! Не марозь *мяне* з паходу *йдучы*, каня *вядучы*, шаблю *нясучы*, зброю *вязучы*". „Пад вароты пад'яжджаючы чую *брата гаворачы*".

Калі ўзяць, скажам, першы прыклад—„Угледзілі яны чалавека на полі аручы"—ды памяніць дзеяпрыслоўнік „аручы" ц.-славянскім дзеяпрыместнікам з гэтым значэньнем, то дастанем такі зварот: „Угледзілі яны чалавека на полі *орущего*. У беларускай мове такога звароту быць ня можа, бо ў нашай мове ўсе такія дзеяпрыметнікі абярнуліся ў дзеяпрыслоўнікі, якія, як нязьменныя словы, ня могуць дапасоўвацца з сваім азначальным словам.

У навуковай мове, якая патрабуе сьціслай дакладнасьці, ужываць дзеяпрыслоўнікі ў паказанай позыцыі нельга, бо іх можна было-б памылкова зьвязваць з дзейнікам, і гэтым зацямніўся-б сэнс выславу, сказу. Але ў мове прыгожага пісьменства, дзе не патрабуецца навуковая сьцісласьць у выражэньнях, дзеяпрыслоўнікі ў такой позыцыі вельмі надаюцца; трэба ўмець толькі дарэчы ставіць іх.

Дзеяпрыслоўнікі з другога вінавальнага склону могуць замяняцца асабовымі дзеясловамі, напрык.: „Угледзілі яны чалавека на полі *аручы*"— „Угледзілі яны чалавека, які на полі *араў*".

III .*Дзеяпрыслоўнікі што стаяць на месцы даўнейшага дзеяпрыметніка ў давальным склоне* (Другі й першы давальны, і давальны незалежны— дательный самостоятельный).

Тут могуць быць такія выпадкі: а) калі дзеяпрыслоўнік зьвязваецца з дапаўненьем, г. зн., калі дзеяпрыслоўнік вытварыўся з другога давальнага склону дзеяпрыметніка (дапаўненьне станавіла сабою першы давальны), б) калі дзеяпрыслоўнік сам стаіць на месцы даўнейшага давальнага склону — гэта так званы першы давальны склон.

Прыклады на 2-і давальны: „Абрыдзела *мне* тут *лежачы*". „Якаво *табе* сястрыца, з роўным мужам *жывучы?*" „Добра, добра *мне*, сястрыца, з роўным мужам *жывучы?*". „Добра *табе* дзяўчыначка, па горніцы *ходзячы*". „Прыскучыла *мне*, малайцу, на марозе *стоячы*".

Прыслоўнікі з 2-га давальнага склону можна замяніць інфінітывам (неазначальнай формай). Можна сказаць, напрыклад: „Абрыдзела мне тут *ляжаць*". «Якаво табе, сястрыца, з роўным мужам *жыць?*"

Дзеяпрыслоўнікамі з 2-га давальнага склону можна замяняць неўласьцівыя беларускай мове звароты на азначэньне часу, умоўнасьці, што выражаны дзеяслоўнымі йменьнікамі з прыменьнікамі „пры", „на", „пасьля" ў безасабовых сказах, дзе дзейнік стаіць у родным склоне. Напрыклад, замест: „*пры чытаньні*, яму здавалося, што..." лепш сказаць: „*чытаючы* яму здавалася, што"... і т. далей.

Прыклады на 1-ы давальны: „*Не апрануўшыся* холадна". „Надаела *ждучы*". „*Не карміўшы* буракамі, не пасылаць за быкамі". „*Не стаяўшы* ў парозе, не сядзець на куце". „*Не хваціўшы* на душу, нечага палажыць і ў душу" (жартаблівае выбачэньне за ўзятку). „*Ня еўшы* лягчэй, *а пад'еўшы ляпей*". „На чужы лоб *шыбаючы*, трэба й свой падставіць".

Гэтыя дзеяпрыслоўнікі таксама можна выкарыстаць замест неўласьцівых беларускай мове дзеяслоўных імёньнікаў з прыменьнікамі. Напрыклад, замест: „*пры вызначэньні* кірунку ветру, трэба“... лепш сказаць: „*вызначаючы* кірунак ветру, трэба“...

Дзеяпрыслоўнікі з давальнага склону стаяць у безасабовых сказах. *Давальны незалежны*. У беларускай мове дзеяпрыслоўнікі могуць стаяць на месцы даўнейшага давальнага незалежнага прыметніка: „пытаю цябе, месяцу: ці рана сходзіш, ці позна заходзіш?—Я зыду *зьмяркаючы*, а зайду *сьвітаючы*“.

*(Канец у наступным нумары).*

# За літаратурным келіхам.

## I. Акушка.

### I.

### Аб романе.

Чаму нашая літаратура ня мае пакуль-што сталага роману, які магчыма было-б паставіць побач з багатай поэтыкай нашай?

Таму, што поэтыка, асабліва лірыка, ёсьць крыкам індывідуальнай або соцыяльнай душы аб сваім праве на жыцьцё.

Лірыка ёсьць песьня, а песьню сьпяваюць і сярод працы, нават пад'ярэмнай, прыгоннай, нават і тагды, калі йдуць на бойку.

Поэтыка, маючы пад рукамі гэткае прыладзьдзе, як рытм і рыфму, наогул музычнасьць, можа адразу сьцябануць па пачуцьцях, зацікавіць, улезьці ў вушы і застацца там хоць-бы парай-другой гучных радкоў, паркай агнявых строф, цэлым вершам, нарэшце.

Поэтыку, як цэлае, складаюць аддзельныя, звычайна невялікія творы—вершы; вершы гэтыя ёсьць аддзельныя моманты-перажываньні мала чым зьвязаныя між сабой. Возьмем „Матчын Дар" Гаруна. Творы-перажываньні нараджаліся працягам сямёх гадоў, у варунках сібірскага сіверу і астрожных падглядаў; лёгка ўявіць сабе, што пісацца яны маглі на кавалках паперы, бо самі былі „кавалкамі" душэўнага жыцьця аўтора.

Нават гэткі поэтычны твор, як „Новая Зямля" Я. Коласа, па аб'ёму блізка-што роман, можа быць раскладзены на часткі, амаль саўсім, незалежныя.

Папраўдзе, гэтыя трыццаць галоў ёсьць нічым іншым, як добрымі трыццацьцю поэмамі, пачынаючы ад „Лясьніковай пасады" і канчаючы „Сьмерцю Міхала".

Падругое. Самая форма поэтыкі, рытмічна-вершаванае слова, хаця і абавязывае тварца перажываць натхненны пад'ём, хаця і дае яму ў рукі вобразнасьць і музычнасьць,—з другога боку вызваляе аўтора ад патрэбы сьціСла вызначыць кожнае паняцьце, давесьці да канца кожную закранутую псыхолёгічную зьяву.

Поэтычная форма дае права паставіць „кропку" (вядома, псыхолёгічную, не граматычную) у любым месцы апавяданьня. Вось прыклад. Прачытайце хаця-б з апошняга разьдзелу „Новае Зямлі" аб каханьні Міхала (ст. 283, ад слоў: „Ты пазнаеш мяне, Міхаська?").

„Ратунку дайце мне! О, браце!
„Ратуй мяне! ратуйце, дзеткі!—
Сьляза—палын балюча-едкі,

На ўпалых вочах выступае...
Міхал зяхае—заціхае...
—Ой, сьвечку, сьвечку: ён канае!

Хто гэта выкрыкнуў апошнюю фразу? Што зрабіў пасьля гэтага? Ці падалі сьвечку? Як трымаў сябе Міхась? Як трымаліся ў гэты час тыя, што былі прысутны пры скананьні? і г. д. і г. д. На ўсе пытаньні падобнага роду прозаік-раманіста павінен адказаць, хаця-б каротка; песьняру гэта не абавязкова, нават залішне.

І гэта мае вялікае значэньне: вызваляе творчую энэргію, дае магчымасьць меншым лікам слоў сказаць досыць многае, бо ўсё недаказанае дапаўняецца выбражэньнем чытача, а яно ў сваю чаргу працуе нясупынна пад уплывам рытму і вобразнасьці.

Іншая справа,—роман. Мы сказалі-б, што закончанае, досыць вялікае апавяданьне, а тым болей роман, ёсьць напалову навуковым творам. Роман павінен ахапіць жыцьцё некалькіх асоб. Жыцьцё асобы ня можа быць адарваным ад жыцьця яе соцыяльнага асяродзьдзя, знача роман ахапляе і гэтае асяродзьдзе. Роман дае поўны малюнак зьвязаных перажываньняў; і ў романе на месцы розныя драбніцы, над якімі трэба падумаць. Ні воднае асобы з удзельнікаў роману ня можна кінуць бяз увагі, на сярэдзіне. У поэме можна сказаць:

„У ражок заіграў дзесь пастух“. І гэтым задаволіць.

У романе трэба было-б сказаць, дзе ён заіграў, або ўказаць, з якой ён вёскі, троху ахарактарызаваць яго, і яго адносіны да гэрояў і г. д.

Выходзіць: і лягчэй, у сэнсе нязьвязнасьці аўтора з рыфмай, музычнасьцю, натхненнасьцю, і цяжэй, бо патрабуе ўсіднасьці, увагі, большага веданьня жыцьця і соцыяльных адносін.

Неабходнымі варункамі ўтварэньня роману ёсьць значная супакойнасьць соцыяльнага асяродзьдзя, а таксама псыхічная сьпеласьць, закончаны сьветагляд гэрояў роману, а знача і самога аўтора. Трэба, каб нейкае пакаленьне закончыла свой жыцьцябег, асьвядоміла сябе прынамсі, тады яго магчыма зрабіць удзельнікамі роману.

Успомнім пра суседнія літаратуры. Тургенеў, Таўстой, Дастаеўскі, зьявіліся значна пазьней за Пушкіна і Лермантава, Сянкевіч і Пшыбышэўскі,—пазьней за Міцкевіча.

Для роману трэба ўжо нейкі „капітал“, хаця-бы слоўны; капітал тыпаў, капітал часу ў аўтораў. Роман не напішаш на кавалках паперы. Скажуць: а „Антон“ і „Дзьве душы“ М. Гарэцкага? а „Сокі цаліны“ Цішкі Гартнага? а „У палескай глушы“ Т. Гушчы?

Папершае, ніводная з гэтых рэчаў не закончана, як роман, у чым прызнаюцца і самі аўторы.

Падругое, тое, што нашыя пісьменьнікі ўзяліся за вялікія повесьці, сьведчыць аб значнай творчай энэргіі іх, ды аб тым, што час утварэньня сталага роману ў нашай літаратуры надыходзіць, а мо' і надышоў. Нашае найноўшае пісьменства наогул праходзіць хутка звычайныя этапы літаратурнае гісторыі, і з гэтага боку нам няма патрэбы чакаць дзесяцігодзьдзі, каб пасьля „пушкінска-міцкевіцкае“ пары нашае поэтыкі зьявіўся наш роман. Наадварот, хочацца сказаць, што роман ёсьць заданьнем заўтрашняга дню нашага пісьменства.

Тыпы пасьпелі, насьпелі і падзеі соцыяльнага жыцьця: усё гэтае зрабіла нашая вялікая соцыяльная рэволюцыя. Яна, гэтая рэволюцыя і кранутае ёю нашае жыцьцё, павінны адбіцца ня толькі „песьнямі працы

і змаганьня“ але і вобразамі-тыпамі палескае і іншае глушы, ды пераворанае цаліны нашае краіны. За гэтую творчую працу, спадзяемся, возьмуцца ўсе нашыя сучасныя літаратурныя волаты, перадаўшы, можа часова, ліры свае ў рукі тых, хто толькі яшчэ пачынае „сьпяваць“.

## II.

## Аб форме і зьмесьце мастацкіх твораў ды іншым.

Аб гэтым пісалася і пішацца, гаварылася і дыскусуецца. Расійскі крытык П. Коган і ўкраінцы В. Кор‘як і Межэнка („Червоний шлях“ № 8) удзяляюць досыць увагі гэтаму пытаньню. А маскоўскі журнал „Леф“ задаўся досыць непадзячнай мэтай: „рабіць жвавую, прадметна-патрэбную мову свайго часу“.

„Не апавяданьне аб людзях, але жывыя словы ў жывой узаемадзейнасьці людзей—вось край новага прыстасаваньня слоўнага мастацтва“.— „Леф“ таго погляду, што ў будучым грамадзянстве мастацтва будзе афарбоўваць кожнае слова, рух, рэч, якія будуць выходзіць ад чалавека „хаця-б коштам зьнішчэньня гэткіх спэцыяльных продукцый мастацтва сёнешняга дню, як верш, малюнак, роман, соната і г. д.“.

П. Коган дадае ад сябе:

„Калі зьявіцца першы горад-сад, дзе кожная вуліца будзе мастацка прадуманым творам, тагды магчыма будзе гаварыць аб нікчэмнасьці Эрмітажу і Луўру перад гэтым надзвычайным творам“.

П. Коган дакарае „лефаўцам“ у тым, што яны, добра разумеючы мастацтва будучага, як такое; якое ня будзе мець спэцыяльных форм (верш, малюнак, роман, соната), усё-ж самі ня зволькіліся ад гіпнозу профэсіяналізму ў мастацтве і бароняць каштоўнасьць формы, як самамэты.

„Патрэбная мова нашага часу апрацоўваецца не ў таўстой часопісі але на фабрыках, па рабочых гурткох, на пляцох“, гавора П. Коган.

Мы згодны з ім. Мастацтва, асабліва мастацтва нашага часу, калі ў жыцьці пачалі прыймаць чынны ўдзел вялікія людзкія грамады, калі маса з об‘екту сваёй гісторыі робіцца яе суб‘ектам, па выразу т. Зіноўева,—мастацтва гэтага часу ня можа адарвацца ад рэальнасьці, калі хоча мець хоць якое значэньне і ўплыў.

Як і для П. Когана, для нас дзіўны гэткія палажэньні з „Лефа“:

„..пры сучасным становішчы навукі, самае большае, на вошта мы можам разьлічываць,—гэта на тое, каб ведаць будову самога твору; сувязі з акружаючым жыцьцём яшчэ правесьці нельга“. Вось дзе запраўдная схолястыка і акадэмізм!

Але ў чым мы ня згодны ані з „Лефам“, ані з самым паважаным крытыкам П. Коганам, дык гэта ў тым, як уяўляць сабе мастацтва ў будучым, колектыўна-організаваным грамадзянстве.

Будучы час, магчыма маляваць сабе альбо як нешта, што гістарычна і беспасрэдна разьвінецца з сучаснага, адкінуўшы ўсе элемэнты буржуазнае культуры, (гэта, нам здаецца, і будзе падход марксізму, хай даруе нам П. Коган!); альбо аб будучым можна фантазіраваць, як заўгодна. Тут ужо ўсё залежыць не ад дасьледаваньня адносін сучаснага грамадзянства і яго разьвіцьця, але выключна ад моцы выабражэньня і большменш дасьціпных нарысікаў гэтага „будучага“ (лепш кажучы, сучаснай фантазіі аўтора).

Думаць, што пры колектывізьме тыя, хто працуюць, будуць жыць больш поўным жыцьцём, чым рабочыя самай лепшай з сучасных буржуазных дзяржаў, думаць гэтак, знача быць марксістым; думаць, што нашыя патомкі будуць неяк нязвычайна жывіцца, напрыклад беспасярэдна пераводзіць азот з паветра ў свой організм,—знача быць фантазёрам, і толькі.

Што прымушае ўяўляць комуністычнае альбо колектывістычнае грамадзянства без знаёмых нам форм мастацтва? Рашуча нічога!

Калі кожны сказ чалавека ў будучыне, нават просьба даць напіцца вады, будзе уяўляць „мастацкі твор", гэта не азначае, што ўжо кінуць пісаць вершы. Калі кожны будзе ўмець сьпяваць, ня знача, што не патрэбны будуць „спэцыяльныя" хоры, і што асабліва выдатныя солістыя, належна падгатаваныя, ня будуць асаладжаць слуху грамадзян будучага. Можа быць кожны селянін будзе ўмець расьпісываць палотны фарбамі ня горш за Рафаэля, і гэта не азначае, што тыя-ж сяляне не пацягнуцца паглядзець якую-небудзь выстаўку выдатных маляроў свайго часу. Таксама з музыкай, разьбярствам і іншымі галінамі мастацтва. Мы згодны, у горадзе-садзе соцыялістычнага будучага „Луўры" і „Эрмітажы", напоўненыя выдатнымі творамі *нашага* часу, будуць мець малое значэньне, але ці ня будзе там *сваіх* „луўраў" і „эрмітажаў"? Гэта знача, ці ня будзе ў іх свайго выдатнага, прыгажэйшага, лепшага, надзвычайнага? Іначай, як уявіць сабе прогрэс, разьвіцьцё ў будучым комуністычным грамадзянстве? Ці яно там ужо не патрэбна? За гэткае ўяўленьне наўрад-ці падзякуюць комуністыя і марксістыя!

Калі-б якім-небудзь сучасным дзікунам бушмэнам або аўстралійцам ды паказаць тандэтныя малюнкі з любой вясковай хаты, ім яны здаліся-б выдатнікам малярства, і як-бы яны былі задзіўлены, даведаўшыся, што гэткі „луўр" знаходзіцца ў кожнай хаце зьмізарнелых эўропэйскіх вёсак. І як-бы цяжка было бушмэнам уявіць, што апрача падобных тандэтаўлубкоў у нас маецца нешта лепшае, выдатнейшае! Беднасьць дзікунскай фантазіі. Прогрэс будучага ня ў тым, што сярод высока разьвітага масавага мастацтва ня будзе выдатнага („луўраў"), але ў тым, што павысіцца і пашырыцца самае ўспрыйманьне прыгожага. Цяпер, што да формы і зьместу.

„Ніводны разумны чалавек ня можа адмаўляць значэньню формы ў мастацтве, патрэбы апрацоўкі яе, дасьледаваньня законаў композыцыі і г. д.", слушна гавора П. Коган у адным мэсцы сваёй кнігі („Литература этих лет"); а ў другім выпускае гэткую супярэчнасьць: „я не кажу— гэта талентна, гэта няздатна, бо гэта ўнутраная справа саміх поэтаў, спэцаў... Я саўсім не цікаўлюсь композыцыяй, вобразам, прыслоўкам"...

Як-жа пагадзіць гэтыя словы з „значэньнем формы ў мастацтве, з патрэбай апрацоўкі яе"?

Прадстаўнікамі „фармальнай школы" зьяўляюцца В. Жырмунскі ў расійскай літаратуры („Задачи поэтики" журнал „Начало" 1921 г. № 1) і Ю. Межэнко ў украінскай.

Жырмунскі гавора:

«Матар'ялам поэзіі зьяўляюцца ня вобразы і ня эмоцыі, але словы. Поэзія ёсьць штукарствам слова, слоўнае мастацтва... Сутнасьць мастацкага прыёму заключаецца ў асобным ужываньні фактаў мовы, з мэтай зрабіць мастацкае ўражаньне.»

Запытаемся ў Жырмунскага:

Ну, а вобразы, параўнаньні, прыслоўкі хіба належаць да «зьместу» твору ды не да яго „формы?“

Другое запытаньне:

Хіба вобразамі і эмоцыямі, параўнаньнямі ды прыслоўкамі ня робіцца мастацкага ўражаньня?

Няўжо-ж мастацкае ўражаньне робіцца толькі, як думае проф. Жырмунскі, рознымі комбінацыямі гукаў «у» «ю» і г. д. ?

Жырмунскі вось якім чынам аналізуе вядомы верш Пушкіна:

„Брожу ли я вдоль улиц шумных
„Вхожу ли в многолюдный храм
„Сижу ль меж юношей безумных,—
„...Я предаюсь моим мечтам...“

1. Чаргуюцца радкі у 9 і 8 складоў, з націскам на цотных складох—чатырохмерны ямб.

2. Два вершы складаюць мэтрычны пэрыод, два пэрыоды—зваротку.

3. Кожнае чатырохрадзьдзе самастойна па заданьню і канчаецца больш-менш значным сынтаксічным прыпынкам (кропкай).

4. Гармонія галосных і пераважае націскное „у“ і г. д.

П. Коган дасьціпна высьмейвае гэты «формальны» мэтод Жырмунскага вось якой падменай слоў таго-ж вершу:

„*Спешу* ли я вдоль улиц *шумных*
„*Зайду* ли в *малолюдный* храм
„Сижу ль меж юношей безумных,—
„Я предаюсь *смешным* мечтам.

Як бача чытач, увесь папярэдні аналіз Жырмунскага цалкам дапасуе і да гэтага зьмененага вершу, хоць сэнс атрымаўся далёка ня той-самы! „Бродить“ (бадзяцца) і „спешить“ розныя рэчы: першае слова гавора аб горадзе і аб чалавеку *старога* часу, другое—аб горадзе і аб працаўніку *нашага* часу. „Многолюдный“ храм і „Малолюдный храм“—розныя этапы царкоўнай гісторыі, і г. д. Гэтак, прыблізна, крытыкуе П. Коган аднабокі падход да формы. Ці азначае гэта, што форма ня мае аніякага значэньня?

А што, каб Пушкін сказаў!

„Гуляю я вдоль улиц шумных,
То тиснусь в многолюдный храм“ і г. д.

Відзь-жа „сэнс“, здаецца, не зьмяніўся; той-жа стары горад, той-жа старога часу храм, але кудысь зьнік ад гэтых слоў элегічны настрой і ён зьмяніўся ад зьмены формы,—разьмену вобразнасьці і г. д.

Зробім яшчэ адну апэрацыю над формай:

„І зелень, і кветкі, і песьні,
„І неба вясёлая яснасьць...
„Ні цьмы тэй, ні сьнегавай плесьні,—
„Дзе глянеш,—адна, братка, шчаснасьць!
„Сьвет цэлы зіяе каберцам,
„Шум нейкі ад пушчаў нясецца,
„З грудзей як ня выскача сэрца,
„Душа кудысь рвецца... ўсё рвецца...

(Я. Купала. Шляхам жыцьця).

Пасьля апэрацыі:

„І кветкі, і песьні
„І неба яснасьць.
„Ані цьмы, ані плесьні,
„Адна вам шчаснасьць.
У грудзёх аж сэрца
Падскочыць, рвецца,
А сьвет каберцам
Тагды здаецца...

Зьмененая форма зьмяніла і зьмест (іначай кажучы, настрой, бо настрой лірычнага вершу і ёсьць яго зьместам): глыбокі і бадзёра-ўдумлівы ён перарабіўся на павярхоўны і жартлівы.

Украінец Межэнко трымаецца пяршынства формы над зьместам. Для яго існуе „мастацтва для мастацтва“, яно „само сабе выстарчае“. Ён называе „зьместаўцаў“ ідэалістымі, дуалістымі і г. д., бо яны па яго погляду, аддзяляюць зьмест ад формы, як дуалістыя аддзяляюць „дух“ ад „матэрыі“ („дух—матэрыя“, „зьмест—форма“).

Ня можна даваць дылетантам (зьместаўцам), гавора Межэнко, калечыць шуканьнем якогась-та зьместу прыгожых вытвораў чалавечай творчай працы... Сугучнасьць, вобраз, тэма, рытм—усё гэта складніковыя часьціны формы. Так званы зьмест—элемэнт, складнік формы!

Гэтыя палажэньні Ю. Межэнкі сьведчаць аб тым, наколькі заблуталіся ў паняцьцях і „зьместаўцы“ і „формалістыя“.

Мы трымаемся погляду тых крытыкаў, якія не аддзяляюць формы ад зьместу мастацкага твору, для якіх „у процэсе ўтварэньня паўстае ня зьмест і ня форма, але мастацкі твор“ (Гадзінський „Червоний Шлях“ № 4—5). Канешне, гармонічнае злучэньне гэтых двох частак адзінага цэльнага твору не заўсягды ўдаецца, адсюль і спрэчкі і непаразуменьні.

Але звычайна форма досыць адпавядае зьместу. Цяжка было-б, напрыклад, уявіць сабе „зьмест“ твораў Дастаеўскага, гэтае капашэньне ў хаосе індывідуальнай душы, у „форме“ Тургенеўскіх романаў, спакойна, па панску, апрацаваных старонак.

Форма Коласаўскай „Новай Зямлі,“ з яе пераходамі ад пяшчотнага лірызму (Ой, вы, дарожанькі людзкія...) да рэзкіх, чыста сялянскіх выразаў („А ну іх к ліху! ну іх к ляду!“), з рознымі разьмерамі (XIII. Падгляд пчол. „Пакуль-што досыць аб панох: яны прыеліся, дальбог!“ і XVI. Вечарамі. „Малюнкі родныя і зьявы! Як вы мне любы, як цікавы!“); з пануючай „аднатоннасьцю“, якая здаецца, пакуль ня прыгледзішся да рознастайнасьці палажэньняў і перажываньняў,—уся гэтая форма страшэнна дапасуе да зьместу, да багата-беднага жыцьця нашага селяніна.

У прыродзе ёсьць матэрыя крышталічная і не крышталічная („аморфная“). Крышталічная матэрыя часам прыймае прыгожыя знадворныя формы розных кубоў, пірамідак, кантаслупаў і г. д. Але ня ў гэтым галоўная ўласьцівасьць крышталічнае матэрыі, ды ў тым, што яна *ўнутрана* саўсім іначай пабудавана, што ў ёй самыя атомы як-бы маюць сваю форму, ды разьмяшчаюцца між сабой па пэўных законах. З гэтае прычыны, і сьвет, і электрычнасьць, і цяплыня саўсім іначай вядуць сябе ў крышталізаванай матэрыі і іначай у некрышталізаванай, хаця з надворнага боку і тая і другая могуць ня мець пэўнай формы.

Вось, нам здаецца, магчыма было-б правесьці падобнасьць, аналёгію між не крышталізаванай матэрыяй і не мастацкім творам (звычайная хата,

гаршчок, штодзённая мова, элемэнты альгэбры і г. д.); між крышталізаванай матэрыяй і мастацкім творам (палац, грэцкая ваза, верш, роман, малюнак і г. д.).

Тут зьмест сам павінен адшукаць сваю форму; форма—дапамагчы зьместу выявіць свае ўласьцівасьці. Канешне, поўная гармонія між формай і зьместам будзе знойдзена тагды, калі будуць адсунуты шмат якія супярэчнасьці сучаснага чалавечага жыцьця, гэта ёсьць у мастацтве будучага колектыўнага грамадзянства.

### III.

### Аб романтызьме, лятуценнасьці і г. д.

Зрабілася ўжо досыць зьбітым палажэньне аб тым, што романтызм аджыў свой век, як і розныя іншыя лятуценьні, што цяпер час рэалістычнага кірунку ў літаратуры і г. д.

Ці-ж праўда, што трэба ўжо спраўляць хаўтуры фантазіі, лятуценьню ды іншым здольнасьцям чалавечае прыроды?

Разгледзім характэрныя рысы кірунку, які ў тэорыі літаратуры прызвычаіліся абзываць „романтызмам“.

Адцягненьне ад звычайнага, будзённага, імкненьне да „бязьмежнага“, высокага, нейкая напружнасьць перажываньняў, нейкая бунтаўнічасьць у адносінах да мяшчанскіх укладаў жыцьця, — вось характэрныя адзнакі романтызму. „У буржуа грунт пад нагамі азначаны, як у сьвіньні гной: сям'я, капітал, службовы стан, ордэн, чын, бог на іконе, цар на троне. Выцягні гэта—і ўсё паляціць да гары нагамі“, вось словы, якімі выяўляе свае адносіны да буржуазнага ўкладу жыцьця выдатны прадстаўнік романтызму ў расійскай літаратуры А. Блок. Яшчэ адна рыса характэрна для романтызму—іронія, высьмешка ня толькі таго асяродзьдзя, што абкружае романтыка, але і высьмешка сваёй уласнай абмяжованасьці, высьмешка сваёй слабасьці ў тым, каб уцяміць, расчыніць да канца, з поўнай яснасьцю сьвет, што нас атачае. Па выразу крытыка Гэйнэ, таксама выдатны романтык, „умеў горка сьмяяцца ў тым-жа храме, у якім ён-жа гэтак горача маліўся“.

Карацей кажучы, романтызм мае той настрой, пад'ём, парываньне, тую „форму“, у якую мы можам сёньня ўкласьці саўсім іншы зьмест, уліць „новае віно“.

Крытык-марксісты П. Коган, разьбіраючы поэзію Блока, праводзіць роўналежнасьць між романтызмам і рэволюцыяй.

Рэволюцыя—вялікі романтык.

Яна верыць у тое, што *павінна* быць на сьвеце.

Яна, як і романтык, гавора: альбо ўсё, альбо нічога!

Яна, рэволюцыя, таксама халодная і акрутная да ўсяго прыватнага, таксама стыхійна нясецца да цэлага і далёкага.

Яна таксама незадаволена тым, што яе атачае.

Рэволюцыя, як і романтык, таксама мае сваю ўнутраную драму: з дапамогі ўлады ўтвараць бязурадзьдзе, з дапамогі гвалту ўтвараць свабоду; шляхам вайны організоўваць брацтва.

З гэтых параўнаньняў магчыма зрабіць вывад: як ня зьнікнуць з гісторыі чалавецтва рэволюцыі, пакуль чалавецтва ня дойдзе да організаванага колектыву, гэтак сама ня можа зьнікнуць з літаратуры і той яе настрой і кірунак, які завецца романтызмам.

Справа толькі ў тым, які гэта будзе романтызм.

Романтызм стары, які ўсё-ж такі аджыў свой век, лепш было-б цяпер азначыць словам „лятуценнасьць“ (мечтательность). Гэта *романтызм індывідуальны*, асабовы. Яго тэмы: каханьне, самота, сьмерць, імкненьне за „грані“ зямлі, проціпалажэньне свайго „я“ ўсяму астатняму чалавецтву,—ужо ня змогуць заняць пануючага стану ў сучаснай літаратуры.

Але ёсьць, нараджаецца, романтызм новага зьместу; гэта *соцыяльны романтызм* (П. Коган ня вызначыў гэтага).

Гэтым романтызмам прасякнуты ўсе маладыя, бадзёрыя, рэволюцыйныя творы. Гэтым романтызмам прасякнуты і сталыя мастацкія творы тых песьняроў і пісьменьнікаў, якія знайшлі ў сабе сілы і магчымасьці пэратварыць свае ўнутраныя, індывідуальныя лятуценьні на романтыку вышэйшага ладу, на романтыку соцыяльных настрояў і заданьняў. Можа найпрыгажэйшыя прыклады стара-романтызму нашае поэзіі мы знойдзем у М. Багдановіча. Вось верш „Мая душа“.

„Мая душа, як ястраб дзікі,
Што рвецца ў неба на простор.
Вартуе вольных птушак крыкі
Мая душа, як ястраб дзікі.

Учуўшы іх, страсе вялікі
Свой сон, шыбне да вышаў гор;
Мая душа, як ястраб дзікі,
Што рвецца ў неба на простор!“

Колькі высокай напружанасьці, колькі гордай самаўпэўненасьці, колькі парываньня і імпэту, колькі хараства, нарэшце!

Толькі вузкаватае кола для ўсяго гэтага: свая асоба, індывід!

Праўда, гэткім „ястрабам дзікім“ можа адчуць сябе і рабочы-рэволюцыянэр у моманты рэволюцыйнага пад'ёму, і гэта можа таму, што наогул нашая поэзія, нават стара-романтычная, у значнай меры пранікалася агульным, соцыяльным. Вось і ў гэтым вершы, ястраб ня зьдзекуецца над слабымі птушкамі, ды „вартуе вольных птушак крыкі“.

Але возьмем прыклады з нэоромантычнай поэзіі нашых дзён. Прачытайце верш „Да сонца“ Ц. Гартнага.

„Дзе быў пустыр, дзе рос палын...
У агні вялікай барацьбы
Устаў край Савецкай Беларусі“.

З „глыбін абуджанай душы“ рушыў „імпэт працоўных“. Стара-романтычная „душа“ ўваскросла, але ў выглядзе колектыўнай душы працоўных.

„І к чыньню *вечнаму* заве
Яе народ“...

Зноў „вечнае“, як у стара-романтыка, але яно ўжо дапасована да грамады-народу.

Возьмем М. Чаротавы творы: „Моладзь“, „Песьня першага мая“, „Босыя на вогнішчы“ і г. д. Ці-ж гэта не романтыка:

„Босым дарогу!
„Чырвоным завешаны вуліцы
„Вокны, балконы і плот.

„Белы дом толькі журыцца:
„Ня йдуць туды на сход...
Над балотамі дыміцца—
Згас агонь,
А па вогнішчы імчыцца
Белы конь...

Альбо ўзяць поўны романтычнага пад'ёму канец поэмы:

„Што шаг—пабеда бліжай, бліжай...
Штандар чырвоны на плячы...
Чым крыж цягнуць, лепш спаць пад крыжам...
Іграйце песьню,трубачы!!!“

І стары і новы романтызмы маюць агульным глыбокае, унутранае нездавальненьне мяшчанскім бытам і буржуазным ладам. Але індывідуальны романтызм, ня бачыўшы выйсьця, углыбіўся ў самога сябе, у іронію і пагарду. Соцыяльны романтызм знайшоў выйсьце ў барацьбе і пабедзе... а калі яе часам і няма, дык

„Чым крыж цягнуць, лепш спаць пад крыжам...“

# Перадсьмертны ліст Я. Пуліхава.

## Падаў З. Ж.

Пасьля растрэлу каля Віленскага вакзалу безваружнай маніфэстацыі 18 кастрычніка 1905 году, Менская організацыя партыі соцыялістых рэволюцыянэраў пастанавіла забіць віноўніка растрэлу—менскага губарнатара Курлова. Выпаўніць гэтае заданьне прыняў на сябе дабрахвотна сябар організацыі С.-Р. Ян Пуліхаў. Ён доўгі час сачыў за Курловым з бомбаю, намерваючыся яго забіць 6 сьнежня і на пахаваньні прыстава Шклярэвіча, таксама забітага рэволюцыянэрамі-бундаўцамі. У гэтых двух выпадках Я. Пуліхаў ня выпаўніў сваіх намераў, бо, як прызнаўся сам на судзе, ня ведаў Курлова ў твар. 14 студзеня, нарэшце, Я. Пуліхаў разам з Зосяю Ізмайловіч, дачкою начальніка артылеры IV армейскага корпуса, таксама сябрам партыі соцыялістых-рэволюцыянэраў, падсьцераглі Курлова каля сабору, калі адбывалася пахаваньне начальніка дывізыі. Як вышла пахавальная процэсія з сабору, Я. Пуліхаў прайшоў у процэсію і, стаўшы ззаду Курлова, кінуў у яго бомбу, якая папала Курлову ў галаў, але не разарвалася. Тут-жа Я. Пуліхава схапілі і сталі страшэнна катаваць, а Курлоў кінуўся к карэце, каб уцячы дамоў. Калі ён, сеўшы ў карэту, рушыў ехаць, у яго некалькі разоў стрэліла Ізмайловіч але прамахнулася. Курлоў да таго перапалохаўся ад замеру Пуліхава, што нават ня чуў стрэлу ў яго З. Ізмайловіч, і толькі, уцёкшы дадому, пачуў аб гэтым ад поліцмайстара.

Як Я. Пуліхава, гэтак асабліва З. Ізмайловіч, схапіўшы пасьля іх замераў, страшэнна пабілі тут-жа; у бойцы прымалі ўдзел шпікі, гарадавыя і чорнасотнікі-братчыкі, якія знаходзіліся каля сабору ў гэты час. У Ізмайловіч, калі яе абезаружылі і павалілі на зямлю, поліцмайстар страляў з равальвэра, але, па шчасьцю, прамахнуўся. З абоіх яшчэ неміласэрна зьдзекаваліся ў поліцэйскім вучастку.

Хутка Я. Пуліхава і З. Ізмайловіч судзілі ваенна-палявым судом і абоіх прысудзілі да сьмерці праз павешаньне. Аднак у адносінах да З. Ізмайловіч сьмертаваньне замянілі на катаржныя работы, а прыгавор над Я. Пуліхавым пацьвердзілі, і яго павесілі пад варотамі менскага вастрогу неўзабаве пасьля замацаваньня прыгавору.

Цікава прывясьці апісаньне моманту замеру Я. Пуліхава на Курлова па ўспамінах самога Курлова.*) Вось як ён піша аб гэтым:

„14 студзеня 1906 году я прысутнічаў у саборы на паніхідзе, якую служылі па ўмёршым начальніку дывізыі. Як скончылася служба, я, разам з іншымі начальнічымі асобамі, вынес труну з цэркви і паставіў яе на воз. Ззаду ў мяне стаяў з крыжам у руках менскі архірэй Міхаіл,

*) П. Курлов. Конец русского царизма. Госиздат. (Москва-Петроград).

разам з іншымі духоўнікамі. Раптам я пачуў лёгкі стук у голаў, але не зьвярнуў увагі, думаючы, што з-за адлігі кінуўся з даху на мяне невялічкі камяк сьнегу. Да мяне падбег упраўнічы канцэлярыяю губарнатара і сказаў: „Ваша правасхадзіцельства, бомба". Я паглядзеў уніз і ўгледзіў каля маіх ног чатырохфутны пакуначак, які быў завернуты ў шарую паперу. Паліцмайстар папрасіў мяне сесьці ў карэту і ехаць дамоў; гэта я й зрабіў. Спусьціўшы некалькі хвілін, ён зьявіўся да мяне на кватэру і паведаміў, што зараз-жа пасьля майго ад'езду некая кабета некалькі раз выстраліла з браўнінгу, прычым ён і чыноўнік асабовых даручэньняў пачулі, як пулі каўзанулі па каўнярох іх мундзераў. На шчасьце гэтыя выстралы не зрабілі нікому шкоды...

Дасьледаваньне паказалі, што Пуліхаў кінуў бомбу ўверх дзеля таго, каб падаючы ўніз яна стукнулася аб зямлю й разарвалася, але бомба, стукнуўшыся аб маю голаў, пацёхай саскаўзнула рукавом і лёгка пала да маіх ног, не разарваўшыся. У нас ня было спэцыялістых яе разабраць, таму мы палажылі яе на агонь, які разлажылі сярод пляцу паміж домам губарнатара і саборам. Узрыў быў гэтакі моцны, што ў сумежных вуліцах лопнула шкло ў вокнах.

Праз некалькі дзён абудвых праступнікаў ваенны суд прыгаварыў да сьмерці, ня гледзячы на тое, што я зьвярнуў увагу прадсядацеляў гэтых судоў на тое, што сьмертаваньне не пажадана, бо ў абудвых гэтых выпадках быў толькі намер на забойства".

Ці праўда ці не, што зараз сьведчыць Курлоў аб сваёй спагадзе да Я. Пуліхава і З. Ізмайловіч, яму аднаму вядома. У кожным разе, ня гледзячы на гэта, мы маем факт засуджэньня абоіх рэволюцыянэраў на сьмерць. Пасьля бязьлітаснага прыгавору Я. Пуліхавым быў напісан да сваіх таварышаў ніжэй паданы ліст. Ліст гэты не памечан лічбаю, напісан на адрывачках паперы нэрвовым, рухаючым характарам, бяз подпісу. Але ў лісьце чуецца моцная вера загартованага энтузіасты рэволюцыянэра.

Вось што ў ім піша Я. Пуліхаў: *)

„Дарагія таварышы! Вы, вядома, ведаеце ўжо аб засуджэньні да сьмерці. За нас дваіх не засмучайцеся—я спакойны, бадзёры і вясёлы, страху не адчуваю, зразумела, і не цярплю. За Соню таксама ручаюся. Ось няшчасны Оксэнкруг **), бач ён ня віновен—ня знаю, якаво сябе адчувае. Дзякуй вам, таварышы дзяўчаты, за падарунак, вышытую вамі, кашулю. У ёй я быў на судзе. Я трымаў сябе прыстойна ды з вартасьцю, Соня гэроічна! Мяне заражаў яе сьветлы, радасны настрой. Ад яе прысутнічаньня я дастаў гэткую энэргію, што мая прамова была выказана зычным голасам, плаўка і моцна, чаго мне ніколі не ўдавалася на нашых масаўках. Ды з гэткім таварышом, як Соня, я з захапленьнем пайшоў-бы ў агонь і аддаў-бы два жыцьці, каб мог. Слава жанчынам! Пяроўская, Засуліч, Гельфман, Язерская, невядомая, што страляла ў Сахарава, Сьпірыдонава, невядомая, што страляла ў Чухніна ***), Ізмайловіч—сапраўды з варужжам у руках заваявалі сабе месца ў гісторыі, наперакор тупагаловым буржуям, якія адмаўляюць дзеля іх грамадзянскія правы. Але раскажу, як было дзела папарадку. Мяне

*) Орыгінал лісту выпадкова папаў у Іспарт пры Б. Б. Ц. К. Р. К. П., дзе і хаваецца.

**) Таксама арыштаваны па дзелу Я. Пуліхава.

***) То была сястра Соні Ізмайловіч.

разбудзілі ў камеры ноччу а 4 гадзіне і павялі ў кантору праз паўгадзіны, вывелі і пасадзілі на рамізьніка пад канвоем з каля паўсотні казакаў, даставілі ў казарму на Петрапаўлаўскай вуліцы. Там быў суд. Сьледам за мною прывялі туды-ж Ізмайловіч і Оксэнкруга. Была зусім чорная ноч. Нас пасадзілі ў адным пакоі па разных кутках, да кожнага прыставілі па два часавых з ружжамі. Апроч таго, было гібель паліцыі і салдат у будынку суду і на вуліцы. Нам забаранілі гутарыць і рухацца. Гэтак мы прасядзелі на сваіх мясцох ад $4^1/_2$ да 11 гадзін. Пасьля зьявіліся абаронцы; коратка перамовіліся з намі і распарадкаваліся даць гарбаты. Пасьля мяне з Ізмайловіч павялі ў салю суду, Оксэнкруг астаўся. Наша дзела слухалася першым. Пасьля прысягі сьведак і інш. царамоніяў пачалося дзела. Першым дапыталі мяне. Я на запытаньне аб віноўнасьці заявіў, што я сябар ПСР кінуў бомбу з намерам забіць Курлова, але віноўным сябе не прызнаю, бач пераконаны, што па чэсьці і па сумленьні я павінен быў зрабіць так, як зрабіў. Затым я казаў прамову, у якой расказаў аб растрэле натаўпу ў Менску 18 кастрычніка (1905 г.), ахарактарызаваў чыннасьць правіцельства і Курлова. За апошні час, заявіў, што я сам вызваўся на тэрорыстычны акт па прыгавору партыі. Расказаў, як я падпілнаваў яго з бомбаю 6-га сьнежня на пахаваньні Шклярэвіча, але ня кінуў тады таму, што яшчэ ня ведаў Курлова ў твар і баяўся абмыліцца. Затым расказаў аб здарэньнях 14 студзеня, аб арышце і аб катаваньні ў вучастку. У сярэдзіне прамовы мяне перабіваў прадсядацель за няўважлівыя выказы аб Курлове і правіцельсьцьве. Пасьля гаварыла Соня; яна зрабіла падрабязныя заявы і расказала прыблізна тое-ж, што і я, толькі ў болей яскравых фарбах, як сьведка растрэлу 18 кастрычніка. Яна заявіла, паміж іншым, што дзейнічала па прыгавору М. (енскага) Ком (ітэту) ПСР і гэтым навалакла на сябе сьмертны прыгавор, якога, сталася-бы, ня было-бы, каб яна дазволіла абаронцу даказваць, што яна дзейнічала не з-загадзя абдуманым намерам, а раптоўна, угледзеўшы тое, як мяне білі. Мне таксама прышлося засмуціць майго абаронцу, п-на Нейфана. Мы з ім не пасьпелі канчаткова згаварыцца да суду адносна спосабаў абароны, бо з прычыны хваробы жонкі ён ня мог прысьці да мяне ў камеру перад судом. І вось уздумалі абараняць мяне, даказваючы, нібы я, кідаючы бомбу, ня меў намеру забіць Курлова, а толькі хацеў зрабіць дэманстрацыю тэрорыстычнага характару, бач напалохаць яго. На катэгорычнае запытаньне прадсядацеля, ці меў я намер забіць Курлова, кідаючы бомбу, я, вядома, адказаў—„так, меў". Затым ён, абаронца, даказываў, што бомба бесшкадліва і ня мае ўласьцівасьці ўзарвацца ад стуку і г. д. і да гэтага падобнае. Але і тут наткнуўся на маю заяву, што я ня быў запэўнен, кідаючы, што яна ўзарвецца, але ўсё-ж-такі яна не ўзарвалася, толькі дзякуючы няшчаснаму выпадку, і гэтым засмуціў яго двойчы— завошта, вядома, прашу выбачэньня. Дапытвалі сьведак толькі палову, астатніх суд палічыў лішнім пытаць (па згодзе прокурора з абаронцамі). Курлоў даў пасьведчаньне праўдзіва і правідлова; Нораў *) хлусіў, чырванеў і путаўся: яму вельмі не хацелася прызнацца, што ён страляў у ляжачую, абезаружную ўжо жанчыну. Але Сокалаў з паказаньняў сьведак вельмі ёмка прыпёр яго да сьценкі і высьведчыў у гэтым. Ад апошняга слова мы абое адказаліся, бо ўсё важнейшае сказалі ў першай прамове, а казаць на другі тэмат нам-бы не далі. Хвілін праз дзесяць нам вынесьлі

*) Быўшы пры Курлове паліцмайстарам.

прыгавор к сьмерці праз павешаньне. А праз паўгадзіны пазвалі, каб прачытаць той-жа прыгавор у канчатковай форме. Соня ўсьміхнулася, я пацiснуў ёй руку. На судзе прысутнічалі толькі мой бацька і яе сястра. Як парадзіў абаронец—я зараз-жа пасьля прачытаньня патрабаваў перадаць яму копію гэтага прыгавору. Затым нас пад страшэнным канвоем адвялі ў вастрог. На вуліцах ня было відаць ні душы, апроч паліцэйскіх, хоць было яшчэ сьветла... Яшчэ адна падрабязнасьць: пасьля нас слухалася дзела Оксэнкруга, і Соня, выслухаўшы свой прыгавор, заявіла суду, што хоча быць сьведкаю па яго дзелу, бо яна ведае, што кінуў бомбу ня ён. Яна ведае, хто па імю, а не па фаміліі. Суд яе пасьведчаньне ня прыняў. Пасьля прыгавору мы мелі магчымасьць пагутарыць вольна каля паўгадзіны. Успаміналі мінулыя дні, успаміналі ўсіх таварышаў далёкіх і блізкіх, і шкадавалі тых, што астаюцца: некаторым з іх цяжка будзе пераажыць нашу сьмерць. Па закону нам астаецца жыць двое сутак.

Урэшце скажу Вам тое: яшчэ гатуючыся да акту (кінуць бомбу), я адчуваў у сабе досыць сілы памерці, але ніколі ня думаў, каб гэта было так лёгка і радасна, як ёсьць. Сягоньня ў мяне было ўбачэньне з абаронцамі і бацькам—Сокалаў прыходзіў разьвітацца. Бацька прасіў мяне прыняць папа дзеля „напутствованія“. Я наадрэз адказаўся супярэчыць сваім пераконаньням.

Ну, прашчайце, таварышы! Ня сумуйце, бо вышэй любові да блізкага—любоў да далёкага і наступнага і яшчэ болей любові да чалавека, любоў мая (мне падабаецца) *) „да ценяў і зданьняў“.

---

*) Гэтыя два словы дапісаны алоўкам і ўзяты ў дужкі.

# К н і г а п і с.

**М. Байкоў і М. Гарэцкі.** *Практычны расійска-беларускі слоўнік.* Выдавецтва «Белтрэстдрук». Менск, 1924.

Выйсьце ў сьвет гэтага слоўніка як ня трэба лепш к часу. Пашырэньне Беларусі і праз гэта вялікая зацікаўленасьць да беларускае мовы, якая ў моц пастаноў XII зьезду партыі па нацыянальнаму пытаньню павінна ўвайсьці ў абыход школ і дзяржаўных установаў пашыранай Беларусі, выклікалі значнае запытаньне на расійска-беларускі слоўнік. Слоўнікі А. Насовіча і братоў М. і Г. Гарэцкіх распраданы і іх дастаць зараз цяжка. Да гэтага абудва з іх не адпавядаюць свайму назначэньню: А. Насовіча - па сваёй застарэласьці, а братоў М. і Г. Гарэцкіх— з-за сьцісласьці. Жыцьцё настойна вымагала запоўніць гэты прагалак навейшым больш-менш пашыраным слоўнікам, менавіта практычным, абыходным, пакуль надрукуецца сталы, акадэмічны. М. Байкоў і М. Гарэцкі якраз злажылі патрэбны слоўнік, і зараз мы маем яго перад сабою. У адлічча ад слоўніка братоў М. і Г. Гарэцкіх, „Практычны Расійска-Беларускі Слоўнік“ М. Байкова і М. Гарэцкага амаль ня ў тры разы таўсьцейшы. Ён дае чытачу тлумачэньне многа большага ліку слоў... Але, на шкоду, аўтары слоўніка часта зусім неправідлова ўжываюць некаторыя пераклады. Гэтак, бяром першыя словы, якія пападаюць на руку, напрыклад: „скорлупа“—„шкарлюпа“ а ня „лупіна“, „щавель“—тлумачыцца — „шчавель“, калі ўсюды ўжываюць „шчаўе“; „кувыркаться“—перакладаецца, як „перакідацца“, калі пабеларуску будзе „куляцца“, „ил“—чамусьці „глей“, калі глей гэта зусім ня іл, а суглінак, „изумление“, —„зьдзіўленьне“ і „удивление“ таксама „зьдзіўленьне“. Далей—„напрямик“—выходзіць у аўтораў—„проста“ і „прямо“—таксама „проста“; між іншым „напрямик“ — гэта будзе „нацянькі“, „нараспашку“ — трэба „нарасхлест“, а тлумачыцца „нараспашку“. „Сьвяча“ пераведзеная з „свеча“, нідзе ня ўжываецца, а ўжываецца „сьвечка“; „нарочно“ зусім не „наўмысьне“, а „знарок“, „наўмысьне“—гэта будзе парасійску „умышленно“; „симпатия“—„спагада“, праўдзівей „сочувствие“—„спагада“. „Луг“ —перакладзен на „луг“, калі „луг“ праўдзівей „поплаў“ пабеларуску, бо лугам называецца прафільтраваная на попел, нагрэтая для ўмываньня вада і г. д.

Апроч гэтай вады слоўнік узбагачан, панашаму, зусім лішнімі заграничнымі словамі, „як „сенсуализм“ —„сэнсуалізм“—не прайшоўшае тэрмінолёгічнай апрацоўкі, або „сенат“ —„сэнат“—зусім непатрэбнае, выкінутае рэволюцыяй з жыцьця, ці „синонимический“, — „бліскзначны“ — таксама мерцьвячына і шмат іншых.

Адзначаныя заганы, пэўна, трэба прыпісаць пасьпешнасьці працы, з якою аўтары мусілі пісаць свой слоўнік.

З другога боку шмат адбілася на слоўніку тэхнічна-друкарская партач-

насьць. Чамусьці не хапіла сьмікалкі даць для яго двух шрыфтоў, а ўвесь зьмест набраны адным шрыфтам і пры гэтым усе словы з малых літар. У канцы-ж зьместу, як адзнака „ўважлівага набору“, прыложаны чатыры старонкі „заўважаных“ абмылак.

Гэта, вядома, скутак провінцыяльнага становішча друкарскай тэхнікі „Белтрэстдруку“. Усё-ж, ня гледзячы на адмечаныя заганы, сам па сабе слоўнік выдае багатую і солідную працу М. Байкова і М. Гарэцкага, якія сумелі ў кароткі тэрмін напісаць умешчаную кнігу, загарантаваную на бойкае пашырэньне.

**Сачун.**

**Заранкі,** *зборнік вершаў* **Я. Журбы.** *Выданьне Беларускага Коопэрацыйна-Выдавецкага Таварыства „Савецкая Беларусь“. Менск, 1924, стр. 100.*

І вось беларускае краснае пісьменства павялічылася (ах, як хацелася-б сказаць—узбагацілася!), так, павялічылася новым... укладам, здабыткам... не, ня так я выражаюся, павялічылася новым зборнічкам, (не забягайце наперад і ня думайце, што зборнічкам поэзіі ці мастацкай прозы, о не!) зборнічкам вершаў Я. Журбы.

Але, вершаваная беларуская літаратура павялічылася прыблізна 3.000 радкамі вершаў, якія, бязумоўна, маюць права лічыцца вершамі: рытмічнасьць (сякая-такая) ёсьць; прэтэнзыі на рыфму (праўда, гэтыя прэтэнзыі лепш было-б, каб і заставаліся толькі прэтэнзыямі, бяз уцяленьня ў слоўную форму) гэтак сама ёсьць; ну й чаго-ж больш?... радкі напісаны пад радкамі, карацейшыя чаргуюцца з даўжэйшымі, над кожным вершам загаловачак (а часамі й зорачкі, і мы, бач, ня лыкам сплецены!) Усё, як належыць, усе атрыбуты вершу... перад намі.

Ды й маляр, які маляваў вокладку для зборнічка, мабыць сваім малярскім нюхам (сам ён сказаў-бы інтуіцыяй) прачуў „дух“ зборнічка і даў малявідла—традыцыйныя бярозкі выцягнуліся роўненька, даючы паміж сябе месца якраз... чатырохстопнаму ямбу (незразумела? ці мо‘ думаеце, што й на вокладцы вершык празорлівы поэта зьмясьціў? Не, у нас ужо гэтага ня робяць!), чатырохстопнаму ямбу, сымболізованаму чатырма ні-то кустамі, ні-то дрэвамі, ні-то стагамі... сёе-тое (маляр наш, як бачыце, умее быць і сымболікам).

Адным словам, зьверху паказана тое, чым запоўнена сярэдзіна. З гэтага боку поўная гармонія!

Так. Але якой-жа дысгармоніяй зьяўляецца зборнічак на фоне сучаснай беларускай поэзіі! (Не разумею тут выключна нашай „імажыніскай“ поэзіі—гэта было-б яшчэ паўбяды, а мо‘ нават і зусім добра! Дысонанс з „імажыністымі“ мог-бы яшчэ быць гармоніяй у куды шырэйшай і глыбейшай музыцы... аб гэтым пакульшто замаўчым).

Так, вялікай дысгармоніяй! Яшчэ-б на рубяжы мінулага і сучаснага сталецьця зборнік вершаў Я. Журбы меў-бы пэўную вартасьць... як жывы довад беларускага друкаванага слова. Дый на фоне „нашаніўскае пары“ дэбюты Я. Журбы, як вершапісца, яшчэ не калолі вачэй! Так, але-ж якую эволюцыю перажыла за гэты час наша поэзія! Якімі дзіўна-цуднымі сплётамі рознастайных літаратурных кірункаў і адценьняў аздобіла сябе за гэты час наша пісьменства! Мастацкі рэалізм і романтыка, імпрэсыонізм і сымболіка аж да самых найноўшых літаратурных плыняў (імажынізм) — усё гэта сплялося на фоне беларускае літаратуры ў нязвычайны орнамэнт, які прамянюе самымі рознастайнымі бляскамі і колерамі.

Нястрыманая, імпэтная, бурлівая эволюцыя—характэрная рыса нашага найноўшага пісьменства. І гэтая эволюцыя ў кірунку шуканьня новых форм, новых ідэй, вобразаў адбываецца і ў нашых выдатнейшых поэтаў.

Але Я. Журба знаходзіцца па-за межамі гэтых жывых і творчых плы-

няў і паveваў. Довадам гэтага—зборнік „Заранкі“.

Мы тут спатыкаем усё, апрача поэзіі. Рыторыкай і дэклямацыяй—аўтор хоча падмяніць пачуцьцё; няўмелай і бледнай публіцыстыкай вее ад яго вершаў, у якіх ён тужыцца выявіць пафос рэволюцыі; прымітыўнасьлязьлівай сэнтымэнтальнасьцю нудзіць ад яго падробленай лірыкі; замест вобразу—сухі сынтакс; замест рыфмы—дзеяслоў і склонавы канчатак.

Ілюстраваць вышэйшую характарыстыку прыкладамі з „Заранкі“ лічу лішнім. Бо найлепшай ілюстрацыяй гэтага зьяўляецца зборнічак у цэлым. Ад першай і да апошняй старонкі.

**Улідзе.**

**Микола Хвильовий. Сині етюди.** *Проза. Державне Видавництво України. Харків, 1923 р.*

Кастрычнікавая рэволюцыя дала моцны шчырхач разьвіцьцю ўкраінскай культуры наогул і літаратуры ў асобку.

На зьмену дарэволюцыйнай народніцкай літаратуры, ужо досыць далёка сягнуўшай у сваім разьвіцьці, вырасла новая маладая рэволюцыйна-пролетарская.

Цэлая пляяда маладых таленавітых пісьменьнікаў увабрала ўкраінскі парнас. Многія з іх (як В. Полішчук, П. Тычына, С. Піліпенка і інш.) выявілі сябе, як нязвычайныя дараваньні. Сярод іншых зьвяртае на сябе асаблівую ўвагу таленавіты прозаік—Мікола Хвілёвы. Перад намі зборнік яго новэл «Сині етюди».

У гэты невялікі зборнік аўтор зьмясьціў пятнаццаць новэл.

Усе яны сапраўды зьяўляюцца этюдамі можа ня сінімі, а чырвонымі этюдамі, вырыўкамі з вялікае эпопэі бурлівага ўкраінскага жыцьця апошніх рэволюцыйных часоў. Мікола Хвілёвы мастацка-умела, знатацка вырывае з вялікай поэмы кожны асобны свой этюд, акрэсьлівае яго суцэльнасьцю данага моманту, умовамі месца, настроем і пачуцьцём, і дае яго чытачу, як жывы, здаецца, знаёмы, а разам цягуча-захапляючы абраз. Людзі, месца, лес, рэчка, узгоркі—у Міколы Хвілёвага жывуць, рухаюць, ажно ня можаш адарвацца ад іх,—шавяляцца, трапечуцца.

Пры гэтым цэлая гісторыя адчыняецца табе, праходзячы на кароткім-кароткім працягу часу.

Экспрэсія, мігацeньне...

Гэта здольнасьць пісьменьніка яшчэ больш выграе ад ужыванай ім формы пісаньня. Мікола Хвілёвы мае свой стыль, сваю асабістасьць, сваю архітэктоніку, што выказвае надзвычайна - асабліва порсткі бег апісваных здарэньняў. Ды сапраўды інакшы звычайны манер, звычайная форма не адпавядае цяперашняму часу—гэта Мікола Хвілёвы стараецца вельмі выпукла падкрэсьліць. І можа крыху перасольвае, бо—яго ўнёскі ў сказы пастароньніх разуменьняў, сьмелыя параўнаньні, многакропія сьпераду сказаў, частыя скобкі, гавораць зрэдку аб натужнасьці аўтора, аб лёгкай штучнасьці, якая часамі перашкаджае плаўкаму, гармонійнаму цёку апісаньня ляндшафту, ці то гутаркі, ці настрою асобаў. Але з другога боку, гэты прыём падкрэсьлівае орыгінальнасьць конструкцыі пісьма і гострасьць цікавасьці да яго з боку чытача. Бо адрыўнасьць сказаў,—пераскокі з аднаго разуменьня да другога—выглядаюць пекнай інкрустацыяй слоўнага будыначку, лёгкага па выгляду і багатага па зьместу.

Вось вырывак з этюду: „Кіт у чоботях“.

„Вось-жа аб глухім слове: Гапка.

Гапка—глуха, мы яе ня Гапка, а таварыш Жучок. Гэта так, а то глуха.

А ад гаптаваць—гэта яскрава, бо гаптаваць: вышываць золатам або срэбрам.

... А то бывае гаптаваны захад, бывае ўсход, гэта калі падводзіцца або лажыцца промін.

Гаптаваны—пахучае слова, як бы-

вае ніва ў серпні: або трава ў стагох, —трава, калі йдзе з яе пах каляплаўневае асакі.

Гапка—гэта глуха.

Мы яе таварыш Жучок"...

І гэтак далей—сказы, кароткія, роўныя, як адсечаныя кускі каралю—адна за другою, адна пад другой, самотныя і неразлучныя разам.

Багацьце мовы—аснашчанай пісьменьнікам пекнымі тэрмінамі,—уваходзіць у агульную прыгожасьць кампозыцыі твораў Хвілёвага.

Цэльнасьці і сьвежасьці архітэктонікі адпавядае спрытнасьць у даньні характарыстык асобам. Кожная з іх —жывы портрэт, прапушчаны праз аўторскую прызму. Усе рысы, рухі, кіўкі, пахілы—дасканалы. Міколу Хвілёваму, як гостраму мастаку, пры гэтым выведаўшаму добра абставіны, зьмест і дух першых гадоў нараджэньня і жыцьця маладое Ўкраіны, лёгка даюцца да напісаньня—самі фарбы падбіраюцца...

У маленькай бібліографічнай прымецы нельга ўсебакова абгаварыць за „Сініх этюдаў", нельга поўнасьцю разабраць іх. Таксама нельга па іх вызначыць канчаткова напрамку ў разьвіцьці таленту Міколы Хвілёвага. У трэцім нумары „Чырвонага шляху" зьмешчан новы вялікі твор яго—апавяданьне—„Санаторыйна зона", а пэўна што ёсьць і іншыя яго творы, не папаўшыя нам у рукі... Аднак можна судзіць па зборніку „Сині етюди", што аўтор іх—знаменнае зьявішча ў маладой пролетарскай украінскай літаратуры. Апошняя можа многае атрымаць у сваю скарбніцу ад Міколы Хвілёвага.

**Ц. Г.**

**Кварталы. Альманах першы.** *Видавництво „Червоний шлях". 1924 8⁰, 179 стр.*

**В. Сосюра. Місто.** *Видавництво „Червоний шлях" 1925 16⁰, 54 стр.*

Як першая кніга, так і другая брошурка—зборнік вершыкаў поэты Сосюры, маюць прыблізна аднаковую ідэолёгічную падваліну. Яны афяраваны „месту"—гораду і адбіваюць жыцьцё і напластаваньні сучасных буйных украінскіх гарадоў, якія ўцягнены ўжо ў вір індустрыяльна-фабрычнага разьвіцьця, барацьбы клясаў, і дзе асабліва адчуваюцца вынікі дамовай і імпэрыялістычнай вайны, дзе пануе Нэп і яшчэ не замірае дзейнасьць розных „цэнтраў дзеяньня", як гэтае жыцьцё азмысьліваецца ў ідэолёгіі рэволюцыйна-комуністычна-пролетарскіх пісьменьнікаў-украінцаў.

Прад намі праходзяць з аднаго боку прадстаўнікі мінулага, якія ненавідзяць поўнай душой пролетарскі лад і перашкаджаюць посьпехам новага савецкага гораду. Роман, эс-эр, які на фабрыцы займаецца падбухторчаю дзейнасьцю (апавяданьне: Коцюба „Без грунту"), журналісты Вася Валяйнічэнка тыпу Віньнічэнка, М. Твэна і Чэхава („За пустелямі сел") інжынэр Карлуша Круніс, слабавольны парастак буржуазнай сям'і („Інженіри" І. Сенніченко) сівы дзед Архіп, як у цэрквы „клав широкі хрести і чалом товк у подлогу (Д. Тал „Біля мосту"), тарговец-скапец, якому „набридають поради" комуністых (В. Вражливый „Кабаре після бури") Сашка Кларнет, пасьледыш расійскага дваранства, кат,—генэрал і інш. (П. Панч „Золоті тавра"), сюды-жа прыналежыць і налётчыца Івга, гэроіня поэмы В. Сосюра „Нальотчиця", сялянская дзяўчына, якая выпадкова пападае на фронт у жаночы батальён, ваюе з немцамі, аказваецца пад Перакопам, а потым „місто і панелі і непа в серце гостри ніж, „Наган" і гетри маліньві".

Усё гэта—адмоўныя тыпы.

Але з другога боку, прад намі ўсё больш і больш выразна выступаюць людзі іншага пакаленьня – комуністыя, бальшавікі, рабочыя, новыя савецкія будаўнічыя і інш.

Такі, напр.. бальшавік Астап Лявада, які прыяжджае, як палітрук, туды, дзе будзе мост Карлуша Кру-

ніс, таксама—„таварыш Дора“, Мар'я П., якая піша ў газэту:

„Цим заявляю, що я вихожу з партиі с.-р., діяльность якоі вважаю контр-рэволюційнаю, скерованою на користь національноі й світовоі буржуазіі“ і цэлы шэраг іншых пэрсонажаў, апавяданьняў і вершаў.

Гэтым людзям прыналежыць будучына, якая куецца цяпер на сталёвых фабрыках, здабываецца ў руднях Донбаса і падрыхтоўваецца дзейнасьцю рэволюцыйных будаўнічых.

З знадворна-тэхнічнага боку як альманах, так і зборнічак утвараюць вельмі добрае ўражаньне і сьведчаць аб посьпехах тэхнікі ўкраінскага вершу й прозы.

Прывяду, у часьцінасьці, прыёмы характэрныя для В. Сасюры

„Темні заплакані вулиці.
Иноді крикне авто́,
Місяць над мурамі улиться
Дощ“.

Другі: Огонь і мука між ногами...
— Колі кохани, так мовчи.
О, не забуть ій вітру гамми
І кашлю Ганни на печі...
(„Нальотчица“).

Трэці: Леціць огонь, свистить огонь
тюгу-тюгу-тюгу...
І бронювик через нього
подібний утюгу („Мінуле“).

Чацьверты: „Наближаэться спомінив
повінь і затоплюэ душу мою
та швидкий не потопе мій човен,
бо я в нім і вночі не сплю.

Што да выданьня, то яно выканана з звычайнаю для „Чырвонага шляху“ пільнасьцю і мае адбітак хупавасьці.

**М. Байкоў.**

**Валерыян Палішчук.** *„Дума пра Бармашиху“, „Книга повстань“, „Ленін“, „Радіо в житах“, „2“ (М. Хвильовий, В. Поліщук). „Адигейський співець“ („Червоний шлях“).*

Сярод новых рэволюцыйных песьняроў Украіны адно з першых месц займае Валерыян Палішчук, які з 1919 году да апошняга часу пасьпеў вельмі шмат напісаць мастацкіх твораў.

Праз усю творчасьць Палішчука праходзяць два шляхі: бунтарскасьць і радасьць жыцьця. Гэтыя два элемэнты разам узятыя як-бы нагадуюць сабою ярка-сонечную пагоду і навальніцу з маланкамі і пярунамі ў адзін і той самы час.

У форме вершу, у рытміцы, у вобразах і мотывах усюды праходзяць у Палішчука сонечная радасьць і віхровая бунтарскасьць.

Сюжэты, на канве якіх пясьняр гафтуе свае творы, вельмі разнастайныя: народныя мотывы („Дума про Бармашиху“), біблійныя мотывы („Онан“, „Великий хам“), сучасныя рэволюцыйныя мотывы („Адигейський співець“, „Ленін“ і г. д.), прырода, каханьне („Радіо в житах“) і г. д.

У сваіх поэмах і песьнях апрача ўсяго Палішчук абхоплівае сусьветнасьць, прапускаючы яе праз струны ўкраінскай кобзы. Форма вершаў у большасьці свабодна-дынамічная, з перабоямі, гарманіруючая са зьместам. Месцамі сустракаюцца і шліфованыя вершы („Адигейский спивець“). Вобразнасьць—найбагацейшая і лёгкая. Вобразы б'юць жывой крыніцай. Часам вельмі орыгінальныя, але чытачом успрынімаюцца адразу і выпукляюць думку, даючы плястычны малюнак.

Вось прыклады Палішчукоўскай вобразнасьці:

Як сімнадцятий рік
Ясним сонечком грав, виграваВ—
Була Бармашиха вже стара
На сьомий десяток років,
Як на сірий частокіл похилилась
Мов верба в ту осінь“.
*(„Дума про Бармашиху“).*

У гэтай поэме вобразнасьць і разьмер усюды вытрыманы ў народным стылю. Захован народны прымітыў, як лепей ня трэба.

Очі. голови—мов ікри повна заля“,—

кажа поэт у поэме „Ленін“, малюючы вялікую масу людзей, якая слухае на сходзе прамову Леніна. Тут чуецца вельмі ўдалы, тонкі псыхолёгічны падход мастака міньятурай (ікрой) даць прадстаўленьне грандыёзнасьці, цэлага мора людзей. Мора галоў людзкіх, калі глядзець здалёку, надзвычайна ярка напамінае ікру.

Нейкім новым пафосам аддае ад вобразнасьці Палішчука ў апошняй главе поэмы „Ленін“. Тут у марах аб будучыне аб надзвычайных дасягненьнях тэхнікі поэт вынаходзіць новыя вельмі яскравыя і вабячыя сваёй рознабарвнасьцю вобразы:

А віхорі ці, як в доменній печі,
Вирують, гоготять і виють, як сирени,
І силами двигтить уся вселенна,
Як велитель завод—
Тільки не ловить їх ще слухом,
І в мозок душу не несе
Наш затверділий эпітелий,
Немов земна кора.
Його ми ще, ой, розімнем,
Немов підошву задубілу,
Наточимо приборами із знань,
Озброїмо в нервовість апаратів
І будемо, як серце, вислухати,
Як атомы гудуть.

У гэтым маляваньні чуецца размах багатырскіх крыльляў, надзвычайны ўзьлёт чалавечай фантазіі а будучыне. У такіх вабных колерах поэт патрапіў даць малюнак дасягненьня тэхнікі ў будучыне.

Нежна, у арнамэнтыцы новай лірыкі Палішчук малюе прыроду:

„На передмісті яр.
Вечірня акварелля.
Як повен яр—мелодія звучить:
То пробують на флєйту цвіркуни
Рапсодію веселу—
Тюр-р... тюр-р...
Цюркочуть.
Немов цюрком біжить де молоко в дійницю“.

(„*Цвіркуны*“, зб. „*Радіо в житах*“).

Тут поэт ужывае самыя прыгожыя эфэкты фарбаў і гукаў для маляваньня прыроды. Няма тых вымучаных, ненатуральных вобразаў, якія часта сустракаюцца ў расійскіх імажыністых.

Надзвычайна прыгожы верш „Лісовий спів“, дзе вобразы гукаў, колераў і формаў пераплятаюцца між сабою і вобразы ўспрынімаюцца адразу ўсімі пачуцьцямі. Даём адрывак:

Іду узліссям.
Сосновий шум мохнато дихаэ,
Ще й уса нахилив, як батько,
Поцілувати хоче сина.
Тріщать сухи шишки під босими ногами.
У небі сяйво затиха,—у лісі гамір,
І місяць, як росколота горшина
По небу покотивсь.

(„*Радіо в житах*“).

У вершы „У траві“ поэт малюе розных жывёлак дробных, розныя травінкі, павялічваючы разьмеры „цих народів дрібних“:

„... луг, немов тропичний сад,
„Гремить, кишить, лякаеться й воює,
Як жовті кактуси росхідника
Обходить червячок.
А другий, тонкий, як удав,
Закрутиться і шваргае, хвостом підпершись
Міцними м‘язами у соте, як і вперше,
І невтомно перестрибуэ по велетнях лостках“.

(„*Радіо в житах*“).

Што робіць Палішчук дзеля таго, каб паказаць акружаючыя прадметы чытачу?

Першым чынам ён колерамі малюе формы і згукі і наадварот—згукамі перадае колеры і формы, або дае іх у перамешку, з чаго выходзіць надзвычайна прыгожая композыцыя вобразаў. Гэта мы бачылі ў адрыўках паказаных вышэй. Апрача таго ў яго лябараторыі вобразаў мы знаходзім яшчэ адзін прыём:

Каб надблізіць прадмет к воку, каб рэч бачылі з усіх бакоў ярка,—

поэт як-бы дае чытачу спэцыяльную шпактыву: шкло павялічваючае і шкло зьмяншаючае.

Калі ў сваім выяўленьні ѓачым мора людзкіх галоў на сходцы, нібы кропкі ікры—гэта зьмяншаючае шкло. Калі маленькі чарвячок закруціцца, як удаў—гэта павялічваючае шкло.

Як у першым, так і ў другім месцы поэт трапна выканаў заданьне—даў жывую, орыгінальную пэрспэктыву прадмету.

Прыёмаў да маляваньня вобразаў у Палішчука вельмі шмат. Іх і не пералічыш. Вось напрыклад выключна фарбамі адцяняецца прадмет:

Немов у білім тілі
Чорні жили рельс
Протягнуті в глибокому снігу.
(*Зб.* „2“).

А вось абстрактныя рэчы (думкі), параплаўленыя ў конкрэтныя вобразы, якія ўваспрынімаюцца зрэньнем:

Життя іде одним потоком,
А кожен маэ власний німб
Своїх думок, переживань та інтересів.
Вони пересікаються, зливаються,
Як соняшнії плями в лісі на дорішці,
І по потокові тому пливуть
Мов круги по воді,
(Де камінці л-кались),
Щоб полетіти у бездоню водоспаду.
(*Зб.* „2“ *стр. 33* „*Потоколі*“).

Як трудна даць разбор тэхнікі скрыпача-віртуоза, таксама трудна даць поўны аналіз тэхніцы вершаў у праўдзівага поэты.

Аб прыёмах творчасьці Палішчука можна шмат пісаць, як і аб творах іншых сучасных украінскіх поэтаў. Для нас, беларусаў, новая ўкраінская поэзія—вельмі цікавая рэч, галоўным чынам тым, што яна сьвежая, орыгінальная, багатая і не абклеяна афішамі розных школ, напрамкаў і „ізмаў“, як сучасная расійская поэзія. Кожны ўкраінскі поэт не падобен да другога. Яго вартасьць у тым, што ён сам сабою. А разам з гэтым усе ўкраінскія поэты складаюць адзін вялікі колектыў, як мы ведаем на факце — аб'яднаньне ў адно дзьвюх груп „Гарта“ і „Плуга“.

На гэты раз даём рэцэнзію толькі аб творчасьці В. Палішчука, бо выпадкова ў нас маюцца яго кніжкі.

**З. Б.**

## ХРОНІКА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ.

### Сярод пісьменьнікаў.

* Пры Інстытуце Беларускай Культуры заснавалася Літаратурная сэкцыя. Ужо адбылося першае пасяджэньне сэкцыі.

* Група беларускіх поэтаў „Маладняк“ падрыхтавала да выданьня зборнік групы. У зборнік увайшлі творы чатырнаццаці поэтаў.

* У Маскве ў хуткім часе адчыняецца філія аб'яднаньня беларускіх поэтаў „Маладняк“. У філію запісалася каля дзесяці сяброў. Кіраўніком філіі маецца быць поэта Ў. Дубоўка.

* З траўня Бабруйская хата беларускай культуры наладзіла вечар творчасьці беларускага песьняра і сябра хаты Янука Журбы.

На вечары былі зроблены даклады —біографічны і характару творчасьці поэты. Далей адбыўся концэрт хору. Паміж выконваньня песьняў, дэклямаваліся вершы Журбы.

### Тэатр і музыка.

* З 10 мая трупа Беларускага Дзяржаўнага Тэатру выехала на гастролі ў гарады далучанае Беларусі. У першы чарод трупа накіравалася ў Віцебск, адкуль паедзе ў Воршу, Магілёў, Рагачоў і інш. З рэпэртуару трупа павязла „Мешчанін у шляхецтве“ Мольера, „Кастусь Каліноўскі“ і „Машэка“ Е. Міровіча, „На Купальле“ М. Кудзелькі і інш.

* Наступны сэзон у Беларускім Дзяржаўным Тэатры адчыніцца п'есаю Я. Дылы „З-пад ярма няволі“.

* У сярэдзіне чэрвеня прыехала ў Менск для дэмонстрацыі першае свае пастаноўкі „Цар Максімільян“ беларуская студыя ў Маскве.

* Першага траўня на беларускім сэктары Унівэрсытэту народаў захаду (ў Маскве) сіламі студэнтаў пад кіраўніцтвам А. Ляжневіча была пастаўлена п'еса В. Гарбацэвіча «Чырвоныя кветкі Беларусі». На спэктаклі прысутнічала некалькі сот беларусаў рабочых Масквы, якія прасілі паўтарыць п'есу ў рабочых раёнах.

* Композыторам Чуркіным у Мсьціслаўлі сабрана і паложана на музыку каля шасьцісот беларускіх народных песьняў.

### Выдавецкая справа.

* У апошнія часы ў выдавецтве „Савецкая Беларусь“ надрукованы і пашлі ў продаж „Гісторыя Беларусі“ частка першая—пр. Ў. Пічэты, „Пачатковая Геомэтрыя“ — Мікельсара, „Заранкі“ зборнік вершаў Я. Журбы, і „Барвенак“ зборнік вершаў А. Гурло.

* Белтрэстдрукум выпушчан „Практычны Расійска-Беларускі Слоўнік“ М. Байкова і М. Гарэцкага.

* Пры газэце «Савецкая Беларусь» пачаў выдавацца літаратурны двухтыднёвік „Радавая Рунь“, які рассылаецца падпішчыкам газэты. Ужо вышла два нумары.

* У газэце „Витебския Известия“ ў хуткім часе будзе адведзена старонка на беларускай мове.

* АПО ЦК КПБ абрала рэдакцыйную комісію для выданьня твораў

У. І. Леніна на беларускай мове. У комісію назначаны т.т. А. Сянкевіч, У. Ігнатоўскі і З. Жылуновіч. Па разьмеркаваньню Ц. К. Комуністычнай партыі на беларускай мове будзе выдана пяцьсот друкаваных аркушаў твораў У. Леніна, дзеля чаго адпушчана 70 тысяч рублёў. Рэдакцыйная комісія разьмеркавала выданьне на тры катэгорыі: 200 аркушоў у 10 томах зборам твораў, 235 аркушоў невялічкімі брошурамі популярных твораў і 65 аркушоў твораў аб У. Леніне.

* На пасяджэньні колегіі Істпарт абгаворан плян выдавецкай працы. Пастаноўлена ў першую чаргу выдаць зборнікі, пасьвечаныя: 1) „Дваццацігодзьдзю Студнёвай Рэволюцыі 1905 г.“, 2) „Шасьцігодзьдзю абвяшчэньня Беларускай Савецкай Рэспублікі“ і 3) „Пятай гадавіне вызваленьня Менску ад белапалякаў“. Зборнікі будуць друкавацца на беларускай і расійскай мовах.

* Белтрэстдрукам набыты шэраг рукапісаў дзеля выданьня на беларускай мове. Сярод іх трэба адмеціць „Гісторыю беларускага мастацтва“ Шчэкаціхіна, «Популярную гісторыю Беларусі для школ»—Друшчыца і інш.

* Выдавецкі аддзел Наркамзему выдрукаваў на беларускай мове кніжкі „Лубін і яго культура“ і „Рахунковы аналіз сельскае гаспадаркі“. Абедзьве кніжкі пастулілі ў прадажу.

* Цэнтральнае бюро краезнаўства приступае да выданьня месячніка, галоўнаю мэтаю акога зьявіцця абслугоўваньне школьнага краезнаўства.

**Краезнаўства і культура.**

* 30 сакавіка адбылася Менская краезнаўчая конфэрэнцыя, якую склікала Цэнтральнае бюро краезнаўства пры Інбелкульце. Галоўнай мэтай конфэрэнцыі было аб'яднаць усіх працаўнікоў па вывучэньню краю, прыцягнуць да гэтае справы асоб зацікаўленых гэтай справай, наладзіць цесныя зносіны між краезнаўчымі організацыямі і Цэнтральным бюро і супольнымі сіламі выпрацаваць напрамак краезнаўчай працы. Конфэрэнцыя прайшла з вялікім натхненьнем.

* У пачатку красавіка адбыўся зьезд культурных установ, беларускіх гурткоў і хатак беларускай культуры і мастацтва на Бабруйшчыне. Зьезд працягнуўся два дні і правёў вялікую працу па коордынацыі культурнай чыннасьці на Бабруйшчыне.

* Пры вячэрнім рабфаку Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту заложан гурток беларускае культуры. У гурток запісалася болей 40 сяброў.

* Агульны сход настаўнікаў Расьнянскай воласьці пастанавіў організаваць гурток беларусазнаўства. У гурток увайшло ўсё настаўніцтва воласьці і шмат грамадзян.

* Пры 10 жыдоўскай школе залажыўся „гурток беларускае культуры“, у які сьпярша ўвайшлі вучні 6-ай і 7-ай клясы, а пасьля далучыліся вучні ніжэйшых клясаў і 8 жыдоўскай сямёхгодкі. Гурток выдзеліў сэкцыі драматычную і харавую, якія ўжо ставілі некалькі спэктакляў на беларускай мове.

* Настаўніцтвам Станькоўскай воласьці Менскага павету з'організавана валаснoе бюро краезнаўства. На кожны месяц бюро будзе даваць школам пэўнае заданьне, адпаведна сэзону. Матар'ялы зьбіраюцца ў валасны школьны музэй.

* У Магілёве па ініцыятыве сельска-гаспадарчага музэю організуецца таварыства краезнаўства. Статут таварыства паслан на зацьвярджэньне.

* З 14 траўня па 17 адбылася ў Менску конфэрэнцыя архіўных працоўнікоў Беларускай Рэспублікі. На конфэрэнцыі прынялі ўдзел прадстаўнікі Цэнтраархіву Беларусі, Ма-

гілёўскага і Віцебскага аддзелаў архіву, загадчыкі некаторых павятовых аддзяленьнеў і прадстаўнікі навуковых устаноў. Конфэрэнцыя абгаварыла шмат пытаньняў прынцыповага характару і вынесла пастановы: 1) аб выданьні археографічных матар'ялаў, 2) аб патрэбнасьці ўзвароту эвакуіраваных Польшчаю архіваў, 3) аб сконцэнтраваньні ў Менску гісторыка-рэволюцыйных фондаў і інш.

* У Мазыры ўжо некалькі месяцаў працуе беларускі культурна-асьветны гурток, які падзяляецца на 5 частак: літаратурную, краезнаўчую, харавую, драматычную і музыкальную. У гурток уваходзіць каля 100 сяброў з вучняў, студэнтаў, настаўнікаў і служачых устаноў.

Драматычная, літаратурная, музыкальная і харавая сэкцыі гуртка знаёмяць жыхарства з літаратурнымі і мастацкімі творамі беларускіх пісьменьнікаў і песьняроў. Краезнаўчая сэкцыя зьвязалася з настаўніцтвам павету і зьбірае матар'ялы дзеля выяўленьня жыцьця павету. Усе сэкцыі прымаюць удзел у агульна-грамадзянскім жыцьці, асабліва драматычная і харавая, якія выступаюць з вялікім посьпехам на сьвятах і ўрачыстасьцях.

* Праўленьне Плiскага культурна-асьветнага гуртка моладзі Смалявіцкай воласьці ад імя гуртка моладзі і сялянства вёскі Плісы і яе ваколіц зьвярнулася з просьбаю да выдавецтва „Савецкая Беларусь“, каб яно прыняло шэфства над гуртком, уступіла з ім у цесную сувязь і дапамагло яму ў працы.

Выдавецтва „Савецкая Беларусь“ ахвотна прыняло прозьбу гуртка і напершы раз выпісала на яго імя 3 экз. газэты „Савецкая Беларусь“ і выдала па 1 экз. усіх сваіх выданьняў.

* Соцыяльна-гістарычная сэкцыя Інбелкульту складае хрыстаматыю па гісторыі Беларусі. У хрыстаматыю ўвойдуць крыніцы па гісторыі Беларусі з 8—9 векаў па 1924 г.

* Інбелкультам зацьверджан плян экспэдыцыі па вывучэньню беларускага мастацтва ў складзе М. Шчакаціхіна і Касьпяровіча па двох маршрутах: Магілёўшчыну і Случчыну з Мазыршчынай.

**За рубяжом.**

* У апошні час у Вільні аддрукованы вось якія выданьні на беларускай мове: „Які самаўрад дае беларускаму народу Польская Рэспубліка“— Сулімы, „Ірляндзкія народныя казкі“ Макмануса, „Мая лера“—К. Сваяка, „Малочная карова“—Пачопкі.

* У Коўне выдадзена „Зоолёгія і анатомія чалавека“ Малышава ў перакладзе В. Л. Там-жа вышаў чарговы нумар за 1924 год часопісі „Крывіч“.

* Комуністычная партыя Польшчы выдала пабеларуску: „Да працоўнага сялянства ўсіх краёў“ і брошуру „Саюз рабочых і сялян у Польшчы“.

* Ковенскі (Літва) унівэрсытэт зьвярнуўся да выдавецтва „Савецкая Беларусь“ аб жаданьні набыць для ўнівэрсытэту беларускіх кніжак.

## УКРАІНСКАЕ КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

* Суполка ўкраінскіх сялянскіх поэтаў выдала альманах суполкі „Плуг“.

* Колегія Ўкраінскай Галоўполітпрасьветы командырue заграніцу сяброў аб'яднаньня пролетарскіх поэтаў „Гарт“ т. т. Хвілёвага, Тычыну і інш. у месцы натаўпу ўкраінскай эміграцыі. Паездка працягнецца ад паўтара да двух месяцаў.

* Людміла Дмітрава пераклала на ўкраінскую мову п'есу нямецкага пісьменьніка Кайзэра „Народная п'еса 1923 г.“ і п'есу пісьменьніка Мольера „Ператварэньне“.

* Кіеўскі Губполітпрасьвет зацьвердзіў колектыў маладых артыстых пад назваю „Майстэрня сцэнічнае творчасьці“. Колектыў мае заданьнем утварыць „Тэатр сцэнічнае імпровізацыі“ на манер італьлянскае комэдыі машкар.

* Украінскі пісьменьнік Піліп Капельгароцкі (у Лубнах) напісаў п'есу „Дзянікіншчына“ на 4 дзеі. Ён-жа канчае дзіцячую п'есу „Праца“.

* Роменская філія суполкі сялянскіх пісьменьнікаў „Плуг“ выпускае зборнік вершаў сябра „Плуга“ тав. Лучаньскага.

* Г. Каляда напісаў поэмы „Колёнія“ і „Оленка“ да міжнароднага дню работніц. Ён-жа піша цыкль „Завод“.

* Маскоўская філія суполкі пролетарскіх пісьменьнікаў „Гарт“ выпусьціла зборнік вершаў філіі.

* Пры Ленінградзкім географічным інстытуце адчынена ўкраінская этнографічная сэкцыя, якая шырока разьвінула сваю працу.

*Рэдактор* **А. Сянкевіч** *Выдавец—Т-ва* **„Савецкая Беларусь“**

# Зьмест 2 (10) нумару.

| | Стр. |
|---|---|
| **Іў. Цьвікевіч**—Кастусь Каліноўскі. *Біографічна-гістарычны нарыс* | 3 |
| **А. Гурло**.—К. Каліноўскі. *Верш* | 19 |
| **А. Зімёнка**—Заходняму брату. *Верш* | 20 |
| **Я. Купала**—Безназоўнае. *Вершы* | 22 |
| **Ц. Гартны**—З цыклю „Горад“. *Вершы*: | |
| 1. Адвячоркам | 27 |
| 2. Ноччу | — |
| Мая душа. *Верш* | 28 |
| **Н. Чарнушэвіч**—З цыклю „Змаганьне“. *Верш* | 29 |
| **Хмарка**—Волі сьпеў. *Верш* | 30 |
| * * * (Калі пад нядоляй...). *Верш* | — |
| **А. Зімёнка**—Матчына сэрца. *Верш* | 31 |
| **Я. Купала**—Тутэйшыя. *Трагічна-сьмяшлівыя сцэны з Менскага нядаўнага жыцьця, у 4-х дзеях.* | 33 |
| **М. Грамыка**—Лясьнічанка. *Поэма* | 75 |
| **А. Сянкевіч**—Вандраваньне Васіля. *Апавяданьне* | 106 |
| **М. Хвілёвы**—З „Сініх этюдаў“. *Апавяданьне. Пераклад з украінск. Ц. Гартны*: | |
| 1. Юрка | 112 |
| 2. Салонскі лог | 119 |
| 3. Шляхетнае гняздо | 125 |
| **Т. Гушча**—Курская аномалія. *Апавяданьне* | 129 |
| **Л. І. Аксэльрод (Ортодокс)**—Курс лекцый па гістарычным матар‘ялізме. Лекцыя 3 | 136 |
| **Проф. У. Пічэта**—Формы нацыянальнага й опозыцыйнага руху на Беларусі | 142 |
| **Ж. Х. З**.—Організацыя сіл. *(Да гісторыі Савецкае Беларусі)* | 163 |
| **М. Байкоў**—Пуці змычкі. Беларуская літаратура ў яе адносінах да агульнай культуры пролетарыяту | 180 |
| **Я. Лёсік**—Некаторыя ўвагі да беларускае літаратурнае мовы | 192 |
| **І. Акушка**—За літаратурным келіхам | 206 |
| **З. Ж.**—Прадсьмертны ліст Я. Пуліхава | 215 |
| **Кнігапіс** | 219 |
| **Хроніка Беларускае культуры** | 226 |
| **Украінскае культурнае жыцьцё** | 229 |

## Зьмест № 1 (сьнежань 1922 г.).

**Ад рэдакцыі**—Нашы заданьні. **Цішка Гартны**—Па дарозе да будучыны. Сельскі мітынг—*Вершы.* **М. Чарот**—Зімою. Плывём к прыгожа-сьветлай далі—*Вершы.* **А. Гурло**—У жыцьцёвай кузьні. На працу. У зорную ноч—*Вершы.* **А. Александровіч**—Раніца—*Верш.* **Я. Журба**—Будаўніком новага жыцьця—*Верш.* **З. Бядуля**—Адплата пану—*Поэма.* **Нёманскі**—Над Кроманьню—*Апавяданьне.* **В. Нодаль**—Заняпад усясьветнай гаспадаркі і ўсясьветны фашызм. **З. Ж.**—1 студзеня—рэвалюцыйна-гістарычнае сьвята Савецкай Беларусі. **У. Ігнатоўскі**—Сучасная вялікая рэволюцыя й нацыянальнае пытаньне. **Я. Пятровіч**—Чым выклікаецца экономічнае аб'яднаньне Савецкіх Рэспублік. **З. Бядуля**—Тэатр і выхаваньне мас. **З. Жылуновіч**—Аб крытыцы „Босыя на вогнішчы" і яшчэ аб саміх „Босыя на вогнішчы" М. Чарота. **М. Грамыка**—Поэзія аб рэволюцыі і рэволюцыя ў поэзіі. Гвалт над формай (Нібы-поэма). **М. Маразоўскі**—Навакол польскага сойму. **Кнігапіс. Хроніка Беларускае Культуры.**

---

## Зьмест № 2 (студзень 1923 г.).

**М. Чарот**—Люблю—*Верш.* **М. Чарот**—Ц. Гартнаму—*Верш.* **Аркадзь Моркаўка**—Крык вуліцы—*Верш.* **Аркадзь Моркаўка**—Сьцены—*Верш.* **Цішка Гартны**—На руінах—*Апавяданьне.* **Міхайла Грамыка**—Сямімільнымі крокамі—*Верш.* **Нёманскі**—Ромэо й Джульета на Беларусі—*Апавяданьне.* **Цішка Гартны**—З цыклю „Сучасны Бэрлін"—*Верш.* **Хмарка**—Ты ўзбудзіў... *Верш.* **А. Гурло**—Мой край—*Верш.* **В. Нодаль**—На сваім запраўдным месцы (Сусьветная соцыял-дэмократыя на службе ў капітала). **З. Жылуновіч**—Беларускі Парнас у новай вопратцы (Абегла-крытычны нарыс). **Ів. Луцэвіч**—Выдавецкая справа ў Савецкай Беларусі за 1922 г. **М. Маразоўскі**—Белы дом толькі журыцца. (Аб „Босыя на вогнішчы" і аб меншавіцкіх акулярах). **Ар. Смоліч**—Краяведаньне і Унівэрсытэт у Савецкай Беларусі. **Саюз Савецкіх Рэспублік. У. Дзяржынскі**—„Бѣлорусы" Е. Ф. Карскага. **Удзельнік конфэрэнцыі.**—Першы крок зроблены. **Кнігапіс. Хроніка Беларускае Культуры.**

## Зьмест № 3—4 (люты—сакавік 1923 г).

**М. Чарот**—Чырвоныя вясьнянкі. *Верш.* **Цішка Гартны**—Беларускі народ. *Верш.* **Цішка Гартны**—Я йду да ўсходу. *Верш.* **Тарас Гушча**—Сяргей Карага. *Апавяданьне.* **Цішка Гартны**—Трэскі на хвалях. *Апавяданьне.* **Я. Журба**—Спатыкаць пайду вясну. *Верш.* **Я. Журба**—Вясной. *Верш.* **Н. Чарнушэвіч**—Вясна. *Верш.* **Н. Чарнушэвіч**—Набягаючы дзень. *Верш.* **Я. Плашчынскі**—Новы дзень. *Верш.* **А. Александровіч**—Разводзьдзе. *Верш.* **А. Александровіч**—Возера. *Верш.* **А. Гурло**—Раніца. *Верш.* **А. Гурло**—На моры. *Верш.* **А. Гурло**—У дарозе. *Верш.* **Аркадзь Моркаўка**—Калыханка. *Верш.* **М. Байкоў**—Пазнаньне Беларусі, як навуковая і рэволюцыйна-грамадзянская проблема. **З. Жылуновіч**—Два бакі беларускага руху. **N**—Беларуск. школа, як фактор культуры беларуск. пролетарыяту. **І. Цьвікевіч**—Банкроцтва беларускай эміграцкай акцыі ў Літве. **І. Цьвікевіч**—Антысоцыялістычнае беларускае гняздо. **Я. Пятровіч**—Экономічнае становішча Беларусі. **Алесь Сянкевіч**—Успаміны з рэволюцыі 1905—1906 г. **Літаратура**: а) *М. Грамыка*—Пясьняр сноў і чараў (М. Багдановіч). б) *А Б-ка*—Вечар твораў Цішкі Гартнага. в) *Я. Журба*—Ядвігін Ш. (А. Лявіцкі). **Кнігапіс. Хроніка Беларускае Культуры.**

---

## Зьмест № 5—6 (красавік—май 1923 г.).

**Цішка Гартны**—Хто мы? Будаваньне. Пакуль жыў—для мяне. *Вершы.* **Хмарка**—Вясьняны кліч. *Верш.* **А. Гурло**—Надыход лета. *Верш.* **Тарас Гушча** — Дачакаўся. *Апавяданьне.* **Міхайла Грамыка**—Мільён. *Поэма.* **Цішка Гартны**—«Больш за ўсіх». *Апавяданьне.* **Ясакар**—Беларусь. *Верш.* **Васіль Гарбацэвіч**—„Чырвоныя кветкі Беларусі.“ *Драма.* **Лясун** — Сьмелым крокам. *Верш.* **Аркадзь Моркаўка**—*** (Краса, краса!) *Верш.* **З. Жылуновіч**—Пара пісаць гісторыю рэволюцыі. **С. Вольфсон**—Сявец марксізму. **М. Байкоў**—Пытаньне беларускай культуры і шлях беларускай інтэлігэнцыі. **Л. І. Аксэльрод (Ортодокс)**—Курс лекцый па гістарычным матар'ялізьме. **М. Байкоў** — Новая беларуская поэма (Якуб Колас—Новая Зямля). **Я. Пятровіч** — Па шляху соцыяльных перабудоў. **Ж. Х. З.**—Уступамі да Акцябра. **М. Грамыка**—Менская вежа. **Кнігапіс. Хроніка Беларускай Культуры. Да чытачоў „Полымя“.**

## Зьмест 7--8 нумару (чэрвень--лістапад 1923 г.).

М. Чарот—Чырвонакрылы вяшчун. *Поэма-фантазія.* Тарас Гушча—Крывавы вір. *Апавяданьне.* Цішка Гартны—Праца. Зьлітнасьць. Беларуска. *Вершы.* Я. Неманскі—Дэзэртыр. *Апавяданьне.* У. Дубоўка—Ой, туга. *Верш.* А. Гурло—Пры рабоце. Гымн Барацьбіцкі. *Вершы.* Аркадзь Моркаўка—Наша сьцежачка. Працуй. *Вершы.* Хмарка—Закутаму. *Верш.* Ясакар—Чырвоны каляндар. *Вершы.* Л. Аксэльрод (Ортодокс)—Курс лекцый па гістарычным матар'ялізьме. *Пер. У. Дзяржынскі.* У. Ігнатоўскі—З гісторыі асьветы на Беларусі ў пачатку 19 сталецьця. Аглядальнік—Некаторыя ўвагі на беларускую літаратурную тэрмінолёгію. Ж. Х. З.—Уступамі да Акцябра. *(Матар'ялы да гісторыі Савецкай Беларусі).* М. Пятуховіч—Максім Багдановіч, як поэта імпрэсыяністы. Міхась Баравы—„Старчма галавою ў бяздоньне“. З. Жылуновіч—Эпізод з жыцьця беларускай часопісі. М. Мялешка—Цэнтрархіў Беларусі. Кнігапіс. Хроніка Беларускае культуры.

## Зьмест 1 (9) нумару.

Кароткі жыцьцёпіс У. І. Леніна. А. Гурло—На сьмерць Леніна. *Верш.* Я. Журба—Правадыру сусьветнага комунізму. *Верш.* В. Полішчук—Ленін. *Поэма.* (*Пер. Я. Купала*). Ів. Цьвікевіч—Ленін і нацыянальная проблема. А. Сянкевіч. К портрэту Леніна. М. Чарот—Ленін. *Поэма.* З. Бядуля—Чорна-чырвоная жалоба. *Поэма.* М. Грышын—Альгэбра рэволюцыі ў руках Леніна. Цішка Гартны—Вечнае. *Верш.* Цішка Гартны—Сымфонія. *Верш.* Цішка Гартны—За вакном. *Верш.* Андр. Александровіч.—З цыклю вершаў „Горад“. *Верш.* А. Гурло—Будова. *Верш.* А. Гурло—Жаданьні. *Верш.* А. Гурло. * * * (Маю душу поўняць чары...) *Верш.* Язэп Пушча. К новым далям. *Верш.* Л. Родзевіч—Антракт. *Верш.* Цішка Гартны—На новым месцы. *Апавяданьне.* М. Грамыка—Дзіця. *Верш* Л. Родзевіч—Марксіцкі аршын. *Апавяданьне.* Л. І. Аксэльрод (Ортодокс)—Курс лекцый па гістарычным матар'ялізьме. (*Пер. У. Дзяржынскі*). М. Байкоў. Марксіцкая пэдагогіка і беларуская школа. С. З. Кацэнбоген — Нарысы па гісторыі першабытнай культуры Беларусі. Ж. З. Х.—Ад кастрычніка 1917 г. да лютага 1918 г. (*Да гісторыі Савецкае Беларусі*). Проф. І. Замоцін.—Пуціны беларускай літаратуры (*Якуб Колас.*) — („*Новая зямля*“). Кнігапіс. Хроніка Беларускай Культуры. Украінскае культурнае жыцьцё.

# СЬПІС КНІГ

## надрукованых В—м „Савецкая Беларусь“.

*(Менск, пляц Волі, Наркамасьветы).*

### 1922 г.

Багушэвіч Ф.—Дудка Беларуская і Смык Беларускі. (*Збор твораў у аднэй кнізе*).

Колас Я.—Водгульле. *Збор вершаў.*

Чарот М.—Босыя на вогнішчы. *Поэма.* (Распрадана).

Ясакар (З. Бядуля).—Пад родным небам. *Збор вершаў.*

Валасковіч С. і Лукашэвіч Т. — Зборнік арытмэтычных задач. Ч. І-я і ч. ІІ-я. (Распрадана).

Лёсік Я.—Практычная граматыка. Ч. І-я. (Распрадана).

Лукашэвіч Т. і Валасковіч С.—Мэтодыка арытмэтыкі.

Некрашэвіч С.—Роднае слова. Частка ІІ-я.

Янчук Н. проф. — Нарысы па гісторыі беларускае літаратуры. Старадаўны пэрыод.

„Адраджэньне“—Літаратурна-навуковы весьнік Інстытуту Беларускае Культуры. Сшытак І-ы.

Кармовыя травы. Сэрадэля і пялюшка.

Беларуская навуковая тэрмінолёгія. Вып. І. Элемэнтарная матэматыка.

Полымя № 1.

### 1923 г.

Полымя №№ 2, 3—4, 5—6, 7—8.

Бядуля З.—На зачарованых гонях. *Апавяданьні.*

Сцэнічныя творы. Кніжка І-я (*Я. Купала—Прымакі. М. Кудзелька—Мікітаў лапаць. В. Марцінкевіч—Пінская шляхта. Л. Родзевіч — Зьбянтэжаны Саўка, Пасланец, Конскі портрэт*).

Колас Я.—Новая зямля. *Поэма.*

Равінскі М.—Зборнік песень з нотамі.

Грамыка М.—Пачатковая географія.

Каляндар— «Праца» на 1923 г.

„ „ Насьценны на 1923 г.

„ „ Работніцка-сялянскі на 1924 г.

Выпісы з беларускае літаратуры. Ч. ІІ..

Некрашэвіч С.—Роднае слова. Ч. І.

Беларуская навуковая тэрмінолёгія.

„ „ Выпуск 2-гі. *Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва.*

„ „ Выпуск 3-ці. *Географічныя і космографічныя тэрміны і назовы нябесных цел.*

„ „ Выпуск 4-ты. *Тэрмінолёгія лёгікі і псыхолёгіі.*

Цішка Гартны. *Юбілейны зборнік.* (1908—1923 г. г.).

Пачопка Я.—Як узгадаваць і даглядаць сад.

Жыван Я. агроном—Культура кармовых корань-плодаў.

*(Гл. на адвароце).*

## 1924 г.

Лёсік Я.—Правапіс.
Жалобны марш на сьмерць Леніна.
Маркс і Энгэльс — Комуністычны маніфэст. (*Перакл. Я. Лёсіка*).
Мікільсар Ф.—Пачатковая геомэтрыя. (*Перакл. А. Кругалевіча*).
Журба Я.—Заранкі. *Збор вершаў.*
Гурло А.—Барвенак. *Збор вершаў.*
Пічэта У.—Гісторыя Беларусі. Ч. I.
Кашын Н.—Фізыка. Ч. I.
Сцэнічныя творы. — Кніжка II-я. (*Ц. Гартны — Соцыялістка. М. Кудзелька—Сон на болоце. Ф. Аляховіч—Калісь, Лес шуміць*).
Беларускі дэкляматор „Чырвоны Дудар“.
Круталевіч А.—Элемэнтарная альгебра. Ч. II-я.
Бядуля З.—Вера, паншчына і воля ў беларускіх казках і песьнях.
Полымя—№№ 1 (9), 2 (10).
Беларуская навуковая тэрмінолёгія. Выпуск 5-ты. *Геолёгія, мінэралёгія і крышталёграфія.*
Калінінскі Л. агроном—Лубін і яго культура.
Чалінцаў А. проф. — Рахунковы аналіз сялянскае гаспадаркі. (*Перакл. пад рэдакцыяй А. Смоліча*).

### Друкуюцца:

Гартны Ц.—Трэскі на хвалях. *Апавяданьні.*
Чарот М.—Веснаход. *Апавяданьні.*
Беларуская навуковая тэрмінолёгія. Выпуск 6-ты. *Батаніка. Агульная і спэцыяльная.*

### Прыгатаваны да друку:

Азбукін М.—Географія Эўропы.
Траяноўскі.—Прыродазнаўства. (Усе тры часткі).
Купала Я.—Збор твораў т. I-ы. („Жалейка“ і „Гусьляр“).
Доўнар-Запольскі, проф.—Гісторыя Беларусі.
Луцэвіч І.—Вясёлка. Зборнік дзіцячых песьняў і гульняў з нотамі (100 нумароў).
Самковіч І. і Пратасэвіч І.—Родныя шляхі. Літаратурная чытанка для старэйшых кляс сямёхгадовае школы.
Выпісы з беларускае літаратуры. Ч. I-я.
Комуністычная партыя і нацыянальнае пытаньне.
Адрыўны каляндар на 1925 г.
Колас Я.—Сымон музыка. *Поэма.*
Неманскі Я.—Збор апавяданьняў.
Гартны Ц.—Беларуская літаратура ў сьвятле крытыкі.

## Прыгатаваны да друку Інбелкультам.

Некрашэвіч і Байкоў.—Руска-беларускі слоўнік.
Дыялектолёгічная програма па беларускай мове.
Сяржпутоўскі.—Беларускія прыказкі.
„ „ Беларускія казкі. (*Новыя*).
Савіч—Асьвета на Беларусі ў XVI—XVIII вв. 15 арк.
Сьцяпуржынскі і Саналоў.—Менск. Гісторыка-экономічны нарыс.
Беларуская навуковая тэрмінолёгія. — Вып. 7-ы. *Юрысдыкцыя.*
„ „ „ Вып. 8-ы. *Анатомія і фізіолёгія.*